# ДАДАТАК

Опись имѣнію Ворецевичамъ бывшей Кобринской
Маршалковой Іосефины Ордовой Фолварку Удаснаго дво
ра Составленная —

Жилый Домъ Древяный срубленъ съ Вышкою на четырехъ
Каменныхъ Столбахъ, всходы съ трехъ сторонъ на вышку дос
ками выложенные Двери въ переднюю Двойные досками
тоже обложенные и Гвоздями побитые, Завѣсы Желѣзны
въ низу въ Середине и въ верху Защипки Желѣзные, Кружки
у Дверей тоже Желѣзные Замокъ бывшой французкой, въ
передней окошекъ изъ шести таферъ Двое, изъ пяти шесть
таферъ Стеклянныхъ имеютъ цѣлые— Завѣсы Защепки
и Кружки Желѣзные, Двери на Чердакъ одные, съ Завѣсами
и Клямкою для Защепки Всходы на Чердакъ обитые дос
ками двери отъ погреба на Завѣсахъ Желѣзные съ Клям
кою, въ Самомъ погребѣ Дверей Двое съ Клямками и
Кручками Входя же въ переднюю на лѣвую Руку Двойные
Двери къ бывшой Комнатѣ Желѣзные Завѣсы, Защепка
въ низу и въ Верху тоже Желѣзные, внутренные Фран
цузкій Замокъ окошекъ о шести таферахъ три и въ все
номъ изъ Нихъ одна таферь особо отпирается и завѣс
ки къ нимъ а тоже кручки Желѣзные Ставни на За
вѣсахъ съ Кручками Обшивная Печь съ Двѣрцами и
Юшками, въ Сей Комнатѣ въ окошкахъ Стеколъ вы Ста
ли цѣлыхъ 16 а двѣ стеклянныхъ Помостъ съ досокъ съ
той же Комнаты прямо двойные Двери къ меньшей Ком
натѣ Завѣсы и Защепки съ верху и низу а тоже Круч
ки

# НАРОДНІК XX СТАГОДДЗЯ

## ПРА АЎТАРА І ЯГОНЫХ ГЕРОЯЎ

Тэксты Івана Фурсевіча, якія прапануюцца ўвазе чытачоў, можна назваць успамінамі, можна — апавяданнямі, а можна — і ўспамінамі, напісанымі ў форме апавяданняў (тут лепш падышло б англійскае слова *story*). Кажучы словамі Фрыдрыха Энгельса, чалавек паказвае нам тыповыя характары ў тыповых абставінах. Магчыма, псіхалагічны бок у гэтых апавяданнях слабаваты, дамінуе фабула, але абставіны, у якія трапілі людзі, узнаўляюцца даволі дакладна, бо гэта былі тыповыя для савецкага ладу абставіны.

І ўсё-ткі і мяне, і чытача цікавіць, наколькі гэтыя ўспаміны дакладныя ў сэнсе імёнаў, бо калі ты ў турме, на перасылках і ў лагерах бачыў тысячы людзей, размаўляў з імі, разам з імі цягнуў лямку, цяжка, дый немагчыма, запомніць усе прозвішчы, імёны, імёны па бацьку, сацыяльны статус кожнага спатканага. Дый часавы чыннік таксама трэба ўзяць пад увагу. Апавяданні пісаліся не на аснове дзённікавых запісаў (захаляўнага сшытка ў Івана Фурсевіча не было, і ботаў таксама), а вядома, што ў памяці ёсць свае капрызы. Іншы раз табе «цвёрда помніцца», што было так і так, а на паверку атрымліваецца, што было гэтак.

Пры падрыхтоўцы ўспамінаў Івана Фурсевіча да друку трэба было праверыць звесткі пра асоб, чыё імёны ён згадаў. І тут сутыкаешся з тым, пра што пісала Ганна Ахматава:

Хотелось бы всех поимённо назвать,
Да отняли список и негде узнать.

У Беларусі Леанід Маракоў і Віктар Жыбуль (пэўным чынам і я) вядуць спіс літаратараў, якія трапілі пад каток тэрору. Але ні ў Леаніда, ні ў Віктара, ні ў мяне няма дакладнага, завершанага спіса ахвяраў тэрору. Ва Украіне пад каток тэрору трапіла каля 400 літаратараў. І там таксама дакладнага спіса пакуль што няма. Таму не дзіўна, што дасюль не ідэнтыфікавана асоба Міхайлы Валынца.

Знішчаныя былі мільёны. Сядзелі таксама мільёны. Вось называюцца ў тэкстах Івана Фурсевіча два прафесары Сяпранскія — Мікалай Мікалаевіч і Барыс Мікалаевіч, палеантолаг і геолаг. І калі пачынаеш шукаць звесткі пра іх, выяўляецца, што праз пакуты прайшло многа Сяпранскіх, асабліва святароў. І хто гарантуе, што яны згаданыя ўсе? Няма поўнага спіса, кажуць мне ў Сахараўскім цэнтры ў Маскве. А тут яшчэ капрызы памяці. Высвятляецца, што прафесар М. М. Сяпранскі не быў палеантолагам ды яшчэ дырэктарам інстытута (ягонага імя ў спісе былых і цяперашніх супрацоўнікаў Інстытута палеанталогіі Расійскай акадэміі навук няма). Але гэта не значыць, кажуць мне дасведчаныя людзі з Сахараўскага цэнтра, што ў Бутырскай турме не сядзелі два прафесары Сяпранскія. Гэта значыць, што ў М. М. Сяпранскага магла быць іншая спецыяльнасць і што ён яшчэ не трапіў у спіс.

Далей высвятляецца, што ў 1949 г. у СССР была распачатая так званая справа геолагаў, якія нібыта хавалі ад улады радовішчы карысных выкапняў, асабліва ўрану (як на маю думку, дык карысць ад урану сумнеўная). Высвятляецца, што ў Бутырскай турме сапраўды сядзеў геолаг Сяпранскі, але не Барыс Мікалаевіч, а Барыс Фёдаравіч. Сядзеў і геолаг Грыгор'еў, але ён быў не начальнікам геолага-разведвальнай партыі, а дырэктарам Геалагічнага інстытута АН СССР. Мажліва, гэтаму, бутырскаму, Грыгор'еву прыпісана пасада іншага геолага Грыгор'ева — Сяргея Аляксандравіча, які ў лагернай школе выкладаў геаграфію.

Вось такія капрызы памяці.

Пошук звестак пра жонку і сына легендарнага графа фон Штаўфенберга ўзбагаціў мае веды аб удзельніках змовы супраць Гітлера. Выявілася, што сярод змоўшчыкаў пераважалі нямецкія арыстакраты. Даступная літаратура[1] не дае падставаў для сцверджання, што графіня Ніна Шэнк фон Штаўфэнбэрг і яе большы сын Бэртольд былі зняволеныя ў Савецкім Саюзе. Хутчэй за ўсё прозвішча вядомага дзеяча нямецкага руху Супраціўлення «органы» прысвоілі юнаму вязню дзеля нейкіх сваіх інтарэсаў.

Нам, людзям старэйшага пакалення, вядома, як ставіліся да пісьменніка Аляксандра Яшына ягоныя калегі Аляксандр Салжаніцын і Барыс Мажаеў. Вядома таксама, як ставіліся да яго партыйныя інстанцыі. І вось даволі вядомы ў журналісцкіх колах Алег Папцоў паведаміў, што супрацоўнік апарату ЦК КПСС, якому даручылі «арганізоўваць» артыкулы супраць пісьменніка Яшына, быў сынам былога каменданта Крамля Рудольфа Петэрсона. Аднак Іван Фурсевіч надта даверыўся гэтай крыніцы інфармацыі. З успамінаў сямейнікаў Рудольфа Петэрсона вядома, што ягоны сын трагічна загінуў у дзяцінстве. Мажліва, у апараце ЦК КПСС быў іншы носьбіт прозвішча Петэрсон…

Зрабіўшы такія папярэднія заўвагі, я абавязаны даць больш-менш шырокую інфармацыю пра самога Івана Фурсевіча (6 кастрычніка 1927 г. — 22 лютага 2001 г.). Хоць ён не раз друкаваўся ў мінскіх выданнях, звесткі пра яго ў «Літаратуры і мастацтве» ды ў «Маладосці» надта скупыя, проста лапідарныя.

Пры падрыхтоўцы да публікацыі гэтай падборкі тэкстаў мне давялося і больш уважліва прачытаць раней апублікаваныя ягоныя творы (а большасць іх заснавана на ўласных успамінах аўтара), і звярнуцца з пытаннямі да Рымы Іосіфаўны Фурсевіч.

Іван Фурсевіч нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў Галавенчыцах, што непадалёк ад Новага Свержаня. Ён быў першым дзіцём і першым сынам у сям'і Васіля Данілавіча і Ганны Іванаўны Фурсевічаў. Да прыходу бальшавікоў гэтая сямейка мела 12 гектараў зямлі, адну кабылу ды карову з цялушкай. Паводле тадышняй класіфікацыі — серадནякі. Калі ж узяць пад увагу, што ў Васіля Данілавіча і Ганны Іванаўны нарадзілася яшчэ два сыны — Міхаіл і Віталь, — дык зямлі было малавата.

Праўдападобна, што за польскім часам Іван Фурсевіч скончыў пяць класаў Навасвержанскай паўшэхнай (сямігадовай) школы, бо ва ўспамінах, агучаных на Радыё Свабода ён апавядаў пра сваю вучобу ў пятым класе ўжо савецкай школы (наколькі мне вядома, савецкая ўлада змусіла ўсіх былых вучняў польскіх школ прайсці паўторны курс у тых класах, якія яны скончылі ўвесну ці ўлетку 1939-га). Радыёўспаміны ёсць сэнс працытаваць.

«Было гэта ўвосень 1939 году. Прыблізна праз месяц пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да СССР. Ці інакш — "вызваленьне нас ад іга польскіх паноў і памешчыкаў". Я тады вучыўся ў 5-м клясе Навасьвержаньскай сямігодкі.

Аднойчы падчас урока нечакана зайшоў дырэктар школы, а зь ім два незнаёмыя дзядзькі. Яны ўважліва агледзілі наш кляс і згодна кіўнулі галовамі. Дырэктар штосьці пашаптаў на вуха настаўніку, сам выйшаў, а дзядзькі пачалі заносіць у кляс апаратуру.

Вялікія пражэктары яны паставілі каля сьценаў, а нейкі апарат на трынозе — у канцы аўдыторыі, за нашымі сьпінамі. Калі ўключылі пражэктары, у клясе стала сьветла і цёпла, як летам.

Нам загадалі сядзець ціха, не аглядвацца і слухацца настаўніка. А настаўнік, узяўшы крэйду, напісаў на дошцы два словы: "Ленін" і "Сталін".

Ён загадаў нам пісаць гэтыя словы ў сшытках, а сам пачаў выклікаць нас па чарзе да дошкі, дзе мы й пісалі гэтыя словы.

---

[1] Финкер Курт. Заговор 20 июля 1944 года. Дело полковника Штауффенберга. М.: Прогресс, 1975; Schulthess Konstanze von. Nina Schenk Gräfin von Stauffenberg. Ein Porträt. 4. Auflage. München und Zürich, 2008; Тьерио Жан-Луи. Штауффенберг: Герой операции «Валькирия». М.: Этерна, 2012.

Так працягваўся ўрок. За нашымі сьпінамі ўвесь час страчыў, нібы швейная машынка, той таямнічы апарат. Пры канцы ўроку нам сказалі, што заняткаў больш ня будзе і мы можам ісьці дамоў. Са школы нас выпусьцілі праз запасны выхад у двор школы. А там ужо стаяў дзядзька і круціў ручку апарату ўвесь час, пакуль мы праходзілі каля яго.

Пасьля нас накіравалі празь дзірку ў плоце ў суседні сялянскі двор. Па гэтым двары мы, праходзячы каля гумна, хлява і хаты, выходзілі на школьную вуліцу. А там нас зноўку чакаў дзядзька з апаратарам, зноў круціў яго.

Па гэтым двары нас ганялі разоў пяць. Нас прымушалі йсьці невялічкімі кучкамі, крышку штурхацца, сьмяяцца, рабіць выгляд, што нам вельмі весела. Назаўтра настаўнік нам патлумачыў, што гэта здымалі нас для кіно.

Але мы ўспрынялі гэта спакойна, бо не разумелі, што гэта такое. Толькі праз шмат гадоў, будучы дарослым, успамінаючы і аналізуючы гэты эпізод, я зразумеў, што тады нас здымалі ня проста для кіно. Тады рабілі здымкі важнейшай падзеі ў гісторыі Заходняй Беларусі.

Здымаўся эцюд аб тым, як заходнебеларускія дзеці, якія пры "панскай Польшчы" вучыліся ў польскай школе на польскай мове, цяпер у новай савецкай школе вучацца на роднай мове. І першыя словы, якія яны вучацца пісаць па-беларуску, — гэта, вядома ж, імёны самых любімых усімі дзецьмі Савецкага Саюзу Леніна і Сталіна.

Тады я зразумеў, чаму для гэтага кіно здымалі менавіта нас. Рэч у тым, што наша школа хоць і была звычайнай местачковай школай, але яшчэ пры Польшчы была электрыфікаваная. Гэта было зручна для здымкаў.

Эцюд, відаць, прайшоў па ўсіх кінатэатрах Савецкага Саюзу. У ім было паказана, як шчасьлівыя заходнебеларускія дзеці вяртаюцца з новай савецкай школы. А мы, ня маючы заслуг перад гісторыяй, патрапілі ў гісторыю. На жаль, празь дзірку ў плоце. Але, як казаў мой бацька, для чалавека не так важна трапіць у гісторыю, як у яе ня ўліпнуць».

(http://archive.svaboda.org/halasy/fursievic.html)

Такім чынам, у 1940 г. Іван Фурсевіч скончыў пяць, а ў 1941-м — шэсць класаў. Яму не было і чатырнаццаці гадоў, як пачалася нямецка-савецкая вайна. Сямігодку скончыў ужо пад немцамі, бо вядома, колькі намаганняў прыклалі беларускія дзеячы на чале з галоўным школьным інспектарам генеральнай акругі Беларусь ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім, каб наладзіць працу школ, заснаваць прагімназіі, настаўніцкія семінарыі ды іншыя навучальныя ўстановы. У Стаўпецкім раёне школьную справу наладжваў свой школьны інспектар — педагог і літаратар Міхась Міцкевіч, родны брат Якуба Коласа, вядомы таксама пад псеўданімам Антось Галіна.

Скончыўшы сямігодку, І. Фурсевіч падаўся ў Баранавічы. Гэты горад быў у той час цэнтрам акругі. Тут працавала беларуская прагімназія. У прагімназіі выкладалі такія знакамітыя дзеячы, як айцец Леў Гарошка, Генадзь Цітовіч, Лявон і Юрка Луцкевічы. (Былы вучань прагімназіі доктар Янка Запруднік назваў братоў Луцкевічаў сваімі ментарамі[2].) Працавалі ў Баранавічах таксама гандлёвая і медычная школы. Вось у гэтай апошняй І. Фурсевіч і набыў тыя веды, якія дапамаглі яму выжыць у суровых лагерных умовах.

Як і большасць тагачаснай вучнёўскай моладзі, І. Фурсевіч стаў сябрам Саюза беларускай моладзі. Тут зацемлю, што кіраўніком СБМ у Баранавічах быў Леанід Чарняўскі, стрыечны брат гісторыка і пісьменніка Міхася Чарняўскага.

[2] Гл.: Запруднік Я. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1954 гг.). Нью-Ёрк, 2002. С. 19.

Калі ў Заходнюю Беларусь вярнуліся саветы, І. Фурсевічу было 16 гадоў — узрост яшчэ не прызыўны, але зэкаўскі. Тут такая справа. Ёсць легенда, што меўся загад: у турмы і лагеры кідаць толькі тых сябраў СБМ, якім на момант прыходу Чырвонай арміі споўнілася 14 гадоў. Мне, напрыклад, тлумачылі, што вучань Слонімскай прагімназіі, у будучыні прафесар і член-карэспандэнт, Алег Лойка не трапіў у ГУЛАГ толькі таму, што яму ў ліпені 1944-га было адно 13 гадочкаў. Чаму не арыштавалі І. Фурсевіча — можна здагадацца: вучыўся ён у Баранавічах, а жыў у Галавенчыцах; людзі з ведамства Лаўрэнція Цанавы, мусіць, мелі шмат працы і не змаглі адразу зарыентавацца ды выявіць усіх нядобранадзейных грамадзян, а ў Галавенчыцах і Новым Свержані ў самыя першыя паваенныя гады не знайшлося даносчыка.

19 лютага 1945 г. 17-гадовага І. Фурсевіча прызвалі ў войска. То быў жахлівы прызыў: хто не трапіў на фронт і не загінуў там, не стаў інвалідам, мусіў служыць да сямі гадоў. Аднак І. Фурсевіча «дэмабілізавалі» раней, бо у 1950-м у родных мясцінах ужо знайшоўся даносчык, таксама былы вучань Баранавіцкай медычнай школы, які паведаміў органам, што ў Савецкай арміі служыць ненадзейны чалавек. Сваім учынкам даносчык разлічваў атрымаць ад саветаў індульгенцыю і права на вучобу. Набыўшы вышэйшую адукацыю, забяспечыўшы сабе матэрыяльны дастатак, даносчык быў усё ж пакараны: у яго не наладзілася сямейнае жыццё, не парадавалі дзеці…

24 жніўня 1950 г. Івана Фурсевіча, які служыў у Маскве, арыштавалі і кінулі ў знакамітую Бутырскую турму. Прайшоўшы праз допыты, ён быў асуджаны трыбуналам Маскоўскай вайсковай акругі на 25 гадоў зняволення ў канцлагерах.

Мы ведаем, што пасля смерці тырана пераглядаліся справы мільёнаў. У выніку такога перагляду І. Фурсевіч 26 чэрвеня 1956 г. выйшаў на волю[3]. Дома, у Галавенчыцах, ён пабыў два тыдні, а потым паехаў у Казахстан — у Экібастуз. Атрымаўшы яшчэ ў зняволенні прафесію электрыка, ён працаваў там на цеплаэлектрацэнтралі. У 1958 годзе скончыў у Экібастузе вячэрнюю сярэднюю школу і паступіў у медыцынскі інстытут у г. Сямей (за царскім і савецкім часам Сяміпалацінск). Удзень вучыўся ў інстытуце, а ў начныя змены і ў выхадныя працаваў дзежурантам (фельчарам) на станцыі «хуткай дапамогі».

Усё гэта не значыць, што І. Фурсевіч парваў сувязі з роднымі і з родным краем. Пра яго можна сказаць словамі паэта: а сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю.

У 1962 г. студэнт Сяміпалацінскага медыцынскага інстытута Іван Фурсевіч прыехаў на практыку ў Стаўпецкую раённую бальніцу. І трэба было такому здарыцца, што якраз у тыя дні ў гэтую бальніцу з апендыцытам трапіла дзяўчына з падсвержанскай вёскі Савані — выпускніца Бігосаўскага зоаветэрынарнага тэхнікума, заатэхнік Рыма Бурдзялоўская. Івану Васілевічу аб той пары было ўжо трыццаць пяць, а Рыме Іосіфаўне — дваццаць адзін, але Амур пацэліў у сэрца і ёй. А ў наступным годзе яны сталі мужам і жонкай.

Тут абавязкова трэба сказаць, што шлюбу Івана Васілевіча і Рымы Іосіфаўны ў пэўнай меры паспрыяў… даносчык (зразумела, яны абое нават не здагадваліся, што данос напісаў гэты спецыяліст з вышэйшай адукацыяй[4]). Завітаўшы аднаго разу ў дом Бурдзялоўскіх, даносчык убачыў на стале канверт з лістом І. Фурсевіча і быў гэтым

[3] 18 кастрычніка 1991 г. І. Фурсевіч будзе рэабілітаваны.

[4] Імя на той час ужо нежывога даносчыка стала вядомае ад земляка Івана Васілевіча і Рымы Іосіфаўны — старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь Эдуарда Шыркоўскага. Будучы галоўны чэкіст Беларусі падчас нямецкай акупацыі таксама вучыўся ў Навасвержанскай школе. Прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч, аднакашнік Э. Шыркоўскага і ягонага брата Браніслава ў Навасвержанскай школе часу нямецкай акупацыі, напісаў у лісце да мяне, што Э. Шыркоўскі «вельмі добра вучыўся», быў у адрозненне ад свайго брата ганарлівы, амбітны. Прафесар адзначае,

уражаны. Калі ж у яго спыталіся, што ён думае пра студэнта-медыка, даносчык адказаў коратка: добры хлопец. І такім чынам паспрыяў яшчэ аднаму трываламу беларускаму шлюбу. Іван Васілевіч і Рыма Іосіфаўна пражылі ў добрай згодзе 38 гадоў, знайшлі і вывелі ў людзі двух сыноў.

Тут і тое трэба адзначыць, што Рыма Іосіфаўна, выйшаўшы замуж і пераехаўшы да мужа ў Казахстан, пайшла вучыцца ў медыцынскае вучылішча і потым працавала разам з мужам.

З апублікаваных тут успамінаў вядома, што І. Фурсевіча найбольш цікавіла неўралогія, але даводзілася лячыць і іншыя хваробы. Атрымаўшы ў 1964 г. дыплом лекара, працаваў у сучаснай Усходне-Казахстанскай вобласці. Лячыў людзей і ў бальніцы, і ў горным санаторыі «Рахманаўскія крыніцы» («Рахмановские ключи»). Пра яго працу і людзей, з якімі ён кантактаваў, можна што-колечы ўведаць з сюжэта «Мухтар Сахарыеў», які публікуецца тут, і з апавядання «Камбедаўка Акулька», якое ўбачыла свет у альманаху «Калоссе» за 2006 г.

На Бацькаўшчыну І. Фурсевіч вярнуўся ў 1977 г. Месцам жыхарства выбраў Докшыцы. Тут ён працаваў намеснікам галоўнага ўрача раёна. Калі ж падышоў пенсійны век, застаўся шараговым лекарам-неўрапатолагам.

На Бацькаўшчыну І. Фурсевіч вярнуўся перад сконам камунізму: праз няпоўныя дзесяць гадоў у Савецкім Саюзе пачалася «перабудова».

Доктар Фурсевіч заўсёды цікавіўся літаратурай і сам пісаў. Быў няштатным карэспандэнтам экібастузскай гарадской газеты. Асабліва ж актывізавалася яго літаратурная дзейнасць, калі з’явілася магчымасць пісаць праўду пра перажытае і выказваць даўно вынашаныя думкі. Вось што мы можам прачытаць на адрасе http://dokshitsy.livejournal.com/22497.html:

«…Я зайшоў у рэдакцыю [докшыцкай раённай газеты], каб бліжэй пазнаёміцца са старымі падшыўкамі “Родных вытокаў”. Мяне найперш зацікавілі выпускі газеты за 1991–92 гады. Чым адрознівалася тагачасная газета ад сучаснай?

Пад канец 1991 года газета “Ленінская трыбуна” была перайменавана ў “Родныя вытокі”. На першай паласе першых “Родных вытокаў” журналісты выказвалі радасць з нагоды знікнення партыйнага ідэалагічнага кантролю. Выпускі “Родных вытокаў” 1991–94 гг. уражваюць свабодай думкі, крытычнымі закідамі ў бок тагачаснага грамадскага парадку, негатыўных з’яваў у эканоміцы, росту цэнаў, дыскусіямі паміж чытачамі і рэдакцыяй. Тут і артыкулы аб дрэннай рабоце КБА і развале ра-

---

што Э. Шыркоўскі быў «добрым, натуральным беларусам», і выказаў упэўненасць, што «падчас “перабудовы”... у ім загаварыла сваё, тутэйшае».

На беларускасць Э. Шыркоўскага ўплывала, па-мойму, і сама навасвержанская атмасфера. У перыяд польскай акупацыі тут быў неслабы асяродак беларушчыны, які падтрымлівалі сям’я Шчорсаў (асабліва бацька, Васіль, і старэйшы сын — доктар Мікола Шчорс), пасол на сойм Польскай Рэспублікі Юры Сабалеўскі ды Антось Галіна. Тут працаваў гурток Беларускай сялянска-работніцкай грамады на чале з бацькам д-ра Шчорса, ладзіліся беларускія спектаклі. У час вайны беларускае жыццё ў мястэчку актывізавалася. Аднак беларуская актыўнасць была, з іншага боку, прычынай таго, што нямала людзей з Новага Свержаня мусілі ў 1944 г. выехаць на Захад. Як паведамляе гісторык Алег Гардзіенка, такіх людзей было два дзясяткі. Сярод іх назавем і іншага Шыркоўскага — Пятра, які стаў актыўным дзеячам Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, узначальваў беларускую суполку ў Манчэстэры. Ён калі і даводзіўся сваяком Э. Шыркоўскаму, дык вельмі далёкім, адзначае праф. А. Пяткевіч.

Кар’ернаму росту Э. Шыркоўскага, лічыць А. Пяткевіч, спрыялі не толькі яго інтэлектуальныя здольнасці, але, магчыма, і тое, што той пачынаў сваю службу ў КДБ на Далёкім Усходзе. «Магчыма, там не надта прыглядаліся, што ён “заходнік”, — піша прафесар. — А больш нічога за ім не было». У прыватнасці, Э. Шыркоўскі не ўваходзіў у Саюз беларускай моладзі, бо нейкай філіі гэтай арганізацыі ў Навасвержанскай школе не было.

ённай сістэмы бытавога абслугоўвання, і паведамленні аб дрэннай працы школ у Бярэзінскім сельсавеце, і аб зніжэнні паказчыкаў сельскай гаспадаркі. Трапляюцца артыкулы аўтара адражэнскіх поглядаў Івана Фурсевіча і яго апанента камуніста Пятра Забродскага…».

У літаратурным друку Іван Фурсевіч дэбютаваў у канцы мінулага стагоддзя. Першая яго публікацыя — апавяданне «Апошняе спатканне» — з'явілася ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 8 студзеня 1999 г. У тым самым годзе ў альманаху «Калоссе» (№ 7) было надрукаванае апавяданне «Няўзятае інтэрв'ю», галоўны герой якога — былы старшыня Савета Міністраў СССР Георгі Малянкоў. У наступным годзе ў «Калоссі» свет убачыла апавяданне «Трупэрня», а ў часопісе «Маладосць» (№ 9) — апавяданне «У ружовым тумане».

Гэта, здаецца, усе прыжыццёвыя публікацыі.

Не ведаю, ці бачыў Іван Фурсевіч другі нумар часопіса «Крыніца» за 2001 г., у якім было апублікаванае яго апавяданне «Танька». Адразу ж па смерці аўтара «Наша Ніва» ў 9-м нумары за 26 лютага — 5 сакавіка 2001 г. надрукавала апавяданне «Нерасцвілая кветка» (пра ўкраінскага паэта Міхайлу Валынца). Пра яшчэ адно апавяданне — «Камбедаўка Акулька» — я ўжо напісаў.

Тыя, хто карыстаецца інтэрнэт-рэсурсамі, могуць знайсці на адрасе http://knihi.com/Ivan_Fursievic апавяданне Івана Фурсевіча «Мішка-Абушок» і ўжо названае тут нашаніўскае апавяданне «Нерасцвілая кветка» (гэты твор можна знайсці таксама на адрасе http://www.nn.by/2001/09/13.htm).

Частка творчае спадчыны І. Фурсевіча яшчэ чакае сваёй публікацыі. Архіў свайго мужа дбайна захоўвае Рыма Іосіфаўна.

Успаміны, якія прапануюцца ўвазе чытачоў альманаха «Асоба і час», перадаў мне Міхась Чарняўскі, які меў кантакты з палітвязнямі сталінскай пары. Было спадзяванне, што гэтыя тэксты будуць апублікаваныя ў «Крыніцы», але ў 2002 г. улада вырашыла ўключыць часопіс у холдынг «Літаратура і Мастацтва». Было зразумела, што пры новым кіраўніцтве зноў з'явіцца ідэалагічная цэнзура. Супрацоўнікі часопіса, у тым ліку і я, падалі заявы аб звальненні. Пакідаючы рэдакцыю, я ўзяў успаміны І. Фурсевіча з сабою. Потым высветлілася, што ў Міхася Чарняўскага маецца іх электронная версія. І вось цяпер, калі з'явілася магчымасць апублікаваць успаміны Івана Фурсевіча, я не магу не ўспомніць Міхася Міхайлавіча, які прыйшоў мне на дапамогу. А за дапамогу ў падрыхтоўцы каментароў да гэтае публікацыі выказваю падзяку супрацоўніцы Сахараўскага цэнтра ў Маскве Галіне Атмашкінай.

*Анатоль СІДАРЭВІЧ*

*Іван Фурсевіч*

## НАРОДНІК ДВАЦЦАТАГА СТАГОДДЗЯ

Камера бавіла час у чаканні вячэры і адбою. Кожны займаўся сваёю справаю. Адны, седзячы за доўгім абедзенным сталом, што стаяў пасярод камеры, чыталі, іншыя, прысеўшы на голыя ложкі, вялі ціхую гаворку, хтосьці, пагружаны ў свае невясёлыя думкі, павольнымі крокамі мераў камеру з канца ў канец, робячы своеасаблівую зарадку.

У камеры было свабодна. Напярэдадні быў этап, і частка зэкаў, закончыўшы мукі следства і дачакаўшыся адмоўнага адказу на касацыйную скаргу ў Ваенную калегію Вярхоўнага Суда, пайшла ў далёкую вандроўку па этапах і перасылках. Вандроўка гэтая праз некалькі месяцаў закончыцца дзе-небудзь у Тайшэцкай тайзе, Нарыльскай тундры ці ў нетрах Калымы. Там, намучыўшыся, нагаладаўшыся, зведаўшы здзекі, пакуты, цынгу і пелагру, скончаць яны свой шлях пад безыменнай сопкаю.

Мы ж яшчэ чакалі адказу на свае касацыйныя скаргі, спадзяючыся, па сваёй наіўнасці, што там, у самай высокай інстанцыі, дзе пануе Закон і Справядлівасць, разбяруцца ў абсурдных абвінавачваннях следчага і фармальнай штампоўцы прысуду трыбуналам Маскоўскай ваеннай акругі і хоць крыху зменшаць тэрмін зняволення. У адмену прысуду і выхад на волю тут ужо ніхто не верыў — не памятала Бутырка такіх выпадкаў. У нас не для таго садзяць, каб пасля выпускаць.

Не верылі мы і ў тое, што пры існуючым ладзе мы наогул выйдзем на волю. Тут сядзелі адны дальнабойшчыкі. Усім было адмерана на поўную катушку — «па дваццаць пяць па нагах і пяць — па рагах», што азначала дваццаць пяць гадоў зняволення ў «папраўча-працоўных лагерах», а пасля гэтага яшчэ пяць гадоў ссылкі. Ссылка — гэта тое ж пражыванне ля таго ж лагера, праца на тым жа прадпрыемстве, у той жа шахце, з жоўтым ці, як казалі, воўчым білетам заміж пашпарта, фактычна ў тым жа лагеры, толькі без дроту. Ссыльны не меў права без дазволу каменданта выйсці нават за межы пасёлка. Дык ці мог хто-небудзь спадзявацца, што ён вытрымае трыццаць гадоў катаргі? Тым больш што аб «жыцці» ў лагеры мы ўжо сёе-тое ведалі. У камеры былі людзі, якія пабывалі ў лагерах. А адзін з іх нават двойчы: першы раз — у трыццаць сёмым, другі — нядаўна. Сюды яго прывезлі ў якасці сведкі па нейкай іншай справе.

Расказы былых зэкаў слухаліся з жахам. І Бутырка, дзе мы сядзелі, здавалася нам амаль санаторыем, дзе і цёпла, і кормяць, і на працу не гоняць, і здзекі ўжо амаль скончыліся. Мы са страхам чакалі адказу з Ваеннай калегіі. Мы ведалі яго змест. Але ў кожнага цеплілася надзея: а можа… я ж — не вінаваты. Гэта іншыя — вінаватыя. А я — не. Такая, пэўна, псіхалогія людская.

У нашай камеры было толькі трое маладых. Самаму юнаму было гадоў шаснаццаць. Двум нядаўнім салдатам — па дваццаць два. А самаму старому — больш за семдзесят. Усім іншым — па трыццаць-пяцьдзясят. Але калі ўзважыць шанцы на выжыванне, то нават у шаснаццацігадовага Сашы Шляпнікава[1] іх амаль не было. Яго неакрэплы арганізм у лагеры, хутчэй за ўсё, чакае туберкулёз. Не шмат шанцаў было і ў дваццацідвухгадовага Міхася Валынца — таленавітага заходнеўкраінскага паэта, які ўжо ў сямнаццаць гадоў выдаў сваю першую і, напэўна, апошнюю кніжку вершаў. Ён быў ужо вельмі змучаным і схуднелым пасля доўгага следства. І ў першыя месяцы працы ў лагеры ён, хутчэй за ўсё, стане дахадзягам. Лагер — не месца для паэтаў. І для сямідзесяціпяцігадовага, высокага і худога, як трэска, прафесара Мікалая Мікалаевіча Спяранскага[2], які пасля зачыткі прыгавору Ваеннага трыбунала сказаў яго старшыні: «Дзякую вам за тое, што вы дазваляеце дажыць мне да ста гадоў. На волі, са сваім здароўем, зрабіць гэтага я не змог бы. А тут давядзецца старацца, бо крыўдзіць савецкую ўладу нельга, і паміраць, не

выканаўшы яе волі, таксама нельга». Ён, абуты ў вярблюджыя шкарпэткі і цёплыя туфлі, увесь час старэчымі шажкамі тупаў па камеры. Дзе ж яму вынесці лагернае жыццё? Ён і двух этапаў не перанясе і, хутчэй за ўсё, скончыць сваё жыццё ў адным з лазарэтаў перасылкі або і проста ў вагоне, пакінуўшы недажытыя і неадбытыя гады на сумленні савецкай улады.

Але і ў вязня сталага ўзросту надзеі выйсці на волю не шмат. Амаль усе зняволеныя тут былі масквічамі, інтэлігентамі, прызвычаенымі, як цяплічныя кветкі, да ўтульнага сталічнага жыцця. За выняткам групы геолагаў. Тайгу яны ўяўлялі ў выглядзе Сакольніцкага ці Ізмайлаўскага парку, а Сібір — па кінафільме «Сказание о земле сибирской», які, дарэчы, здымаўся ў ваколіцах Масквы. Шахта ім уяўлялася ў выглядзе тунэля метро з вясёлым «шахцёрам» Алейнікавым[3]. Выжыць у лагеры зможа хіба толькі такі чалавек, як начальнік геолага-разведвальнай партыі Грыгор’еў[4]. Ён ужо прасмажыўся ў пустынях Сярэдняй Азіі і прамарозіўся ў тундры Поўначы, не баяўся нічога. Ён быў заўсёды вясёлым, бадзёрым, расказваў займальныя прыгоды са свайго вандроўнага жыцця, якія мы слухалі з захапленнем. Ён не баяўся нічога.

Раптам цішыню камеры парушыў бразгат жалезнага замка, што здымалі з дзвярэй, затым скрыгатанне ўнутранага дзвярнога замка. Усе насцярожыліся і ўтаропіліся ў дзверы — новае папаўненне. Яно, як заўсёды, прыбывала ў гэты час. Людзей прывозілі з трыбунала. Новенькія, толькі што спечаныя «дальнабойшчыкі», яшчэ не апамятаўшыся ад кароткага, але важкага прыгавору, уваходзілі ў камеру нясмела, не паспеўшы ўсвядоміць, што жыццё іх ужо змянілася. Змянілася назаўсёды. Да трыбунала была нейкая, хоць маленькая надзея — суд разбярэцца, — а пасля прыгавору ўся надзея знікала. Быў чалавекам, а стаў зэкам і — назаўсёды. Але зразумець гэта было цяжка. Для асэнсавання быў патрэбен час.

Сапраўды, дзверы адчыніліся і ў камеру ўвайшоў чалавек у простай рабочай вопратцы. Ён у абдымку трымаў скручаны худы турэмны матрац, коўдру, падушку і ручнік. Зверху быў яшчэ невялікі палатняны мяшэчак са скарбам. Рот у яго быў паўадкрыты. Слёзы цяклі руччом, і выгляд у яго быў нейкі дзіцячы. Пабачыць плачучым зняволенага ў камеры асуджаных — гэта тое ж, што, паводле Маякоўскага, бачыць плачучага бальшавіка.

Немясцовы — адразу вырашылі сукамернікі. Мясцовыя з’яўляліся ў камеры з вялікімі мяшкамі, дзе былі і вопратка, і абутак, і прадукты, — відаць было, што чалавека збіралі ў дарогу блізкія.

Новенькі нават не павітаўся. Ён стаў ля парога і… плакаў. Плакаў моўчкі. Слёзы цяклі руччом, і ён быў падобны да дзіцяці. Усе, пэўна, бачылі плачучага асуджанага ў гэтай камеры ўпершыню. Калі б гэта была камера смяротнікаў — там іншая справа.

А тут ужо ніхто ніколі не плакаў. А навічок плакаў.

— Што ж вы стаіце? Праходзьце. Выбірайце любое незанятае месца, кладзіце пасцель, — сказаў староста камеры.

Новенькі разгублена, скрозь слёзы стаў аглядацца. Затым павольна, нібы нясмела падышоў да першага ж пустога ложка і паклаў туды сваю пасцель.

— А цяпер падыходзьце да стала, сядайце і давайце знаёміцца, — зноў сказаў староста.

Для зняволеных, замураваных у каменным мяшку, не бачыўшых нічога, акрамя кавалачка неба за кратамі і сваіх сукамернікаў, кожны новы чалавек — падзея, глыток свежага паветра. Ён на пэўны час становіцца аб’ектам самай пільнай увагі. Яго доўга распытваюць, выпытваюць, пакуль ён не вытрасе ўсе «навіны» гадавой даўніны з волі і ўсе навіны са сваёй папярэдняй камеры. А калі навічок яшчэ і добра адукаваны, то ён становіцца і героем дня на пэўны час.

Новенькі нясмела падышоў да стала і прысеў на краёк лаўкі.

— А цяпер раскажыце пра сябе — хто вы, адкуль, чаму вы плачаце? — прапанаваў стараста.

Хтосьці падаў яму алюмініевую турэмную конаўку з вадою.

Трымаючы яе дрыжачымі рукамі, ён стаў прагна, вялікімі глыткамі, піць ваду. Гэта яго крыху супакоіла.

— Завуць мяне Сцяпанам, па прозвішчы Гаршкоў, — сказаў ён, выціраючы і размазваючы па твары слёзы кулаком.

— Ну, за што яны мяне так? — уздрыгваючы, раптам звярнуўся да нас Гаршкоў. — А дзетачкі ж вы мае! А родненькія мае! А што ж з вамі будзе? — раптам па-бабску загаласіў Гаршкоў.

Уся камера глядзела на яго, нічога не разумеючы.

Да яго падышоў прафесар Барыс Мікалаевіч Спяранскі[5]. Спяранскіх у нас было двое, і абодва — прафесары. Ён пагладзіў, як дзіця, Гаршкова па галаве і сказаў: «Супакойцеся. Зрабіце некалькі глыбокіх удыхаў паветра — і вам стане лягчэй. Мы тут усе свае і нам можна расказаць усё. Можа, мы што і параім».

— Гэта ж мне ў трыбунале сказалі — дваццаць пяць гадоў і пяць гадоў паражэння ў правах, — нарэшце вымавіў Гаршкоў. Уся камера дружна зарагатала.

— Дык чаго ж вы плачаце? Тут усе такія. Ва ўсіх — дваццаць пяць. У трыбунале меней не даюць, — сказаў прафесар.

І сапраўды, у той час у Бутырцы вязняў з меншымі тэрмінамі амаль не было. Хіба толькі адзінкі, якіх трыбунал не браўся судзіць з-за адсутнасці віны, і ім ОСО[6] давала без суда па дзесяць-пятнаццаць. Але гэта было выключэннем, бо і ОСО давала па дваццаць пяць.

— А за што гэта вам так адмерылі? — спытаў геолаг Грыгор’еў.

— Ні за што, — і Гаршкоў зноў пачаў плакаць.

У камеры зноў засмяяліся.

— Тут усе — ні за што, — сказаў стараста. — Вы проста раскажыце: хто вы, адкуль, калі з волі, у чым вас абвінавачвалі, — заахвочваў стараста.

— Родам я з Разанскай вобласці, сяла Гарэлага, што недалёка ад станцыі Дзівава.

— О, зямляк Ясеніна, — сказаў Валынец[7].

— А хто такі Ясенін? — здзіўлена спытаў Гаршкоў.

Тут мы ўсе атарапелі. У камеры прозвішча Ясеніна ведалі ўсе.

— Ясеніна не ведаеце? Гэта ж ваш вялікі зямляк, родам з Канстанцінава, — сказаў Грыгор’еў.

Старэйшае пакаленне расіян, і сапраўды, добра ведала і любіла Ясеніна. А я пачуў пра яго ад зампаліта нашага эшалона. А пасля падчас службы ў вучэбцы быў і нават начаваў у тым жа Канстанцінаве. Бачыў я і хату, дзе жыла сястра паэта, Шура, у сяле Кузьмінскім. З таго часу я палюбіў Ясеніна. Пасля прачытаў нямала яго вершаў, нямала вывучыў напамяць. А Гаршкоў нават не ведае свайго знакамітага земляка.

Пакрыху мы высветлілі, што Гаршкоў родам з глухога разанскага сяла. Усё жыццё далей як у райцэнтр не выязджаў. У дзіцячыя гады зваліўся з дрэва і пашкодзіў грудную клетку. З-за гэтага ў вайну не ўзялі ў армію. Усю вайну прабыў, як певень у куратніку, адзіным мужыком на ўсю вёску. Працаваў у калгасе затычкай ва ўсе дзіркі — дзе патрэбна была мужчынская рука, туды і пасылала яго «прадсядацельша». Ён і хамуты рамантаваў, і косы кляпаў. Праўда, акрамя косаў, за вайну скляпаў і траіх дзяцей. Ды і даваенных было двое.

Цяжка жылося ў вайну, не лягчэй і пасля яе. Можа, нават цяжэй. Старэйшага, калі ён падрос, адправіў у Маскву, у ФЗВ[8]. А сам стаў прасіцца ў «прадсядацельшы» на

заробкі. Адпусціла старшыня — з мужыкамі ў вёсцы стала лягчэй, бо сёй-той вярнуўся з фронту.

У Маскве Гаршкоў уладкаваўся на будоўлю. Зарабляў аж пяцьсот рублёў, што адпавядала пяцідзесяці паслярэформенным рублям. Дзвесце пяцьдзясят, а то і трыста адсылаў дамоў. Гэта для сям'і была вялікая падмога. Мы, праўда, не маглі зразумець, як можна было пражыць на такія грошы, працуючы фізічна. Але Гаршкоў неяк жыў.

На Кастрычніцкія святы паехаў Гаршкоў наведаць свайго сына ў ФЗВ. Сябры сына раз'ехаліся па сваіх, і ён быў адзін у пакоі.

Збегаў сын у краму, прынёс бутэльку гарэлкі і пару бляшанак рыбных кансерваў. Сын не піў зусім. Ды і Гаршкоў выпіваў рэдка. Да вайны гарэлка была дарагой, у вайну яе не было зусім. А пасля вайны не было грошай. Хіба калі на вяселлі ці на хаўтурах чарка перападала.

Выпіў Гаршкоў шклянку і хутка сп'янеў. Прылёг на ложак. Паспаў. Прачнуўшыся, дапіў усё. Для рускага нармальнага мужчыны паўлітра — і нямнога. Але Гаршкоў і на паўмужыка не цягнуў — малы, худы і непітушчы.

Пасядзелі яны да позняга вечара, пагутарылі. Пасля сын правёў на аўтобусны прыпынак, расказаў, дзе рабіць перасадку, пасадзіў у аўтобус.

Перасадку Гаршкоў зрабіў, але сеў не ў свой аўтобус. У аўтобусе народу было не шмат, і ўсе — святочна адзетыя, у вясёлым настроі — вярталіся з гасцей. А Гаршкоў зімой і летам адным цветам: у яго, акрамя рабочай вопраткі, нічога не было. Пасажыры весела размаўлялі аб сваіх справах, а Гаршкова разбірала злосць — раз'еліся, расфуфырыліся, весяляцца. А на яго паглядаюць з пагардай. Ён штосьці сказаў, і сам не памятае што. А сядзеўшая насупраць яго:

— Сядзі, дзярэўня, і маўчы.

Крыўдна стала Гаршкову. Захацелася яму выліць каму-небудзь сваю душу, пагаварыць шчыра — дзейнічала гарэлка. Побач з ім сядзеў маўклівы мужчына. Яму і выказаў Гаршкоў свае думкі: мы, дзярэўня, працуем, кормім іх, самі галадаем, а гэтыя барыні яшчэ на нас і глядзяць коса.

У гэты час яны праязджалі акурат насупраць Крамля, які, расквечаны каляровымі лямпачкамі, зіхацеў, як чароўны замак.

— Вось хто вінаваты ў гэтым нашым жыцці. Бачыш, балююць, весяляцца, як цары, у сваім Крамлі, а мы з голаду пухнем. Бомбу сюды б атамную, каб ведалі…

Мужчына слухаў моўчкі, а пасля спытаў, куды ён едзе. Гаршкоў назваў адрас.

— Дык вы ж не ў свой аўтобус селі. Вам трэба перасесці. Давайце, я вам дапамагу. Выйдзем, і я дапамагу вам сесці, куды трэба, — прапанаваў ён.

Вось добры чалавек, — абрадаваўся Гаршкоў. І павёў гэты «добры чалавек» Гаршкова па незнаёмай вуліцы. І раптам яны апынуліся ў міліцыі. Там «добры чалавек» паказаў дзяжурнаму сваё пасведчанне і нешта сказаў. Гаршкова пасадзілі ў камеру. Назаўтра праверылі дакументы, нешта запісалі і выпусцілі.

А праз месяц прыйшлі на працу супрацоўнікі МДБ[9] і павезлі Гаршкова ў турму. Следчы быў таксама чалавекам добрым — не крычаў, не біў. Ён толькі спытаў, ці казаў Гаршкоў гэтыя словы аб атамнай бомбе, якую трэба скінуць на Крэмль. Гаршкоў сказаў, што не памятае, бо быў, маўляў, п'яны. Тады следчы назваў нейкага чалавека. Ім аказаўся той «добры чалавек», які завёў яго ў міліцыю. Быў ён у форме капітана міліцыі і напомніў Гаршкову, як яны ехалі ў аўтобусе і як Гаршкоў казаў аб атамнай бомбе, якую трэба скінуць на Крэмль. Гаршкоў сказаў, што не памятае — быў п'яны; можа, штосьці і ляпнуў, прасіў прабачэння. Следчы сказаў: што ў цвярозага ў галаве, тое ў п'янага на языку. Ён склаў пратакол вочнай стаўкі і адправіў Гаршкова ў камеру.

А яшчэ праз месяц павезлі Гаршкова ў трыбунал. Старшыня трыбуналу зноў спытаў Гаршкова пра атамную бомбу. Гаршкоў падцвердзіў — ляпнуў па-п’янаму. Прасіў прабачыць, дараваць. Выйшлі трыбунальцы. А праз мінут пятнаццаць зайшлі і сказалі: дваццаць пяць і пяць.

Гаршкоў паказаў копію прыгавору. Там было сказана, што Сцяпан Гаршкоў вёў у гарадскім аўтобусе ў Маскве антысавецкую агітацыю і выказваў тэрарыстычныя намеры ў адносінах кіраўнікоў партыі, урада і асабіста таварыша Сталіна.

Улічваючы Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб адмене смяротнага пакарання, па артыкуле 58–8[10] Гаршкоў прыгаворваецца да дваццаці пяці гадоў ППЛ[11] і пяці гадоў паражэння ў правах. І па артыкуле 58–10[12] — да дзесяці гадоў ППЛ і пяці гадоў паражэння ў правах.

Гаршкоў ніяк не мог зразумець, за што яго так сурова пакаралі.

— О, баценька, дык вы ў нас народнік, толькі дваццатага стагоддзя, — сказаў прафесар Спяранскі.

— А чаму народнік? — раптам спытаў Гаршкоў.

— Сотню гадоў назад былі такія маладыя рэвалюцыянеры… Яны ішлі ў народ, у вёску, і там агітавалі народ, сялян, заклікалі іх да рэвалюцыі. Іх і называлі народнікамі. Але ў дзевятнаццатым стагоддзі моладзь ішла агітаваць за рэвалюцыю ў вёску, а вы, у дваццатым, прыехалі агітаваць у горад, — растлумачыў Гаршкову прафесар Спяранскі.

Усе ўсміхаліся. Але Гаршкоў такіх жартаў не разумеў. Ён усё ўспрымаў канкрэтна. Да абстрактнага мыслення ён быў няздольны.

У канцы прыгавору было сказана, што гэты прыгавор можа быць абскарджаны ў Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда. Гаршкову і параілі напісаць скаргу.

Скаргу сталі пісаць усёй камерай. Абмяркоўвалася кожнае слова. Гаршкоў сядзеў імяніннікам і слухаў спрэчкі, стараючыся зразумець іх сэнс. Ён радаваўся, што ўсе сукамернікі бяруць такі актыўны ўдзел у яго лёсе, і час ад часу дзякаваў ім. Да абеду скарга была напісана. Гаршкоў яе падпісаў. Пастукалі ў кармушку і аддалі дзяжурнаму наглядчыку.

— Цяпер чакай. Можа, у Вярхоўным Судзе разбяруцца, — сказалі яму сукамернікі. Гаршкоў павесялеў.

У камеры Гаршкова з лёгкай рукі прафесара Спяранскага сталі зваць народнікам дваццатага стагоддзя.

Гаршкоў пакрыху стаў ажываць. Ён менш сядзеў, абхапіўшы галаву рукамі і прыгаворваючы «А дзетачкі ж вы мае…». Ён усё часцей стаў падсядаць да людзей, прыслухоўвацца да гутаркі, стараючыся зразумець яе.

Калі Гаршкову сказалі, што прафесар Барыс Мікалаевіч Спяранскі яшчэ за царскім часам сядзеў у гэтай жа Бутырскай турме як рэвалюцыянер, у Гаршкова аж рот раскрыўся ад здзіўлення. Праз некаторы час ён нясмела падышоў да прафесара і ціха спытаў, за што яго пасадзілі цяпер. Ён жа такі заслужаны чалавек — рэвалюцыю рабіў.

— За падрыў эканамічнай магутнасці краіны, — самым сур’ёзным тонам адказаў прафесар.

І Гаршкоў успрыняў гэта ўсур’ёз.

— Ну, вы то вы. А я за што? — І ў яго зноў з’явіліся слёзы.

Тады ішла знакамітая «Справа геолагаў», па якой была асуджана добрая сотня геолагаў розных рангаў — ад начальніка геолага-разведачнай партыі да прафесара, загадчыка кафедры інстытута. Іх было так шмат, што ў Бутырцы не хапала камераў, каб рассадзіць іх па адным — у адпаведнасці з інструкцыяй, якая забараняе садзіць «падзельнікаў» разам. І ў нашай камеры апынулася аж пяць геолагаў.

Гаршкоў падышоўшы да Грыгор’ева, спытаў:

— А вас за што?
— За скрыццё рэсурсаў золата, — адказаў той.
— Як гэта так? — не зразумеў Гаршкоў.
— Ды вось, знайшоў золата і скрыў яго ад улады.
— І шмат?
— Пару дзясяткаў тон.
— Золата?
— Золата.

Гаршкоў не паверыў. Ён зразумеў, што яго дураць, і адышоў ад Грыгор’ева.

Сярод нас быў камбрыг Гуськоў[13]. Хадзіў ён у старым, даваеннага пашыву генеральскім шынялі, дыяганалевай гімнасцёрцы і дыяганалевых штанах. Камбрыгам ён зваўся таму, што не паспеў атрымаць генеральскага звання — яго арыштавалі ў сорак другім годзе. Дзесяць гадоў ён правёў «пад следствам». Следства, казаў ён, ніякага не было. Кожныя два месяцы яго выклікаў следчы, даваў пачытаць газету і падсоўваў на подпіс паперку аб прадаўжэнні следства яшчэ на два месяцы. Пэўна, ніхто не ведаў, што з ім рабіць. Ён абвінавачваўся ў тым, што, будучы начальнікам абаронных збудаванняў Ленінграда, дрэнна арганізаваў абарону горада. Вайна даўно закончылася, а Гуськоў усё сядзеў. Нарэшце, у пачатку пяцьдзясят першага года, яму па ОСО далі пятнаццаць гадоў і ўкінулі ў нашую камеру. Чакаць этапу.

Гуськоў быў суровы на выгляд і маўклівы чалавек. Пэўна, такім яго зрабіла турма — такі тэрмін у адзіночцы, толькі з сукамернікамі не кожны вытрымае. Гуськоў мала з кім размаўляў. Але ён ніколі не адмаўляўся згуляць у шахматы. У шахматы ён усіх нас абыгрываў. І мог гуляць нават «завочна», лежачы на ложку і дыктуючы хады.

Гаршкоў да Гуськова не падыходзіў. Гэта для яго была вельмі высокая фігура. Але, даведаўшыся ад іншых, што Гуськова пасадзілі за дрэнную абарону Ленінграда, Гаршкоў толькі пакруціў галавою.

— Гэта ж шкодніцтва. У трыццаць сёмым за гэта расстрэльвалі, — пракаментаваў ён.

— А цябе за што, сынок? — спытаў ён у Валынца, маладога заходнеўкраінскага паэта.

— За непавагу да бацькоў, — адказаў той.

— Гэта дрэнна. Бацькоў трэба паважаць. Але ж за гэта не судзяць. У нас за гэта лейцамі б’юць, — не паверыў ён.

— Справа ў тым, што трэба было боты лізаць, а я аблаяў. Ды не каго-небудзь, а бацьку Сталіна.

— Гэта дрэнна. Таварыша Сталіна трэба паважаць, ён вайну выйграў, а вы аблаялі…

— Але ж і вы хацелі атамную бомбу скінуць на таварыша Сталіна, — сказаў Валынец.

— Дык я толькі сказаў, і то — сп’яну.

— І я толькі сказаў, але цвяроза, — сказаў Валынец.

Даведаўшыся, што Саша Шляпнікаў — сын вядомага «ворага народа»[14], Гаршкоў паглядаў на яго насцярожана. Аб «ворагах народа» ён шмат чуў яшчэ да вайны. Але жывых іх не бачыў і чамусьці баяўся нават іх дзяцей.

Неяк слухаючы размову прафесараў, ён пачуў, што прафесар Бараннікаў[15] атрымліваў у месяц дзесяць тысяч рублёў. Гаршкоў не паверыў яму.

— А ў мяне з ганарарамі і ўсе пятнаццаць набягала, — сказаў прафесар Спяранскі.

— Гэта ж цэлы мех грошай. У нас на весь калгас столькі не атрымліваюць. Куды ж вы іх дзяваеце? — здзіўлена спытаў Гаршкоў.

— Разыходзяцца. Іншы раз не хапае.

— Не хапае на месяц? — не паверыў Гаршкоў. — Мне б на дзесяць гадоў хапіла.

— Які прыход, такі і расход, — сказаў прафесар.
— Во жылі людзі! І чаго ім не хапала?..

Праз тры месяцы Гаршкова выклікалі да кармушкі. Наглядчык сказаў, што прыйшоў адказ на яго скаргу ў Ваенную калегію Вярхоўнага Суда. Там было сказана: «Ваенная калегія Вярхоўнага Суда ўнесла змяненні ў прыгавор ваеннага трыбунала — пазбавіла права касацыі па артыкуле 58–10. Прыгавор пакінула ў сіле». Гаршкоў нічога не зразумеў. Ён моўчкі распісаўся.

Толькі пасля знаўцы кодэкса растлумачылі яму, што прыгавор па артыкуле 58–8 («Тэрарызм») заўсёды з’яўляецца канчатковым і абскарджанню не падлягае. Можна абскардзіць толькі артыкул 58–10 «контррэвалюцыйная агітацыя і прапаганда». А Гаршкова пазбавіла Ваенная калегія і гэтага права. У законе такога права няма. Але Ваенная калегія Вярхоўнага Суда — прыдумала.

Вось дык вораг з глухой Разаншчыны, думалі мы.

Прыгавор уступаў у законную сілу. Цяпер нам Гаршкова суцяшаць не было чым. Заставалася яму, як і ўсім нам, адна надзея — надзея на смерць Вусатага. Пасля яго павінны ж наступіць нейкія змены.

Праз пару тыдняў раніцай адкрылася кармушка і наглядчык сказаў: «На Гы». У нашай камеры «на Гы» быў тады толькі адзін Гаршкоў. Наглядчык, пачуўшы яго прозвішча, загадаў: «З вяшчамі». Гэта азначала — на этап.

І наш народнік дваццатага стагоддзя пайшоў. Пайшоў блукаць па этапах, перасылках вялікай імперыі з кароткай назвай ГУЛАГ.

Этапы ён, пэўна, перанясе. А ў лагеры, з яго здароўем і псіхалогіяй, ён хутка трапіць у дахадзягі і скончыць свой жыццёвы шлях, як і сотні тысяч такіх жа «ворагаў народа».

## ДОКТАР МАКАРАЎ

Мне ў жыцці пашанцавала на добрых людзей і добрых настаўнікаў. Дзякуючы ім я і выжыў, і дасягнуў у жыцці пэўных поспехаў, і зрабіў штосьці карыснае для людзей.

Адным з такіх людзей быў Георгі Андрэевіч Макараў[16] — хірург лагернай бальніцы на Д-2. Так называлася будаўніцтва Калымскай электрастанцыі ў пасёлку Мяўнджа[17]. Будавалі яе як засакрэчаны стратэгічны аб’ект, таму і ішоў гэты аб’ект пад назвай Д-2. Будавалася, а пасля і абслугоўвалася электрастанцыя зняволеннымі Берлага[18]. Пасля ўвядзення яе ў строй пасёлак Мяўнджа стаў цэнтрам Аркагалінскага вугальнага басейна, на вугалі якога, дарэчы, і працавала электрастанцыя.

У лагеры была вялікая бальніца. Будынак яе ў форме расцягнутай літары Н узвышаўся на гары ў самым канцы лагера. У адным крыле бальніцы быў аперацыйны блок, у другім — прыёмная, рэнтген-кабінет і аптэка. Пасярэдзіне — хірургічнае і тэрапеўтычнае аддзяленні.

Абсталяванне бальніцы, як для тагачаснага спецлага, было выдатнае. Аперацыйны блок — не горшы за такія блокі ў раённых бальніцах. Там былі тыповыя аперацыйныя стол і лямпа, поўны набор інструментаў і абсталявання. У рэнтген-кабінеце рабілася і прасвечванне, і здымкі. Нават плёнкі было дастаткова. А ў аптэцы быў добры набор медыкаментаў. Нават пеніцыліну і стрэптаміцыну было дастаткова.

Ложкі ў бальніцы былі жалезныя, матрацы і падушкі, хоць і тонкія, — ватныя, а не з апілак ці травы. Кожнаму хвораму выдаваліся прасціна і ручнік.

Я трапіў у гэтую бальніцу выпадкова зімою 1955 года. Бальніцы спатрэбіўся лабарант, і мяне нейкім чынам адшукалі ў лагпункце АРЭС[19], што за сем кіламетраў ад Мяўнджы, дзе я на свежым калымскім паветры даходзіў у будаўнічай брыгадзе, рыхтуючыся ў дыстрофікі.

Начальнікам бальніцы тады была капітан медыцынскай службы ўнутраных войскаў Ніколенка — невялікая, ціхая і спачувальная да зэкаў жанчына, якую зэкі звалі мамкай. Было яшчэ некалькі вольнанаёмных урачоў — жонак і лагернага, і пасялковага начальства. Увесь іншы персанал быў са зняволеных.

Фактычным кіраўніком бальніцы быў зняволены хірург Георгі Андрэевіч Макараў. Родам з Нікапаля, рускі па нацыянальнасці. Было яму гадоў каля сарака. Але адутлаваты твар і вялікі, з залысінамі лоб старылі яго гадоў на дзесяць. А цывільная карычневая ў палосачку рубашка і вялікі жывот рабілі яго зусім непадобным да зэка. Зэкаў з жыватамі ў лагеры не было.

Парадак і дысцыпліна ў бальніцы былі лепшыя, чым у любой цывільнай. Георгі Андрэевіч, фанатычна адданы бальніцы і хворым, патрабаваў гэтага і ад іншых. Ён кругласутачна знаходзіўся ў бальніцы. Зранку абход хворых, пасля ішлі планавыя аперацыі, афармленне гісторый хвароб, прыём хворых. Ён і жыў у рэнтген-кабінеце, дзе ў яго за шырмай быў свой тапчан.

З парадкамі ў бальніцы я пазнаёміўся ў першы ж дзень сваёй працы. Акрамя таго, што мне належала працаваць лабарантам, мяне ў першы ж дзень паставілі дзяжурыць у начную змену ў якасці медбрата.

Начныя дзяжурствы ў любой бальніцы, калі няма цяжкахворых, не надта і складаныя: споўніў вячэрнія назначэнні, упарадкаваў дакументацыю — і сядзі на пасту.

Мяне папярэдзілі, што ноччу спаць забаронена. Выканаўшы назначэнні, я ўзяў у аднаго хворага кніжку. З кнігамі ў лагеры было цяжка. А ў нас на АРЭСе не было нават бібліятэкі. Чыталі, што было ў зэкаў. Але я там не прачытаў ні адной кнігі — не да чытання было пасля дзесяцігадзіннага дзёўбання ўмёрзлай, цвёрдай камяністай зямлі. Пасля працы на сарака- і пяцідзесяціградусным марозе мы падалі, як мёртвыя, на нары. А тут — ціха, жывот набіты кашаю. Нібы ты і не ў лагеры. Чаму б не адвесці душу, хоць на кароткі час забыцца аб гэтай жахлівай рэчаіснасці?

Я так зачытаўся, што не заўважыў, як побач са мною спыніўся Георгі Андрэевіч. Ён падышоў нячутна, бо, як і ўсе медыкі, быў абуты ў мяккія лямцавыя тапачкі. А дзверы ў бальніцы змазваліся графітным парашком і не рыпелі. Адзеты ён быў толькі ў цёплую кітайскую бялізну блакітнага колеру.

— Добры вечар, — прывітаўся ён, хоць ужо была позняя глыбокая ноч. Голас прагучаў знянацку, што я аж падскочыў. — Як першае дзяжурства?

— Дзякуй. Усё спакойна.

— Што чытаем? — узяў ён са стала зачытаную кніжку. — О, Панас Мырны. Гулёна. На украïнськай мові. Чытаў. Гарна штука, — пахваліў ён.

Зазірнуўшы ў адну з палатаў, Георгі Андрэевіч пажадаў мне спакойнага дзяжурства і ціха пайшоў да сябе.

Назаўтра раніцай ён падышоў да майго перавязачнага століка, дзе я рабіў перавязкі, крыху паглядзеў на маю працу, а пасля паклікаў да сябе ў кабінет.

У маленькім пакойчыку былі толькі стол, табурэт, тапчан (кушэтка) і этажэрка з кнігамі. Гэтулькі кніг я ў лагеры ні ў кога не бачыў.

— Я бачу, што ты дрэнна ведаеш асептыку і антысептыку, — сказаў ён, дастаючы з этажэркі кнігу.

Я аж жахнуўся. Перавязкі я рабіў з захаваннем усіх правілаў асептыкі. Я не разумеў, у чым мая памылка, і глядзеў на Георгія Андрэевіча разгублена.

— Вось пачытай тут пра асептыку і антысептыку. А праз два тыдні раскажаш нам на пяцімінутцы, — сказаў ён, падаючы мне вялізную кнігу.

Нічога не разумеючы, я выйшаў з кабінета. А сябры сустрэлі мяне рогатам.

— Чытаў ноччу?

— Чытаў.
— Мастацкую?
— Мастацкую.
— То цяпер вывучыш увесь гэты падручнік ды яшчэ і перакажаш яго нам на канферэнцыях, — патлумачылі мне хлопцы. — У Георгія Андрэевіча на працы можна чытаць толькі медыцынскую літаратуру. А каго ён застае за чытаннем мастацкай літаратуры, таго нагружае медыцынскай. Такі ў нас парадак. Не ты першы. Ён і сам пастаянна чытае, і нас прымушае чытаць. Персанал у нас выкшталцоны.

Пасля я і сам упэўніўся ў гэтым. Зрэшты, нічога тут дзіўнага не было. У нас жа, акрамя працы ў бальніцы, ніякіх абавязкаў не было, і мы працавалі над павышэннем сваёй кваліфікацыі. У дадатак: кожны даражыў сваім месцам. Праца ў бальніцы — не праца ў шахце ці на будоўлі. А я ўжо прайшоў і шахту, і будоўлю. А тут, у дадатак, і ежы хапае, хоць і ячменнай кашы, і канвой не крычыць, і праверак не бывае. Нібы і лагера няма.

Я згаладаўся па кнігах, па ведах. Малады мозг, яшчэ не здэградаваны, патрабаў нагрузкі. Яшчэ ў Каньёне[20] я вывучыў «Прапедэўтыку ўнутраных хваробаў» Мяснікова[21] — падручнік для ВНУ. Вучыў тэорыю самастойна, а практыку праходзіў у бальніцы. Пасля самастойна вывучыў лабараторную справу, і мы разгарнулі лабараторыю. Гэта прыдалося мне і тут. Пасля, перад вызваленнем, мяне нечакана праверыла нейкае цывільнае медыцынскае начальства з Нексікана[22] і прапанавала працу лабаранта ў раённай бальніцы.

А за падручнік «Агульнай хірургіі» Руфанава[23] я ўзяўся з ахвотаю. Вучыў добрасумленна. Ды і напісаны ён быў лёгка. А галоўнае — дакладваць на канферэнцыі трэба было без паперкі. Пасля асептыкі і антысептыкі Георгі Андрэевіч прапанаваў мне вывучыць наступны раздзел. Так я і сапраўды вывучыў увесь падручнік. І гэта мне прыдалося — дапамагала на працы. Ды і не хацелася быць горшым, дурнейшым за іншых, асабліва ўкраінцаў, якія заўсёды зазнаваліся.

А калі праз шэсць гадоў я спаткаўся з гэтымі ж падручнікамі ў інстытуце, вучыць іх не было патрэбы. Вывучанае ў лагеры моцна сядзела ў галаве. Іспыты я здаваў лёгка, на пяцёрку.

А начныя візіты ў бальніцы Георгія Андрэевіча, як пасля высветлілася, былі звычайнай з'явай, стылем яго працы. Ён рана клаўся спаць і прачынаўся гадзіны ў тры — і тады ішоў у бальніцу, а затым чытаў. Так, ён аднойчы выратаваў жыццё маладому хлопцу. Той напярэдадні паступіў у бальніцу са страўнікавым кровацячэннем. Стан яго быў здавальняючым, і аперацыі Георгі Андрэевіч рабіць не стаў. Ён часта казаў: «Рэзаць мы паспеем. Спачатку паспрабуем абысціся без нажа». Яго тактыка адрознівалася ад тактыкі маладых хірургаў, якія адразу хапаюцца за нож. Георгі Андрэевіч добра разумеў, што значыць аперацыя ў лагерных умовах, у аслабленых турмою людзей.

Перад сном ён, як звычайна, паглядзеў хворага. А ноччу, зайшоўшы ў палату, пабачыў, што хворы канае. Выратаваць хворага магло толькі тэрміновае пераліванне крыві і тэрміновая аперацыя. Георгі Андрэевіч загадаў узяць у яго пяцьсот мілілітраў крыві і рыхтавацца да аперацыі. У яго была першая, рэзус-адмоўная (як тады казалі, універсальная) група. Пакуль пералівалі кроў, сталі рыхтавацца да аперацыі. Георгі Андрэевіч выпіў бляшанку згушчонага малака з чыфірам і пайшоў у аперацыйную. Жыццё хворага ўдалося выратаваць. Усе былі ў захапленні ад гэтага ўчынку.

Георгі Андрэевіч дапамагаў усім, хто звяртаўся да яго. Дапамагаў ён і мне. Я неяк зацікавіўся неўралогіяй. Але самому разабрацца ў цэнтральнай нервовай сістэме было надта цяжка. А Георгі Андрэевіч прысядзе падчас маіх дзяжурстваў і тлумачыць усё, што мне незразумела. І калі мне на чацвёртым курсе давялося вывучаць неўралогію, яна давалася мне лёгка. Можа, з-за гэтага я пасля і стаў неўрапатолагам.

Вядома, што ў лагеры ўсіх памерлых у абавязковым парадку ўскрывалі. Для чаго гэта рабілася, мне незразумела. Маглі спісаць, проста праткнуўшы жалезным штыром на вахце. А ў нас ускрыцці былі своеасаблівай школай. Усе мы вучыліся. Вучыліся, можа, і на сваіх памылках. Але вучыліся, каб іх не паўтараць.

Ускрываў, часцей за ўсё, хто-небудзь з фельчараў. Нярэдка рабіць гэта даводзілася і мне. А Георгі Андрэевіч станавіўся побач і дыктаваў пратакол ускрыцця. Ён не так дыктаваў, як каментаваў усё, што адбылося ў арганізме чалавека падчас жыцця і падчас хваробы. Ва ўнутраных органах чалавека яскрава замацоўваюцца ўсе наступствы хваробаў, якія чалавек перанёс падчас жыцця. Трэба толькі ўмець іх бачыць. Георгі Андрэевіч іх бачыў добра. Ён падрабязна тлумачыў нам паталагічную анатомію хворых органаў, апісваў патафізіялогію працэсу. Пры гэтым тлумачэнні былі такія цікавыя, што запаміналася надоўга. У інстытуце паталагічную анатомію вывучаюць на шэрых, заспіртаваных «прэпаратах», а тут — на натуральных. Некаторых хваробаў, як сілікоз, антракоз, сіліка-туберкулёз у інстытуце нам і наогул не змаглі паказаць. А тут іх было поўна.

На гэтыя ўскрыцці-лекцыі хадзілі не толькі мы, але і вольнанаёмныя ўрачы. А іх на гэтыя лекцыі ніхто не ганяў.

Георгі Андрэевіч меў не толькі добрую тэарэтычную і практычную падрыхтоўку — ён быў на галаву вышэйшы за нас ва ўсім. Але ён быў добра падрыхтаваны і выхаваны і дэанталагічна — ён з павагаю адносіўся не толькі да жывых, але і да памерлых. Неяк падчас ускрыцця вольнанаёмная ўрач дазволіла сабе нахабства — адпусціла грубы жарт у адрас памерлага. Георгі Андрэевіч зрабіў ёй заўвагу і папрасіў больш так не рабіць. А яна з сяброўкаю былі ў добрым гуморы і яшчэ раз праехаліся па «дохлым зэку». Георгі Андрэевіч загадаў ім пакінуць морг і папярэдзіў, што больш на яго ўскрыццях яны прысутнічаць не будуць. Разгарэўся скандал: як гэта нейкі зэк пасмеў абразіць вольнанаёмнага, ды яшчэ публічна. Такое ў лагеры не даравалася нікому. Пасля начальнік бальніцы доўга ўшчувала Георгія Андрэевіча. Скандал удалося прыцішыць. Але тая доктарка на ўскрыцці больш не хадзіла.

Цвёрдасць характару Георгія Андрэевіча праявілася і падчас выпадку, калі ў бальніцу даставілі параненага маладога хлопца. Яго параніў канваір у калоне. Раненне было цяжкае. Георгі Андрэевіч прааперыраваў хлопца. А мяне пасадзіў побач — для нагляду за ім. Начальства лагернае, як заўсёды, палічыла, што вінаваты зэк, бо зэк вінаваты заўсёды, і стала коса глядзець (нават вольнанаёмныя ўрачы) на нас, што мы так старанна лечым параненага. Няма чаго, маўляў, вазіцца з гэтым зэкам. Але мы рабілі сваю справу. Мы — медыкі.

А лагер у гэты час застрайкаваў. Не выйшлі на працу дзве тысячы чалавек. Пад пагрозай было спыненне працы і ў іншых лагерах. Патрабавалі камісію з Магадана. Камісія з’явілася хутка і сустрэлася з забастоўшчыкамі. Тады ўжо былі не сталінскія часы, калі начальнік «Дальстроя» палкоўнік Гаранін сам расстрэльваў зняволеных перад строем. Зайшла камісія і ў бальніцу і… папрасіла Георгія Андрэевіча зрабіць усё, каб паранены выжыў. Тады адразу змяніліся адносіны і да нас, і да параненага. Мясцовае начальства стала выконваць усе просьбы, усе пажаданні Георгія Андрэевіча. На жаль, хлопец памёр. Яму ў лагеры зрабілі труну. Адзелі ў цывільны касцюм. Усім лагерам правялі да брамы і пахавалі ў труне. Не асмелілася начальства выкінуць гэтага зэка з труны і распрануць яго. Збаяліся паднесці запалку да бочкі з порахам.

Аперацыйны блок нашай бальніцы адрозніваўся ад такіх жа блокаў цывільных бальніц хіба толькі больш строгім рэжымам. Чысціня была ідэальная. Мухі я не бачыў ані разу. Для аслабленага арганізма са зніжаным імунітэтам любая дадатковая інфекцыя надта небяспечная. Аб гэтым нам казаў не раз Георгі Андрэевіч.

У аперацыйнай Георгі Андрэевіч паводзіў сябе надта стрымана, спакойна. Ён ні разу не павысіў голас, не шпурнуў інструмент. А пасля аперацыі абавязкова, як у лепшых клініках старых часоў, дзякаваў сваім памочнікам.

Я часта прасіўся ў аперацыйную. Не аперыраваць ці «патрымаць кручкі», хоць іншы раз без гэтага і не абыходзілася. Я прасіўся проста папрысутнічаць. Я проста стаяў збоку і глядзеў. Ведаючы аб планавай аперацыі, я браў падручнік па аператыўнай хірургіі Шаўкуненкі[24] (выдатны, дарэчы, падручнік!) і чытаў апісанне аперацыі. А пасля проста глядзеў. Дзіўна, але і Георгі Андрэевіч нярэдка перад аперацыяй заглядваў у падручнік. Такое «стаянне» давала нямала.

На чацвёртым курсе інстытута я пасля начнога дзяжурства на «хуткай дапамозе» спазніўся на заняткі. Загадчык кафедры хірургіі дацэнт Ліхтэнтул[25] сказаў: «Раз ты спазніўся, то раскажы нам ход аперацыі апендэктаміі». Я расказаў яму, заплючыўшы вочы. Расказаў без заўваг. Ён спытаў:

— А чаму ты падчас адказу заплюшчыў вочы?

— А я проста ўспамінаў ход аперацыі. Вы ж мяне выклікалі нечакана.

— Ты аперыраваў самастойна?

— Не. Але я прысутнічаў падчас такіх аперацый.

— А падчас іншых аперацый ты прысутнічаў? Колькі разоў?

— Можа, з дзвесце, можа, больш.

— А дзе гэта?

— У лагеры, — сказаў я спакойна.

— А чаму ты не ходзіш на хірургічны гурток?

— Бо не збіраюся быць хірургам.

— А чаму?

— Сляпы. Акуляры перашкаджаюць.

— То можаш да экзаменаў не рыхтавацца. Прынось залікоўку. Пяцёрка забяспечана.

— Забудзе, — казалі сябры.

Я і сам сумняваўся. За пару месяцаў можна і забыць аб такой дробязі. Ды і не будзеш на экзаменах напамінаць яму. І таму рыхтаваўся, як звычайна.

Але Ліхтэнтул не забыўся. Калі я падаў яму заліковую кніжку і ўзяў білет, ён адразу паставіў мне пяцёрку і адпусціў.

Георгі Андрэевіч патрабаваў ад нас строга выконваць стэрыльнасць і пры ін’екцыях. У звычайных бальніцах сёстры, набраўшы лякарства ў шпрыц, прыкрываюць іголку шматком змочанай у спірце ваткі і нясуць яго праз увесь калідор у палату да ляжачага хворага. А Георгі Андрэевіч патрабаваў надзяваць на іголку ампулу, з якой набіралася лякарства, і толькі так дазваляў ісці па калідоры.

Кожны выпадак абсцэсу (нагнаення) пасля ін’екцыі падрабязна разбіраўся на канферэнцыі з абавязковай здачай заліку па асэптыцы, антысэптыцы, правілах правядзення ін’екцый і ўскладненнях пры іх парушэннях. Такі парадак я ўвёў, калі працаваў самастойна ўрачом у сваёй бальніцы, і гэта давала добрыя вынікі.

Цяжкавата ў нас было з іголкамі для шпрыцоў: яны, як і ўсюды, хутка тупяцца, загінаюцца на канцах. Такімі іголкамі рабіць ін’екцыі нязручна — і ў вену ўвесці цяжка, і драпаюць яны. У нас іголкі вастрылі на асялку. Кожны медбрат меў свае іголкі. Ён перад зменай акуратна раскладваў іх на марлі ў стэрылізатары і закрываў марляй, каб яны не тупіліся. Кожны бярог сваю марку, бо хворыя добра ведалі, хто лёгка робіць «уколы», а хто — груба.

Не дай Бог, каб Георгі Андрэевіч заўважыў халодную грэлку ў хворага: і санітару, і медбрату не паздаровіцца. Ён у такіх выпадках спакойна, нават ласкава казаў: «Не хочаш працаваць, то так і скажы. Як спяваецца, “любовь без радости была, разлука будет

без печали"». Гэтага звычайна было дастаткова, бо кожны з нас разумеў, што ўсё, што ён ад нас патрабаваў, рабіў ён для людзей. Іншых турбот у яго не было.

Такія дробязі, здаецца, а яны дапамагалі без дадатковых матэрыяльных затратаў значна палепшыць медыцынскае абслугоўванне хворых. У цывільных бальніцах не ўсюды прытрымліваюцца падобных правілаў, а часцей скардзяцца, што мала плацяць. Нам у лагерах не плацілі зусім. А мы стараліся выконваць свае абавязкі добрасумленна.

Пасля смерці Сталіна з нас знялі «асобы рэжым». Стала лягчэй дыхаць, жыць. Але ўсё адно час ад часу наступала хандра, дэпрэсія. Часта ўсплывала пытанне: а навошта мне ўсё гэта патрэбна? Тое, што я ведаю, дастаткова, каб працаваць. Тым больш што начальства рэдка любіць таго, хто ведае больш за яго. А наперадзе свяціла яшчэ дваццаць гадоў лагераў ды пяць гадоў ссылкі пасля іх.

Аднак час ад часу дзесьці глыбока-глыбока ў душы ўзнікала іскрынка надзеі — не вечна ж будзе жыць гэтая сістэма. Можа, прыйдзе дзень, калі «свобода нас встретит радостно у входа». Успамінаўся і Кіраў[26], які, прыгавораны да павешання, вучыў замежную мову.

І я зноў браўся за кнігі. Стаў выпісваць кнігі з магазінаў «Кніга — поштай» з Кіева, Масквы і Хабараўска. Найбольш добрасумленныя супрацоўнікі былі ў Хабараўску. Можа, яны ведалі, каму пасылаюць кнігі, а можа, проста былі добрымі людзьмі. І ў мяне стала збірацца свая бібліятэчка. Працуючы над кнігамі, я памятаў словы цудоўнага чалавека, былога дырэктара тэхнікума Васіля Васільевіча Ерына[27], які казаў нам: «Не спадзявайцеся, што на свабодзе вас спаткаюць з аркестрам. Цяпер — не пушкінскія часы. Хутчэй, вас спаткаюць насцярожана, а то і падазрона. Плямы "ворага народа" вам не змыць да самай смерці. І каб з вамі лічыліся, ёсць толькі адзін сродак — веды. Вы павінны быць на галаву вышэйшыя за тых, хто будзе вас акружаць».

І сапраўды, хутка настала хрушчоўская адліга. Нас выпусцілі з лагераў і нават не пакінулі ў ссылцы. Дома ўзрадаваліся толькі родныя. Усе іншыя глядзелі насцярожана. На ўрачэбнай камісіі ўрач, спытаўшы артыкул, па якім я сядзеў, сказаў: «А, вораг народа». І я зразумеў, што ў Беларусі мне ходу не будзе. Тут усе былі святейшыя за Папу Рымскага. А мне хацелася вучыцца. І я махнуў у Казахстан. Там людзі больш памяркоўныя, больш спагадлівыя — нездарма ж туды ссылалі. Але і ў Казахстане словы Васіля Васільевіча былі маім credo. А школа Георгія Андрэевіча была школай жыцця. Веды і вопыт, набытыя там, не раз дапамагалі мне ў жыцці.

Я часта ўспамінаў свайго настаўніка. Калі мяне рэабілітавалі, я стаў шукаць яго слядоў. Усе мае намаганні былі дарэмныя. З Нікапальскага гарздрава і Днепрапятроўскага аблздрава не адказалі зусім. З Днепрапятроўскага і Рэспубліканскага КДБ і Магаданскага КДБ і УУС адказалі, што вестак аб Георгію Андрэевічу Макараву ў іх няма.

Дык хай хоць гэтыя словы будуць сціплай данінай памяці аб гэтым добрым чалавеку, які ў цяжкіх умовах няволі зрабіў для людзей столькі, колькі, можа, ён не зрабіў бы на волі.

## ШКОЛА Ў ЛАГЕРЫ

Смерць «бацькі народаў» мы сустрэлі, як палярнікі — першыя прамяні сонца пасля доўгай палярнай ночы. Заблішчэлі ў нашых душах праменьчыкі надзеі на перамену ў нашым катаржным лёсе.

І сапраўды, хутка сталі спраўджвацца нашы мары. Спачатку з нас знялі статус «асобага лагера»: сабралі ў клубе і загадалі зрэзаць нумары з адзення; знялі з баракаў замкі, якімі замыкалі нас (у лагеры!) на ўсю ноч пасля адбою; змяніўся рэжым працы — сталі даваць выхадныя ў нядзелю; скарацілі рабочы дзень у шахце да васьмі гадзін; палепшала яда; у лагеры адкрылі ларок, і ў каго былі грошы на «асабовым рахунку», той мог праз гэты ларок выпісваць прадукты, у тым ліку (о цуд!), хоць зрэдку, белы хлеб і масла, яко-

га мы не бачылі з моманту арышту; зніклі хранічны голад, за ім дыстрафія, цынга і пелагра; знялі абмежаванні ў перапісцы. Калі да гэтага мы маглі паслаць толькі два лісты за год, і то толькі самым блізкім (ды і тыя мог не прапусціць опер[28]), то цяпер можна было пісаць, колькі хочаш і куды хочаш, нават у суседні лагер. У КВЧ[29] сталі выпісваць газеты, і не толькі цэнтральныя, але і рэспубліканскія — з Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі. А хто хацеў, мог выпісваць і абласныя, праўда, за свае грошы з таго ж «асабовага рахунку». Зняволеным пайшлі кнігі ў пасылках з дому. Кнігі, дарэчы, былі і ў берлагаўскім КВЧ. Але іх мала хто чытаў. Не да кніг было знясіленаму катаржнай працай у шахце зняволенаму — хутчэй бы дабрацца да нараў і заснуць, забыўшыся, і пра голад, і пра болі ў целе ад авітамінозу. Кнігі чыталі толькі лагерныя прыдуркі. Ды і хадзіць у КВЧ лічылася неэтычным. Яна лічылася месцам спаткання стукачоў з luperам. А цяпер людзі накінуліся на кнігі, як галодныя на хлеб. Асабліва інтэлігенцыя. Перачытваліся любімыя аўтары. У лагеры прачытанае ўспрымалася зусім інакш, чым на волі, — больш глыбока, рэльефна, больш ярка, эмацыянальна. Асабліва вершы і асабліва тыя, што адпавядалі нашаму настрою, нашаму становішчу, стану нашае душы.

Я пачаў выпісваць медыцынскую літаратуру праз магазін «Кніга — поштай». І якая ж гэта была зручная рэч! Нікога не трэба прасіць, нікога не трэба прымушаць турбавацца. Паслаў заяўку і чакай. Кнігі я выпісваў з Масквы, Кіева, Харкава, Хабараўска. Высылалі не толькі кнігі, але і каталогі наяўнай у продажы літаратуры. Заказы выконваліся добрасумленна, асабліва хабараўцамі. Супрацоўнікі кнігарняў, зразумела, не здагадваліся, каму высылалі кнігі. А калі і здагадваліся, то хвала ім яшчэ большая.

Кожная атрыманая кніга была святам, якое цягнулася доўга — пакуль прачытаеш і перачытаеш кнігу.

Людзі на волі сталі ажываць ад таго атуплення, якое панавала дасюль, яны сталі распрамляцца і зноў станавіцца людзьмі.

А калі арыштавалі галоўнага ката — Берыю[30], нампаліт нашага пасялковага гарнізона чокнуўся. Ён, як той Авадзень, стаў паўтараць: «Мы яму верылі як Богу, а ён аказаўся шпіёнам». Нампаліта адвезлі ў псіхіятрычную бальніцу ў Магадан.

Хутка ў лагеры рэжым стаў зусім мяккім. У лагерным клубе сталі круціць фільмы штодзённа, як і ў пасёлку. На іх, як ні дзіўна, стаў хадзіць начальнік лагера. Яму пасярэдзіне прахода ставілі цырульніцкае крэсла з падлакотнікамі, і ён, як князь на троне, глядзеў фільмы разам з намі. Начальнік лагера, які раней не «удостаивал» зняволенага гутаркай, стаў прымаць зэкаў па асабістых пытаннях. І калі просьбы былі слушныя, задавальняў іх. Нам сталі чытаць лекцыі, у якіх тлумачылася «палітыка партыі і ўрада». Лагернае начальства было ў разгубленасці: яно не ведала, што адбываецца ў той далёкай Маскве, і не ведала, як паводзіць сябе з намі. Аднойчы на сходзе зняволеных начальнік лагера, ці то механічна, ці то не, звярнуўся да зняволеных са словам «таварышы». Слова «таварыш» мы не чулі з дня арышту. Калі арыштаваны, забыўшыся, звяртаўся да следчага са словамі «таварыш следчы», той, чамусьці са злосцю, заўсёды адказваў: «Тамбоўскі воўк табе таварыш!». У чым была віна гэтага ваўка, ніхто з арыштантаў не ведаў. Але чэкісты чамусьці запісалі яго да «ворагаў народа». Мы да начальства, не зважаючы на чын і ранг, маглі звяртацца толькі са словамі «грамадзянін начальнік». Па лагеры пайшоў гуляць жарт: «Цытата з выступлення начальніка лагера перад зняволенымі».

— Таварышы ворагі народа! Таварышы здраднікі радзімы, шпіёны і дыверсанты! Партыя, урад і асабіста таварыш Сталін заўсёды надавалі асобае значэнне… лагерам.

Такой фразай пры жыцці Сталіна заўсёды пачыналася любое выступленне любога кіраўніка любога рангу. Толькі пасля слова «значэнне» ішла назва сваёй галіны прамысловасці ці прафесіі — пачынаючы ад авіяцыі і канчаючы ядзернай фізікай і яравізацыяй. І ўсё было правільным, бо таварыш Сталін усяму надаваў асобае значэнне.

Сюды, зразумела, уваходзілі і лагеры. Нездарма ж яго першы намеснік, таварыш Берыя, ператварыў увесь Саюз ад Брэста да Берынгавага праліва ў суцэльны ГУЛАГ. Зразумела, што лагернае начальства нам аб гэтым не казала. Але паміж сабою яны маглі гаварыць і так. Лагеры для іх былі і месцам службы, і асновай існавання, і крыніцай дабрабыту.

Яшчэ праз некаторы час у лагеры адкрыліся курсы прарабаў-будаўнікоў і электрыкаў. На курсы прарабаў запісалася мала. Яны для зняволеных былі малаперспектыўныя — хто ж паставіць зэка прарабам? А на курсы электрыкаў запісалася больш за дваццаць чалавек. Электрык патрэбен на любым прадпрыемстве. На гэтую пасаду ставілі і зэкаў. Хадзіў на гэтыя курсы і я. Атрымаў пасведчанне. Яно, дарэчы, дапамагло мне ўладкавацца на працу пасля вызвалення. Па гэтай прафесіі я пачаў сваё жыццё на волі.

А восенню пяцьдзясят пятага года (о цуд!) у лагеры адкрылася школа працоўнай моладзі, як яна называлася тады на волі.

Я не ведаю, на што разлічвала кіраўніцтва лагераў, падаючы ідэю адкрыцця вячэрніх школ у лагерах нашага тыпу. Хоць дзевяноста працэнтаў зняволеных не мелі сярэдняй асветы, а пераважная частка былых жыхароў заходніх абласцей Украіны і Прыбалтыкі і наогул былі малапісьменнымі, хоць і лічыліся «палітычнымі» (такая ўжо была савецкая рэчаіснасць: чалавек за ўсё жыццё ніводнай кнігі не прачытаў, а ходзіць у палітычных дзеячах), але ж у нас сядзелі «дальнабойшчыкі» — людзі, у якіх тэрмін зняволення быў на ўсю катушку — дваццаць пяць і пяць. З гісторыі расійскай турмы вядома, што толькі два чалавекі — Вера Фігнер[31] і Міхаіл Фраленка[32] — змаглі вытрымаць турэмнае зняволенне па дваццаць пяць гадоў. Але ж гэта была *царская* турма, а не савецкі лагер. Шлісельбургская крэпасць у параўнанні з Калымою — гэта пяцізоркавы гатэль на крымскім курорце. Каму з гэтых «дальнабойшчыкаў» спатрэбяцца атрыманыя веды праз пятнаццаць-дваццаць гадоў? Дый ці захаваюцца гэтыя веды ў галаўным мозгу зэка такі час, ды яшчэ ў такіх умовах існавання?

Але ўсё ж знайшлося сярод тысячы зняволеных некалькі чалавек, якія згадзіліся пайсці ў гэтую школу. Сярод іх быў і я.

Былі мы, пэўна, не зусім нармальныя людзі, фантазёры. Але былі мы маладыя. У свой час нам не далі магчымасці давучыцца. Таму дзесьці ў глыбінях мозгу сядзела нейкая стрэмка — страшэнная цяга да ведаў. Наш мозг мучыўся без іх. Ды і праменьчык надзеі на тое, што наш лёс павінен змяніцца, засвяціўся на гарызонце. Хоць, папраўдзе кажучы, ці не мелі той надзеі сотні тысяч тых, што былі арыштаваныя ў трыццаць сёмым? Дзе яны цяпер? Пад сопкамі калымскімі. Але ж надзея, як ідэя фікс, грэе чалавека, дапамагае яму пераадольваць перашкоды, а часам і выжыць у неймаверных умовах. Яна знікае апошняй — можа, разам са свядомасцю.

І мы пайшлі ў школу. Сабралася нас адразу чалавек з дзесяць. Але палова хутка адсеялася. Атрымаўся адзін клас. З нас жартавалі, называлі дзівакамі, чокнутымі. А некаторыя здзекліва казалі:

— Во, вар'яты, на волі не давучыліся, дык у лагеры хочуць.

Наперакор гэтым здзекам мы селі за парты. А вучнямі, і сапраўды, былі дзіўнымі. У кожнага перапынак у вучобе складаў дзесяць, а то і болей гадоў. І гэта былі гады турэмнага зняволення, здзекаў, катаржнай працы, голаду. А лагернае начальства рабіла ўсё, каб вытравіць з нас чалавечыя якасці, чалавечую годнасць, ператварыць нас у жывёлу, у бяздумнае быдла, выкарыстаўшы якое дарэшты, можна, прывязаўшы бірку з нумарам да вялікага пальца правай нагі, адправіць на магільнік, пад сопку. Яны, гэтыя магільнікі з таблічкамі, на якіх значыліся толькі зашыфраваныя нумары, былі пад сопкамі ля кожнага лагера і па колькасці таблічак перавышалі колькасць жывых лагернікаў.

Наперакор жаданням лагерных катаў шмат хто з нас не толькі выжыў, але і захаваў чалавечыя рысы. А некалькі фанатаў нават пажадалі вучыцца.

Яшчэ перад пачаткам заняткаў, абмеркаваўшы з настаўнікамі нашыя веды, мы прыйшлі да высновы, што пацягнуць зможам толькі восьмы клас, і то толькі тады, калі будзем надта стараннымі. Бо пачынаць трэба было, фактычна, з нуля. Рускую мову — з фанетыкі і граматыкі, літаратуру — з літаратуразнаўчых тэрмінаў, матэматыку — з дробаў, геаграфію — з такіх тэрмінаў, як шырата, даўгата, мерыдыян, хімію — з простых формулаў, гісторыю — з першабытных часоў.

І калі ў звычайнай школе пасля двухмесячных летніх канікулаў на паўтарэнне адводзіцца тыдзень-другі, то нам пасля нашых «канікулаў» адвялі цэлую чвэрць.

Настаўнікі ў нас былі цудоўныя. Такім настаўнікам пазайздросціла б не толькі вясковая, але і любая гарадская школа. Усе яны былі людзі высокаадукаваныя, культурныя і, галоўнае, шчыра любілі сваю справу. У думках іх, пэўна, быў глыбока захаваны смутак не толькі па волі, але і па сваёй працы. Яны лёгка згадзіліся весці заняткі з намі. А ім жа, як і нам, трэба было рабіць гэта пасля працы, у вячэрні час, які ў той час з’явіўся ў лагернікаў у сувязі са скарачэннем працоўнага дня. І калі мы былі маладыя, то нашы настаўнікі былі ў сталым узросце, і заняткі даваліся ім не так лёгка, як нам. Аднак усе яны працавалі аддана, можна сказаць — ахвярна.

Матэматыку ў нас выкладаў Васіль Васільевіч Ерын — на волі дырэктар тэхнікума, цудоўны выкладчык і цудоўны чалавек. Ён горача пераконваў нас у неабходнасці вучобы. «Вучыцца ніколі не позна. Кіраў, прыгавораны да смерці, вучыў у камеры смяротнікаў ангельскую мову. Веды ўсё адно калі-небудзь прыдадуцца», — казаў ён.

Ён падтрымліваў у нас надзею, што хутка адбудуцца сур’ёзныя змены ў палітычным жыцці Савецкага Саюза і ў нас ёсць шанец выйці на волю.

— Але не спадзявайцеся, што вас «свобода встретит радостно у входа». Цяпер — не пушкінскія часы. Вас там не зразумеюць і адносіцца будуць, хутчэй за ўсё, насцярожана або нават варожа. І калі вы хочаце, каб з вамі лічыліся на волі, вы павінны быць на галаву вышэйшыя за тых, хто будзе побач, з кім давядзецца жыць і працаваць, — казаў ён.

І ён меў рацыю. У гэтым мне не раз даводзілася пераконвацца на працягу ўсяго жыцця.

З замежных моваў мы рашылі вывучаць ангельскую, хоць на волі вучылі нямецкую. У нямецкай тады не было перспектывы. Дый усё адно пачынаць трэба было з нуля — мы памяталі хіба толькі знакамітае «Анна унд Марта бадэн». Ангельскую мову выкладаў Фёдар Міхайлавіч Рэйн — вышэйшай пробы інтэлігент. Мяккі, якісьці светлы, заўсёды з нейкай вінаватай усмешкай на твары. Такія людзі ў суровых лагерных умовах звычайна не выжывалі. Яго выратавала тое, што ён быў крыху хворым — меў кілу. Гэтую хваробу ён зарабіў, працуючы на цяжкіх работах. У нармальным жыцці гэтая хвароба перашкаджае жыць і працаваць, і ад яе пазбаўляе любы раённы хірург. А ў лагеры — гэта вялікае шчасце і выратаванне жыцця. Так яму і патлумачыў старэнькі лагерны доктар, калі Рэйн звярнуўся па дапамогу.

— Кіла — гэта вашае шчасце. З ёю вас не пашлюць на цяжкія работы, і яна, можа, ўратуе вам жыццё. Але памятайце, што гэтая кіла можа стаць прычынай вашай смерці, калі яна вылезе і ўшчыміцца, а побач не будзе хірурга, які вас прааперыруе. Так што — беражыце яе лепей, чым вока.

Хадзіў Фёдар Міхайлавіч, трымаючы руку ў кішэні, прытрымліваючы кілу. На ўроках ён мякка, як лепшым сябрам, тлумачыў нам тонкасці ангельскай мовы. Ён ведаў яе дасканала. Валодаў і французскай, і нямецкай мовамі — на волі ён выкладаў у ВНУ.

Перад самай свабодай ён згадзіўся на аперацыю, наш хірург дапамог яму расстацца з кілой. І які ж ён стаў шчаслівы, як радаваўся, што можа хадзіць, як усе людзі, не трымаючы руку ў кішэні.

Геаграфію ў нас выкладаў Грыгор’еў Сяргей Аляксандравіч — сярэдніх гадоў геолаг, які ўсё жыццё правёў у экспедыцыях. Ён надзіва дасканала ведаў геаграфію. А яшчэ ён

быў цудоўным расказчыкам. Расказваў ён так жыва, што мы нібы разам падарожнічалі па Саюзе. Гарады і рэгіёны паўставалі перад нашымі вачыма як рэальныя. У канцы ўрока ён казаў: «А ўсё іншае вы прачытаеце ў падручніку». А што мы маглі прачытаць у падручніку? Хіба што статыстычныя матэрыялы.

А выкладчыка біялогіі ў лагеры не знайшлося. Адмовіўся выкладаць анатомію і фізіялогію чалавека і наш хірург. Працы ў яго хапала і без нас. Ён прапанаваў назначыць на гэтую пасаду… мяне. Анатомію і фізіялогію я, зразумела, ведаў не горш, чым настаўнік, — у медвучылішчы яе даюць значна глыбей. Але я не меў педагагічнай падрыхтоўкі. Склалася дзіўнае становішча — і вучань, і выкладчык у адной асобе. Зрэшты, што тут дзіўнага? І нашы выкладчыкі, і мы былі зэкамі. Мы разам стаялі на разводзе, разам, узяўшыся за рукі, крочылі ў калоне пад дуламі аўтаматаў, разам працавалі на фабрыцы, разам сёрбалі баланду ў сталоўцы, разам спалі на нарах. Толькі вечарамі мяняліся паміж намі суадносіны: яны станавіліся настаўнікамі, а мы — вучнямі.

Я прытрымліваўся праграмы, але прадмет раскрываў глыбей, бо слухачы былі дарослыя і на ўсё глядзелі вачамі дарослых. Пэўна, анатомія ім была цікавая, бо абмеркаванне некаторых пытанняў іншы раз зацягвалася, балазе мой урок быў апошні.

Дырэктарам нашай школы афіцыйна лічыўся старшы лейтэнант Канцадалаў, а неафіцыйна ўсім кіраваў Васіль Васільевіч. Канцадалаў быў чалавек ціхі і сціплы. Ён працаваў у КВЧ. У вучэбны працэс ён ніколі не ўмешваўся, на заняткі не прыходзіў. Функцыі свае ён, пэўна, бачыў у тым, каб забяспечыць вучэбны працэс — дастаць падручнікі, сшыткі, ручкі, чарніла, дамовіцца з адміністрацыяй аб пераводзе вучняў і выкладчыкаў у дзённую змену. Рабіў ён усё гэта неяк ціха, непрыкметна, яго прысутнасці мы нават не адчувалі — нібы ўсё рабілася само сабою.

А вучыліся мы апантана, з натхненнем: і на ўроках былі ўважлівыя, і дамашнія заданні выконвалі старанна. Нават у нядзелю збіраліся разам, каб падрыхтавацца.

Кантрольныя мы пісалі па заданнях, прысланых з РАНА ў запячатаных канвертах, як і ва ўсіх школах. І экзамены здавалі такім жа чынам. Здалі мы іх добра. Атрымалі табель. Толькі завераны ён быў пячаткай не школы, а «Упраўлення паштовага яшчыка». Гэта значыць — лагера.

А свабода прыйшла да нас сапраўды хутка: пасля заканчэння вучэбнага года, другога ліпеня 1956 года, у выглядзе Камісіі Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, якая перагледзела нашы справы і вызваліла нас з лагера. Праўда, не з той фармулёўкай, якой нам хацелася. Але, пэўна, інакш у той час Камісія зрабіць яшчэ не магла.

Нам трэба было заваёўваць сваё месца ў гэтым «цёмным царстве». І меў рацыю Васіль Васільевіч. На першай жа медыцынскай камісіі ў ваенкамаце, урач, даведаўшыся, па якім артыкуле я сядзеў, злосна буркнуў: «А, вораг народа…»

У школу я пайшоў у першы ж дзень уладкавання на працу — днём аформіўся на працу, а вечарам пайшоў у школу. Там на пячатку ў табелі нават не звярнулі ўвагі, глядзелі на ацэнкі. Трэба было наганяць змарнаваныя ў лагеры гады. І год вучобы ў лагернай школе мне надта прыдаўся. Ён на цэлы год наблізіў мяне да здзяйснення маёй галоўнай мары ў жыцці — паступлення ў інстытут.

## ПАДЛЕТКІ-ПАЛІТВЯЗНІ

Аб тым, што бальшавікі вынішчалі сваіх ворагаў да сёмага калена, пісана-перапісана. Але поўная праўда аб гэтым, па-мойму, яшчэ не сказана і, пэўна, не будзе сказана, бо надта ж яна цяжкая.

Аб тым, што ў ссылку вывозілі цэлымі сем’ямі, ведалі добра і на волі. Аб тым, што ў турму кідалі састарэлых, дзядоў, якія і на волі з вялікай цяжкасцю рухаліся па зямлі, я даведаўся ў камеры для асуджаных. Толькі ў адной нашай камеры для «дальнабойшчыкаў»

адначасова знаходзіліся два зусім састарэлыя зняволеныя — прафесар Барыс Мікалаевіч Спяранскі, які яшчэ да рэвалюцыі студэнтам сядзеў у гэтай жа Бутырскай турме, і сямідзесяцігадовы яго аднафамілец, дырэктар Ленінградскага інстытута палеанталогіі прафесар Мікалай Мікалаевіч Спяранскі. Ім родная савецкая ўлада прапанавала пражыць да 100 гадоў, адмераўшы на ўсю катушку — па дваццаць пяць гадоў лагераў і яшчэ на пяць гадоў паражэння ў правах пасля гэтага. А як жа паміраць, не адбыўшы павіннасці?

На этапе ў наша «купэ» кінулі цяжкага інваліда — паралізаванага старога чалавека, які не тое што хадзіць, але і гаварыць ужо не мог. Прозвішча яго ніхто не зразумеў, бо заміж прозвішча, артыкула і тэрміну зняволення ён казаў «а… э… э…», што старыя зэкі пераклалі як КРД[33]. Гэтае было КРД незразумелае і нам. Па ім, як нам растлумачылі, судзілі яшчэ да вайны, і значыла яно контррэвалюцыйную дзейнасць, якая ў нашы часы кваліфікавалася артыкулам 58. Гэты інвалід ішоў ужо па другім, а можа, і па трэцім крузе за «грахі» трыццаць сёмага, а можа, і ранейшых гадоў. Усім нам было зразумела, што далей як да першай перасылкі ён не даедзе.

А калі аднойчы на парозе нашай камеры з'явіўся высокі русавалосы бледнатвары юнак, якому, як высветлілася, было ўсяго шаснаццаць, а сядзеў ён ужо цэлых шэсць гадоў, мы не ведалі, што і сказаць. Ён даволі добра размаўляў па-руску. Быў гэта сын знакамітага аднарукага палкоўніка нямецкага генштаба, графа Клаўса фон Штаўфенберга[34], які здзейсніў замах на Гітлера ў красавіку 1944 года ў яго воўчым логаве. Палкоўніка і сотню іншых «злачынцаў» тады знішчыла гестапа. А сям'ю яго — жонку і сына, якія жылі ва Усходняй Прусіі, недалёка ад таго ж «логава», — гітлераўцы чамусьці не арыштавалі[35]. Можа, таму, што ў іх сапраўды «сын за отца не отвечает», а можа, не да сем'яў «ворагаў» ужо было ім. Затое адразу пасля заняцця Усходняй Прусіі іх узяла савецкая контрразведка. На Захадзе яны б хадзілі ў героях, а ў нас сядзелі ў адной камеры Бутырскай турмы — сын з маткаю, з 1944 да 1951 года без следства і суда. Цяпер, разлучыўшы, іх адпраўлялі ў лагеры. У чым была іх віна перад савецкай уладаю, ні яны, ні мы, ні, пэўна, самі чэкісты не ведалі. Не ведалі яны, у чым жа перад савецкаю ўладаю быў вінаваты і гераічны палкоўнік Клаўс фон Штаўфенберг. Ну, для Гітлера — ён вораг. А для нас? Які быў іх далейшы лёс, я не ведаю.

Яшчэ больш мы здзівіліся, калі нам укінулі яшчэ аднаго падлетка. Быў ён нейкі чорны, як і яго стары зашмальцаваны касцюм. Качагар качагарам. Ён стаяў ля парога і моўчкі, неяк здзіўлена разглядаў нас. Так углядаюцца зняволеныя, калі трапляюць з невялікіх камер у вялікія, дзе адразу знаходзіцца па некалькі дзясяткаў чалавек.

— Праходзь да стала, сядай, раскажы, хто ты, калі з волі, — як звычайна сказаў староста камеры.

— Завуць мяне Аляксандрам, мне шаснаццаць гадоў.

— Во, глядзі, ужо і дзеці пайшлі ў «ворагі народа», — здзіўлена сказаў хтосьці, але такі жарт усмешкі не выклікаў. Сэрца сціснулася ад жалю і болю, гледзячы на гэтага худога, нейкага бездапаможнага падлетка, амаль дзіця.

— А за што ж цябе пасадзілі, хлопча? — спытаў хтосьці са зняволеных.

— Ні за што, — ціха адказаў хлопец.

— Ну, тут усе — ні за што. А які артыкул у цябе?

— Ніякага.

— Як гэта ніякага? Тут так не бывае.

— А мяне і не судзілі. Сёння зачыталі, што ОСО назначыла мне дзесяць гадоў ППЛ.

— А за што цябе арыштавалі? У чым абвінавачвалі?

— Як сына віднага ворага народа, — сумна адказаў хлопец.

— А як тваё прозвішча? — пацікавіўся нехта.

— Шляпнікаў, Саша Шляпнікаў.

— Шляпнікаў? — здзіўлена перапытаў Панамароў, стары аграном з Падмаскоўя. — Прозвішча знаёмае. А як бацьку звалі?

— Аляксандрам.

— Точна! Шляпнікаў Аляксандр Гаўрылавіч — лідар рабочай апазіцыі.

— Ага, — пагадзіўся юнак.

Цяпер мы здзіўлена глядзелі на Панамарова, чакаючы тлумачэнняў. Аб Шляпнікаве і рабочай апазіцыі ведалі не ўсе.

— Быў такі рэвалюцыянер Шляпнікаў. Пасля ён працаваў прафесарам. Ён не быў згодзен з палітыкай бальшавікоў і выступаў супраць яе. У 1937 годзе яго пасадзілі і, зразумела, расстралялі.

У гутарцы з падлеткам высветлілася, што калі бацькоў пасадзілі, іх, трох дзяцей, вывезлі ў спецыяльны дзіцячы дом для «дзяцей ворагаў народа» ў Горкаўскую вобласць. Калі старэйшы брат, а пасля і сястра закончылі сярэднюю школу, ім дазволілі паступіць у інстытут. Але на трэцім курсе брата арыштавалі. А праз год арыштавалі і сястру. Саша зразумеў, што і яго чакае турма. І пасля дзевяці класаў ён уцёк з інтэрната. Прыехаў у Маскву. Неяк уладкаваўся ў кацельню, дзе і жыў за катлом. Там яго праз паўгода і знайшло МДБ.

— Мы за паўгода ўвесь Савецкі Саюз перавярнулі, шукаючы цябе, а ты спакойна жыў пад бокам у нас за два кварталы ад Лубянкі, — сказаў яму следчы.

— Во, якая ты персона грата, — пажартаваў нехта.

Высветлілася, што ордар на арышт Сашы Шляпнікава падпісваў сам Мяркулаў[36].

Але савецкая рэчаіснасць была такая, што здзіўленням не было канца, пасля аднаго здзіўлення магло наступіць яшчэ большае.

Аднойчы на парозе з'явіўся зусім малы хлапчук. Гадоў яму было, можа, дзесяць-дванаццаць. Адзеты ён быў як добра экіпіраваны для зімовага падарожжа турыст. А у руках у яго быў яшчэ і вялізны, не па ўзросце і сіле, рукзак. Аказалася, што быў ён масквічом і сапраўды турыстам. Быў гэты хлопчык зусім наіўным дзіцём, з рамантычнымі (а ў савецкай рэчаіснасці — утапічнымі) планамі ў галаве аб'ездзіць і агледзець увесь свет. І ў свае трынаццаць гадоў захацеў здзейсніць падарожжа ў Еўропу. Затрымалі яго ў Брэсце, дзе ён шукаў спосабаў перабрацца за мяжу. МДБ не паверыла яго наіўным марам і абвінаваціла ў спробе здрадзіць Радзіме. Пасля кароткага следства справу перадаваць у трыбунал, пэўна, пасаромеліся і накіравалі яе ў ОСО. А там «адмералі» хлопчыку дзясятку. Турэмныя ўлады былі да яго, пэўна, не надта строгія, бо дазволілі бацькам экіпіраваць яго як на полюс. Мы ведалі, што ўсю яго экіпіроўку на перасылках адбяруць уркі[37] і прададуць наглядчыкам. І нам шкада было яго бацькоў. Але ж бацькі, забітыя горам, гэтага не ведалі. Ды і хто пашкадуе рэчаў для свайго дзіцяці?

У любой краіне за такога падарожніка аштрафавалі б бацькоў, спагналі б усе выдаткі на дастаўку яго дамоў, ну, можа, яшчэ ў газетах «праславілі» б — і на гэтым усё скончылася б.

Усё гэта я бачыў за паўгода знаходжання ў адной з камер Бутырскай турмы. Такіх камер толькі на першым паверсе было шэсць. І я не думаю, што толькі ў нашу камеру траплялі асуджаныя «за палітыку» падлеткі. А колькі такіх камер было ў кожнай турме? І колькі турмаў было ў Саюзе?

## МУХТАР САХАРЫЕЎ

Мяне даўно цікавілі людзі, якія пабывалі ў надзвычайных абставінах, шмат пабачылі і перажылі. Іх паслухаць — цікавей, чым прачытаць захапляльны раман.

Такім чалавекам быў Мухтар Сахарыеў. Працаваў ён упраўляючым Бярэльскага аддзялення саўгаса, ці, як казалі мясцовыя казахі, бастыком. Пасада бастыка ў саўгасе — самая важная, важнейшая за пасаду дырэктара. Дырэктар — далёка, за рэчкай, а бастык —

побач. У яго руках усе матэрыяльныя сродкі, увесь транспарт, наогул усе магчымасці. Ад мудрасці ці дурасці ўпраўляючага залежыць усё жыццё сялянаў любога сяла. Асабліва такога, як Бярэль, што раскінулася прывольна на беразе ракі, далёка ад цэнтральнай сядзібы саўгаса, ды яшчэ за бурнай ракою Бухтармою. Бухтарму можна пераехаць толькі зімою, калі яна замерзне. У іншыя часы цераз яе перапраўляюцца толькі на ненадзейнай лодцы, якая, бывае, і перакульваецца, і бярэ вялікую даніну — жыцці людзей.

Хоць і шыбка, як тут кажуць, казахі паважаюць начальства, але адна пасада бастыка не магла стварыць такога аўтарытэту, якім карыстаўся Мухтар Сахарыеў.

У сяле яго звалі проста Мухтарам. У казахаў імя па бацьку не ўжываецца, а па прозвішчы мала каго завуць. Праўда, моладзь і людзі сярэдняга ўзросту да імя старэйшага дадаюць яшчэ слова «ага» — дзядзька. Мухтар-ага і ў аксакалаў карыстаўся павагай. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыла тое, што працягнутую для прывітання руку яго бралі двума рукамі. Так робяць толькі тады, калі хочуць выказаць асаблівую павагу.

Паважалі яго людзі за дабрыню душы, чуласць, спагадлівасць да людское бяды і справядлівасць. Жыхароў сяла ён не дзяліў на рабочых і нерабочых, на блізкіх і чужых. Усе для яго былі роўныя, усе людзі. Старым, удовам і адзінокім дапамагаў у першую чаргу. У яго, як казалі, былі залатыя рукі. Ён мог сам узяць інструмент і адрамантаваць вокны ці дзверы. Пажылай бабулі мог скласці печку лепш, чым спецыяліст-пячнік. Мог напісаць ліст ці прашэнне ў самую высокую інстанцыю і даць добрую параду. Слова яго было цвёрдым і справядлівым.

Аб ім хадзілі паданні. Я з ім знаёмы ўжо гады з два. Гэтае знаёмства, праўда, было шапачнае — паздароўкаемся пры спатканні ці ў афіцыйнай абстаноўцы і разыдземся. Добрымі знаёмымі ў казахаў становішся тады, калі пабудзеш з імі ў адной кампаніі. А сябрам — калі пасядзіш у гасцях ці госць пасядзіць у цябе. Як кажуць, калі пераломіш з госцем кавалак хлеба. Мне такой магчымасці не выпадала. А пазнаёміцца хацелася надта. Хацелася высветліць, што ў гэтых паданнях праўда, а што — домысел сялянаў.

І такая магчымасць выпала. Захварэў яго старэйшы сын. Мы яго вылечылі. А ў нас падчас лячэння, асабліва цяжкіх хворых, развіваюцца якіясь блізкія адносіны да хворых — яны становяцца нібы роднымі. Пасля выпіскі заўсёды ўзнікае жаданне зірнуць на былога хворага. Не ведаю, як назваць гэтае пачуццё, але яно ёсць амаль у кожнага лекара. І, апынуўшыся неяк у іхнім сяле, я рашыў наведаць былога пацыента.

Хата Мухтара Сахарыева, звычайная ў гэтых мясцінах пяцісценка, толькі атынкаваная і пабеленая, як на Украіне, стаяла амаль на краі сяла. Адрознівалася яна ад іншых тым, што была агароджана плотам, за якім раслі кветкі, ды яшчэ з густам зробленым ганкам. У вялікім пакоі, зале, стаяла абабітая чорным дэрмацінам канапа — тады яны былі ў модзе. Пасярод хаты стаяў сваёй работы стол, ля стала — нефарбаваныя табурэты, у куце — тумбачка з прыёмнікам, на сценах — два дываны ташкенцкай фабрыкі з усходнімі ўзорамі, на падлозе — кашма, а вышэй ад яе — сармак (дыван мясцовай работы). Ля сцяны стаяў складны казахскі стол, за якім ядуць, седзячы на падлозе. У суседнім пакоі — спальні — стаяў адзін жалезны ложак, а ў кутку ляжалі складзеныя адна на адну вышэй за ложак коўдры і падушкі. У тым пакоі гулялі пяцёра дзяцей ад трох да дзесяці гадоў. Яны час ад часу прыадчынялі дзверы і з цікавасцю разглядалі мяне.

На кухні завіхалася гаспадыня, гатуючы традыцыйны казахскі пачастунак — бішбармак.

Мы з Мухтарам сядзелі на канапе і, па традыцыі, у чаканні абеду няспешна, маленькімі глыткамі пілі духмяны кітайскі «шай», завараны па-казахску — са свежымі вяршкамі.

Мухтар Сахарыеў, калі прыгледзецца да яго, мала адрозніваўся ад іншых казахаў, што жылі тут уперамешку з бухтармінскімі казачкамі. Сярэдняга росту, ногі крывыя,

як спецыяльна зробленыя для верхавой язды — нават без сядла яны добра абдымаюць бакі невялікіх коней-манголак, што былі тут у кожнага гаспадара. Аднак крывыя ногі — гэта не асаблівая рыса казаха, а наступства перанесенага ў дзяцінстве рахіту. Высокі маршчыністы лоб пераходзіў у лысы чэрап. Маленькія карыя вочы ўважліва і спакойна глядзелі з-пад прамых, у разлёт брывей. Выступаючыя скулы абцягнуты выдубленай горным сонцам і алтайскімі марозамі скурай. Ад іншых казахаў ён адрозніваўся чыстай, без ніякага акцэнту, рускай мовай, мяккасцю і інтэлігентнасцю. Пры гэтым адчувалася, што чалавек шмат ведае, бо мова яго была багатая, квяцістая — як у добра адукаванага чалавека.

Няспешная гаворка пакрыху перайшла на асобу гаспадара, і я папрасіў яго расказаць аб сваіх жыццёвых прыгодах. Ягонае апавяданне ў маім пераказе выглядае так.

Мухтар нарадзіўся і рос у звычайнай чабанскай сям'і. Жылі яны ў трэцяй пагранічнай зоне, куды нават жыхары суседніх сёл кожны раз павінны былі браць пропуск. Бацька пасвіў авечак на крутых схілах гор ля самай мяжы з Кітаем. З пагранічнікамі дзеці сустракаліся з маленства — спачатку на вуліцы сяла, пазней хадзілі на заставу са старэйшымі хлопцамі. На заставе ўсё было незвычайна, цікава. Пагранічнікі нікога не адганялі ад сябе. Кожны вясковы хлопчык меў свайго сябра-пагранічніка. Але самым вялікім жаданнем хлопчыкаў было жаданне пазнаёміцца з вялікім пагранічным сабакам па мянушцы Мухтар. Але Мухтар быў адзіным стварэннем на заставе, якое не жадала сябраваць з дзецьмі. Ён прызнаваў толькі свайго гаспадара. Да ўсіх іншых ставіўся насцярожана. Калі хлопчыкі спрабавалі засунуць яму праз сетку кусок цвёрдага, як камень, курту (высушанага салёнага сыру, які дзеці заўсёды насілі ў кішэні і жавалі яго замест цукерак), Мухтар сядаў побач з ім і, вартуючы гэты дзіўны падарунак, чакаў гаспадара. Адмаўляўся ён і ад смачна пахучых шарыкаў — баурсакаў. Іх Мухтар таксама пакідаў гаспадару.

У школе дружба з пагранічнікамі стала яшчэ мацнейшай. З заставы часта наведваліся камандзіры. Яны расказвалі аб гераічнай барацьбе пагранічнікаў з парушальнікамі граніцы — шпіёнамі і дыверсантамі. Загараліся вочы ў школьнікаў і тады, калі ім расказвалі аб удзеле школьнікаў з іншых пагранічных вёсак у затрыманні шпіёнаў. Кожнаму хацелася быць падобным да такіх герояў, атрымаць медаль «За ахову дзяржаўнай граніцы». Усе школьнікі былі членамі гуртка «Юны сябра пагранічніка». І, як маглі, дапамагалі пагранічнікам. Калі ў сяле з'яўляўся незнаёмы, то не паспеў ён прывітацца з гаспадаром, як аб гэтым ужо было вядома на заставе. На заставе ведалі не толькі аб чужынцах. Там добра ведалі аб усім, што не толькі рабілася ў сяле, але і што гаварылася, аб чым думалі ў кожнай хаце.

Мухтар, як і іншыя школьнікі, марыў стаць сапраўдным пагранічнікам. І яго мары збыліся. Пры прызыве ў армію пайшоў у пагранштолу. Скончыўшы яе, стаў служыць на граніцы. Толькі паслалі яго не дамоў, як марыў, а на Памір, у яшчэ вышэйшыя горы.

Кожны год прыязджаў дамоў, заходзіў да сяброў-пагранічнікаў, з гонарам хадзіў, паскрыпваючы рамнямі, па вуліцы сяла.

Можа, і каціўся б ён па службовай дарожцы да самай пенсіі, каб не жахлівы трыццаць сёмы год.

Цэнтр барацьбы з контррэвалюцыяй у яго родным раёне быў тады перанесены на гранзаставу. Там быў сабраны весь кампрамат на жыхароў раёна. Дый майстрамі ў гэтай справе пагранічнікі былі лепшыя. Яны вылоўлівалі «шпіёнаў» і «дыверсантаў», выяўлялі «падпольныя групы» казахаў, якія нібыта мелі намер уцячы за мяжу, раскрывалі «цэлыя падпольныя арганізацыі» бухтармінскіх казакоў, што «збіраліся» падняць паўстанне супраць савецкай улады. Зразумела, ім дапамагалі і мясцовыя чэкісты. Але галоўная праца легла на плечы пагранічнікаў. Сумеснымі стараннямі кожны дзясяты мужчына ў раёне быў арыштаваны. Адна частка іх запоўніла дзве вялікія ямы пад самай гарой

ля высокага пагранкамендатурскага плота, другая — пайшла этапамі ў Сяміпалацінск, а далей — у неабсяжную сібірскую тайгу.

Біяграфія Мухтара Сахарыева была чыстая, як бухтармінскі лёд. Дэталёвую праверку ён прайшоў яшчэ да службы. Дый служыў у той жа сістэме, што ўвесь час высвятляла, як рэнтгенам, кожнага свайго супрацоўніка. Пры гэтым ён і сам змагаўся з контррэвалюцыяй на Паміры. У роднай вёсцы засталіся такія ж надзейныя патрыёты-бацькі. Аднак у вёсцы засталіся і яго сябры са школьных гадоў. Адзін з іх «аказаўся» шпіёнам. І калі ўжо не было каго выдаваць, а чэкісты ўсё выбівалі з яго звесткі пра «шпіёнаў», ён «успомніў» аб Мухтару, які калісь «казаў», што ў Кітаі жыццё лепшае, чым у нас.

Праз месяц пасля гэтага прыехалі па Мухтара яго «сябры-пагранічнікі». У такім становішчы ў чэкістаў ужо сяброў не бывае — роднага бацьку, калі трэба, не пашкадуюць. Зрэзалі кубікі з пятліц і прывезлі ў пагранкамендатуру, што была ў суседнім сяле. Побач з домам быў, але ніхто дома не ведаў, што ён тут пакутуе. Моцна білі, спрабавалі зрабіць шпіёнам. Але Мухтар добра разумеў, што значыць прызнацца ў шпіянажы, і трымаўся цвёрда. «Сябры» зразумелі, што шпіянаж ім «павесіць» на Мухтара не ўдасца, а можа, крыху і пашкадавалі, і далі яму пяць гадоў на роздум і папраўку ды адправілі «искуплять вину» ў Сібір. Бацьку загадалі выехаць за межы пагранзоны.

З першых дзён вайны ён, як і іншыя, стаў слёзна слаць лісты да таварыша Сталіна, каб дазволіў «искупить вину» кроўю на фронце.

У першы год вайны таварышу Сталіну было не да зэкаў. Адказ прыйшоў у канцы сорак другога, калі сядзець засталося меней за год. Аказаў таварыш Сталін вялікі давер — дазволіў паехаць на фронт. Адзелі ў ваенную форму. Два тыдні пахадзілі па пляцы з вучэбнымі трохлінейкамі. А пасля «вучобы» пад аховаю ўсё тых жа чэкістаў павезлі на фронт. У «школу баяністаў». Толькі там выдалі зброю. Ноччу прывялі ў акопы. Нападзе — немцы, ззаду — заградатрад[38]. Выйсцяў з сітуацыі было толькі два — або на той свет, або ў шпіталь. Пад раніцу пайшлі ў атаку на безыменную горку. Узяць яе не ўдалося. Ад роты штрафнікоў засталася трэцяя частка. Праз пару дзён прыгналі папаўненне — гэткіх жа штрафнікоў. Зноў атака. Зноў палягло больш як палова. Так і ляжалі яны на полі, замеценыя снегам. Праз тры дні зноў папаўненне, зноў атака. На гэты раз, хаваючыся за замерзлыя трупы, Мухтар дабраўся амаль да нямецкіх акопаў. Шчэ б метраў трыццаць — і яны былі б узяты. Але немцы адбіліся гранатамі.

Ачнуўся Мухтар у нямецкім палявым лазарэце сярод раненых немцаў. Увесь у бінтах, з зацыраваным жыватом. Немцы ведалі, што перад імі штрафнікі, і не дастрэльвалі параненых. І ўрачы, і сёстры да савецкіх параненых адносіліся, як і да сваіх. Салдаты — па-рознаму. Адны — коса (ворагі ж), другія — абыякава, трэція — нават спагадліва: частавалі цыгарэтамі, спрабавалі размаўляць. Калі раны збольшага загоіліся, адносіны да палонных змяніліся: усіх савецкіх параненых адправілі ў лагер. А там голад і холад, і раны адкрыліся. Праз тры месяцы набілі палоннымі цялятнікі і павезлі праз усю Еўропу аж у Эльзас. На шахты. Немцам патрэбна была рабочая сіла.

У шахце спаткаліся з французамі і хутка знайшлі з імі агульную мову. Праз пару месяцаў Мухтар стаў партызанам-макі.

Ваявалі палонныя адчайна і граматна — усё-ткі салдаты ды яшчэ і палону панюхалі. У канцы вайны сам генерал дэ Голь уручыў ім баявыя французскія ўзнагароды.

Пасля вайны ўзнікла пытанне: што рабіць далей? З лагера для перамешчаных асоб не вылазілі агітатары. Адны клікалі ў Англію, другія — у Аўстралію. Але больш за ўсё было савецкіх афіцэраў-агітатараў. Яны былі такія ласкавыя, мяккія, хоць да раны прыкладвай. Сцены баракаў заклеілі плакатамі «Радзіма-маці кліча». Расказвалі, што ў Саюзе ўжо зусім іншая абстаноўка, што ўсім прабачылі палон, што і калгасаў не будзе, і жыццё новае, светлае будзе.

Некаторыя вагаліся, а Мухтар, нягледзячы на ўсё перажытае, паверыў агітатарам. Ён лічыў, што ў трыццаць сёмым была памылка. На фронце ён «искупил вину» крывёю, у палон трапіў параненым, непрытомным, і ў палоне не зганьбаваў сябе, працягваў змагацца, хоць і на баку саюзнікаў.

З узнёслым настроем ехалі яны дамоў. Немцы глядзелі варожа, палякі часам віталі кветкамі. У Брэсце свае спаткалі штыкамі. Эшалон акружылі родненькія чэкісты. Дэталёва перагрэслі, адабралі зброю, лепшыя «непатрэбныя» рэчы, закрылі вагоны на замкі. Па савецкай зямлі ехалі пад аховай, як уласаўцы. І зноў у тую ж Сібір, у фільтрацыйны лагер. Для Мухтара гэта ўжо быў трэці лагер. У лагеры працаваў асобы аддзел. Ішла хуткая праверка, сартыроўка: каго — на волю, каго — на пасяленне, каго — у турму. Мухтару пашанцавала — адпусцілі дамоў. У ваенкамаце выдалі ваенны білет, дзе служба ў арміі нават не была ўказана. Трэба было яшчэ пасылаць запыты. А палон — гэта ганьба, здрада Радзіме, растлумачылі яму. У райаддзеле МУС сказалі: ідзі працуй, ты не па нашай лініі, даўшы зразумець, што яшчэ будзе праверка па лініі МДБ.

Дома сустрэлі як уваскрэслага, бо доўга аб ім нічога не ведалі. З фронту ён паслаў толькі адзін кароткі ліст: «Ваюю, вярнуся — усё раскажу». З фільтрацыйнага лагера не пісаў, бо не ведаў свайго лёсу.

У сяле патрэбны былі чабаны. Пайшоў чабаном. Але хутка паставілі цесляром.

Вестка аб вяртанні Мухтара дайшла і да роднага сяла. Сабраліся родзічы і на конях за паўсотню кіламетраў завіталі ў госці. Мухтар аб сваіх блуканнях расказваў скупа, хоць родзічам, якія не былі нідзе далей як райцэнтры, і было ўсё надта цікава. Каб даказаць, што ён таксама ваяваў і нядрэнна, Мухтар дастаў з-пад ложка сваю загранічную валізку, а з яе — французскі медаль. Аксакалы зацікавіліся медалём, а пляменнікі — валізкаю. І не так самой валізкаю, як унутраным бокам яе вечка. Яна ўся была заклеена паштоўкамі з французскімі прыгажунямі ў розных позах. А на дне валізкі аказаўся і партрэт фюрэра. Мухтар на яго не звяртаў увагі, а пляменнікі звярнулі і нават здзівіліся — у нашых газетах Гітлера малявалі толькі на карыкатурах, а тут, на паштоўцы, ён нават і не агідны, і не страшны, і на чалавека падобны.

Раз’ехаліся госці. А пляменнікі, вярнуўшыся дамоў, падзяліліся сваімі ўражаннямі не толькі з сялянамі, але і з «сябрамі-пагранічнікамі». Расказалі і аб партрэце Гітлера. Пагранічнікі, верныя сваім традыцыям, успрынялі гэта па-свойму. Праз месяц да Мухтара прыехалі з раёна эмгэбісты і забралі і яго, і яго валізку. Гэта быў адзіны «вещдок». Яго было малавата. І ў раёне, а пасля і ў вобласці паспрабавалі зрабіць з яго французскага шпіёна. Але Алтай — гэта не Францыя. Французаў у чэка не выклічаш, паказанняў не выб’еш. А сам Мухтар нічога не падпісваў. Спыніліся на тым, што расхвальваў замежнае жыццё, і далі дзесяць гадоў.

І зноў паехаў Мухтар знаёмай дарогай «искуплять вину» на лесанарыхтоўкі. «Іскупляў» яе аж дзевяць гадоў. Смерць бацькі Сталіна зменшыла «віну» на адзін год — трапіў пад амністыю. Не рэабілітавалі, а амніставалі — Радзіма даравала «віну». Вяртайся і жыві, сказалі яму на развітанне. Вярнуўся ў свой раён. Бацькі ўжо жылі там, бо пагранічную зону звузілі да памераў аднаго прыгранічнага сельсавета. Мухтар пайшоў зноў чабаном. Але ў сяле цяжка было з мужчынскімі рукамі і добрымі галовамі: адны ляжалі пад гарой за пагранзаставаю, другія — у лясах Сібіры, трэція — на палях Еўропы. Дый часы былі ўжо не тыя.

Праз пару гадоў Мухтара ўсё ж рэабілітавалі. І тады зразу ж паставілі брыгадзірам, а хутка і перавялі ўпраўляючым-бастыком у суседняе сяло.

Пасяліўся Мухтар на ўскраіне сяла. Сваімі рукамі збудаваў дом. Аднаму жыць было цяжка, Хоць і быў немалады, ажаніўся. Узяў на дваццаць гадоў маладзейшую. Але зажылі ў ладзе і згодзе. І на шчасце пасыпаліся дзеці: што гадок, то балаш-

ка*. Казашкі наогул працавітыя, старанныя, а калі да іх яшчэ і адносіцца па-добраму — лепшай жонкі не знойдзеш.

Маючы вялікі жыццёвы вопыт, Мухтар добра ведаў псіхалогію людзей. Ён бачыў наскрозь кожнага чалавека. З кожным мог паразумецца. На працы патрабаваў ад рабочых справядліва, не абражаючы, не лаючыся. А пашана да людзей пачынаецца з адносін да старых. Мухтар гэта добра разумеў. Аксакалы казалі: «Мухтар — чалавек!» Гэта значыла шмат. Аксакалы добра ведалі біяграфію Мухтара, але не знаходзілі там ніякіх плямаў.

У саўгасе спрабавалі нават заклікаць Мухтара ў партыю, але ён адмовіўся — позна.

Так і жыў гэты нязломны чалавек, галоўнай рысай характару якога была дабрыня. А «сябры-пагранічнікі» да яго не прыходзілі. Хоць гэта ўжо былі іншыя людзі, ніхто з іх не асэнсоўваў тых памылак і той шкоды, што нарабілі іхнія папярэднікі. Дух іх быў стары, ранейшы. Яны працягвалі лічыць, што калі садзілі, то быў вінаваты. Але адносіны пагранічнікаў да Мухтара не мелі ніякага ўплыву на адносіны да яго людзей, суродзічаў.

## СТРАЙК У КАНВОЙНЫХ ВОЙСКАХ

Забастоўкі ў савецкіх канцэнтрацыйных лагерах бывалі і, пэўна, часцей, чым на волі. Але і на волі, і ў лагерах яны, як правіла, канчаліся крывава. «Народная ўлада» не магла дазволіць, каб кучка «ворагаў народа», падбухтораная «агентамі імперыялізму», бунтавала. Таму на галаву забастоўшчыкаў апускаўся «караючы меч» савецкай улады ў выглядзе ўнутраных войскаў. Аб гэтым нямала пісалі Аляксандр Салжыніцын і дэмакратычная прэса. Але пра забастоўкі ва ўнутраных войсках штосьці нідзе ў прэсе, нават у пасляперабудовачнай, не пісалася. Дый уявіць сабе такое немагчыма: чэкісцкія войскі, апора савецкай улады, выступаюць супраць гэтай улады… Але забастоўкі былі! І пра адну з іх я хачу расказаць.

Адбылося гэта не ў часы гарбачоўскай перабудовы ці пасля Белавежскага падзелу, а 22 лістапада 1954 года на пасёлку АРЭС Магаданскай вобласці. Дату гэтую я называю сёння дакладна, бо памятаю яе дакладна з другой прычыны. Тады раніцаю радыё перадало паведамленне аб смерці аднаго з самых вялікіх катаў Савецкага Саюза — былога Генеральнага пракурора, а тады прадстаўніка СССР пры Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, Андрэя Януаравіча Вышынскага[39]. Паведамленне гэтае тады нас не надта засмуціла. Мы ўжо добра ведалі аб ролі Вышынскага ў працэсах трыццаць сёмага года ды пра іншыя ягоныя «справы». Таму жалобы ў нас з гэтай нагоды не было — на аднаго сабаку менш.

Раніцай мы, як звычайна, сабраліся на развод каля вахты. Стаім паўгадзіны, гадзіну — не вядуць. Мы падумалі, што, можа, сярод салдатаў праводзіцца жалобны мітынг з прычыны смерці Вышынскага. Хоць шахта павінна працаваць рытмічна. А калі нас з вахты адправілі назад у баракі, мы не ведалі, што і падумаць. Ды нават у лагеры сакрэты ўтрымаць цяжка. Хутка нарадчык ціхенька паведаміў: забаставалі салдаты!

Вось гэта была навіна! Хутка яе ведаў увесь лагер. І навіна гэта не ўкладвалася ні ў якія рамкі. Калі ўжо пачынаюць баставаць салдаты-чэкісты, куды адбор праводзіцца самым дасканалым чынам, дзе пастаянна праводзіцца адпаведная праца, то, значыць, як казаў прынц дацкі, «не ўсё добра ў каралеўстве дацкім».

Хоць, калі паглядзець чэсна, то служба ў канвойных войсках — таксама не мёд. Кожны дзень на варту. На дождж, на вецер, на мароз. І калі зняволены, працуючы, неяк грэецца ці хаваецца ад таго ж ветру або марозу ў шахце, калі ён спіць у бараку, то салдат усё адно вартуе яго. І так на працягу трох гадоў, дзень у дзень у суровых калымскіх

* Бала — хлопчык па-казахску.

умовах. А тут прайшло яшчэ цэлых паўгода, а дэмабілізацыі няма. Начальства супакойвала: «Няма замены, чакайце». Чакалі яны, і «чаканне» скончылася: салдаты не выйшлі на канваіраванне. На вышкі, на вахту — выйшлі, а канваіраваць адмовіліся.

Гэта, зразумела, было ЧП. І магчымым яно стала толькі тады, калі наступіла адліга. У сталінскія часы нам, прызыўнікам 1927 года, узятым у армію ў 17-гадовым узросце, на пытанне, калі будзе дэмабілізацыя, і праз тры, і праз чатыры, і праз пяць гадоў адказвалі пытаннем: «Вам што, служба ў Савецкай арміі не падабаецца? Вы што, забыліся, што адпаведна з Канстытуцыяй служба ў Савецкай арміі з'яўляецца ганаровым абавязкам грамадзяніна СССР, а абарона Радзімы — свяшчэнным абавязкам грамадзян? Дык вам, можа, і савецкая ўлада не падабаецца?». І мы затыкаліся. А тут салдаты, не дачакаўшыся дэмбеля, бастанулі. Гэта быў сур'ёзны сігнал, што наступаюць вялікія змены ў грамадстве, і водгукі гэтых зменаў дайшлі і да Калымы.

Калі назаўтра нашы хлопцы спыталі ў канваіра, чаму яны баставалі, той горда адказаў: «А што, толькі вам можна баставаць?» Справа ў тым, што з паўгода назад нейкі «звышпатрыёт» шафёр на поўнай хуткасці ўрэзаўся ў калону «ворагаў народа», якая ішла з шахты ў лагер, і забіў трох зняволеных. Тады лагер у адказ забаставаў. Але ўсё скончылася ціха. Прыехала начальства з Магадана, і справу ўладзілі без крыві. Паабяцалі, што вінаватыя будуць пакараныя.

Што здарылася з тымі салдатамі-забастоўшчыкамі, мы, на жаль, не даведаліся. Не выключана, што яны пайшлі пад трыбунал, бо ў той час улада была яшчэ поўнасцю сталінская. Не пасаромелася ж яна расстраляць 100 зэкаў у Чынгіры. Дык што ёй некалькі салдат-«здраднікаў»?

## ГРАМАТА ЦВК НА СМЕТНІКУ

Спаліць добрае бярэмя папераў у Маскве — цэлая праблема. Кацельняў у дамах няма. На двары агонь не развядзеш. Вывезці за горад і там спаліць — транспарт патрэбен. А дзе ён у дворнікаў?

І калі на нашую салдацкую кухню дворнік прынёс бярэмя папераў і папрасіў абавязкова спаліць іх, кухар наш не здзівіўся і паабяцаў просьбу выканаць. Я выпадкова аказаўся на кухні і, калі дворнік выйшаў, стаў перабіраць тыя паперы. Значная частка іх была студэнцкімі канспектамі. Там жа валялася Ганаровая грамата УЦВК[40] — цяперашняга Вярхоўнага Савета СССР. Надрукавана яна была на простай ватманскай паперы, нават не глянцавай, і асаблівага ўражання не рабіла. Але падпісана яна была Старшынёй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Калініным. Ганаровая грамата УЦВК — на сметніку! Гэта было дзіўна.

Граматай гэтай узнагароджваўся камендант Крамля тав. Петэрсон[41]. Яўрэй, падумаў я, бо тады яшчэ не ведаў, хто такі Петэрсон. Нам, вясковым хлопцам з Заходняй Беларусі, савецкая даваенная гісторыя была невядомая, з кароткага курса гісторыі ВКП(б)[42] мы ведалі, што тады былі толькі адны ворагі, з якімі ярасна змагалася партыя, а пра камендантаў Крамля і наогул нідзе нічога не пісалася. Хацеў я паціху гэтую грамату вынесці і схаваць — гістарычны дакумент усё ж. Але куды яго дзенеш у казарме? Дый кухар на яе ўжо паглядзеў адным вокам. Праўда, абыякава. Таму я ўзяў сабе толькі некалькі кніг — «Тэорыю літаратуры» і «Падручнік нямецкай мовы для слухачоў факультэта замежных моў» інстытута замежных моў Чырвонай арміі[43], бо я тады вучыўся завочна на курсах замежных моваў, і кніга гэтая мне здалася патрэбнай.

На другі дзень, спаткаўшы дворніка, я пацікавіўся, што гэта за паперы ён прыносіў спальваць.

— А ў нашым доме жылі двое маладых людзей — брат і сястра. З паўгода назад іх арыштавалі. Кватэру апячаталі. Учора прыехалі нейкія людзі. З кватэры вынеслі ўсе

рэчы. Было шмат і кніг. Кнігі ўсе забралі, а гэта сказалі абавязкова спаліць. Вось я і прынёс ўсё да вас.

Аб гэтай грамаце я ўспомніў крыху пазней, у Бутырцы. У гэтай акадэміі імя Л. П. Берыі я шмат чаго даведаўся з гісторыі СССР. Аказалася, што Петэрсон быў з латышскіх стралкоў, якія ў 1918 годзе выратавалі і Леніна, і савецкую ўладу. У 1937 годзе яго пасадзілі, а сям'ю, зразумела, выселілі з Крамля. Выселілі на Ізвозную вуліцу, 28. Гэта — за чатыры прыпынкі трамвая ад Кіеўскага вакзала па Мажайскай шашы. Тады, пэўна, гэта была ўжо самая ўскраіна Масквы. Там яны і жылі. Сын каменданта працаваў, а дачка вучылася. І не дзе-небудзь, а на факультэце замежных моваў ваеннага інстытута Чырвонай арміі. А гэта была фактычна школа ваеннай разведкі. Як дазволілі дачцэ «ворага народа» вучыцца ў такой установе, уявіць цяжка. Зрэшты, можа, і нічога цяжкага тут і не было — нядаўна ў газетах пісалі, што з дзяцей «ворагаў народа» рыхтаваліся спецыяльныя групы для выканання спецыяльных заданняў, як, напрыклад, для дапамогі Патрысу Лумумбу[44] зрабіць рэвалюцыю ў Конга. (Гэтую групу, дарэчы, пасля правалу аперацыі і кінулі там на волю лёсу.) Але давучыцца дачцэ Петэрсона не далі — арыштавалі і пасадзілі. Аб далейшым лёсе іх я нічога не ведаю.

Праўда, у лістападзе 1995 года беларуская газета «Рэспубліка» надрукавала артыкул былога кіраўніка Расійскага тэлебачання Алега Папцова, дзе ён пісаў, што ў шасцідзясятым годзе ці то сын, ці то ўнук вядомага чэкіста Петэрсона працаваў у ЦК КПСС і ездзіў у Ноўгарад «арганізоўваць» артыкулы супраць пісьменніка Яшына[45]. Значыць, выжыў хлопец. Партыя адмыла яго і зноў прытуліла да сябе. І стаў ён верна служыць уладзе, якая знішчыла яго бацькоў і зламала жыццё і яму, і яго сястры. Моцна ўсё ж перамыла мазгі партыя бальшавікоў сваім людзям!

## КАНТАКТ З АТАШЭ

Неяк позна ноччу настойліва пастукалі ў дзверы нашай санчасці. На парозе стаяў камандзір узвода з палявой сумкай і салдат з рэчавым мяшком. Былі яны стомленыя.

— Загадана, каб салдат пераначаваў у санчасці, — заміж прывітання сказаў лейтэнант.

— Кім загадана і чаму? — здзівіўся я.

— Начальнікам штаба, — адказаў лейтэнант, але не стаў тлумачыць гэты дзіўны загад.

— Загадана, дык няхай начуе. Месца хапае.

Казырнуўшы, лейтэнант пайшоў.

— Праходзь у палату, распранайся, уладкоўвайся, — сказаў я салдату адразу ж, як толькі лейтэнант развітаўся.

Я паставіў чайнік на плітку, пашукаў сяго-таго ў тумбачцы — хлопца трэба было хоць крыху сагрэць. Калі чайнік закіпеў, я паклікаў салдата за стол.

— Адкуль гэта вы прыехалі і чаму не пайшлі ў казарму? — пацікавіўся я.

— Прыехалі з Валагодчыны.

— А чаго вас туды насіла? Што вы там рабілі?

— Нічога не рабілі. Вазілі мяне, — спакойна сказаў салдат.

— Як гэта? — здзіўлена запытаўся я.

Салдата гэтага я крыху ведаў. Яго з год назад перавялі да нас з Кантэміраўскай дывізіі. Прозвішча яго было Троцкі. Некаторыя сяржанты і салдаты не раз приставалі да яго: «Троцкі, ты выпадкова не радня таго Троцкага?»[46].

Аб «тым» Троцкім гэтыя салдаты нічога, акрамя прозвішча, і таго, што ён быў «ворагам народа», не ведалі. Яны не толькі Леніна, але і кароткі курс гісторыі ВКП(б) не чыталі. Ды і сапраўднага прозвішча «таго» Троцкага яны не ведалі. Але ж ім не так

хацелася паказаць сваю дасведчанасць у гісторыі, як проста падкалоць хлопца. А «гэты» Троцкі адказваў: «Радня. Нашему забору соседний плетень».

Родам ён быў з Заходняй Украіны. Прозвішча ў яго было польскае — ад горада Трокі. І па нацыянальнасці ён пісаўся палякам. Па-культурным развіцці ён быў на галаву вышэйшы за нашых сяржантаў і салдатаў, разанска-казанскіх вахлакоў. Яны гэта добра адчувалі. А разумных у арміі не любяць.

— Чатыры дні назад, — працягваў салдат, — стоячы на аўтобусным прыпынку на плошчы Карла Маркса, я пабачыў у чарзе польскага палкоўніка, пэўна ваеннага аташэ. Я падышоў да яго і на польскай мове сказаў, што я — паляк. Бацькі мае выехалі з Львоўшчыны ў Польшчу, а сам я служу ў Савецкай арміі, і мяне не адпускаюць у Польшчу. Ці не мог бы пан палкоўнік дапамагчы мне ў гэтым?

Я заўважыў, як чарга неяк раптам адхіснулася ад нас. А палкоўнік сказаў, што па гэтым пытанні мне трэба звярнуцца ў польскае пасольства. Я і раней звяртаўся з просьбай на выезд у польскае пасольства, але мне адказалі, што гэта трэба рабіць праз наша Міністэрства абароны. А з Міністэрства абароны адказалі, што пытанне аб гэтым можна будзе ставіць пасля сканчэння службы ў Савецкай арміі. А канца гэтай службе не відаць. Ужо пяты год служу. А за тое, што звяртаўся ў польскае пасольства, мяне і перавялі ў гэты батальён. Ён жа не элітны, як Кантэміраўка.

Як толькі палкоўнік ад’ехаў, да мяне падышоў чалавек у цывільным і, моцна ўзяўшы за плячо, папрасіў выйсці з чаргі. Там ён назваўся капітанам МДБ і папрасіў паказаць мае дакументы. Я паказаў салдацкую кніжку. Капітан уважліва перагледзеў яе ўсю і моўчкі аддаў мне. Я паехаў па сваіх справах.

А вечарам, пасля адбою, у казарму прыйшоў усхваляваны камандзір нашага ўзвода і загадаў мне сабраць свае асабістыя рэчы і ісці з ім. Нічога не кажучы, ён павёз мяне на вакзал, узяў білеты і мы паехалі. Сышлі на якойсьці маленькай станцыі. Там знайшлі рабочы батальён. У штабе батальёна высветлілася, што ў лейтэнанта быў вусны загад са штаба Маскоўскай ваеннай акругі адвезці мяне ў гэты батальён. Але начальнік штаба адмовіўся мяне прымаць: не было ў лейтэнанта атэстатаў — рэчавага і прадуктовага. Як ні даказваў лейтэнант, што гэта загад акругі, капітан сказаў, што хай будзе хоць загад міністра, але без дакументаў ён не прыме. Чым ён будзе карміць і адзяваць салдата? Так мы і паехалі назад. А ў казарму мяне не пусцілі, каб салдаты не даведаліся, што са мною здарылася, што я такое страшнае зрабіў, чаму мяне так хутка схапілі і паперлі з Масквы.

Салдат сам здзіўляўся, што яго так хутка заўважылі і так аператыўна адправілі.

А здзіўляцца тут не было чаго. Здзіўляцца трэба было іншаму. Як магло здарыцца, каб салдат Савецкай арміі ўступіў у прамы кантакт з аташэ замежнай дзяржавы, хай сабе і дружалюбнай, брацкай, але ўсё ж — замежнай! І невядома, што ён мог сказаць гэтаму палкоўніку. Пэўна ж штосьці важнае ды тэрміновае, калі падышоў на вуліцы, ды яшчэ ў цэнтры Масквы. Тут было чаго палохацца контрразведцы. Таму так аператыўна і схапілі яго, і павезлі ўглыб тайгі.

А што яго засяклі на вуліцы, дык тут нічога дзіўнага і не было. Усе масквічы ведалі, што і вуліцы, і плошчы, прылягаючыя да Крамля, напоўнены аператыўнікамі-таптунамі МДБ, якія пільна сочаць за ўсім, што робіцца на вуліцах. А за некаторымі дэлегацыямі і нават асобнымі іншаземцамі яны ходзяць па пятах. І робяць гэта часта вельмі няўмела. Мяне аднойчы ля гасцініцы «Метраполь» ледзь не збіў з ног такі таптун. Я бачыў, як з рэстарана выйшаў па-замежнаму адзеты чалавек. А праз хвіліну, як Піліп з канапель, выскачыў адтуль і наш таптун. Неяк спалохана паазіраўшыся вакол, ён паспешна кінуўся за ім. Я бачыў, як такі таптун, амаль прыціснуўшы да сцяны, дапытваў якогась прыезджага дзядзьку, чаго той падыходзіў да замежнай дэлегацыі і аб чым ён з імі

гутарыў. Дзядзька разгублена тлумачыў, што ён не падыходзіў і не гутарыў. Думаю, што яшчэ доўга таго дзядзьку будуць пасля правяраць, бо дакументы яго таптун паглядзеў.

Пахадзіўшы і ўважліва папрыглядаўшыся на Чырвонай плошчы, можна было беспамылкова вылічыць гэтых таптуноў. Усе яны былі — як «близнецы-братья».

Добра ведалі масквічы, што нельга ўступаць у гутаркі з замежнымі «гасцямі». Гэта магло дорага каштаваць. Але нічога гэтага не ведаў просты салдацік. За гэта і паплаціўся. Назаўтра раніцай ад нас забраў яго той самы лейтэнант і павёз у валагодскія лясы. Там ён і з мядзведзем у кантакт не ўступіць, бо будзе пад пільным вокам і дзень, і ноч. І магчыма, заміж Польшчы ён яшчэ трапіць да белых мядзведзяў. Бо калі да чалавека прычэпіцца МДБ, то дарога для яго толькі адна — у ГУЛАГ.

## КАМЕНТАРЫ

[1] Шляпнікаў Аляксандр (нар. 1932) — малодшы сын бальшавіка Аляксандра Гаўрылавіча Шляпнікава, у 1937–1948 гг. утрымліваўся ў дзіцячых дамах як сын «ворага народа», у 1951–1956 гг. зняволены ў лагеры на Калыме. Скончыў Маскоўскі энергетычны інстытут. Радыёінжынер, спецыяліст у галіне электрапрываду і аўтаматызацыі прамысловых установак (http://newphysics. h1. ru/main/about_auth. htm).

[2] Асоба Спяранскага М. М. не ідэнтыфікавана.

[3] Алейнікаў Пётр (1914–1965) — папулярны савецкі кінаакцёр; нарадзіўся у в. Крывель Шклоўскага раёна.

[4] Гаворка ідзе, хутчэй за ўсё, пра Грыгор’ева Іосіфа Фёдаравіча (1890–1951), праўдзейнага члена Акадэміі навук СССР, дырэктара Геалагічнага інстытута АН СССР. Арыштаваны ў 1949 г., ён быў зняволены ў Бутырскай турме, дзе і памёр. Тое, што аўтар называе далей Грыгор’ева начальнікам геолага-разведвальнай партыі, можна патлумачыць капрызамі памяці.

[5] Гаворка, хутчэй за ўсё, пра Спяранскага Барыса Фёдаравіча (1885–1956), геолага, прафесара Томскага дзяржаўнага ўніверсітэта, старшага навуковага супрацоўніка лабараторыі нафты і газу Заходне-Сібірскага філіяла Акадэміі навук СССР, у маладосці анархіста. Арыштаваны ў 1949 г., ён быў зняволены ў Бутырскай турме; асуджаны на 25 гадоў; рэабілітаваны 31 сакавіка 1954 г. (http://geo. tsu. ru/faculty/history/person/speransky).

[6] ОСО — Особое совещание, у розныя гады Асобая камісія пры народным камісары ўнутраных спраў (1922–1924), Асобая нарада пра Аб’яднаным палітычным упраўленні СССР (да 5 лістапада 1934), Асобая нарада пры народным камісары ўнутраных спраў СССР (да 1946), Асобая нарада пры міністру дзяржаўнай бяспекі СССР (да 1 верасня 1953 г). Мела права разглядаць справы па абвінавачаннях у грамадска небяспечных злачынствах (як правіла, палітычнага і вайсковага характару) і выносіць па выніках разгляду прысуды, а таксама падвяргаць перагляду рашэнні Вайсковай калегіі Вярхоўнага Суда СССР. У 1941–1945 гг. была надзеленая правам выносіць смяротныя прысуды. Асобая нарада не ўваходзіла ў судовую сістэму і не была прадугледжаная савецкай канстытуцыяй. Прыгаворы выносіла ў паскораным парадку. Разгляд справы і вынясенне прысуду адбываліся, як правіла, у адсутнасць абвінавачанага і адваката. У час вайны і пасля яе ў ОСО траплялі справы, якія не прымалі да разгляду суды і вайсковыя трыбуналы. За час ад 5 лістапада 1934 г. да 1 верасня 1953 г. ОСО асудзіла 442 531 чалавека, у тым ліку да вышэйшай меры пакарання 10 101 чалавека. ОСО не трэба блытаць з «тройкамі» НКУС.

[7] Асоба Міхайлы Валынца не ідэнтыфікавана.

[8] ФЗВ — фабрычна-заводскае вучнёўства; школа фабрычна-заводскага вучнёўства, асноўны тып прафесійна-тэхнічнай школы ў СССР у 1920–1940 гг. Школы ФЗВ існавалі пры буйных прадпрыемствах. У 1940 г. большасць школ ФЗВ былі рэфармаваныя ў школы фабрычна-заводскага навучання (ФЗН). У 1959–1963 гг. школы ФЗН былі пераўтвораныя ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы (ПТВ). У час вайны і першыя паваенныя гады у некаторыя школы ФЗН мабілізоўвалі, і навучанне ў іх прыраўноўвалася да службы ў арміі; уцёкі з такіх школ лічыліся дэзертырствам.

[9] МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі СССР было пераемнікам Народнага камісарыята дзяржаўнай бяспекі, створанага 14 красавіка 1943 г. на базе Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі Народнага камісарыята ўнутраных спраў СССР. У веданне НКДБ (з 15 сакавіка 1946 г. — МДБ) перадаваліся пытанні разведкі, контрразведкі, аховы ўрада, урадавай сувязі і да т. п. Пазней у падпарадкаванне МДБ былі пераведзеныя ўнутраныя і памежныя войскі. Існавала да 5 сакавіка 1953 г.

[10] Артыкул 58–8 Крымінальнага кодэкса (КК) РСФСР прадугледжваў расстрэл або абвяшчэнне ворагам працоўных з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем грамадзянства саюзнай рэспублікі і, тым самым, грамадзянства СССР і выгнанне за межы СССР назаўсёды, з дапушчэннем пры змякчальных абставінах паніжэння да пазбаўлення волі на тэрмін не ніжэй за тры гады, з канфіскацыяй усёй або часткі маёмасці за здзяйсненне тэрарыстычных актаў, накіраваных супраць прадстаўнікоў савецкай улады або дзеячаў рэвалюцыйных рабочых і сялянскіх арганізацый, і удзел у выкананні такіх актаў, хоць бы і з асобамі, якія не належалі да контррэвалюцыйнай арганізацыі.

[11] ППЛ — працоўна-папраўчыя лагеры. Існавалі ў СССР у 1929–1956 гг.; з 1956 г. папраўча-працоўныя калоніі. ППЛ уваходзілі ў адзіную сістэму лагераў Аб’яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення СССР (з 1934 г. — Народнага камісарыята ўнутраных спраў, з 1946 г. — Міністэрства ўнутраных спраў).

[12] Першаю часткаю артыкула 58-10 КК РСФСР была ўстаноўленая адказнасць за прапаганду або агітацыю, якія ўтрымлівалі заклік да звяржэння, падрыву або аслаблення савецкай улады або да здзяйснення асобных контррэвалюцыйных злачынстваў, а роўна распаўсюд, або выраб, або захоўванне літаратуры таго ж зместу. Прадугледжвалася пазбаўленне свабоды не менш як на шэсць месяцаў.

[13] Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 7 мая 1940 г. у Чырвонай арміі былі ўстаноўленыя генеральскія званні, а 4 чэрвеня 1940 г. Савет Народных Камісараў СССР выдаў пастанову, на падставе якой камандзірам брыгад, дывізій, карпусоў, а таксама камандзірам армій 1-га і 2-га рангаў былі прысвоеныя званні генерал-маёра, генерал-лейтэнтанта, генерал-палкоўніка і генерала арміі. Аднак камбрыг Мікалай Гуськоў (1892—?) у гэтай пастанове не названы. Перад арыштам М. Гуськоў служыў начальнікам артылерыі сфармаванай у канцы 1941 г. 58-й арміі, якая дыслакавалася на тэрыторыі Архангельскай вайсковай акругі для работ дзеля абсталявання абарончага рубяжа на беразе Марыінскага каналу ад Анежскага возера да возера Белае (http://myarmy58.narod.ru/army/my_army.html). Крыніцы паведамляюць, што арыштаваны ў лютым 1942 г. камбрыг М. Гуськоў 2 снежня 1950 г. быў асуджаны Асобай нарадай пры міністру дзяржаўнай бяспекі СССР паводле арт. 58–1 «б» Крымінальнага кодэкса РСФСР на 15 гадоў ППЛ (Звягинцев В. Е. Война на весах Фемиды: Война 1941–1945 гг. в материалах следственно-судебных дел. М., 2006. С. 555–556; http://vif2ne. ru/rkka/forum/archive/15/15207. htm; http://rkka. ru/handbook/personal/repress/kombrig. htm). У чым заключалася ягоная здрада

Радзіме, высветліць не ўдалося, але вядома, што ў 1941 г. камбрыг быў выключаны з бальшавіцкай партыі за «за неправильное определение немецкой культуры» (мажліва, высока ставіў яе). 31 ліпеня 1953 г. (неўзабаве пасля арышту Лаўрэнція Берыі) пастановай тае ж Асобае нарады М. Гуськоў быў рэабілітаваны.

[14] На ўвазе маецца Шляпнікаў Аляксандр («Аляксандр», «Бяленін»; 1885–1937), сябар Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі з 1901 г., бальшавік, савецкі дзяржаўны і прафсаюзны дзеяч, адзін з лідараў «рабочай апазіцыі» ў 1920-я гг.; выключаны з партыі і пасля дзвюх ссылак расстраляны.

[15] Асоба прафесара Бараннікава не ідэнтыфікавана.

[16] Макараў Георгі (1918—?) нарадзіўся ў г. Нікапалі, жыхар г. Ульянаўска, лекар онкадыспансэра, на ўтрыманні меў непаўналетняе дзіця. 17 снежня 1948 г. трыбуналам войскаў МУС Прыволжскай вайсковай акругі паводле арт. 58–1 «а» КК РСФСР («Здрада Радзіме») незаконна асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі з паражэннем у правах на 5 гадоў і канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны 18 жніўня 1956 г. Звестак пра далейшы лёс няма (http://www.memo.ru/memory/simbirsk/ULJA30.htm).

[17] На ўвазе маецца Аркагалінская ДРЭС у пас. Мяўнджа (Сусуманскі раён Магаданскай вобласці), якую будавалі ў 1950–1955 гг.

[18] Берлаг — Берагавы папраўча-працоўны лагер, асобы лагер № 5 Міністэрства ўнутраных спраў СССР, дзейнічаў у структуры Галоўнага ўпраўлення будаўніцтва Далёкага Усходу («Дальстрой») у 1948–1954 гг.

[19] АРЭС — хутчэй за ўсё, Аркагалінская раённая электрастанцыя.

[20] Каньён — назва лагера ў Магаданскай вобласці, заснаванага ў 1946 г. і заціснутага з двух бакоў высокімі і стромымі сопкамі. У шахтах здабывалі, а на абагачальнай фабрыцы перапрацоўвалі руду, якая ўтрымлівала кобальт. Лагер, як і фабрыка ды пасёлак вольнанаёмных, праіснаваў да канца 1950-х гг.

[21] Мяснікоў Аляксандр (1899–1956) — правадзейны член Акадэміі медыцынскіх навук (АМН) СССР, спецыяліст па ўнутраных і інфекцыйных хваробах, заснавальнік школы кардыёлагаў. Узначальваў Расійскае таварыства тэрапеўтаў і Інстытут тэрапіі АМН СССР, на базе якога ў 1966 г. створаны Інстытут кардыялогіі яго імя.

І. Фурсевіч, імаверна, мае на ўвазе кнігу: Мясников А. Л. Основы диагностики и частной патологии (пропедевтика) внутренних болезней. М., 1952. Пад загалоўкам «Пропедевтика внутренних болезней» кніга выдадзена ў 1956 г.

[22] Нексікан — пасёлак, раней пасёлак гарадскога тыпу ў Сусуманскім раёне Магаданскай вобласці. На правым беразе р. Beралех (басейн Калымы), на аўтатрасе Магадан — Вусць-Нера. У 1951–1953 гг. у пасёлку размяшчаўся ППЛ Бералехскага раённага геолагаразведачнага ўпраўлення, якое дзейнічала ў структуры «Дальстроя».

[23] Руфанаў Іван (1884–1964) — правадзейны член АМН СССР, хірург, займаўся праблемамі ран, вывучаў слупняк і сепсіс, у 1943 г. першы выкарыстаў пеніцылін для лячэння параненых. Аўтар інструкцый па лячэнні ран і сепсісу пасля агнястрэльных раненняў, па антыбіётыкатэрапіі. Ягоны падручнік «Общая хирургия» выходзіў сем разоў.

[24] Шаўкуненка Віктар (1872–1952) — правадзейны член АМН СССР, аўтар першага ў СССР капітальнага дапаможніка па аператыўнай хірургіі (у трох тамах) і дапаможніка

па тапаграфічнай анатоміі, рэдактар раздела «Хірургія» ў першым выданні Вялікай медыцынскай энцыклапедыі; пад яго рэдакцыяй выйшаў «Кароткі курс аператыўнай хірургіі з тапаграфічнай анатоміяй» (1951), перакладзены на замежныя мовы.

[25] Дацэнт М. А. Ліхтэнтул у 1957–1963 гг. узначальваў кафедру факультэцкай хірургіі медыцынскага інстытута ў г. Сямей (Сяміпалацінск).

[26] Кіраў (сапр. Кострыкаў) Сяргей (1886–1934) — сябар Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП) з 1904 г., з канца 1917 г. бальшавік. У 1919 г. арганізатар масавых распраў з рабочымі і чырвонаармейцамі г. Астрахані, якія паўсталі супраць «ваеннага камунізму»; з яго ведама расстраляныя астраханскі мітрапаліт Мітрафан і біскуп Лявонцій. Як камісар XI арміі і паўнамоцны прадстаўнік (пасол) Савецкай Расіі у Грузіі, браў удзел у ліквідацыі незалежных Азербайджанскай, Армянскай і Грузінскай рэспублік (1920–1921). З 1921 г. першы сакратар Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Азербайджана. Падтрымліваў І. Сталіна ў барацьбе з унутрыпартыйнай апазіцыяй. У 1926–1934 гг. першы сакратар Ленінградскага абласнога камітэта партыі, у 1930–1934 гг. сябар Палітбюро, у 1934 г. стаў адначасова сакратаром Цэнтральнага Камітэта партыі. Арганізатар пераследу вучоных і духавенства, знішчэння пецярбургскіх храмаў. Яго разглядалі як пераемніка Сталіна. 1 снежня 1934 г. забіты. Забойства С. Кірава, інспіраванае, паводле адной з версій, Сталіным, паслужыла штуршком да пачатку Вялікага тэрору ў СССР і масавага знішчэння сябраў бальшавіцкай партыі па падазрэнні ў прыналежнасці да ўнутрыпартыйнай апазіцыі.

Англійскую мову ў камеры смяротнікаў вывучаў іншы сябар РСДРП — Міхаіл Фрунзэ. Кірава суд да смерці не прыгаворваў.

[27] Асоба Васіля Ерына, а таксама асобы Фёдара Рэйна ды Сяргея Грыгор’ева (сюжэт «Школа ў лагеры») не ідэнтыфікаваныя.

[28] Опер — афіцэр, які займаўся ў лагеры збіраннем звестак пра зэкаў.

[29] КВЧ — культурна-выхаваўчая частка; падраздзяленне адміністрацыі ў лагеры, у веданні якога знаходзіліся клуб і бібліятэка, мастацкая самадзейнасць, насценныя газеты.

[30] Берыя Лаўрэнцій (1899–1953) — сябар бальшавіцкай партыі з 1917 г. У сакавіку 1919 — красавіку 1920 г. узначальваў нелегальную камуністычную арганізацыю у Баку, адначасова з восені 1919 г. да сакавіка 1920 г. служыў у контрразведцы Камітэта дзяржаўнай абароны Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі, потым на мытні. Накіраваны на падпольную працу ў Грузінскую Дэмакратычную Рэспубліку, ён быў арыштаваны і выдалены з краіны. З 1921 г. у органах савецкай разведкі і контрразведкі. З кастрычніка 1931 г. першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Грузіі, з кастрычніка 1932 г. першы сакратар Закаўказскага краёвага камітэта Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) і сакратар ЦК КП(б)Г. З 22 жніўня 1938 г. першы намеснік народнага камісара, а з 25 лістапада 1938 г. да 29 снежня 1945 г. народны камісар унутраных спраў СССР. З яго прыходам на пасаду наркама адбылося аслабленне тэрору, і з турмаў выйшлі сотні тысяч вязняў. 30 студзеня 1941 г. яму прысвоена званне генеральнага камісара дзяржаўнай бяспекі, што адпавядала рангу маршала Савецкага Саюза. З 3 лютага 1941 г. намеснік старшыні Савета Народных Камісараў СССР, куратар Народных камісарыятаў унутраных спраў і дзяржаўнай бяспекі (апошні існаваў у лютым — ліпені 1941 г. і з красавіка 1943 г.) ды іншых ведамстваў. У час нямецка-савецкай вайны ўваходзіў у Дзяржаўны камітэт абароны. 30 верасня 1943 г. яму за асобыя заслугі ў галіне вытворчасці ўзбраенняў і боепрыпасаў прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Са снежня 1943 г. кіраваў савецкім атамным праектам (у жніўні 1945 г. узначаліў спецыяльны камітэт). У 1944 г. асабіста кіраваў дэпартацыяй чачэнцаў, інгушоў і балкарцаў. З 9 ліпеня 1945 г. маршал Савецкага Саюза. 18 сакавіка 1946 г. стаў сябрам Палітбюро, а 19 сакавіка — намеснікам старшыні Савета Міністраў СССР. Пасля паспяховага выпрабавання атамнай зброі атрымаў Сталінскую прэмію I ступені; яму было прысвоенае званне Ганаровага грамадзяніна СССР. Пасля XIX з'езда КПСС (кастрычнік 1952) сябар Прэзідыума ЦК партыі, Бюро Прэзідыума і кіруючай пяцёркі партыі. Паводле адной з версій, узначаліў змову супраць Сталіна. Пасля смерці апошняга стаў першым намеснікам кіраўніка ўрада і ўзначаліў Міністэрства ўнутраных спраў СССР, якое было аб'яднанае з Міністэрствам дзяржаўнай бяспекі. У выніку яго ініцыятыў былі спыненыя раней узбуджаныя палітычныя справы, на свабоду выйшлі больш за мільён чалавек. Сакрэтным загадам ён забараніў катаванні падследных. Выступаў за пашырэнне правоў савецкіх рэспублік і ўжыванне нацыянальных моў у справаводстве. Выказваўся за спыненне камуністычнага эксперыменту ва Усходняй Германіі, за стварэнне адзінай нямецкай дзяржавы. У кіраўніцтве партыі і сярод военачальнікаў склалася змова супраць яго. 26 чэрвеня 1953 г. ён быў арыштаваны. Для разгляду яго справы была створаная спецыяльная судовая прысутнасць Вярхоўнага Суда СССР. Яго вінавацілі не толькі ў фальсіфікацыі крымінальных спраў у Грузіі і Закаўказзі, маральным распадзе, злоўжыванні ўладаю, а таксама ў шпіянажы на карысць Вялікабрытаніі, у дэзарганізацыі абароны Каўказа ў час вайны, у імкненні ліквідаваць рабоча-сялянскі лад у СССР і рэстаўраваць капіталізм. Некаторыя пункты абвінавачання нельга назваць юрыдычна карэктнымі. 23 снежня 1953 г. ён быў асуджаны на смерць і ў той самы дзень расстраляны (паводле іншай версіі — 26 снежня). Пазней адбывалася дэманізацыя вобразу Берыі. Ягоныя былыя паплечнікі хацелі перакласці на яго і на Сталіна ўсю адказнасць за масавы тэрор у СССР.

31 Фігнер Вера (1852–1942) — сябар Выканаўчага камітэта партыі «Народная воля», удзельнічала ў падрыхтоўцы і арганізавала некалькі тэрарыстычных актаў. Была прыгавораная да пакарання смерцю, якое замянілі катаргай. У 1883–1904 гг. знаходзілася ў Шлісельбургскай крэпасці, у 1904–1906 гг. — у ссылцы.

32 Фраленка Міхаіл (1848–1938) — сябар Выканаўчага камітэта партыі «Народная воля». Уладкаваўшыся пад чужым прозвішчам наглядчыкам у кіеўскай турме, арганізаваў уцёкі групы вязняў, удзельнічаў у тэрарыстычных актах. Быў прыгавораны да пакарання смерцю, якое замянілі катаргай. У 1882–1884 гг. знаходзіўся ў Петрапаўлаўскай крэпасці, у 1884–1905 гг. — у Шлісельбургскай. Пасля выхаду на волю быў пад наглядам паліцыі. В 1936 г. уступіў у бальшавіцкую партыю.

33 КРД — контррэвалюцыйная дзейнасць.

34 Клаўс Філіп Марыя Шэнк фон Штаўфенберг (1907–1944) — граф, патомны нямецкі вайсковы дзеяч, палкоўнік. Служыў у Паўночнай Афрыцы, страціў вока, правую руку, два пальцы левай рукі і пакалечыў нагу. Быў пераведзены на штабную службу. Далучыўся да антыгітлераўскага «гуртка Крайзаў» на чале з графам Хэльмутам Джэймсам фон Мольтке. Выступаў за ліквідацыю Гітлера. Пасля таго як фон Мольтке быў арыштаваны, стаў лідарам змоўшчыкаў. 1 ліпеня 1944 г. прызначаны начальнікам штаба Рэзервовай арміі. На нараду ў стаўцы Гітлера ў Растэнбургу пранёс выбуховае прыстасаванне. Выбух не прычыніў асаблівай шкоды Гітлеру. Фон Штаўфэнберга і іншых удзельнікаў змовы пакаралі смерцю.

35 *А сям'ю яго… гітлераўцы чамусьці не арыштавалі.* — Вядома, што жонку палкоўніка фон Штаўфэнбэрга, графіню Ніну Шэнк фон Штаўфэнбэрг, нацысты кінулі ў канцлагер

Равэнсбрук, дзе яна (як фраў Шанк) правяла 7 месяцаў і 27 студзеня 1945 года нарадзіла малодшую дачку, Канстанцыю. Што праўда, цяжарнай графіні быў прадугледжаны адмысловы паёк і дазвалялася раз на тыдзень мыцца ў лазні. Чатырох большых дзяцей графа і графіні фон Штаўфэнбэргаў — Бэртольда (1934), Хаймэрана (1936), Франца Людвіга (1938) і Валерыю (1940) — нацысты аддалі ў дзіцячы дом пад іншым прозвішчам.

[36] Міркулаў Усевалад (1895–1953) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, кіраўнік Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі Народнага камісарыята ўнутраных спраў СССР (1938–1941), народны камісар дзяржаўнай бяспекі СССР (люты — ліпень 1941, красавік 1943 — сакавік 1946), міністр дзяржаўнай бяспекі (сакавік — травень 1946), намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення савецкай маёмасці за мяжой пры Савеце Міністраў СССР (1946–1947), начальнік Галоўнага ўпраўлення савецкай маёмасці за мяжой пры Савеце Міністраў СССР па Аўстрыі (1947–1950), міністр дзяржаўнага кантролю СССР (1950–1953). Арыштаваны ў верасні 1953 г., разам з Л. Берыяй і іншымі асуджаны ў снежні 1953 г. на смерць. Расстраляны.

Міркулаў не мог падпісваць ордар на арышт А. Шляпнікава ў 1949 г. Гэта, больш імаверна, учыніў яго наступнік — Віктар Абакумаў.

[37] Уркі (урка, уркаган у адзіночным ліку) — злодзей, бандыт. Уркі жылі паводле зладзейскіх законаў («паняццяў»), якія — у адрозненне ад дзяржаўных законаў — парушаць забаранялася пад страхам смерці.

[38] Заградатрад (заградительный отряд) — упершыню створаны ў перыяд Грамадзянскай вайны ў Расіі, адноўлены ў час нямецка-савецкай вайны 1941–1945 гг., атрад, які размяшчаўся ззаду асноўнага войска. Яго задачамі былі прадухіленне ўцёкаў вайскоўцаў з поля бою, вылоўліванне дэзертыраў, барацьба з варожымі дыверсантамі і дэсантнікамі, падтрыманне парадку на пераправах, ахова лагераў, дзе знаходзіліся і праходзілі праверку чырвонаармейцы, якія ўцяклі з палону або вырваліся з акружэння, і г. д. Заградатрады накіроўваліся на тыя ўчасткі фронту, дзе складвалася крытычная сітуацыя. Асноўны кантынгент заградатрадаў складаўся з салдатаў і афіцэраў памежных і ўнутраных войскаў; іншы раз у палку стваралася рэзервовая стралковая рота або палкавая рота аўтаматчыкаў. Заградатрады мелі права арыштоўваць уцекачоў і панікёраў, расстрэльваць іх на месцы; у асобных выпадках адступаючых чырвонаармейцаў расстрэльвалі з кулямётаў. З уцекачоў ствараліся штрафныя роты і батальёны, якія накіроўваліся на самыя небяспечныя ўчасткі фронту і ішлі ў наступ, маючы ў тыле заградатрады.

[39] Вышынскі Андрэй (1883–1954) — савецкі дзяржаўны дзеяч, член меншавіцкай фракцыі Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, у царскай турме блізка пазнаёміўся з І. Сталіным; у 1920 г. перайшоў на бальшавіцкія пазіцыі. Пракурор крымінальна-следчай калегіі Вярхоўнага Суда СССР (1923–1925), рэктар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1925–1928), член калегіі Народнага камісарыята асветы РСФСР, кіраўнік Галоўнага ўпраўлення прафесійнай адукацыі (1928–1931), пракурор РСФСР (1931–1933), намеснік генеральнага пракурора (1933–1935), генеральны пракурор СССР (1935–1939), упаўнаважаны Цэнтральнага Камітэта бальшавіцкай партыі па Латвіі (чэрвень — жнівень 1940), першы намеснік народнага камісара замежных спраў СССР (1940–1946), намеснік міністра замежных спраў СССР (1946–1949), міністр замежных спраў СССР (1949–1953), пастаянны прадстаўнік СССР у Арганізацыі Аб’яднаных Нацый (з 5 сакавіка 1953 г.), правадзейны член Акадэміі навук СССР, дырэктар Інстытута права АН СССР, адказны рэдактар часопіса «Советское государство и право» (1937–1941). Асабліва праславіўся як дзяржаўны абвінаваўца на трох

маскоўскіх працэсах 1936–1938 гг. (трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра, паралельнага антысавецкага трацкісцкага цэнтра і антысавецкага права-трацкісцкага блока), калі на лаве падсудных апынуліся вядомыя дзеячы бальшавіцкай партыі. Быў суаўтарам абвінаваўчага заключэння супраць маршала Савецкага Саюза Міхаіла Тухачэўскага (1937). Вышынскага лічыў узорам для сябе Роланд Фрайслер, старшыня Народнай судовай палаты ў гітлераўскай Германіі.

[40] УЦВК — Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт — орган заканадаўчай улады Расіі, потым Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі у 1917–1938 гг. З 30 сакавіка 1919 г. старшынёй УЦВК быў Міхаіл Калінін. Орган заканадаўчай улады Савецкага Саюза ў 1922–1937 гг. меў абрэвіятуру ЦВК СССР. Міхаіл Калінін быў адным з старшыняў гэтага органа.

[41] Петэрсон Рудольф (1897–1937) — палітычны работнік, дывізійны інтэндант. Удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Камендант Крамля (1920–1935). У 1936 г. прызначаны памочнікам камандуючага Харкаўскай вайсковай акругай па тыле. У красавіку 1937 г. арыштаваны, абвінавачаны ў прыналежнасці да латышскай фашысцкай арганізацыі. Расстраляны. У яго былі дзве дачкі (Ірына і Мая); сын Рудольф загінуў — патануў — у дзяцінстве, а таму не мог працаваць у апараце ЦК КПСС.

[42] *...З кароткага курса гісторыі ВКП(б)...* — ВКП(б), УсеКПБ(б) — Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў), афіцыйная назва партыі ў 1924–1952 гг.; у 1952–1991 гг. Камуністычная партыя Савецкага Саюза (КПСС). Кніга «Гісторыя ВКП(б). Кароткі курс» напісана пад кіраўніцтвам І. Сталіна і апублікавана ў 1938 г. З 1938 да 1953 г. выдавалася 301 раз на 67 мовах свету. У гэтай працы выкладзены афіцыйная канцэпцыя гістарычнага развіцця Расійскай імперыі і Савецкага Саюза, а таксама сталінская трактоўка дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму (афіцыйнай філасофскай дактрыны). Кніга лічыцца ўзорам фальшавання гісторыі і вульгарызацыі марксізму.

[43] На ўвазе маецца Вайсковы інстытут замежных моў Чырвонай (Савецкай) арміі (1940–1974 гг.). Потым частка Вайсковага інстытута Міністэрства абароны СССР (цяпер Вайсковы ўніверсітэт Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі).

[44] Лумумба Патрыс Эмэры (1925–1961) — дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху ў былой бельгійскай калоніі Конга (пазней Заір, цяпер Дэмакратычная Рэспубліка Конга). Пасля абвяшчэння незалежнасці Конга першы прэм’ер-міністр краіны (24 чэрвеня — 14 верасня 1960). Праводзіў леванацыяналістычную палітыку. Стаў ахвярай змовы супраць яго кіруючых колаў Бельгіі і ЗША ды іх саюзнікаў у Конга. Цела расстралянага П. Лумумбы расчлянілі, а пасля апрацоўкі кіслатой спалілі. Нацыянальны герой.

[45] Яшын (сапр. Папоў) Аляксандр (1913–1968) — расійскі паэт і празаік. Лаўрэат Сталінскай прэміі 2-й ступені (1950). Быў у ліку тых пісьменнікаў, якія пасля смерці І. Сталіна пачалі адыходзіць ад сацыялістычнага рэалізму. Асаблівы грамадскі рэзананс выклікалі ягоныя апавяданне «Рычагі» (1956), нарыс «Валагодскае вяселле» (1962) ды іншыя творы апошніх 12 гадоў жыцця. Адзін з першых расійскіх пісьменнікаў-«почвенников». Настаўнік Васілія Бялова і Мікалая Рубцова. Супрацоўнік ЦК КПСС ездзіў «арганізоўваць» артыкулы супраць А. Яшына, хутчэй за ўсё, не ў Ноўгарад, а ў Волагду, бо пісьменнік паходзіў з таго краю.

[46] На ўвазе маецца Троцкі (сапр. Бранштэйн) Леў (1879–1940), дзеяч расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху, тэарэтык марксізму, гісторык, сацыёлаг і публіцыст. У рэвалюцыйным руху з 1897 г., першы раз арыштаваны ў 1898 г. У 1902 г. уцёк з ссылкі

за мяжу, увайшоў у склад рэдакцыі «Искры». Пасля II з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі меншавікоў, з 1904 г. цэнтрыст, выступаў за аб'яднанне бальшавікоў і меншавікоў. У 1905 г. фактычны лідар Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў — правобразу савецкай улады — і рэдактар яго «Известий». Арыштаваны, у 1907 г. асуджаны на вечнае пасяленне ў Сібіры і пазбаўлены ўсіх правоў. У 1908–1912 гг. выдаваў газету «Правда» (Вена), у 1914–1915 гг. — «Наше слово» (Парыж). У 1916 г. высланы з Францыі ў Іспанію, адкуль пераехаў у ЗША. Вярнуўся ў Расію пасля Лютаўскай рэвалюцыі. У ліпені — верасні 1917 г. зняволены. У жніўні 1917 г. са сваімі прыхільнікамі завочна ўступіў у бальшавіцкую партыю, сябар Цэнтральнага Камітэта партыі; у кастрычніку 1917 г. і з сакавіка 1919 г. сябар Палітбюро. У кастрычніку — лістападзе 1917 г. старшыня Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, сфармаваў пры ім ваенна-рэвалюцыйны камітэт, пад кіраўніцтвам якога стваралася чырвоная гвардыя і адбыўся захоп дзяржаўнай улады. Арганізаваў абарону Петраграда ад войскаў генерала Краснова. Абгрунтаваў і арганізаваў тэрор у дачыненні да праціўнікаў новай улады. З 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г. да 22 лютага 1918 г. народны камісар замежных спраў Расіі; з 14 сакавіка 1918 г. народны камісар у вайсковых справах, пазней таксама старшыня Вышэйшага ваеннага савета (з 28 сакавіка), народны камісар у марскіх справах (з красавіка) і старшыня рэвалюцыйнага ваеннага савета РСФСР (з 6 верасня). З канца 1922 г. народны камісар вайсковых і марскіх спраў, старшыня рэўваенсавета СССР. Як наркам і старшыня рэўваенсавета быў арганізатарам абароны савецкага рэжыму ад унутраных і знешніх ворагаў; дзеля ўмацавання воінскай дысцыпліны не спыняўся перад дэцымацыямі і стварэннем заградатрадаў (гл. заўвагу 37) і разам з тым вербаваў на службу ў Чырвонай арміі царскіх афіцэраў (ваенспяцоў). У 1921 г. Троцкі ўзначальвае задушэнне Кранштацкага паўстання і накіроўвае армію на задушэнне сялянскіх паўстанняў. Імкнучыся зменшыць уплыў Троцкага ў партыі і дзяржаве, Ленін ставіць на адказныя пасады яго праціўнікаў — Рыгора Зіноўева, Льва Каменева і Іосіфа Сталіна. Пасля смерці Леніна гэтая «тройка» пры падтрымцы іншых дзеячаў партыі пачынае кампанію супраць Троцкага. 25 студзеня 1925 г. яго вызваляюць ад абавязкаў народнага камісара вайсковых і марскіх спраў ды старшыні рэўваенсавета СССР. Адхіліўшы Троцкага, Сталін пачаў кампанію супраць Зіноўева і Каменева. У 1926 г. складваецца блок Троцкі-Зіноўеў-Каменеў. На бок Сталіна становяцца сябры Палітбюро Мікалай Бухарын, Аляксей Рыкаў і Міхаіл Томскі. Іх незадавальненне выклікала тэорыя паскоранай індустрыялізацыі (звышіндустрыялізацыі), выпрацаваная Троцкім і яго аднадумцамі (гэтая тэорыя ў канцы 1920-х гг. будзе запазычаная і потым рэалізаваная сталіністамі). 23 кастрычніка 1926 г. Троцкі выведзены з Палітбюро. Пасля дэманстрацый, наладжаных 7 лістапада 1927 г. апазіцыяй, выведзены са складу Цэнтральнага Камітэта і выключаны з партыі. На пачатку 1928 г. адпраўлены ў ссылку ў Казахстан. У 1929 г. выдалены з СССР. Жыў пачаргова ў Турцыі, Францыі, Нарвегіі і Мексіцы. Аўтар устаноўчага маніфеста III (Камуністычнага) Інтэрнацыянала, ён у 1938 г. выступіў заснавальнікам IV Інтэрнацыянала. Яго палітычная, даследчыцкая і публіцыстычная дзейнасць не давала спакою Сталіну. 20 жніўня 1940 г. ён быў смяротна паранены савецкім агентам; памёр 21 жніўня.

Падрыхтоўка да друку і каментары *А. Сідарэвіча*

# ПОСЛЕДНИЙ ИМПЕРАТОРСКИЙ АРХИТЕКТОР СЕМЁН СИДОРЧУК

Имя архитектора Семёна Сидорчука (1882–1932) потихоньку возвращается в историю российской и украинской архитектуры, но пока почти неизвестно в Беларуси. Где-то года два тому назад, работая в Брестском областном архиве, я выписал личное дело городского архитектора Сидорчука, которое меня поразило: неизвестный мне мастер был фактически последним зодчим дореволюционного Царского Села. После я заглянул интернет, и обнаружилось, что на сайтах, посвященных городу Пушкину и его дворцам, архитектор Семён Сидорчук и его творения в Царском Селе упоминались часто, но биографических сведений о нём практически не было. Но вот недавно набрал в интернетовском поисковике фамилию «Сидорчук», и сразу попалась большая статья украинского исследователя Ольги Михайлишин об архитекторе-полешуке [2, с. 49–56]. Самым новым и интересным в этой статье были неизвестные мне сведения о волынском периоде жизни и творчества Семёна Сидорчука.

На мой взгляд, имеет смысл опубликовать документы брестского архива и кое-что уточнить в биографии талантливого архитектора. Тем более, что Ольга Михайлишин не касалась личной жизни зодчего. Начнём с его автобиографии, написанной на польском языке [3, л. 3]:

*Curicullum vitae*

*Семён Юлианович Сидорчук родился в 1882 году в Кобрине. После окончания реального училища в Вильне обучался техническим наукам в Институте гражданских инженеров в Петербурге. В 1907 году окончил институт с отличием (большая золотая медаль).*

*В 1909 году поступил на службу в дворцовое управление в Царском Селе, в котором работал до 1917 года.*

*Из значительных работ, выполненных за этот период, можно отметить:*

*1) строительство по собственному проекту стрельбища для лейб-гвардии гусарского полка (павильон в стиле ампир, железобетонные конструкции, стоимость 100 000 золотых рублей);*

*2) создание проекта и строительство военного музея в Царском Селе (железобетонные своды, центральное отопление, стоимость 360 000 золотых рублей);*

*3) церковь на воинском кладбище;*

*4) эксплуатационное управление и развитие (в течение 5 лет) канализации Царского Села, имевшей станцию биологического очищения стоков целого города (33 000 жителей);*

*5) проекты расширения дворцового (городского) госпиталя и выполнение расширения санатория для туберкулёзных детей в Царском Селе;*

*6) упорядочивание и план выравнивания парка в Царском Селе (800 га);*

*7) строительство нескольких частных вилл;*

*8) проектирование и строительство дорог и мостов в Царскосельском уезде (1911–1913 гг.);*

*9) проектирование и строительство армейских казарм и радиотелеграфической станции;*

*10) проектирование и строительство больничных и школьных зданий в уезде;*

*11) строительство и оборудование военных госпиталей и Красного Креста во время войны;*

*Подлинным чутьём художника он уловил сущность изубражаемых событий и показал их без навязчивости и рекламной крикливости.*

*А. В. Романовский не играет на сентиментальных и дешевых чувствах человека. Он затрагивает самые глубокие, благородные побуждения.*

*Творческий приём автора далёк от обязательного на Родине "соцреализма". [...] А. В. Романовский нашёл "себя", выработал свой "почерк". Он не боится для выражения своей мысли нарушить пропорции и, смело отбрасывая лишние детали, прибегать к обобщающей линии, не впадая, однако, в неоправданную стилизацию»*[19].

У гэты час Раманоўскі — сталы удзельнік аўстралійскіх мастацкіх выставаў. Апошняя з іх адбылася ў верасні 1955 г., калі выстаўляліся працы 20 найлепшым мясцовых мастакоў. На гэтай выставе асаблівую ўвагу наведнікаў прыцягвала праца Раманоўскага «Шэры дзень»[20]. Здавалася б, у нараджэнца Віцебска выдатныя перспектывы ў новай краіне…

Пры канцы 1955 г. у БІНіМаўскім часопісе «Конадні» нарэшце выйшаў матэрыял, прысвечаны жыццю і творчасці Аляксандра Раманоўскага (дагэтуль друкаваліся толькі асобныя малюнкі). Гэта быў некралог, які завяршаўся наступнымі словамі:

*«Творчасьць А. Раманоўскага апошніх гадоў паказвала нясупынны далейшы мастацкі рост, крышталізацыю й усталёўваньне свайго індывідуальнага мастацкага стылю, выяўляла далейшыя дасягненьні ў кірунку сынтэзы формы й удасканальненьня кампазыцыі, ішла ў кірунку пашырэньня тэматычнага кругавіду. Шмат абяцаў гэты нястрымны рост мастацкага таленту. Усе спадзяваньні абарвала, аднак, гэтак нечаканая, трагічная сьмерць»*[21].

12 кастрычніка 1955 г. Аляксандр Раманоўскі быў забіты, паводле наяўнай інфармацыі, сваёю каханкаю…

Лёс творчай спадчыны мастака невядомы. Адзіны ягоны альбом на сёння з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю не толькі ў Еўропе. У архіве БІНіМа ж завахаўся адзін з дасланых некалі ў Інстытут аўтарам скетчаў — аўтапартрэт.

*Наталля ГАРДЗІЕНКА*

---

[19] Русак А. По зову сердца // Посев. № 23 (474). 5 июня 1955.

[20] Р. М. Аляксандра Раманоўскі (1915–1955) // Конадні. № 4. 1955. С. 78.

[21] Тамсама.

# «А ДУМКІ ЛЯЦЕЛІ Ў ГРОДНА»: ЛІСТЫ ЗОСЬКІ ВЕРАС ДА АЛЯКСЕЯ ПЯТКЕВІЧА

Панарскі лес пад Вільняй павінен мець статус гісторыка-культурнай каштоўнасці — ён апеты ў знакамітым «Пане Тадэвушы». У ім бываў і сам аўтар паэмы ў бытнасць сваю студэнтам Віленскага ўніверсітэта — на філамацкіх патаемных сходках. Але ў творы лес аддадзены вялікаму князю — легендарнаму заснавальніку Вільні: «Калісьці Гедымін, палюючы ў Панарах, / адпачываў на шкуры пры агні на нарах / і гладзіў поўсць мядзведжую, закалыханы шумам / вячыстых дрэў»… Пішучы гэтыя радкі, Адам Міцкевіч, напэўна, у думках вяртаўся са свайго выгнання ў добра знаёмыя віленскія ваколіцы — «краіну дум сваіх».

А яшчэ ў Панарскім лесе, у глінабітнай, без усялякіх выгодаў хатцы, жыла Зоська Верас (1892–1991) — пісьменніца і зельніца, збіральніца словаў і зёлак, ахвярная працаўніца на маларасцяробленых лядах айчыннай культуры ды гісторыі. У міжваеннай Вільні яна выдавала і рэдагавала часопісы, складала слоўнікі, пісала ўспаміны пра самыя сфальшаваныя ў савецкай гістарыяграфіі гады (1917–1920-я). Выдадзеная ў 1985 г. яе адзіная кніжка «Каласкі» (замаскаваная пад дзіцячую) не дае нават прыблізнага ўяўлення пра яе асобу. Думаецца, не за гарамі той час, калі з варштатам Скарыны нарэшце сустрэнуцца яе бясцэнныя мемуары, яе лісты (а іх па самых сціплых падліках — больш за 6000!), і тады мы зразумеем жыццёвы подзвіг гэтай руплівіцы, якая пражыла амаль стагоддзе неспакойнага жыцця, аддадзенага да астатку Беларусі.

Народжаная на ўкраінскай Жытоміршчыне ў сям'і вайскоўца, большую частку свайго веку пражыўшы пад Вільняй, Зоська Верас усё жыццё заставалася патрыёткай Гародні і Гарадзеншчыны, адкуль паходзілі ўсе яе дзяды — па мячы і па кудзелі. «Мае думкі часта лятуць у Гродна — да ценяў дзядоў маіх, да ўспамінаў аб шчырай заўзятай працы ў Гродзенскім гуртку беларускай моладзі, дзе я стала на беларускую дарогу, па каторай іду ўжо 71 год», — пісала яна ў лісце да паэткі Дануты Бічэль. А ў адным з апошніх сваіх лістоў ужо амаль невідушчая Зоська Верас пыталася ў свайго адрасата: «Як там жыве маё Гродна?». Выведзеныя фламастарам буйныя непаслухмяныя літары распаўзаюцца па адмыслова разлінееным аркушы, іх ледзь можна разабраць… Вернасць гораду свайго маленства і юнацтва жыхарка Панарскага лесу захавала праз усё сваё доўгае жыццё, у лістах да гарадзенцаў называючы сябе «старой гродзенскай патрыёткай» або «гродзенскай душой на выгнанні».

Сярод дзесяці вядомых мне гарадзенскіх карэспандэнтаў Зоські Верас асаблівае месца займае прафесар Аляксей Пяткевіч. Іх аб'ядноўвала неспатольная цікавасць да гісторыі Гародні і Гарадзеншчыны. З падказкі сваёй нашмат старэйшай прыяцелькі Аляксей Міхайлавіч займаўся даследаваннем дзейнасці Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1914), апублікаваў у альманаху «Краю мой — Нёман» (Мінск, 1986) артыкул «З кагорты пачынальнікаў» — пра аднаго з актывістаў таго гуртка Язэпа Лявіцкага (літаратурны псеўданім — Юрка Снапко). Па прыродзе сваёй яны абое былі энцыклапедыстамі. Зоська Верас цягам усяго жыцця стварала ўласную рукапісную энцыклапедыю, якая складалася з жыццяпісаў забароненых за савецкім часам дзеячаў — Аркадзя Смоліча, Станіслава Грынкевіча, Міхася Забэйды-Суміцкага… Як яна парадавалася б, калі б паспела пабачыць «энцыклапедыю Пяткевіча» — дыхтоўны біяграфічны даведнік «Людзі культуры з Гродзеншчыны», які пабачыў свет у 2000-м.

Лісты Зоські Верас — каштоўны дакумент эпохі. Шкада, што да гэтай пары чытацкай увагі прычакалі толькі асобныя з іх, датычныя найперш біяграфіі Максіма Багдановіча. Няхай жа гэтая публікацыя, якая сталася магчымай дзякуючы прафесару Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аляксею Пяткевічу, будзе першым крокам у спасціжэнні спадчыны самой Зоскі Верас, якая заслугоўвае нашай удзячнай памяці.

*18 лістапада 1971 г., Вільня*

Паважаны Аляксей Міхайлавіч!

Сягодня мінула 34 гады ад дня сьмерці першага старшыні Горадзенскага гуртка бел[арускай] моладзі[1] Адама Бычкоўскага[2]. Ён быў і адным з арганізатараў гуртка.

Маю яго лісты і маю артыкул Пятра Ластаўкі[3] «Адвакат Адам Бычкоўскі» — да 30-годзьдзя яго сьмерці, напісаны ў 1967 г. П. Ластаўка меў надзею, што гэты артыкул будзе надрукаваны ў беластоцкай «Ніве». Але гэта была толькі абяцанка — не надрукавалі. У гэтым артыкуле гаворыцца аб працы адваката А. Бычкоўскага ў Варшаве ў апошнія гады перад сьмерцяй. Нябожчык і ў Варшаве працягіваў пачатую ў гуртку працу для Бацькаўшчыны. Маю сцэнічны твор А. Бычкоўкага «У сваты», напісаны ў Гродне ў 1910 г. Праўда, твор пакуль што не ў мяне, а ў Менску — у З. Пазьняка[4], які піша дысэртацыю на тэму тэатру. Я бы вельмі хацела, каб Вы, пішучы аб гуртку, асаблівую ўвагу зьвярнулі на асобу А. Бычкоўскага. Каб яго імя не было забыта.

Ня ведаю, ці Вы атрымалі мой ліст, які я пісала, атрымаўшы вернутыя матэр'ялы. Чакала Вашых запытаньняў, прыезду. Распрацоўка гісторыі гуртка для мяне важней за ўсё. Гэта радасьць — вярнуцца да маладосьці. Насколькі змагу знайсьці час, хачу напісаць асабістыя, не зьвязаныя з працай у беларускім руху, чыста прыватныя ўспаміны. Гэта будзе якраз тое, што Вас цікавіць.

Я вельмі моцна была зьвязаная з дзедавым фальваркам — Альхоўнікамі. Маю нават вершы (на жаль, па-польску), у якіх вылілася гарачае каханьне да роднай зямлі. Любіла коней, гаспадарку, жала, палола, прала, ткала не таму, што ад мяне гэтага вымагалі, а проста празь цікавасьць. Такі ўжо быў неспакойны дух дзіцяці.

У мяне вельмі разьвітая памяць узроку, і гэта памагае «бачыць» усю мінуўшчыну. Але хопіць хваліцца. Праўда, крыху не выпадае?

Чакаю весткі і сардэчна вітаю. Усяго добрага. *Л. Войцікава*.

*16 студзеня 1972 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

У такія маразы ня можа быць і гутаркі аб падарожы, нават каб Вы мелі вольны час. Тым больш што Вам пасьля хваробы трэба вельмі сьцерагчыся.

Я з прыемнасьцю буду адказываць Вам на ўсе чародныя пытаньні. Дакладна — насколькі змагу. Для мяне такі агляд дзён дзяцінства і маладосьці — гэта духовы адпачынак.

Мой бацька Антон Міхайлавіч Сівіцкі нарадзіўся ў Гродне прыблізна ў 1863 г. Тут правёў дзяцінства, скончыў гімназію. Далей вучыўся ў Маскве ў Юнкерскім вучылішчы. Падпаручнікам выехаў у полк на Украіну — у Мяджыбаж. Яго бацькі (мае дзяды) далей жылі ў Гродне (да сьмерці). Бацька ніколі не пакідаў кантакту з Гроднам. Любіў горад, ваколіцы, Нёман. Калі мне было 5–6 гадоў, вадзіў мяне на Каложу, плавалі мы лодкай па Нёмане.

Пасьля сьмерці бацькі я і маці вярнуліся на Бацькаўшчыну. Адзін год — 1908 — пражылі ў Сакольшчыне, у фальварку матчынага бацькі, а ў 1909 г. я паступіла адразу ў 6-ю клясу гімназіі ў Гродне. Пэнсія па бацьку была невялікая (памёр капітанам), таму маці пастаралася аб згоду дырэкцыі дзяржаўнай мужчынскай гімназіі трымаць на кватэры гімназістаў. Дазвол далі. І вось у 1910 г. нанялі кватэру — 5 пакояў — на Гараднічанскай вул., дом Будрыка (пакуль што нумару ня помню, здаецца, 4). Гэта і была наша кватэра.

Вучні былі розных клясаў — і старэйшых, і малодшых. Са старэйшых жылі па 2–3 гады беларусы: Калышка (нейкі час і яго сястра) ды Кунды: Эдмунд і яго сястра Стася. Гэта першастрэчныя Адама Бычкоўскага. З малодшых — мой далёкі сваяк і сястра кс[яндза] Ф. Грынкевіча[5]. (З ёю і цяпер карэспандую, хоць, на жаль, рана выйшла замуж за паляка і ўсё жыццё жыве ў Варшаве, дзеці яе — палякі. Але помніць гурток і рада ўспамінаць тыя часы.) Былі і яшчэ дзеці з 1–2 клясаў — не беларусы.

Калі кс. Грынкевіч адышоў ад гуртка, мы зьбіраліся выключна ў нас. Тут праводзіліся рэпэтыцыі, сходы і г. д. Да сябе забрала я і бібліятэку гуртка… Не было дня, каб апрача сваіх жыхароў (што жылі ў нас) не прыйшло яшчэ 2–3 сяброў. Маці мая ўсіх паіла гарбатай і прыймала як сваіх.

У нас адбівалася і аднаднёўка «Колас беларускай нівы». І дзіўнае нам спрыяла шчасьце! Нармальна такія зарэгістраваныя вучнёўскія кватэры час ад часу наведывалі г. зв. пэдалі, а ў нас ні разу ніхто ня быў! Так, відаць, верылі ў ляяльнасьць удавы капітана… Праўда, мы ўсё ж асьцерагаліся, і калі было асабліва мнагалюднае сабраньне, ставілі варту. Тады ўсялякія сходы, арганізацыі вучнёўскія былі строга забароненыя.

Я скончыла гімназію ў 1912 г., але яшчэ адну зіму, да вясны 1913 г., пражылі ў Гродне. Я мела карэпэтыцыі, крыху зарабляла. Тады і гурток яшчэ трымаўся.

Гімназія Баркоўскай, дзе я вучылася, была на рагу (пачатку) вул. Брыгідзкай — праціў касьцёла Фары — такі мураваны будынак з чырвонай цэглы. Падобна, гэта была камяніца, у каторай жыў кароль Стэфан Баторы[6]. Над вуліцай быў зроблены крыты пераход да касьцёла.

У 1953 г. там была нейкая школа чыгуначнікаў ці нешта падобнае. У 1968 г. гэты будынак стаяў на мейсцы. Вось назоваў вуліцаў па-цяперашняму я Вам ніяк падаць не магу — ня ведаю. Трэба Вам распытацца ў старых жыхароў.

У мяне такая думка: калі я дачакаю-дажыву да лета — прыехаць на дзень-два ў Гродна. Хачу паказаць горад свайму ўнуку, а тады паказала б Вам усе мейсцы, зьвязаныя з гуртком. Як думаеце?

Я памаленьку зьбіраю весткі аб некаторых сябрах гуртка. Пытаюся ў пляменьніка кс. Грынкевіча. Гэты пляменьнік — Казімір Грынкевіч — добры беларус, жыве ў Новым Двары. Я зь ім перапісываюся і аб некаторых гурткоўцах у яго магу даведацца. Аб Марысі Бобрык не пішу, бо маю шмат яе лістоў. Пазнаёміцеся зь ёю «асабіста». Аб Калышцы, хоць жыў у нас пару гадоў, нічога ня помню, нават скуль ён. Мала цікавы чалавек, мала дзейны, беспрынцыповы. Лабенец Хвэлька — з Новага Двара, аб ім распытаюся К. Грынкевіча. Ведаю адно, што ў 1918 г. выехаў у Савецкі Саюз. Спаткала я яго ў Менску на вакзале…

Абрамовіч[7] ніякіх вестак аб гуртку Вам ня дасьць. Быў у гуртку коратка — адну зіму. Пасьля з Гродна выехаў. Бацька яго — вайсковы лекар са Слуцка. Нават аб пачатку гуртка Абрамовіч мала помніць. Пішучы заканчэньне сваіх успамінаў аб І. Буйніцкім[8] (яшчэ гэта заканчэньне не друкавалася), такога аб гуртку наплёў! Шчасьце, што гэты разьдзел прыслаў мне (копію) — я проста спалохалася, каб не надрукавалі і, не пытаючыся згоды аўтара, каб ня траціць часу, адразу напісала спраставаньне ў Менск на імя Арсеня Сяргеевіча Ліса[9], а ён аддаў А. Сабалеўскаму[10]. Як бачыце, карысьці ў гэтым выпадку з Абрамовіча ня будзе. З. Абрамовіч у мяне ня быў і, на дзіва, ні адзін яго ліст, пісаны зь Менска, да мяне не дайшоў. Што зь Менска пісаў — паведамілі мяне людзі.

Пранук Эйсмант (паміж іншым, хрышчоны сын маёй бабкі — па матцы) — сын лесьніка (ці аб'ежджыка?). Жылі ў вёсцы Кусьцінцы Сакольскага павету (паміж Кузьніцай і Новым Дваром). Скончыў гімназію ў Гродне. Пасьля я яго страціла з вачэй.

Салянкі мелі дом… вуліцы ня помню. Бацька — нейкі ўрадовец. І дома гаварылі папольску, хоць належалі да гуртка і былі дзейнымі сябрамі, але пісалі да мяне па-польску.

Яны абедзьве былі шмат за ўсіх старэйшыя, ужо дарослыя асобы. Старэйшая зь іх, Анна, выехала ў Манахіум на нейкія курсы, там пазнаёмілася са студэнтам-расейцам, выйшла за яго замуж, вельмі нешчасьліва. Скончыла самагубствам у Вільні, тут пахаваная. Магілу даглядаем мы з сынам або ўнукам. Другая, Марыя, падобна, памёрла ў Самаркандзе.

Аб Эйсмантах пагаворым, раскажу больш. Пісаць доўга. Ды і да ГГБМ не адносіцца. Вось, здаецца, адказала на ўсе Вашыя пытаньні. Чакаю далейшых — пытайцеся…

Моцна сябе віню, што не старалася даць хоць маленькую вестку аб ГГБМ у энцыклапэдыю. Ці прайшла б — гэта другая справа. Артыкул аб З. Верас моцна скарочаны. Але ці было там аб ГГБМ — сапраўды ня помню. І. У. Саламевіч[11] прысылаў мне артыкул разы тры — дзеля перагляду. Бачыце, каб мае ўспаміны аб ГГБМ былі надрукаваныя ў «ЛіМе» або хоць у беластоцкай «Ніве»… Пасылала і сюды, і туды…

Яшчэ адно глупства зрабіла — не падала ў БелСЭ аб «Беларускай борці»[12]. Мая віна. Цяпер — каб не прапусьціць літару *П* і даць аб Пчалярскім таварыстве «Пчала». Мо прапусьцяць? Падумаўшы, як абышліся ў «ЛіМе» з Вашым артыкулам і інфармацыямі аб вечарах у інстытуце, сапраўды траціцца ўсялякая надзея, каб матэр'ялы, якія зьбіраеце аб ГГБМ, прайшлі ў Вашай кніжцы. Ці не дарэмная Ваша праца?

Не зьмясьцілі інфармацыяў аб тым, што робіцца цяпер, і то ў чэсьць Я. Купалы… А як жа можна прызнаць, што нешта рабілася ў той далёкі час перад Кастрычнікам?.. Там мог быць толькі хаос і цемра…

Нічога не ўспамінаеце, ці ў Вас сьвяткавалі 80-я ўгодкі Максіма Багдановіча. Як сёлета сабралася шмат 80-х гадавін нараджэньня! І Максім Б., і Я. Купала, і Б. Тарашкевіч[13], і Р. Шырма[14]… Хоць, праўда, угодкі М. Багдановіча былі ў леташнім годзе.

Напісала шмат. Чытаць Вам абрыдне. Я чуюся ня надта добра. Вельмі баліць галава. Гэта ў мяне ад сэрца. Сын рабіў мне ўколы. Маю заўсёды поўны асартымэнт патрэбных лякарстваў, але гады бяруць сваё. Ды яшчэ гэтыя маразы. Хоць мае апекуны — сын і дачка — робяць усё магчымае, каб мне было цёпла. Сьцеражыцеся маразоў і не хварэйце.

Усяго Вам добрага. *Л. Войцікава.*

А катэдра ў Вас немалая. Калі ў 1950–53 г. мая дачка там працавала, час ад часу прыяжджаў зь Менска Пятровіч[15].

*14 лютага 1972 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Хоць са спазьненьнем, але з прыемнасьцю падзялюся з Вамі ўсім, што ведаю і што помню. Насамперад мусім дамовіцца, што пад словам *Гродзеншчына* будзем лічыць не цяперашнюю Гродзенскую вобласьць, а *губэрню*, у якую якраз і ўваходзілі паветы (паміж іншымі) Сакольскі і Дуброўскі — якраз тое, што сяньня знаходзіцца за мяжой, а тады было найбліжэй Гродна, лічачы па той бок Нёмана, пад Кузьніцу, Саколку. На жаль, тое, што за Нёманам, Вам мала вядомае, і таму Вам цяжкавата зразумець мае сувязі.

Ну, але пастараюся ўсё выясьніць. Фальварак майго дзеда — матчынага бацькі — ляжаў 18 вёрстаў ад Гродна — па шашы Гродна — Аўгустова — Сувалкі. Там я з маці праводзіла кожнае лета 2–3 месяцы. Першы раз прывязьлі мяне зь Мяджыбажа, як мне было 6 месяцаў! Зразумела, што ў працягу лета па некалькі разоў адведывалі мы з маці і маіх гродзенскіх дзядоў (бацькоў майго бацькі). Як бачыце, сувязь з Гродзеншчынай ды Гроднам была самая цесная і трывалая.

Мушу выясьніць, чаму так скlаліся абставіны і нашы рэгулярныя падарожы. Мястэчка Мяджыбаж, дзе бацька быў у войску і дзе я радзілася, мела ў сваім раёне вялікія

роўныя палі, куды летам на муштру зьбіралася шмат войска: пяхоты і кавалерыі. Мястэчка малое, напаўнялася пылам, гармідарам. Атмасфэра не зусім прыемная ды здаровая. Таму мы ехалі да сваіх па сьвежае паветра, малако, фрукты і г. д. Бацька час ад часу атрымліваў водпуск і ехаў хоць накоратка з намі. І так ужо выйшла, што для мяне Гродзеншчына была *бацькаўшчынай*, а Украіна — чужой старонкай. Калі-небудзь пазнаёмлю Вас са сваімі вершамі на гэтую тэму.

Пытаецеся, як гэта здарылася, што найбольш сябраў ГГБМ было, як у нас казалі, з нашага боку? Помню я іх таму, што гэта была моладзь самая актыўная. Бачыце, там у нас пад Сухаволяй, Новым Дваром, Кузьніцай вёскі былі пераважна каталіцкія, і яны, хоць веру сваю называлі польскай, сябе не называлі палякамі, а тутэйшымі і мову сваю — тутэйшай. І як бы розныя цяперашнія гісторыкі ні круцілі, абсалютна не былі спалянізаваныя. Моцна трымаліся сваёй мовы і сваіх звычаяў. А гэтага няможна сказаць аб беларусах праваслаўных. Бо апошніх царкоўныя школы ў таварыстве з жандармамі здолелі пераканаць, што царква і руская мова неразлучныя.

Найлепшым прыкладам — наш ГГБМ. Усе сябры — і старэйшыя, і самыя малодшыя — адразу прыходзілі (пераважна) сьвядомымі і з добрай мовай, ды ішлі ахвотна. А ўсяго 2-х удалося ўцягнуць праваслаўных — яны па-беларуску ні слова не гаварылі і трымаліся здалёк ад усіх. А чаму? Цяжка зразумець, бо ў нас тэма рэлігійная ніколі не закраналася, хоць кіраўнік быў духоўнай асобай.

Вось тут можна перайсьці да асобы кс. Франца Грынкевіча. Ён паходзіў зь мястэчка Новы Двор (вёрстаў 20 ад Гродна, 3 — ад нашага фальварку Альхоўнікі). Бацькі яго — старыя Грынкевічы — гаварылі па-беларуску, асабліва матка, і да канца жыцьця інакш не гаварылі. Так што і сын вынес з хаты пашану да роднай мовы. Скончыў гімназію (дзе — даведаюся ў яго сястры, бо ня помню, і даты таксама), пасьля духоўную сэмінарыю ў Вільні, далей — духоўную акадэмію ў Пецярбургу, і пасьля яшчэ вучыўся ў Інсбруку. Арганізуючы гурток (лепш — ён кінуў такую думку і памог у арганізацыі, бо арганізаваліся мы самі пры яго помачы), напэўна, ніякіх пабочных мэтаў ён ня меў, тым больш што ня ўсе мы былі яго вучнямі. У шмат якіх школах былі іншыя капэляны, якія вельмі варожа адносіліся да ГГБМ і да Фр. Грынкевіча.

Спачатку, калі кс. Ф. Грынкевіч жыў пры Бэрнардынах, мы там зьбіраліся і на лекцыі (вёў сам кіраўнік: геаграфію Беларусі, гісторыю, літаратуру), і на паседжаньні. Але пасьля ён быў назначаны капэлянам жаночага кляштару Брыгідкі. Першапачаткова мы і там зьбіраліся, але нядоўга, бо кіраўнічка (па-польску *przeorysza*) кляштару паказала свае шавіністычныя рожкі. Пачаліся вымоўкі Ф. Грынкевічу — нават зь Віленскай курыі. Штораз большы націск, просьбы. Вось мы і перасталі туды хадзіць, але ў хуткім часе кс. Фран[цішак] і наагул (афіцыяльна) ад нас адышоў. Пакуль я ня выехала, так і было.

Пасьля мне ў Варшаву А. Зянюк[16] пісаў, што кс. Францішак паклікаў сябраў гуртка і запрапанаваў дадаць да нашай праграмы яшчэ пункт аб самавыхаваньні (маральным). Але вайна і гэтаму палажыла канец. Аб далейшым запытаюся ў яго сястры. Памёр у Гродне, пахаваны направа ад капліцы.

Мушу дадаць, што малодшы брат кс. Грынкевіча — доктар Станіслаў[17] — шчыры беларус-патрыёт. Як доктар і чалавек, заслужыў на самую лепшую памяць. У свой, цяжкі для ўсіх нас час, быў зь Вільні вывезены. Далёка вывезьці не пасьпелі — памёр у Менску ў турме. Наша сям'я, ад дзеда пачынаючы, зь сям'ёй Грынкевічаў цесна зьвязаная. У Гродне быў яшчэ адзін кс. беларус — Родзька[18]. Ды і ня так мала іх было.

Цяпер кніжкі: у бібліятэцы гуртка былі ўсе беларускія, якія толькі выйшлі. 3 тамы М. Федароўскага[19] «Lud Białoruski», быў слоўнік Насовіча[20], быў Карскі[21]. У маім нататнічку значыцца: хто і што ўзяў на прадажу. Ёсьць запіс: выпісана 366 экзэмпляраў.

Цяпер знайшла цэнную паперку, падпісаную адміністратарам «Нашай нівы» Баляславам Пачопкам[22], у якой перасылае дублікат паквітаваньня на высланыя 100 экз. календара. На жаль, німа даты. Але гэта магло быць у 1910–11 гадах. Наагул, у маім бляк-ноце шмат цікавага. Там толькі першыя старонкі замазаныя, а далей усё ясна. А вось перапісываць ня маю часу.

Цяпер прынясьлі мне вялікі нарыс аб Беларускім музэі імя І. Луцкевіча[23]. Мушу сьпешна прачытаць, а чытаць цяжка, бо гэта рукапіс ды яшчэ чарнавік.

Сэрдэчна дзякую за запросіны. Трэба мець надзею, што дачакаю лета — а вельмі-вельмі хочацца яшчэ раз глянуць на Нёман. Толькі хадзіць трэба, гледзячы пад ногі, а не на чужаземныя шыльды ды плякаты. Адно што з начлегам трэба неяк інакш прыдумаць. Вы ж ведаеце, што я дрэнна чую, і самой мне ехаць цяжка. Мушу мець апекуна ў асобе майго ўнука. Зразумела, дзьве асобы — гэта для Вас завялікі клопат. Час яшчэ ёсьць, нешта прыдумаем. Ня ведаю нават, калі б удалося прыехаць. Ва ўнука сэсія ў чэрвені, да якой даты — няведама, а пасьля едуць на месяц на работу. Калі і куды — таксама яшчэ няведама. Ды і ў Вас таксама сэсія. Адным словам, пабачым. Абы дачакаць.

Яшчэ адно Вашае пытаньне — аб бел[арускіх] кніжках у гродзенскіх крамах. Не, не прадаваліся нідзе. У 1913–14 гадах, калі я была ў Варшаве на курсах, В. Ластоўскі[24] пісаў мне, пытаўся, як я думаю, ці ўдасца ў Гродне адчыніць беларускую кнігарню? (Ліст гэты маю.) Гэта быў праект. Зьдзейсьніць ці нават паспрабаваць не пазволіла вайна.

Пакуль што, здаецца, усё. Ага, К. Грынкевіч прыслаў мне некалькі вестак аб трох сябрах ГГБМ, аб іх долі, іх сьмерці.

Усяго добрага. Чакаю далейшай сэрыі пытаньняў. Вашай сям’і — прывітаньне.

*Л. Войцікава.*

*3 красавіка 1972 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Дзякую за ліст. Хацела зараз адказаць, але ўсё нядобра чуюся. Цэлы дзень кратаюся каля хатняй работы, а ўвечары цяжка сядзець. Моцна дакучае катар страўніка. Дастаў сын лякарства (булгарскае), якое летась памагала. Пачала піць. Пакуль што яшчэ паправы не відаць.

Вельмі благая пагода дрэнна адбіваецца на цэлым арганізме. Што да візыты ў Гродна — неяк пару дзянькоў вырвем у канцы чэрвеня або ў ліпні. Найхутчэй — з унукам. Сардэчна дзякуем за запросіны.

Значыцца, Ваша дачка перажывае тое самае, што мой унук летась… Усялякія экзаміны, асабліва ўступныя — гэта вялікая лятарэя. Незнаёмыя выкладчыкі, незнаёмыя вымаганьні… Ня дзіва, што моладзь нэрвуецца.

Гэта добра, што маеце шмат разнаякай працы. Я некалісь такі навал работы любіла. Тады чалавек адчувае, што жыве і нашто жыве. Толькі вось крыўдна было б, каб Вашага артыкулу не надрукавалі. Такія крытычныя артыкулы ой як патрэбныя! Бо з мовай сапраўды штораз горш. Часта німа цярплівасьці чытаць.

У «ЛіМе» быў маленькі артыкул М. Ермаловіча[25]. І гэта карысна. Але ці хто зьверне ўвагу? Ці ня будзе гэта гарох аб сьценку?

Маю некалькі новых вестак (сумных) аб сябрах ГГБМ. Зьбіраецца штораз больш. Усё натую ў нататніку, каб пасьля не шукаць у лістах. Але цяпер адказываю на тое, што Вас цікавіць.

М. Краўцова[26] (Косьцевіча) я ведала вельмі мала, і амаль нічога аб ім не магу сказаць. Пачала ўжо зьбіраць весткі ў людзей. Мо што набярэцца. На яго плюс магу залічыць адно: ён, як і некаторыя іншыя беларусы (пасол Ф. Ярэміч[27] і бухгальтар Беларускага каапэратыўнага банку Ігнат Біндзюк), быў жанаты з варшавянкай. І ў той час, калі ў сям'і пасла Я. і бухгальтара Б. запанавала польская мова, у Косьцевіча — наадварот! Жонка навучылася добра гаварыць па-беларуску і гаварыла мовай мужа доўга пасьля, як ён загінуў. Якраз як яна асталася адна (вярнулася зь нямецкага канцлягеру), я зь ёю добра пазнаёмілася, і мы даволі часта бачыліся. Памёрла яна пару гадоў таму, зусім самотная. Дзяцей у іх не было. А ў апошнія гады яна неяк адчуралася ад людзей — нікога не хацела бачыць, і я ў яе перастала бываць.

Проста не прыпамінаю, дзе і калі М. К[осьцеві]ч працаваў. Ведаю адно, што матэр'яльна ў іх было вельмі блага. Падрабязна — іншым разам, бо гэта доўгая гісторыя… А ці не прабавалі Вы здабыць якія весткі аб М. К[осьцеві]чу ад др. Марцінчыка[28]? Помню два факты. Я зь ім спаткалася 1–2 разы ў 1924 г., калі ён рабіў карэкту майго «Батанічнага слоўніка». Я зрабіла яму ўвагу, што аставіў памылкі ў лацінскіх назовах. Ён адказаў, што лаціны ня ведае. Адказ ня вельмі дарэчы, бо трэба было толькі ўважна чытаць рукапіс.

Ведаю, што ў 1925 ці 26 г. ён сядзеў на Лукішках. За што — ня помню. А я ў той час насіла кожны месяц дапамогу яго жонцы, якая нідзе не працавала, чым выклікала абурэньне С. Рака-Міхайлоўскага[29]. Ён кожны раз, даючы мне грошы (для жонкі К[осьцеві]ча), казаў: «Прыймаць дапамогу, будучы маладой і здаровай жанчынай, — проста амаральна». У канцы я зазлавала і сказала: «Нашто Вы мне кожны раз гэта гаворыце? Няўжо думаеце, што я ёй Вашыя словы паўтару?»

Што да хаўтураў Эл. Ажэшка[30] — помню добра, бо я сама была і разам з моладзьдзю трымала ланцуг бясьпекі, які стараўся ўстрымаць наплыў публікі з ходнікаў на вуліцу, дзе праходзіў хаўтурны караван, вянкі, дэлегацыі. Справа была цяжкая, бо натоўп аграмадны, стрымліваць было вельмі трудна.

Недзе пісалі, што моладзі вучнёўскай было забаронена прыймаць удзел у хаўтурах. Можа, гэта тычылася ўрадовых школаў? Нічога не магу прыпомніць… Я і мае каляжанкі вучыліся ў прыватнай гімназіі і ўсе на хаўтурах былі. Я ўжо пыталася аб гэтым факце свайго сваяка, але ён тады меў гадоў 13–14 і ня помніць.

Пасьля хаўтураў дом Э. Ажэшка быў нейкі час адчынены, і можна было аглядаць яе памяшканьне. Разумеецца, я там была. Умэбляваньне вельмі скромнае. Увагу зварочвалі вянкі і букеты на сьценах — з засушанага васеньняга лісьця. Сама пісьменьніца лісьцё зьбірала, сушыла, рабіла цікавыя кампазыцыі. А я, праўду сказаць, магла хоць крыху пазнаёміцца зь пісьменьніцай. Бо далёкая сваячка (пані Каляртова) маёй бабкі па бацьку была знаёмая зь ёю і, як я чула, часта зь пісьменьніцай хадзіла па мяшчанскіх і жыдоўскіх хатах у пошуках тыпаў. Праўда, я ў той час была малая…

А вось як гэта гурткоўцам не прыйшло ў галаву пайсьці да яе, выказаць словы пашаны? Цяжка сабе выбачыць такую няўвагу… Відаць, замала ведалі аб яе сувязі, напрыклад, з Багушэвічам[31], не ўяўлялі значэньня. Эх, маладосьць — дурнасьць. Сколькі памылак…

Можа, што даведаюся аб М. К[осьцеві]чу — напішу. Пакуль што бывайце! Усяго найлепшага. Прывітаньне Вашай сям'і.

*Л. Войцікава.*

P. S. Перад тым, як я зьбяруся ў Гродна, думаю, што Вам удасца прыехаць да нас.

*30 лістапада 1972 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Вось ужо два тыдні прайшло, як я атрымала Ваш ліст. Рада была, чытаючы, што Вы па-належнаму ацанілі скарочаньне ўспамінаў аб ГГБМ. Толькі не магу згадзіцца, што «ў публікацыі больш радаснага, чым сумнага». Што добрага ў тым, што моладзь прачытае такую публікацыю? Там жа амаль нічога не асталося ад дзейнасьці гуртка! Тры спэктаклі (першы, у Горадні, выкінулі), дзіцячы спэктакль і ёлка на вёсцы — гэта ўсё. А дзе бібліятэка, дзе летнія работы сяброў, дзе сувязь з выдавецтвамі? Нічога німа. Ці дзеля трох спэктакляў варта было арганізоўваць гурток? Як кажуць — курам на сьмех… Ня вельмі добра падумае моладзь цяперашняя аб такой «рабоце»…

Стараньне аб публікацыі ўспамінаў рабіў З. Пазьняк. Вось што ён мне піша: «Калі выйшлі Вашыя ўспаміны ў скарочаным і, як я лічу, папсаваным выглядзе, я быў ня тое што ўражаны, а проста зусім разгублены. Мне сто разоў абяцалі, што надрукуюць поўнасьцю, не папраўляць і ня выкінуць нічога. Я паверыў. Але вычытаць карэкту мяне не пазвалі (а то б не пусьціў) — і вось вынік! Не апраўдваюся, бо вінаваты. Трэба было ня злазіць зь іхняга карку. Але абяцалі такія харошыя і паважаныя мною людзі. Вось якая справа. Проста ашукалі».

Усё ж я хацела гэты нумар «Маладосьці» таму-сяму паслаць. (Дачка з мужам езьдзілі ў той час у Радашкавічы, Маладэчна і Менск і купілі некалькі экзэмпляраў.) Але С. Новік-Пяюн[32] мяне апярэдзіў і сам якраз тым асобам разаслаў. Але каб было ясна, што рэдакцыя зрабіла, дадаў да кожнага экзэмпляра перапісаную на машынцы копію арыгінала. Камэнтарыяў, лічу, ня трэба.

Што да нелегальнасьці гуртка, справа такая: у той час вучні гімназіяў і іншых сярэдніх школаў ня мелі права арганізоўваць і належаць да гурткоў, таварыстваў і г. д. А на розныя імпрэзы, вечарыны, спэктаклі і інш. трэба было мець дазвол ад мясцовай паліцыі. Мы браць дазволаў не маглі, бо афіцыяльна як гурток не існавалі. У горадзе рабілі спэктаклі пад фірмай імянінаў гаспадароў кватэры, ну а на вёсцы — ужо зусім нелегальна. Трупа І. Буйніцкага заўсёды прасіла дазволу. Думаю, што і іншыя — таксама. Але гэта не былі вучні. Іх становішча было зусім іншае.

Прайшлі ўжо і Коласаўскія сьвяты. У Вас, хіба, часу больш? Я памаленьку рыхтую матэр’ялы да ўспамінаў віленскага пэрыяду. Бяда толькі, што мокрае надвор’е выклікае ў мяне радзікуліт. Сільныя болі ў крыжы не даюць сядзець. Як ляжу — баліць менш або зусім перастае. А як тут пісаць, лежачы… Раблю нататкі і чакаю лепшай пагоды.

Усяго Вам найлепшага! Шчырае прывітаньне Вашай жонцы. *Л. Войцікава.*

*9 лютага 1980 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Ня пішаце — значыцца, мае ўспаміны аб ГГБМ прапалі… Перапіска мая з др. Ігнатовічам[33] спынілася. Відаць, яму *адтуль* пісаць цяжка.

Артыкул «Беларуская борць і народная мэдыцына» др. Ігнатовіча таксама недзе ў рэдакцыі «Нёмана» ляжыць нечапаны. Адным словам — не шанцуе.

Але ў мяне важнейшая справа. Вы, напэўна, «Беларускі каляндар» на 1980 год з Беластока атрымалі і артыкул А. Бэргмановай[34] аб С. Раку-Міхайлоўскім чыталі. Магчыма, захочаце пры нагодзе гаварыць аб ім з Вашымі студэнтамі, таму сьпяшаюся пазнаёміць Вас з тымі памылкамі, якія яна пазволіла сабе ўставіць у артыкул. Яна мяне пыталася аб часе, калі Рак-Міхайлоўскі зь сям’ёй жыў у Гродне — 1919-ты, 20-ты, 21-шы гады. Я ёй

адказала, што назову вуліцы ня помню, але аб'ясьніла раён, дзе яна знаходзілася. І дадала, што сям'я Рака-Міхайлоўскага жыла разам са Смолічамі[35] (жонка А. Смоліча Аляксандра выкладала ў Гродзенскай Беларускай гімназіі беларускую мову і літаратуру). Тым часам у А. Бэргмановай нейкім цудам *Смолічы* зрабіліся *Лёсікамі*[36]! Апошнія ніколі ў Гродне не былі.

Далей, ужо з часу працы Рака-Міхайлоўскага ў Вільні, піша, што ён *адзін* адказываў за выдавецтвы грамадаўскай прэсы — выпраўляў матэр'ялы, хадзіў у друкарню… І ніякага дачыненьня ня меў да гэтай справы А. Луцкевіч[37]…

То чаму ж, калі я пераехала ў Вільню ў лістападзе 1923 г. і спаткалася з Ракам-Міхайлоўскім (добрым маім знаёмым зь Менска) у «Беларускай кнігарні», то ён не запрапанаваў мне ад сябе асабіста працы ў рэдакцыі, а сказаў: «Ідзем да А. Луцкевіча, пагаворым».

А другі раз, у 1925 г., калі я запрапанавала выдаваць раз у месяц да грамадаўскіх газэтаў «Гаспадарчы дадатак» і запыталася Рака-Міхайлоўскага, ці гэта магчыма, ён зноў сказаў: «Пайдзем да Антона Л[уцкевіча]». Значыцца, А. Л[уцкевіч] не стаяў збоку і ў выдавецтве голас меў. А Рак-Міхайлоўскі ня быў поўным гаспадаром. Ды і ўсе сходкі-нарады па выдавецтву грамадаўскай прэсы адбываліся на Віленскай, 8 — у кватэры А. Луцкевіча.

Чаму ж А. Бэргман маніць? Скуль узяла такія весткі? Ці не апіраецца яна на «ўспаміны» сына Максіма Бурсэвіча[38] — Ігара? Помніце, я Вам аб яго «ўспамінах» гаварыла, а мо і паказывала. Калі А. Бэргман у кароткім артыкуле ў «Ніве» аб М. Бурсэвічу напісала і пахвалілася, што знайшла яго дачку і сына, я адразу падумала, што з гэтага нічога добрага ня будзе.

Мне калісьці пісаў Мікалай Іванавіч Ермаловіч: «Да чаго ж сфальшавалі нашу гісторыю! І жыцьця ня хопіць, каб унясьці крыху яснасьці». Тое самае робіцца і цяпер.

Я вельмі шкадую, што пачала адказываць на яе пытаньні і тым самым быццам прыймала ўдзел у яе памылках. Ужо ў «Rzeczy o B. Taraszkiewiczu»[39] яна наблытала, што далей не ідзе, а цяпер працягіваецца тое самае… Хоць бы нарэшці перастала пісаць! Быў бы спакой. А ён мне вельмі патрэбны. Чуюся вельмі нядобра і ўжо проста ня ведаю, што рабіць. На бяду, столькі сьнегу, што нават доктара німа як выклікаць. Але нічога, неяк будзе.

Знойдзеце хвіліну — адгукніцеся. Буду рада. Усяго добрага Вам і цэлай Вашай сям'і. Са шчырым прывітаньнем — *Л. Войцікава.*

P. S. Мушу дадаць, што знайшоўся адзін з самых малодшых сяброў Гродзенскага гуртка. Піша мне сардэчныя лісты. Але рэдка, бо ён аж на Флёрыдзе[40]. Але ёсьць з кім паўспамінаць сяброў гуртка.

*20 кастрычніка 1980 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Дзякую, што адклікнуліся. Ліст дайшоў вельмі хутка, адразу адказываю. З маімі прозьвішчамі і псэўданімам круцяць, як хочуць, хоць я ўжо ня раз зьвяртала ўвагу. Яшчэ горш тое, што нашы пісьменьнікі, нават такія паважаныя, як А. А. Лойка[41], ня вельмі дбаюць аб дакладнасьць. Яго (А. Лойкі) «Гісторыю літаратуры» маю, нават 2 экз. Адзін нехта прыслаў, а другі прывёз сам аўтар — на ўрадзіны. Прыяжджаў разам зь Янкам Саламевічам. Я толькі пасьля іх ад'езду агледзелася, што не сказала аўтару аб яго памылковых сказах аб ГГБМ. Называе яго Таварыствам аматараў драматургіі і арганізацыю прыпісывае мне…

Я была сябрам арганізацыйнага сходу, але не ініцыятарам ды арганізатарам. І гэта ў «Гісторыі літаратуры» для студэнтаў! І як тут верыць такім «гісторыям»? Паміж іншым, адзін лішні экзэмпляр гэтай кніжкі высылаю ўнучцы Ядвігіна Ш.[42].

Што памяць А. Уласава[43] трэба адзначыць — гэта справа абавязковая. Але перадусім трэба напісаць да роднай пляменьніцы — Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай[44]. Са свайго боку магу напісаць жменьку ўспамінаў, з чаго той, хто будзе апрацоўваць матэр'ял, возьме факты, якія будуць таго варты. Да жонкі А. Уласава пісаць *ня буду* і нікому ня раю зь ёю зьвязывацца. Маю ўжо яе эледэрат — піша глупствы…

Да яе ўжо даўна пісаў Новік-Пяюн. Яна яму адказала (зразумела — па-расейску). Копію яе ліста Новік мне прыслаў — маю. Я Уласава ведаю з «Нашай нівы», пасьля тры гады разам працавалі ў Менску, а яшчэ пазьней спатыкаліся ў Вільні, як ён ужо быў сэнатарам. Калі трэба, магу аб ім напісаць не як аб дзеячу, не аб яго паглядах, проста як аб чалавеку ў штодзённым жыцьці.

Ёсьць альбом «Радашкаўская Беларуская гімназія». Аб гімназіі, яе арганізаваньні піша Вера Андрэеўна. Яна цяпер наракае на сваю памяць, так што артыкул у альбоме можа быць прыдатны. Я, праўду кажучы, не зусім упэўненая, але здаецца, што як арганізавалася гімназія, то А. Уласаў яшчэ ня быў жанаты, ці, праўдзівей, яго яшчэ не ажанілі…

Вельмі мне хочацца, каб Вам жаданы прысуд адбыўся як мага хутчэй. Спакайней мне будзе. Бываюць дні, што чуюся вельмі дрэнна, а тады нэрвуюся, што ня ўсё выканана як трэба.

Ці Вы знаёмыя з мастаком Вячаславам Міхайлавічам Целешам[45]? Ён таксама зьбірае матэр'ялы аб «маёй Гродзеншчыне», як кажа сам. Вось дзеля гэтай нашай Гродзеншчыны мы зь ім неяк пасябравалі.

А я Вас чакаю яшчэ з аднае прычыны. Др. Ігнатовіч вельмі хацеў здабыць копію майго «Батанічнага слоўніка» для музэю Гродзенскага інстытуту мэдыцыны. Доўга гэта трывала, але нарэшце копію маю. Праз пошту адсылаць не хачу, бо можа папасьці ў іншыя рукі. Таму хачу прасіць Вас узяць яе ў мяне і аддаць у Інстытут мэдыцыны. У Менску ў Акадэміі навук зрабілі 3 копіі. Адну атрымаў У. Караткевіч[46], другую ўзяў сабе Новік, а трэцюю прыслалі мне для Гродна. Можа, Новіку яна і ня вельмі патрэбная, але пратэставаць не магу, бо каб не яго захады ў Лідзіі Іванаўны Збралевіч[47], то наагул нічога не зрабілася б.

Апошні час я толькі тое і раблю, што пішу лісты. Пішу, пішу, а колькасьць лістоў да адказу не памяншаецца. Знача, німа ўжо таго спрыту, што раней… Але гэта, хіба, нікога ня зьдзівіць.

Як цяпер маецца пані Марыя? А як гадуецца ўнук? Усім усяго найлепшага! *Л. Войцікава.*

*1 студзеня 1982 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Дзякую за ліст, за весткі аб Багдановіцкім сьвяце ў Гродне. Зь Менска маю цэлае бярэмя газэтаў з артыкуламі аб вечарах, канцэртах, выстаўках… Зрабіла на іх спэцыяльную папку. Там і розныя, сапраўды прыгожа выкананыя запросіны, і здымкі, і паштоўкі. Вось са здымкамі — чыстае гора. Зрабілі нейкі мантаж з розных здымкаў, і Н. Ватацы[48] лічыць, што гэта самы лепшы, найбольш падобны і г. д. А яна ж Багдановіча ня бачыла! А я яго вельмі добра помню, і для мяне Максім самы падобны — на здымку, што выняты з групы, апублікаванай у газ. «Голос» у 1915. Такім ён быў і ў 1916 г. у Менску. Яны — багдановічазнаўцы (з музэя) — прызнаць гэтага ня хочуць. А мастакі? Кожны малюе па-свояму.

Апошняя беластоцкая «Ніва» прыйшла да нас у лістападзе, здаецца, № 29. У якіх нумарах былі артыкулы аб І. Луцкевічу[49] — ня помню, бо іх пазабіраў Лявон[50] да сябе. Маю надзею, што верне, і камплект за 1981 г. будзе поўны. Хоць і не зусім, бо некаторыя нумары не дайшлі. А што цяпер «Ніва» не выходзіць — гэта так. Наш Слаўка[51] заўсёды слухае радыё — падзеі ў Польшчы. Кажа, што там цяпер выходзяць толькі 2 газэты — «Trybuna ludu» і «Zolnierz wolnosci». Нават жаночых — «Przyjacjolka Gospodyni», «Kobieta i życe» — німа.

Я ўжо даўна вельмі — месяцы два — ня маю вестак з Польшчы ад сваякоў. І вельмі непакоюся. Толькі нейкім цудам праскочыў адзін ліст зь Беластоку ад маёй далёкай сваячкі, і то з Калядным аплаткам! Было чым падзяліцца, як гэта ў нас у звычаі.

Цікава, ці ў Беластоку выдалі сёлета «Беларускі каляндар»? А мы так яго чакалі. Там меўся быць вялікі нарыс Лявона аб І. Луцкевічу — да яго 100-годзьдзя, і мае ўспаміны «Беларускае каапэратыўнае т-ва “Пчала” і яго орган “Беларуская борць”». Але калі нават і выйшаў каляндар, то мы яго не дастанем. Хіба што перахаваюць да лепшага часу. Калі нічога ня зьменіцца, то і 100-годзьдзе нараджэньня І. Луцкевіча ня зможам адзначыць.

Цяпер пераходжу да галоўнага. Пытаецеся, ці я зьвярнула ўвагу на публікацыю А. Лойкі[52]? Ня толькі зьвярнула, але проста перахварэла, цэлую ноч ня спала. Ведаеце, мне ўжо тры месяцы на 90 год, а я і цяпер не магу абыякава аднясьціся да гэтакіх зьяваў. Ад гэтага агортвае чалавека і злосьць, і боль. А найгорш тое, што зарэагаваць адкрыта, публічна немагчыма, бо ніхто крытыкі «прафэсара» не дапусьціць.

Вельмі крытычна, з абурэньнем аднёсься да публікацыі С. Х. Александровіч[53]. Вядома, у лісьце да мяне. Яшчэ хіба не адзін чалавек абурыцца, але ўсе — у чатыры вокі, а выступіць, скрытыкаваць, не дапусьціць да друку кніжкай — ніхто ня зможа. І пойдзе ў сьвет несусьветная брахня. А пасьля і ўхвальныя рэцэнзіі зьявяцца… Вось што страшна.

А ці Вы помніце выступленьне А. Лойкі з публікацыяй… Не, выбачайце, гэта не яго публікацыя, а інтэрв’ю з А. Лойкам нейкага А. Пісьмянкова[54] — «Уваходзіны ў сьвет Купалы» («ЛіМ», люты 1981 г.). Там жа А. Л. расказывае, паміж іншым, як Я. Купала прыяжджаў у Слонім у 1939 г., і А. Л. браў у яго інтэрв’ю… А Лойка радзіўся ў 1931-м — значыцца, меў тады 8 гадоў. І ўжо браў інтэрв’ю? Ён што, вундэркіндам быў?

Там жа А. Л. расказывае, каму ён удзячны за матэр’ялы для яго будучага твору. І паміж іншых падае Зоську Верас… А я Купалы зусім ня ведала і ніколі ні слова аб ім не пісала і не гаварыла…

Некалісь я моцна знэрвавалася «раманам-хронікай» М. Машары[55]. Сколькі там няпраўды, сколькі бруду выліў на бязьвінных людзей… І ён стасаваў, як і Лойка, перакручываньне прозьвішчаў. Мне тады парадзілі напісаць пэўнае спраставаньне ў «ЛіМ». Я паслала. «ЛіМ» пераслаў у «Полымя», сказалі: «Вы надрукавалі, вы і адказывайце». Я дастала ліст ад Л. Арабей[56]. Яна мне напісала: «Гэта *раман*-хроніка, таму аўтар мае права на выдумку, і гэта няважна. Важна, каб праўдзіва была прадстаўлена эпоха». Я ёй адказала, што такое лёгікі не разумею. Як можа «праўдзіва быць прадстаўленая эпоха», калі ўсё апіраецца на няпраўдзівых фактах? На тым і скончылася.

Але гэта быў Машара — чалавек вельмі мала разьвіты. Як увайшоў у «вялікую палітыку» — закруцілася галава. І сам пачаў круціць, лгаць бязбожна. Толькі што там справа датычыла ня вельмі вялікіх справаў і нягучных прозьвішчаў. А цяпер у Лойкі ўсё шмат горш, шмат паважней.

Хопіць Вам забіраць час. Сяджу і пішу, а дачцы і зяцю дала работу. Разлажыць па альфабэту ў адпаведныя скрынкі лісты, якіх набралася за год 1981 каля 500. Я кажу

сваім: мала таго, што мне столькі напісалі, але я на ўсе лісты адказала! Яшчэ адно. Ці Вы глядзелі 9 сьнежня (а мо пазьней?) менскае тэлебачаньне? Там была перадача «Сустрэча і разьвітаньне: расказывае З. Верас». Цікава, як выйшла? Яшчэ мне ніхто аб гэтым не напісаў.

Усяго Вам і сям'і Вашай найлепшага. *Л. Войцікава.*

*7 красавіка 1983 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Шчыра дзякую за падрабязныя весткі аб Ларысе Антонаўне Г[еніюш][57]. Аб апэрацыях я ведала, бо Данута Б[ічэль][58] званіла да Лявона і казала аб гэтым. Але гэта было адразу пасьля другой апэрацыі, без дэталяў. Што рана ня гоіцца — гэта вельмі нядобра. Добра, што сын змог прыехаць, як разумею, на вельмі коратка. Але шкада, што не старэйшы ўнук. Яна так яго любіць. Ці ня змог, ці матка не пусьціла. Там адносіны вельмі складаныя… А хто апякуецца домам, кватэрай у Зэльве? Пішаце, што прыяжджаюць зь іншых гарадоў? Напэўна, з Баранавіч др. У. Кароль[59] быў? Добры і чуткі ён чалавек. А вось зь Вільні няма каму паехаць, адведаць. Калісьці Вільня была поўная беларусаў, а цяпер? Крыху недабіткаў…

Я сама да Ларысы Антонаўны не пішу — ня ведаю, на якую хвіліну, на які стан, настрой, ліст можа трапіць, але Вас вельмі прашу сказаць ёй, што я ўсёй душой зь ёю. Спагадаю, шкадую і рада ўсё зрабіць, каб падтрымаць яе духова. Але чым? Як? Ня ведаю.

Вельмі добра, што парушылі ўсе ўлады і нават М. Танка[60]. Такія адносіны, апека ўжо самі сабой падтрымліваюць яе і пазваляюць забыцца ўсе крыўды, якія перанесла ад зэльвенскай «чорнай сотні».

А ў нас? Прыйшла нарэшце вясна. Дачка (хоць, напэўна, адхварэе высілак) парадкуе кветнікі. Зяць таксама парадкуе — капае, шмат выкідае, бо старое. А мне шкада, бо сама садзіла. Слаўка рвецца на часткі, бо і сад трэба дагледзець, і цяплярні засеяць, і шчапіць яблыні ды сьліўкі (усё новыя гатункі прыносіць), і працаваць нармальна, і начамі пісаць дысэртацыю. Ужо мае 75 старонак машынапісу, але гэта толькі невялікая частка. Бядуе, што не хапае часу, каб адначасна пісаць патрэбныя да друку артыкулы. Сьпіць 3–4 гадзіны на пару. Толькі як прыйдзе з работы і паабедае, то гадзіны 2 пасьпіць, бо ўжо з ног валіцца. Як доўга так зможа — ня ведаю. Але энэргіі ня траціць.

Нешта Ваш артыкул аб Я. Лявіцкім[61] не паказываецца ў «Полымі». Наагул, Менск гродзенскіх людзей успамінаць ня любіць. Мае ўспаміны аб ГГБМ некаліcь ляжалі ў «Полымі» пару гадоў (падаваў Я. Саламевіч), аж нарэшці на маю просьбу забраў назад.

Ці ў Вас ёсьць лішні экзэмпляр машынапісу «З кагорты пачынальнікаў»[62]? Мне прыйшло ў галаву, што вялікую радасьць зрабіў бы гэты артыкул пляменьнікам Я. Лявіцкага. Яны так сардэчна свайго дзядзьку ўспамінаюць і мову сваю захоўваюць, а нічога аб працы дзядзькі ня ведаюць і памятак ня маюць, бо згарэла ў іх хата і ўсе рэчы. Я ім толькі здымак Лявіцкага паслала.

Канчаю. Яшчэ пару лістоў трэба напісаць, а сядзець цяжка. Вось дзе старасьць — ня радасьць. Усяго найлепшага. Пані Марыі[63] — прывітаньне. *Л. Войцікава.*

P. S. Кладу некалькі віленскіх пралесак. Калі даедуць сьвежыя, калі ласка, аддайце ці пакажыце (можа, кветак трымаць у палаце нельга) Ларысе Антонаўне — як прывітаньне зь Вільні.

*4 траўня 1983 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Хоць коратка хачу адказаць на Ваш ліст з 27.04 г. г. Нешта вельмі пагоршылася маё здароўе. Асабліва даймае хвароба страўніка. Мусі, ад гэтага і слабасьць, а яшчэ вельмі баляць ногі.

Ад Алеся Мікалаевіча [Белакоза][64] вестак німа. Добра, што Вы хацелі пашукаць адпаведнай пратэкцыі, каб на хворага лекары зьвярнулі больш увагі. А ўсё ж там нешта было, калі Алесь Мікалаевіч напісаў мне: «Усяго за гэты месяц наглядзеўся, ня думаў, што ў нашай краіне такое можа адбывацца». Гэтыя словы шмат гавораць.

Дзякую за падрабязнае апісаньне хаўтураў с. п. Ларысы Антонаўны [Геніюш]. Добра, што ўсё так урачыста адбылося. Што да сына яе, то гэта для мяне не навіна… Можа, таму, што я за Ларысу Антонаўну на 17 гадоў старэйшая, яна была са мной вельмі шчырай, дзялілася ўсімі сваімі перажываньнямі, у тым ліку сямейнымі…

Маю ад яе больш за 300 лістоў. У такой колькасьці памясьцілася ўсё, нават самае найгоршае, самае балючае… А сама яна была вельмі спагадлівая, добрая, сардэчная, так што і мне зь ёю лёгка было падзяліцца сваімі лепшымі і горшымі перажываньнямі. Цяпер ня маю нікога больш-менш з майго пакаленьня.

Мела я пару лістоў ад людзей, якія ў самыя цяжкія хвіліны свайго жыцьця адчулі на сабе ўплыў сільнай (як пішуць) і спагадлівай душы Ларысы Антонаўны. А вось разьвітаньне ў «ЛіМе» зрабіла прыкрае ўражаньне. Бяз здымка, бяз чорнай рыскі, даволі ляканічна, па-казённаму…

Паміж іншым, ад яе сяброў па няшчасьці (на Варкуце…) дастала я яе верш, там напісаны, які, як кажуць, на шпаргалках пераходзіў з рук у рукі.

Як Ваш артыкул, як і частка маіх успамінаў, што меліся быць у «Спадчыне»[65], так і мая кніжка — вялікі знак пытаньня. Ужо амаль тры месяцы — ні весткі, ні слова. С. С. Панізьнік[66], які кніжкай займаўся, часта пісаў, а цяпер ад студня маўчыць. Відаць, ня мае чым падзяліцца.

Але гэта ўжо мала мяне цікавіць. Хацела б толькі скончыць пару драбніц, што пачала. Але пішацца штораз цяжэй. Не таму, што ў галаве пусьцее, а таму, што цяжка змагацца з болямі. А мо дачакаю яшчэ летніх канікулаў, і Вы зможаце прыехаць? Яшчэ тым-сім хацела б падзяліцца ў сувязі з Гродзеншчынай і Сакольшчынай.

Усяго добрага! Для пані Марыі — шчырае прывітаньне. *Л. Войцікава.*

*31 ліпеня 1983 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Вось апошні дзень ліпня. Думаю, што гэты ліст прывітае Вас удома. Была ў мяне Данута Іванаўна [Бічэль]. Крыху пагаварылі, аддала ёй тое, што прыгатавала для Гродзенскага музэя. Яна чытала тое, што я пачала пісаць аб старым Гродне. Казала, што добра… Ня ведаю. Пастараюся так-сяк скончыць. Вельмі дрэнна чуюся, так што на нешта добрае надзеі мала.

Вы пішаце, што ў маёй біяграфіі — толькі контуры. Але ва ўспамінах, хоць пішу толькі аб працы, — усё маё жыцьцё. А ўспаміны дакладныя, падрабязныя. Толькі што ім німа ходу… Мы некалісь зь Янкам Саламевічам чыталі іх разам, бо ён хацеў атрымаць камэнтары да таго, што яму здалося няясным. І тады гаварылі аб тым, што хоць некаторыя фрагмэнты трэба даць у друк. Нічога з гэтага ня выйшла і, бадай што, ня выйдзе.

Нават з маёй кніжкай нешта незразумелае. С. Панізьнік прыслаў мне тэматычны плян «Юнацтва». Дадзены загаловак кніжцы — «Каласкі». Гэта загаловак майго

машынапіснага зборніка твораў для дзяцей. А кніжка мелася быць шматплянавая, г. зн. меліся быць і мэмуарныя матэр'ялы. Апрача таго, напісана аба мне: «Она была редактором первого детского журнала *"Ранак"*»…

Разумееце? Не «Заранка», а нейкі «Ранак». Нават гэтага не зразумелі, то чаго можна спадзявацца? Лепш бы нічога не рабілі. І то заплянавана на III квартал 1984 г.

Я думала, калі мяне намаўлялі на кніжку А. Мальдзіс[67] і Г. Каханоўскі[68], што сапраўды нехта паважна пастараецца, і дадуць у паважнае выдавецтва, а то ў «Юнацтва»… Значыцца, уся рэшта, усё, што друкавалася ў хрэстаматыі І. Дварчаніна[69], а раней у «Студэнцкай думцы», «Вольнай Беларусі», — нічога нявартае? І ўсе ўспаміны — таксама?

Я гэта нібы адчувала, бо доўга і ўпарта адмаўлялася ад усялякага друкаваньня. Я напісала Панізьніку, што нічога не разумею, як усё ж мае быць. Адказу не атрымала… Вось такія мае справы.

Пісаў мне нядаўна А. Белакоз. Меў непрыемнасьці з парадкаваньнем музэя, лепш сказаць — з памочнікамі-мастакамі. Закончыў тым, што ізноў зьбіраецца ў шпіталь. Калі напісала аб мастаках, то мушу выясьніць, у чым справа. Менавіта рабілі ўсё вельмі нядбала, абы-як. Але Вы нікому з мастакоў аб гэтым не ўспамінайце. Была б непрыемнасьць і мне, і Белакозу.

Цікава мне, як удалася Ваша экскурсія на поўдзень? Ці была адпаведная пагода? Ці добрыя рэзультаты? Была б вельмі рада, каб Вам удалося выбраць час і прыехаць. Пры маім стане здароўя хочацца пасьпяшацца і ўсім падзяліцца, каб ня ўсё зьнікла з таго, што было перажыта.

Вы, выяжджаючы, хіба, ужо ведалі аб сьмерці Янкі Маркавіча Хвораста[70]. Незразумела, чаму ў прэсе не было ні нэкралёгу, ні ўспаміну, ні разьвітаньня. Поўнае маўчаньне. Чаму?

Усяго найлепшага. Прывітаньне Вашай жонцы. Шчыра зычлівая — *Л. Войнакава*.

*29 студзеня 1986 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Дзякую за ліст. Здаецца, толькі Вы і засталіся з бліжэйшых знаёмых, што пісалі… Генадзь Аляксандравіч [Каханоўскі] — маўчыць. Падобна, хварэе. А. Белакоз таксама ня піша. Магчыма, у шпіталі. Страчаная сувязь з Гудзевічамі — вялікая для мяне прыкрасьць. Так прывыкла за столькі гадоў жыць жыцьцём музэя. Разам цешыцца, калі ўсё добра, разам бедаваць, калі што не ўдаецца.

Непакоіць мяне асабліва лёс двух музэйных аддзелаў — «Лён» і «Зёлкі». Асабліва апошняга. Калі Алесь Мікалаевіч сам яго не давядзе да парадку, то ўсё прападзе. Ня думайце, што шкадую толькі сваёй работы, не — ідзе аб большым: аб мове, аб беларускіх назвах расьлінаў. Бо хто іх ведае? Можна сьмела сказаць — ніхто. Ня ведае і ведаць ня хоча… Быццам мова складаецца толькі з граматычных формаў, сынтаксысу і г. д.

Вось у Вашым артыкуле аб мове Вы высьветлілі справу гэтага няшчаснага *плацьця* ды і іншых падобных недарэчнасьцяў, а вазьміце Я. Скрыгана[71] — у яго дзясяткі артыкулаў аб мове. Ёсьць, безумоўна, добрыя, разумныя заўвагі, але калі я яго запыталася, а што з тымі назовамі рэчаў, расьлінаў і г. д., аб якіх мы гаворым, бо іх маем каля сябе, даслоўна пад нагамі, а называем чужымі назвамі, ён мне адказаў, што на гэта німа рады, бо *«так жыцьцё вядзе»*. Не жыцьцё, а абыякавасьць, асабліва да прыроды. Прыродай захапляюцца, ахаюць ды охаюць… А як што назваць? Ці ня ўсё роўна… Гэта вынік таго, што ў школах вучыліся толькі мове-літаратуры, а ўсё іншае — у чужой мове.

Вы, вядома, чыталі ў «Маладосьці» фотарэпартаж аб Гудзевіцкім музэі? Здымкі добрыя, прыгожыя, напісана наагул нядрэнна, але калі Алесь Мікалаевіч [Белакоз] зьвярнуў увагу на сабраныя матэр'ялы да аддзелу зёлак і прасіў напісаць аб тым, што *ўжо зроблена*, аўтар фотарэпартажу адмахнуўся і напісаў: *«Цяпер пашукаюць зёлак і тутэйшых назваў»* і г. д. А сколькі там ужо дзеці працы ўлажылі…

25 студзеня была ў мяне дырэктар Архіва-музэя зь Менску Ганна Іванаўна Сурмач[72] — яна паміж іншым, з Гродзеншчыны. Здаецца, гаворыць і піша па-беларуску добра, а ніводнай беларускай назвы расьлінаў ня ведае — толькі рускія. І чаму гэта так? Чаму такая абыякавасьць якраз да гэтай галіны мовы дзядоў і прадзедаў?

І гэтак ва ўсіх. Як напіша хто верш — абавязкова ўставіць якую расьлінку, назваўшы яе ў рускай мове. Нічога не магу зразумець.

Ніяк не магу здагадацца, адкуль С. Х. Александровіч узяў усе гэтыя інфармацыі пра Русецкага[73]. Там у гэтым доме адначасна з Коласам жылі Лёсікі (Ванда Лявіцкая з мужам) і Смолічы (Аркадзь з жонкай Алесяй). Вось Алеся ў канцы 60-х гадоў дала ў «Маладосьці» кароткія ўспаміны пра Я. Коласа. У іх напісала, што *«Колас напісаў злосны памфлет на пана Русецкага»*. Я на яе абурылася: «Нашто ты гэта напісала? Каб жыў Аркадзь, ніколі б на гэта не пазволіў, бо быў сумленным чалавекам». Яна адказала, што напісала пра *тое*, што зрабіў Колас, а не сваю думку, бо сама не прыдумала.

Але гэта была гутарка толькі аб памфлеце, а скуль рэшта бессэнсоўных падрабязнасьцяў? Чытала я зь вялікай прыкрасьцю, але Александровічу нічога не пісала. Ён тады быў цяжка хворы.

Штораз больш легендаў каля асобы М. Багдановіча. Што напісаў Б. Мікуліч[74] — гэта працяг Бядулінага[75] «Страцім-Лебедзя», дзе німа ні капелькі праўды… У мяне ляжыць выясьненьне да «Страцім-Лебедзя» — з фотаздымкамі таго дому, дзе жыў Бядуля і — Багдановіч. Гэтае выясьненьне я паслала ў Менск у Музэй М. Багдановіча. Схавалі яго глыбока, не паказываюць. Кіраўнікі сабралі шмат чаго пра Бядулю, яго сям'ю, нават «сёстры» размножыліся — аднекуль узялася трэцяя…

Як мне пісалі, цяжка было зразумець, ці гэта Музэй Багдановіча, ці Бядулі… Але памалу ачысьцілі. Пасьля знайшлі нейкага праф. Адамава, які «пазнаёміўся ў Менску з Максімам, і разам аглядалі нейкую выстаўку ў залях, дзе былі і слуцкія паясы, і абразы» і г. д. Ізноў казка, бо нічога падобнага не было. А цяпер далей — Музэй хваліцца, што здабыў успаміны дачкі Альбэрта Паўловіча[76], дзе яна кажа, як яны «часта бывалі ў “Беларускай хатцы”, а Максім у іх» і г. д. А ў сапраўднасьці А. Паўловіч з дачкой Уладыславай і зяцем Я. Фарботкай[77] былі ў «Бел[арускай] хатцы» *адзін-адзіны* раз — на сьвяткаваньні Новага 1917 году. А маладыя дочкі — ніколі. Ці быў у іх Максім? Можа, калі і быў — ня ведаю.

Творы А. Паўловіча ў «Беларускай хатцы» чыталі, асабліва калі зьбіралася моладзь. Але сам А. Паўловіч ніякага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці беларусаў не прыймаў. Падобна, у яго ўдома адбываліся канцэрты, прыязджалі з правінцыі і г. д. Але з нас, работнікаў Камітэту помачы ахвярам вайны, *ніхто* ў яго не бываў. Ні Галубок[78], ні Ядвігін Ш., ні іншыя. Чаму так? Ня ведаю…

Вось бачыце — ужо 4-я легенда. Я ня веру ў той музэй. Прыязджалі раз да мяне з магнітафонам і сваім супрацоўнікам-фатографам. Апошні ні гаварыць, ні пісаць па-беларуску ня ўмеў… І як ім верыць?

Зусім магчыма, што і мне ня вераць. Скарынкін[79] жа сказаў аба мне: «Што яна можа помніць?»…

Добра было б яшчэ хоць раз з Вамі пабачыцца. А цяпер, калі што трэба, пытайцеся. Каб пасьпець падзяліцца ўсім, што ведаю. Бо вельмі дрэнна чуюся. Часта ляжу, ногі дрэнна ходзяць, не магу доўга сядзець.

Сяньня выслала Дануце Б[ічэль] крыху розных здымкаў. Можа, што выберацца для музэя. Добра было б, каб і Вы перагледзелі. Гэта ўсё здымкі, што робіць і прысылае мне Анатоль Наліваеў[80]. Часам па пару экзэмпляраў. Мусі, на гэтым скончу. Трэба легчы.

З ночы быў невялічкі мароз, а цяпер ізноў пацяплела. Хмарна, сьнегу шмат, лес прыгожы.

Усяго добрага ўсёй Вашай сямейцы. Унук Ваш — малайчына! Як гэта радасна ведаць ня толькі Вам, блізкім, але і мне.

Шчыра зычлівая *Л. Войцікава*.

*5 сакавіка 1986 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Дзякую за ліст. Атрымала яго ўчора. Пачну, на маю думку, ад самага важнага. Я ўжо шмат гадоў карэспандую з Уладзімірам Іл. Содалем[81]. Шмат думак круціцца вокал тэмы «М. Багдановіч». Яго знаёмства з Вандай Лявіцкай[82], іх ліставаньне, пазьнейшыя адносіны… Успаміны людзей з в. Карпілаўка аб сям'і Ядвігіна Ш. і г. д. А цяпер я дзялюся з У. Содалем усімі легендамі, якімі абрастае імя Багдановіча. Ён, Содаль, усё захоўвае, а магчыма, у пэўным сэнсе выкарыстае.

Цяпер — галоўнае. Як мне пісала Н. Б. Ватацы[83], малады пісьменьнік А. Асташонак[84] задумаў да 100-годзьдзя М. Багдановіча напісаць кніжку аб паэце. Падобна, зьбірае матэр'ял. Але які і дзе? Калі з тых брудных крыніцаў, якімі хваліцца Менскі музэй Багдановіча, то…

Я напісала да Ніны Барысаўны, прапанавала гэтага пісьменьніка накіраваць да мяне, пакуль я яшчэ рухаюся. Але, магчыма, Ніна Барысаўна, як і супрацоўнікі Менскага музэя, магла ня верыць у маю старую памяць і з тым пісьменьнікам не гаварыла? А можа, ён сам даверу да мяне ня мае? Калі пачне выкарыстоўваць матэр'ялы Бядулі, Мікуліча, нейкага Адамава, то што атрымаецца? Страх падумаць… Адна пацеха, што я да таго часу не дажыву. І нэрвавацца ня прыйдзецца.

Пытаецеся аб факце прысутнасьці І. Луцкевіча на нашым спэктаклі? Паміж іншым, ня ведаю, хто і калі пачаў старэйшага Луцкевіча называць Іванам, бо ён у лістах падпісываўся *Ян.* Маю пару яго лістоў з такім подпісам. І вось Я. Луцкевіча мы на спэктакль запрасілі, і ён не адмовіўся — прыехаў. Пасьля ў «Нашай ніве» (№ 8, 1911 г.) зьмясьціў адпаведную карэспандэнцыю. Я і цяпер шкадую, што пасьля спэктаклю амаль зь ім не гаварыла, бо разам з нашым старшынёй гуртка А. Бычкоўскім сьпяшаліся на вечарыну ў польскі вучнёўскі гурток: «Koło polskej młodzieży postepowej». Яны бывалі ў нас у беларускім гуртку, і нам не выпадала ня быць у іх. Нашага віленскага госьця запрасіў да сябе кс. Францішак Грынкевіч.

З Гудзевічаў мне пішуць. Працуюць яны — Алесь Мікалаевіч [Белакоз], новы дырэктар Юрась Новік і малодшы навуковы супрацоўнік музея Хомка Алена Пятроўна — вельмі інтэнсіўна, падлічаюць-сьпісываюць экспанаты. Аб аддзеле зёлак думаюць. Але як што рабіць, калі новы будынак не рамантаваны? Страха цячэ, сьцены залівае. Зрабілі залю лёну, а цяпер усё выносіць трэба. А з назвамі расьлінаў — трагедыя. Каб жа гэта маладыя ня ведалі сапраўдных народных назваў… Але ж якраз наадварот — маладыя, асабліва мастакі, ведаюць, шукаюць, а старыя паэты — С. Шушкевіч[85], М. Лужанін[86], В. Вітка[87] — падумаць лянуюцца, так і садзяць у свае творы *сон-траву, мацi-i-мачыху, доньнік* і інш.

Пытаецеся аб энцыкляпэдыі «Прырода Беларусі». Там тое самае — памылак поўна. На просьбу Генадзя Алякс. Каханоўскага я зрабіла сьпіскі памылак, паслала яму. Занёс намесьніку дырэктара энцыкляпэдыі. Той сказаў, што цяпер ужо позна, ня выправіцца,

а далей папраўкі будуць узяты пад увагу. Тлумачыцца, што артыкулы пра расьліны пішуць выпадковыя людзі, часта студэнты. Але ж гэта несумленнасьць! Спраўдзіць можа кожны ў слоўніку. Але, праўду сказаць, у энцыкляпэдыі пералічаны «батанічныя сады», «батанічныя запаведнікі», але *«Батанічнага слоўніка»* — німа.

Цяпер то, мусі, і сапраўды, «Бат[анічнага] слоўніка» і з агнём ня знойдзеш. Аб маім то і гаварыць няма што. Былі зробленыя ў свой час 5 ксэракопіяў — 3 у Менску ў Акадэміі навук (стараньнямі Л. І. Збралевіч) і 2 экз. тут у Вільні, аб што пастаралася Н. А. Ляшковіч[88]. Слоўніка Кісялеўскага[89], мусі, таксама ўжо даўно німа. Шмат выдаецца рознай дробязі-непатрэбшчыны, і то не на нашай мове. Можна было б хоць які слоўнічак зрабіць — перадрукаваць. Але нашто?

Я зьвярнула ўвагу Я. Скрыгану, што ва ўсіх артыкулах аб мове якраз гэты бок мовы нікога не абходзіць. Ён мне адказаў: «На гэта рады німа. Да гэтага вядзе жыцьцё». Як ён гэта разумее? Німа сапраўднай вёскі, німа сапраўднага селяніна, усе жывуць па-гарадзкому, то і расьліны па-гарадзкому (г. зн. па-руску) называць можна, а не па-мужыцку? Гэта тэма балючая, даводзіць мяне да хваробы. Разбалелася галава. Як і кожны дзень, да вечара не дасяджу — трэба легчы.

Аб тым, што Лявон атрымаў ад Вас ліст, матэр'ялы аб асобах памёршых, толькі ад Вас даведалася. А мне нічога гэты «навуковец» ня кажа, нічым ня дзеліцца. А калі я што маю новае, для мяне цікавае — на ўсё махае рукой: няважна.

Але не магу не падзяліцца з Вамі, які падарак я атрымала толькі што ад А. Мальдзіса. Пачну здалёк. У маі 1911 г. наш старшыня гуртка Адам Бычкоўскі скончыў гімназію і меўся выяжджаць з Гродна. ГГБМ наладзіў пажагнальны вечар. Малодшая сэкцыя жагнала яго дэклямацыямі і, здаецца, кветкамі. Ад нас, старэйшых, дастаў на памятку кніжку — том Карскага. Даравальны верш напісала я…

Ня ведаю, якім чынам гэтая кніжка асталася ў Пецярбургу. Там А. Бычкоўскі канчаў юрыдычны факультэт. Чаму, выяжджаючы, аставіў і дзе — ня ведаю. Але цяпер гэтую кніжку пабачыў у Ленінградзе А. Мальдзіс. Даравальны надпіс зьняў і прыслаў мне. Можаце сабе ўявіць, якая радасьць, які жывы ўспамін…

І адначасна — аблітая халоднай вадой. Ня толькі Лявон, але і дачка не зацікавілася, ня глянула. Вось як мне жывецца… Ня соладка, праўда? Што ж рабіць? Неяк цягнуць гэтыя дні трэба.

Усяго Вам добрага! Ці ўжо зусім скончылі хварэць? Ці ўсе здаровыя? Знойдзеце хвіліну часу — пішыце. Пані Марыі — шчырае прывітаньне.

Шчыра зычлівая *Л. Войцікава*.

*28 красавіка 1986 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Сардэчна, шчыра дзякую за *наш* зборнік[90]. Прачытала ад першай да апошняй старонкі адным духам. Ня верыла сваім вачам, што пісьменьнік такой меры, як В. Быкаў[91], назваў маё «Старое Гродна» «цудоўнымі ўспамінамі»… Яны ж так просьценька напісаныя. Рада, што пайшло «Ст. Гродна» без скарачэньняў, без папravak.

А якую прыемнасьць адчула, чытаючы Вашае «З кагорты пачынальнікаў»! Быццам нанава перажывала спатканьні з «бацькам»[92] — нанава чытала яго лісты, прыпамінала свае яму адказы. Я ж таксама называла яго «бацькам» і падпісывалася «дачка». Адносіны ў нас былі самыя лепшыя. Калі я складала апошнія экзаміны, ён яшчэ быў у 7-й клясе. Мне вельмі трэба было, каб хто памог паўтарыць білеты з геамэтрыі. Я папрасіла Юзіка Лявіцкага. Ён ахвотна згадзіўся, кажучы: «Дык жа гэта зусім натуральна, хто ж паможа, як ня бацька?». Пасьля, ужо зь Пецярбурга, неяк доўга не пісаў. І я напісала яму ліст-верш:

То ня вецер енчыць-вые,
то ня дожджык росіць,
то дачка па сваім бацьку
тужыць ды галосіць…
У далёкую старонку,
чужыну ліхую
уцёк бацька ды пакінуў
дачку маладую.
Сам па Неўскім па праспэкце
каменьне зьбівае
і паненкам пецярбургскім
у вочкі заглядае…
Гэта ж бацька хоць старэнькі,
згорблены ды сівы,
як дурман той, дурыць дзеўкі
і тады — шчасьлівы.
Піша бацька пекным стылем
оды ды паэмы,
а дачцэ як напісаці —
то робіцца немы.
Эй жа, бацька, як няхутка
пісаньне дастану —
пабачыце, пісаць вам
зусім перастану…

Паверыце? — паперка-чарнавік гэтага верша і цяпер у мяне. А «бацька» сапраўды вельмі любіў фліртаваць. Яшчэ ў гімназіі, лічылася, меў нарэчаную — Зосю Клімоўну, таксама сяброўку гуртка. Гэта яе бацькі выбралі сабе Юзіка на зяця. Сьмешная была гісторыя. Аб гэтай сям’і Клімаў шмат можна сказаць, але шкада часу і паперы.

Добра, што не прайшоў артыкул Карпюка[93] ў цэласьці, але і гэты фрагмэнт нейкі малазразумелы і ўносіць дысананс. Яшчэ аднаго чалавека не паважаю, далікатна кажучы, — Іверса[94]. Ён калісьці напісаў успаміны аб Віленскай Беларускай гімназіі. «Гэтак было» назваў, а фактычна было зусім ня гэтак. Мы, хто ведаў гімназію, яе гісторыю, абурыліся і хацелі пісаць спраставаньне, але ў «ЛіМе» прачыталі вельмі «цёплую» рэцэнзію на гэты твор Іверса і далі спакой. Усіх не пераканаеш.

А цяпер Іверс сядзіць жа ў Слоніме, а што робіцца ў г. зв. Музэі літаратурнай Слонімшчыны? Шмат хто паверыў у гэты музэй, я паслала вельмі шмат матэр’ялаў аб Леўчыку[95], яго недрукаваны верш «Беларускі жаўранак» і інш. А цяпер той Сідаровіч[96], што пачаў ладзіць музэй (прычым нарабіў шмат шкоды — зьнішчыў здымкі і г. д.), нават ад мовы беларускай, мусі, адрокся, бо ўжо тры разы пісаў мне па-расейску. Вядома, я не адказываю і знаць яго не хачу. Ведаю, што там п’юць на ўсю моц. Можа, і экспанаты прапіваюць…

Сідаровіч здабыў ад пляменьніка К. Лейкі[97] ўсю яго спадчыну — біяграфію паэта, здымкі, вершы з канца мінулага веку. Прасілі яго, каб гэты матэр’ял пазычыць у Менск, каб адзначыць дастойна юбілей паэта. Ня даў. Праўда, цяпер крыху сам напісаў, але ж гэта ня тое, бо юбілей даўно мінуў.

Як там адбыўся зьезд? Крыху ведаю, але не да канца, і ня вельмі добра аб некаторых выступленьнях адзываюцца. А справы перавозу праху М. Багдановіча зь Ялты ў Менск нават не падымалі? Дарэмна мяне намовілі напісаць ліст на гэты зьезд — якраз з намерам перавозу. Здаецца, майго ліста нават не чыталі. Так як не надрукавалі ў «ЛіМе» адкрытага ліста ў гэтай жа справе. Не сама гэта прыдумала, а па ініцыятыве Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага, які сам той мой ліст у «ЛіМ» і аддаў.

Ужо ад другой пары турыстаў ведаю, што ў Ялце дапытацца і адшукаць магілу М. Багдановіча не змаглі. Адна пара беларускіх энтузыястаў-дзеячоў з Ваўкавыскага павету паляцела самалётам, павязла вялікі вянок з валошак. Давязьлі сьвежы. Хадзілі цэлы дзень па розных могілках, а магілы Максіма так і не знайшлі. Павяўшы вянок павесілі, як пішуць, на нэўтральны куст…

У Вільні зьявіліся зусім новыя беларусы. Сымпатычныя, з добрай мовай, чыстай, прыгожай. Інжынэр-плянавік з жонкай і пара маладых мастакоў. Учора былі ў нас ужо 3-ці раз. Мы вельмі рады. Адно што амаль зусім ня ведаюць беларускай літаратуры. Але хочуць ведаць, знаёмяцца. Я мела крыху кніжак з падвойнымі, а то і патройнымі экзэмплярамі. Лішнія аддала гэтаму інжынэру — на пачатак беларускай бібліятэкі…

Як там у Гродне са зборнікам «Краю мой — Нёман»? Ці ёсьць у прадажы ў кнігарнях, ці можна купіць? Трэба было б абавязкова паслаць у Гудзевічы, а і яшчэ пару экзэмпляраў спатрэбяцца. У Менску, падобна, у прадажы ўжо німа.

Ці ведаеце, што Алесь Мікалаевіч Б[елако]з у шпіталі? Якое недамаганьне галоўнае — ня ведаю, але як ён можа паправіцца, калі ўсе думкі, увесь неспакой — Гудзевічы, музэй, што супрацоўнікі змогуць зрабіць і г. д.

Пішаце, што ўсе мае лісты атрымалі. Гэта добра. А насеньне кветак, якое я Вам выслала? У лісьце, у цвёрдай вокладцы, так я шмат каму высылала. Вельмі хочацца Вас абоіх з п. Марыяй пабачыць. Незвычайна цікавіць мяне і адкрыцьцё Дома-музэя і вечар Максіма Багдановіча. Я так шкадую, што ўжо німа магчымасьці і сілы, каб прыняць у гэтым удзел. Але што рабіць? Усё мае свае межы, свой канец… Людзкія магчымасьці — таксама. Крыху рухаюся, крыху пішу, але і шмат ляжу.

Усяго Вам добрага! Здароўя, плёну ва ўсялякай працы. Заўсёды зычлівая *Л. Войцікава*.

*9 лютага 1987 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Хачу адказаць Вам на апошні ліст па магчымасьці як найбольш зьмястоўна. Ці змагу? Ня ведаю. Вельмі апошні час баліць галава і наагул дрэнна чуюся. Мо гэта дзеіць пераход да вясны, а можа, проста сілы ўжо не хапае, ды і непрыемнасьцяў у мяне нямала.

Найперш — пра свае ўспаміны. Не, 1927 г. — гэта не канец. У 1928 г. пачынаецца другі этап. Гэта ўжо не рознаякая раскіданая праца, а 10 гадоў існаваньня Беларускага каапэратыўнага пчалярскага т[аварыст]ва «Пчала» і яго органу «Бел[аруская] борць». Якраз аб гэтай арганізацыі дагэтуль ніхто нічога ня ведае, і больш таго, ведаць ня хоча. А «Пчала» існавала і працавала інтэнсіўна даўжэй, чым іншыя заходнебеларускія арганізацыі. Але вялі яе (і арганізавалі) *не вялікія дзеячы*, а людзі сьціплыя, маленькія. І вялі не палітыку, а «нейкае там пчалярства». Так мне адзін зь дзеячоў сказаў: «Каго можа цікавіць нейкае там пчалярства?» А што гэта была работа зь вёскай, зь сялянствам, гэта не даходзіла да «вялікіх» людзей. У мяне захавалася і «Беларуская борць», і ўсе да дробязяў архівы «Пчалы». І гісторыя арганізацыі напісана падрабязная.

Гадоў 10 таму, калі ня больш, меўся ў Менску выйсьці нейкі альманах. Мне А. Мальдзіс запрапанаваў даць нешта з маіх успамінаў. Я падумала, што найбольш бяскрыўднымі будуць якраз «Пчала» і «Борць». А. Мальдзіс згадзіўся. Піша: прышліце рукапіс, перадрукую на машынцы, прыеду — пагаворым. Так і было. Але альманах наагул ня выйшаў.

Пасьля пэўнага часу Беласток просіць прыслаць у каляндар што пра «Беларускую борць». Я адказала: «Борць» без «Пчалы» ня мае сэнсу — адно з другім зьвязанае. Просяць: прышліце цэласьць. Я паслала. Атрымалі. Але ў той год было 100-годзьдзе І. Луцкевіча. Лявон даў свой матэр’ял. Зьмясьцілі. На «Пчалу» ўжо мейсца не

было. На наступны год Лявон даў мат[эр'ял] «Базыльянскія муры». М. Гайдук[98] піша: «Баз[ыльянскія] муры» пойдуць, а пані Людвіка пачакае». Тады я сапраўды зазлавала і напісала, каб «Пчалу» кінуў у печку. «Пчала» мела сяброў, а «Борць» — падпісчыкаў пад Беластокам, і мне цікава было навязаць ізноў праз каляндар зь імі сувязь, а чым далей, тым надзей застаць каго менш і менш. Вось такая гісторыя.

А мне так шкада было гэтай 10-гадовай працы, сувязі з пчалярамі, карэспандэнцыі зь імі! Я ж праз усе гады была старшынёй і рэдактарам «Борці». Столькі ўлажыла ня толькі сілы, але і душы. Затое цяпер маю поўнае задаволеньне. Пазнаёмілі мяне з маладым пчаляром-энтузыястам з Палесься. Ён летась скончыў у Кіеве Сельска-гаспадарчую акадэмію. Ужо працуе на Палесьсі лясным пчаляром на пасецы ў 116 вульлёў. Гуртуе мяйсцовых пчаляроў — зьбіраюць экспанаты, каб арганізаваць Музэй пчалярства. Мы ўжо добра знаёмыя. Можна сказаць, лічу яго, Міколу-пчаляра[99], сваім нашчадкам у гэтай справе. Піша, прыяжджае, прывозіць новых сяброў. І гэта для мяне самыя шчасьлівыя хвіліны. «Пчала» не памрэ.

Кажаце, мала ведама аб Смолічу? Абы хто хацеў — матэр'ялы ёсьць, шмат яго лістоў, шчырых, сардэчных (называў мяне «сястронкай»), ды і біяграфія зь пералічэньнем яго геаграфічных твораў і яго здымкі. Зь менскіх дзеячоў маю біяграфію Усевалада Фальскага[100]. А што я мала пра людзей пісала? Ды жа часу ў мяне не было на гэта. Сябры ў камітэце ды ў іншых арганізацыях былі, але на паседжаньнях-гутарках-вечарынах, а фактычная работа-выкананьне — на мне, бо я больш нідзе не працавала. А ўсе іншыя мелі «пасады».

Калі адказываю Вам на пытаньне, калі мы пажаніліся з Ф. Ш[антырам][101], то лічу, што Вы найбольш захаваеце весткі для сябе, а не для публікацыі. Людзі не зразумеюць ні ваеннага часу, ні ваенных абставінаў…

Пажаніліся мы ў 1917 г. і дамовіліся з кс[яндзом] Гадлеўскім[102] аб шлюбе, але ў мяне і ў Ф[абія]на не хапала патрэбных дакумэнтаў — пры розных пераездах зь мейсца на мейсца загубілася мая мэтрыка, а як тады было здабыць з Украіны? Калі там і знаёмага ўжо нікога не было? І ці касьцёл захаваў дакумэнты? А нават мой паспарт разам з маміным знаходзіўся ў Пецярбургу, бо мама мусіла нанава вырабіць сабе пэнсію па мужу і надалей, і атрымаць залеглую за 3 гады. Амаль тое самае ў Ф. Ш[антыра] — ён мусіў дастаць дакумэнты са Слуцка. Так час цягнуўся.

На маё вялікае зьдзіўленьне (бо ж ведала пагляды Ф. Ш[анты]ра), ён прыехаў, мяне не папераджаючы, да маёй мамы — «прасіць маёй рукі». А мама была дзіўным чалавекам. Звычайна мамы сваіх дачок хваляць аж занадта, а мая мама адказала: «Добра падумайце — яна невясёлая і фанатычка працы, у яе німа часу на асабістае жыцьцё». Але яго гэта не зьнеахвоціла. Больш насьцярожывала неаднолькавае паходжаньне ды іншае выхаваньне — у іншым асяродзьдзі. Але і гэта перамалолася. Жылі па-ваеннаму — асобна, але лісты… лісты… спатканьні. Усё было добра. Хоць і дробных непаразуменьняў хапала.

Але прыйшла да мяне бяда-гора — захварэла мама… цяжка. Чакала апэрацыі. А ў Менску — голад, бяда, ды ў мяне там жывога духа блізкага не было. Адна з горам, як палец. Мама… Вы самі нядаўна страцілі бацьку, ведаеце, што гэта значыць — які неспакой, які боль. А ў мяне ж нікога на сьвеце — ні сястры, ні брата… І тут у мяне адна думка — ехаць, ехаць у Сакольшчыну — да сябе, калі апэрацыя — то ў Гродне, дзе знаёмы хірург. У Сакольшчыне, а гэта ж блізка Гродна, — маміна сястра, свой фальварак (дзед мой ужо памёр), у Гродне — маміна стрыечная сястра, усё ж ня буду адна…

Вось так і пастанавілі. Ф. Ш[антыр] кажа: як толькі змагу — прыеду, калі ня проста, то праз Украіну. Так і рассталіся — назаўсёды. А я паехала на даўгое цярпеньне. На самы Новы 1919 год павязьлі маму ў Гродна на апэрацыю. Ляжала ў шпіталі 3 ме-

сяцы, нават 4. Я аб сваім асабістым жыцьці і ня думала. У 1919 г. радзіўся мой сынок, а праз пару месяцаў пасьля даведалася з газэт аб трагічнай сьмерці Ф[абія]на… Вось мая трагедыя. Ці варта яе чапаць?

Сёлета 100 год ад нараджэньня Ф. Ш[антыра], а кніжку яго і аб ім адлажылі на наступны год. Цяпер усё так робіцца. Я да кніжкі дала ўсе лісты… Што зь іх прайшло — ня ведаю, але Я. Саламевіч лістоў мне не вярнуў…

Я. Саламевіч узяўся злажыць і маю кніжку. Я, хоць ня вельмі верыла, што з гэтага нешта будзе, матэр’ялы сабрала і дала… Прыслаў мне плян — ужо гатовы, на тым і скончыцца, мусі, бо, здаецца, ніякаму выдавецтву не прапанаваў. Мае шмат іншай паважнейшай і важнейшай работы…

Вось яго новай задумы — энцыкляпэдыі М. Багдановіча — крыху баюся. Ніхто так не аброс легендамі, і то самымі бессэнсоўнымі, як Максім Б[агдановіч]. Ці здолее Я. С[аламевіч] адсеяць праўду ад няпраўды?

Аляксей Міхайлавіч! Даруйце за блытаніну з карткамі, за немагчымы почырк ды і, можа, за лішнюю непатрэбную шчырасьць. Я фактычна падзяліцца думкамі ці ўспамінамі ня маю з кім абсалютна…

Сёлета мінула 11 гадоў ад сьмерці сына[103]. Зь ім то хоць аб яго дзяцінстве ўспомніць было можна. А цяпер каго гэта абходзіць — што я думаю, што я перажываю…

Прачытала яшчэ раз Ваш ліст. Яшчэ на пару пытаньняў адкажу. Верш, ці, лепш, імпрэсія, «Нёману» друкаваўся ў «Вольнай Беларусі», а пасьля і ў зборніку літ[аратурным] «Вольнай Беларусі». «Гісторыі беларускага адрыўнога календара» ёсьць у мяне машынапіс, а ў 1976 годзе друкавалася яна ў беластоцкай «Ніве». Адрыўныя календары друкаваліся год у год — ад 1927 г. да 1938. Выдавала «Выдавецкае т[аварыст]ва».

Здаецца — усё. Мо будзе які ад Вас адказ? Вось якія мае сілы: пасядзела, напісала і лажуся.

Усяго найлепшага! *Л. Войцікава.*

*2 сакавіка 1987 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Ліст Ваш з 21.II атрымала ў пару, але каторы ён — дакладна ня ведаю, бо наша віленская пошта леніцца ставіць пячаткі. За ліст, за ўсе весткі — дзякую. Доўга не адказвала, бо шмат часу займала барацьба з самымі рознымі, самымі нечаканымі болямі. Часта, калі дачка ўдома, то і цэлы дзень ляжу. Хоць др. Куторга штораз прыпамінае, што нельга залежвацца, трэба рухацца.

Але перайду да важнейшых справаў. Пачну ад «Пралесак»[104]. Уявіце сабе, што я сама аб іх забылася. Толькі пазычыўшы (яшчэ ў 1970-я гады) ад Я. Багдановіча[105] гадавікі «Шляху моладзі»[106], каб перапісаць за ўсе часы хроніку (і гэта зрабіла — маю), там у хроніцы знайшла вестку, што выйшаў № 8 «Пралесак», а ў мяне ніводнага нумару не было… Напісала да Новіка-Пеюна, і ён мне прыслаў камплект у цьвёрдай вокладцы. Тады ўсё і прыпомнілася…

Калі перастала выходзіць «Заранка»[107] (не было сілы болей цягнуць без усялякай дапамогі), прыйшоў да мяне наш тутэйшы ксёндз — Глякоўскі[108]. Нібы бачу яго праз гады… Высокі, з чорнай вялікай шапкай валасоў, заўсёды зь непакрытай галавой, у шырокай, даўгой сутане, ідзе вялікі крокамі… Шчыры беларус. Вось ён мне кажа: «Як шкада, што дзеці асталіся без сваёй часапісі. Я маю крыху грошай, калі возьмецеся рэдагаваць, то хоць нешта маленькае зробім».

Я, вядома, згадзілася. Так і паўсталі «Пралескі» — сапраўды маленькая часапісь. Нядоўга я рэдагавала — усяго 7 нумароў. Перадусім ня мела часу, бо ўжо працавала

«Пчала» і выходзіла «Беларуская борць». Па-другое, пачалі зьяўляцца матэр’ялы (і ілюстрацыі) рэлігійнага зьместу. Я ніколі не была проціў рэлігіі, але ж трэба браць пад увагу, што рэлігіі было дзьве. Як пагадзіць адну з другой? Ну, а калі выдаўцом быў ксёндз, то і напрамак аднабочны. Я з гэтым пагадзіцца не магла, хоць і сама каталічка. І — адмовілася… Выдавец знайшоў сабе новую рэдактарку…

Адрыўны каляндар быў выданы на 1926 г. А ад 1927 г. адрыўныя календары выдавала Беларускае выдавецкае т[аварыст]ва. Але, паводле інфармацыі І. У. Саламевіча, «беларускі адрыўны каляндар на 1929 год (выданьне Станіслава Станкевіча[109]) знаходзіцца ў Менску ў спэцфондзе бібліятэкі АН БССР».

Я асабіста амаль увесь час рабіла 100 картак і парадаў па агародніцтву, пчалярству, садаўніцтву і жаночай працы. Але да самога выдавецтва дачыненьня ня мела. Аб першым адрыўным календары — тым самым, на 1926 г. — маю напісаныя ўспаміны з прыложанымі аўтэнтычнымі карткамі. Гэтыя ўспаміны друкаваліся ў беластоцкай «Ніве», гэтую газэту маю.

А цяпер І. У. Саламевіч прыслаў мне адбітку зь нейкай газэты, быццам усё як трэба — і назва, і год выданьня. Усё гэта для мяне вельмі незразумелае і падазронае, бо ў хроніцы апісываецца выданьне адрыўнога календара — таксама на 1926 г., але выдавала быццам Беларускае навуковае т[аварыст]ва «на добрай паперы, вялікага фармату» і г. д. То што, на адзін і той самы 1926 г. было выдана 2 календары? А калі паверыць, што і сапраўды Навуковае т[аварыст]ва яго выдавала, то хто яго бачыў? Дзе яго сьлед? Я ж тады працавала, газэты праходзілі праз мае рукі, бывала амаль кожны дзень у кнігарнях і другога календара, апрача нашага, сьціплага, маленькага, ня бачыла. Цяпер і папытацца німа ў каго, бо амаль нікога німа…

Цяжка расказаць, як я гэта перажыла, і далей не магу ўспакоіцца. А падзяліцца німа з кім. Уся гэтая падзея, гэтая газэта пахне фальшам… Некалісь ужо быў артыкул, ня помню чый, што зьяўляюцца газэты, якіх на самай справе ніколі не было…

Папка з маімі ўспамінамі можа ў Вас спакойна ляжаць — я маю рукапіс. Некалісь даўна быў у мяне Кастусь Цьвірка[110]. Ён мяне намаўляў, каб я напісала ці, лепш, апісала сваё дзяцінства. Я і сяньня аб гэтым думаю, бо мае дзіцячыя гады своеасаблівыя вельмі. Я ў бацькоў расла адна. Мой маленькі 10-месячны брат памёр, калі мне было 3 гады, ішоў 4-ты. Бацькі вельмі перажывалі страту сына… А бацька мяне стараўся наставіць на мейсца брата-хлапца. Не расла разьнежанай дзяўчынкай. Калі бацька быў камандзірам нестраявой, г. зн. гаспадарчай, часьці ў палку, то браў мяне з сабой усюды — у лес, дзе прыгатаўлялі дровы, на сенажаць, дзе касілі сена. Маючы 12 гадоў, езьдзіла конна. Лазіла па дрэвах, аглядала казармы (вядома, калі салдаты былі на вучэньнях), таксама салдацкія ёлкі…

Таму летам у Сакольшчыне ў фальварку мамінага бацькі я, зусім не як паненка, добра выхаваная, была ў курсе ўсёй гаспадаркі і найбольш мела дачыненьне з коньмі. Ці гэта можна самой апісаць? Ды яшчэ цяпер, калі мне так цяжка кіраваць сваёй рукой? Гэта толькі ў свабоднай гутарцы расказаць можна. А каму? Маіх блізкіх гэта не цікавіць.

Абяцаў прыехаць С. С. Панізьнік — мне зь ім лёгка гаворыцца, мы даўна знаёмыя. Але нешта ня едзе. Пісаў, што прастудзіўся, як некуды ў маразы езьдзіў, а цяпер зусім ня піша. Унук запрацаваны да немагчымасьці. А дачка і зяць жывуць сваім жыцьцём, сваімі справамі. Я ня ведаю нічога, што яны робяць, а яны ня хочуць ведаць, што я раблю, чым жыву.

Такія асабістыя ўспаміны зь дзяцінства маім блізкім зусім непатрэбныя, тым больш далейшае пакаленьне — праўнук — адпадае як нашчадак, бо гадуецца на літоўца. Бабка

малога — мая дачка — вельмі часта ў сваіх дзяцей бывае, але і яны да ўнука, і нявестка — гавораць па-літоўску. Дзіўны пагляд Лявона (паміж іншым, і ён, калі да дзяцей ходзіць, то гаворыць толькі па-літоўску, апрача, зразумела, са Слаўкам). Лявон кажа, што ўсё залежыць ад Слаўкі: як захоча, то сына па-беларуску гаварыць навучыць. А нашто самі ад першага дня, калі Эліма (жонка Славы) увайшла ў сям'ю, адразу перайшлі на літоўскую мову? Заместа таго, каб вымагаць ад яе, каб яна мужавай мовы вучылася, каб мовы былі роўныя… Я адна да яе гаварыла па-беларуску і тлумачыла, што сям'я можа быць дзьвюхмоўная, але па-роўнаму…

Вось такія ў мяне абставіны — здароўю не спрыяюць. Для бібліяграфічнага слоўніка я выпісала зь «Беларускай борці» ўсе свае артыкулы, хоць А. Мальдзіс пісаў, каб не турбавацца, што самі гэта зробяць. Але я ведала, што не дадуць рады, бо я па-рознаму падпісывалася. Не хацела, каб было відаць, што адзін чалавек так шмат і на розныя тэмы піша…

Выбачайце, што так нечытэльна пішу. Напісала і зараз лягу — ужо не магу, а лістоў — гара. Калі што трэба — пішыце, пытайцеся. А што да патрэбных Вам біяграфіяў — можа, самі зьвернецеся да Лявона? Гэтак будзе лепш.

Усяго найлепшага п. Марыі і Вам. Шчыра зычлівая *Л. Войцікава*.

*3 студзеня 1988 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Учора адаслала Вам ліст, а сяньня яшчэ дапісываю. Папрасіла ў Лявона № 11–12 «Маладосьці» і пазнаёмілася з працай Далідовіча[111]… Хоць яшчэ не зусім дакладна прачытала, зразумела — суцэльная фантазія, усё зьмешана, пераблытана…

Але пабачыўшы, што ён шмат у чым апіраецца на Сташкевіча[112], зразумела, у чым справа. Ды і апошняе слова, пасьляслоўе — належыць Сташкевічу. Дзе ж тут з «вучоным гісторыкам» спрачацца? Сьмеласьці ня хопіць…

Але жарт жартам. Мае асабістыя ўспаміны хто з «вучоных» возьме пад увагу? Але ж я маю Пратаколы зьезду, і гэта важна. Але ж, як я Вам пісала, яны нявечныя. Хаваю як магу, але ўсё роўна нішчацца-буцьвеюць. Што зрабіць, каб пабагацець на *ксэракопію*? Гэта адзіны ратунак.

Ці не маглі б Вы ў Менску пагаварыць з кім адпаведным? Напрыклад, зь Віталем Уладзіміравічам Скалабанам[113]? Можа, ён што-небудзь прыдумае? Трэба ж даваць у адпаведныя рукі, каб дакуманту ня страціць.

Добра было б мне з кім адпаведным спаткацца, каб Пратаколы дапоўніць сваімі асабістымі ўспамінамі. Толькі асабіста можна ўсё больш-менш высьніць. Вядома, гэта мусіць быць чалавек, які *мне* будзе верыць, як і я *яму*.

У Далідовіча і стралялі на Зьезьдзе, і разганялі. І Вайсковы зьезд адбываўся ў тэатры, ды было на ім некалькі сотняў людзей… А было ўсё па-іншаму.

Зразумела, калі лічыце гэта важным, трэба сьпяшацца, пакуль яшчэ хаджу крыху і — думаю. Каб гэта так з В. У. Скалабанам спаткацца! Было б найлепш. Але ці ён знайшоў бы час? Ці гэта тэма яго цікавіць?

Усяго добрага! *Л. Войцікава*.

Забылася пазаўчора, як пісала да Вас, падзякаваць за весткі аб Ігнатовічу. Я ня ведала, дзе ён дзеўся… Зь яго мовай — бяда. Як пісаў мне, то пару лістоў было па-беларуску, а гаварыў стала па-руску. Добра, што Вы яго публічна пасарамацілі. Але ці дайшло? *Л. В.*

*18 лютага 1988 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Ведаю, што Вас стала ў Гродне німа, але бываеце, то і ліст мой атрымаеце. Вы, хіба, ведаеце аб сьмерці нашага кампазытара с. п. Паўла Карузы[114], хоць, як здаецца, да гэтай пары ў прэсе не было ні ўспамінаў, ні слова разьвітаньня. А можа, толькі я яшчэ нічога такога ня бачыла і не чытала? І гэта магчыма.

Але справа ня ў тым. Я ўчора перачытала ўсе лісты П. Карузы да мяне. Напаткала я нашу зь ім гутарку аб студэнцкім даўнейшым гімне «Gaudeamus igitur»… С. п. П. Каруза прыслаў мне тэкст лацінскі (бо я ня вельмі добра помніла) і пераклады гімна на беларускую і рускую мовы. Прыйшло мне ў галаву, а можа, у Вас студэнты цікавяцца гісторыяй даўнейшага студэнцтва? І тым самым гімнам? Магу яго Вам пераслаць.

У сувязі з тым агідным матэр’ялам у «Маладосьці» (№ 11–12, 1987 г.), на які Вы мне зьвярнулі ўвагу, маю ўжо ксэракопіі Пратаколаў зьезду 1917 г. Хачу адзін экзэмпляр даць клюбу «Паходня»[115], як будзе якая зручная аказія. А ў Менску хіба толькі аднаму Генадзю Кісялёву[116] магу даверыць. Бо хіба ён то не зьмяніўся… Але маю толькі стары яго адрас. А можа, жыве на тым самым мейсцы? Ня ведаю. Вельмі даўна яго ня бачыла. Адзін гісторык, якому веру. Ці патрэбная яму гэтая ксэракопія (арыгіналы друкаваныя ў мяне) — ня ведаю. Але хіба ня шкодзіла б, каб меў.

Падае сьнег, але цёпла і цёпла. Марозу — ні сьледу. Усё ж час ідзе да вясны. У канцы месяца пасею суніцы (пазёмкі). Да вясны хачу Вам пераслаць рэцэпт кампосту (угнаеньня) з крапівы. Мо спатрэбіцца.

Усяго найлепшага. Прывітаньне пані Марыі. Сардэчна зычлівая *Л. Войцікава*.

*19 лютага 1988 г., Вільня*

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Учора напісала Вам ліст, а сяньня даганяю, каб паправіць зробленую памылку. Я напісала, што зробленая копія таго дакуманту[117], які можа высьветліць увесь абсурд «працы» «Абуджаныя»[118] ў № 11–12 «Маладосьці». Напісала, наскольki помню, і прозьвішча таго, хто рабіў копію. А гэтага ні ў якім выпадку ня трэба было пісаць. Калі ласка, або *замалюйце* чарнілам тое прозьвішча, або *спаліце* цэлы ліст. Будзе мне спакайней… А спакою, так патрэбнага старому чалавеку, — ні хвілінкі…

Выслала бандэрольку заказную Г. Каханоўскаму і — *ні слова*! Другую — У. І. Содалю — тое самае, *ні слова*! Трэцюю — матэр’ялы да энцыкляпэдыі М. Багдановіча і фота Лявона Гмырака[119] Я. Саламевічу і — тое самае, *ні слова*! А квіты маю ўсе… Ці ж гэта ня можа нэрваваць? І што сабе людзі думаюць?

Бядую, што німа ўжо на сьвеце др. гістарычных навук М. М. Улашчыка[120]. Зь ім так лёгка было разьвязаць розныя гістарычныя загадкі і памылкі…

Цяпер зьвярнулася да Генадзя Кісялёва, але так даўна яго ня бачыла, і адрасу няпэўная… Ды і справу Пратаколаў зьездаў лістоўна не разьвяжаш. Не на маю старую галаву ўжо такія справы. А пазволіць цяперашнім «гісторыкам» усё пераблытываць пасвояму таксама нельга. І дзе шукаць выхад?

Адна нядрэнная вестка: Алесь Мікалаевіч Белакоз дзень у дзень прыймае-водзіць па музэі экскурсіі і неяк трымаецца. Каб так і надалей…

Выбачайце, што не даю спакою. У Вас і сваіх клопатаў хапае. Сардэчна зычлівая *Л. Войцікава.*

## ЗАЎВАГІ

[1] *Горадзенскі гурток беларускай моладзі* дзейнічаў у 1909–1913 гг. У яго ўваходзілі вучні мясцовых гімназій і школаў, у тым ліку Л. Сівіцкая, А. Бычкоўскі, А. Зянюк, А. Аляксюк, Я. Натусевіч, К. Колышка, Я. Лявіцкі ды інш. Гурток выдаў літаратурны альманах «Колас беларускай нівы» (1913), меў свой хор, ставіў беларускія спектаклі.

[2] *Бычкоўскі Адам* — сустаршыня (разам з ксяндзом Ф. Грынкевічам) Горадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1913). Пазней А. Бычкоўскі вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, удзельнічаў у тамтэйшым беларускім руху.

[3] *Ластаўка Пятро* (1907–1968) — публіцыст і грамадска-культурны дзеяч Заходняй Беларусі; пазней жыў у Варшаве.

[4] *Пазняк Зянон* (нар. 1944) — палітычны і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнавец; быў старшынёй сойма Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», лідарам апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце (1990–1996); у 1994 г. — кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь; з 1996 г. — на эміграцыі, жыве ў Варшаве, выдае часопіс «Беларускія ведамасці».

[5] *Грынкевіч Францішак* (1884–1933) — рэлігійны і культурны дзеяч. Закончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, у 1907 рукапакладзены ў ксяндзы. Служыў пробашчам пры Брыгіцкім кляштары ў Горадні, быў кіраўніком Горадзенскага гуртка беларускай моладзі. Перакладаў з лацінскай мовы на беларускую богаслужбовую літаратуру.

[6] *Баторы Стафан* (1533–1586) — вялікі князь ВКЛ, кароль польскі. Меў рэзідэнцыю ў Горадні, дзе і памёр.

[7] *Абрамовіч Зыгмунт* (сцэнічны псеўданім *Антон Забель*; 1892–1988) — акцёр тэатра Ігната Буйніцкага; жыў у Злотаве (Польшча); ліставаўся з З. Верас.

[8] *Буйніцкі Ігнат* (1861–1917) — акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч; пачынальнік беларускага нацыянальнага прафесійнага тэатра.

[9] *Ліс Арсень* (нар. 1934) — пісьменнік, фальклярыст, доктар філалогіі; працяглы час ліставаўся з З. Верас.

[10] *Сабалеўскі Анатоль* (1932–2012) — тэатразнавец і пісьменнік, доктар мастацтвазнаўства (1974).

[11] *Саламевіч Янка* (1938–2012) — літаратуразнавец і фальклярыст, аўтар першага ў гісторыі «Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)»; працяглы час ліставаўся з З. Верас.

[12] *«Беларуская борць»* — часопіс Беларускага каапэратыўнага таварыства «Пчала» (Вільня); выходзіў з 1934 да 1938 г. Рэдактарам-выдаўцом была З. Верас.

[13] *Тарашкевіч Браніслаў* (1892–1938) — грамадскі і палітычны дзеяч, мовазнавец, літаратар, акадэмік Акадэміі навук БССР (1928). У 1931 г. арыштаваны польскімі ўладамі, выменены савецкай уладай на Ф. Аляхновіча, у СССР арыштаваны і расстраляны.

[14] *Шырма Рыгор* (1892–1978) — беларускі харавы дырыжор, фальклярыст і грамадскі дзеяч, народны артыст СССР.

[15] *Пятровіч Сяргей* (1931–1981) — тэатразнавец, кандыдат мастацтвазнаўства (1962); у 1973–1977 — намеснік міністра культуры Беларусі.

[16] *Зянюк Адольф* (? — 1938) — адзін з кіраўнікоў Горадзенскага гуртка беларускай моладзі. Паходзіў з мястэчка Сухаволя Сакольскага павета, вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка» (Вільня).

[17] *Грынкевіч Станіслаў* (1902–1945) — беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч, літаратар. Падчас Другой сусветнай вайны актыўна друкаваўся ў газетах

«Раніца» і «Беларускі работнік», удзельнічаў у працы Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні; расстраляны паводле рашэння савецкага ваеннага трыбунала.

[18] *Родзька Вацлаў* (1888–1940) — рэлігійны і грамадзкі дзеяч. Закончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, служыў у Горадзенскім фарным касцёле, пазней — у Гальшанах і Старых Васілішках.

[19] *Федароўскі Міхал* (1853–1923) — беларускі і польскі фалькларыст, этнограф і археолаг.

[20] *Насовіч Іван* (1788–1877) — беларускі мовазнавец, фалькларыст і этнограф, аўтар «Слоўніка беларускай мовы» (1870).

[21] *Карскі Яўхім* (1861–1931) — філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства. Акадэмік Пецярбурскай і Чэшскай акадэмій навук.

[22] *Пачопка Баляслаў* (1884–1940) — грамадскі і рэлігійны дзеяч, рэдактар газеты «Беларус», дырэктар Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. У 1925 г. рукапакладзены ў грэка-каталіцкага святара.

[23] *Беларускі музей імя Івана Луцкевіча* існаваў у Вільні з 1921 да 1945 г.

[24] *Ластоўскі Вацлаў* (1883–1938) — палітычны дзеяч, гісторык, этнограф, пісьменнік, акадэмік Акадэміі навук Беларусі (1928), прэм'ер-міністр урада БНР (1919–1923); загінуў падчас сталінскага тэрору.

[25] *Ермаловіч Мікола* (1921–2000) — гісторык, літаратуразнавец; аўтар кніг «Па слядах аднаго міфа» (1989), «Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды» (1990), «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд» (1994).

[26] *Краўцоў Макар* (сапр. *Косцевіч*; 1890 — пасля 1939) — пісьменнік, аўтар тэксту песні «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (музыка У. Тэраўскага). Быў дэлегатам І Усебеларускага з'езда, сябрам Рады БНР. Пасля прыходу саветаў у Вільню арыштаваны НКУС.

[27] *Ярэміч Фабіян* (1891–1958) — грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст; з 1922 — сябра Беларускага пасольскага клуба, падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Барысава. Быў арыштаваны органамі НКУС, пасля вызвалення ў 1956 г. жыў у Вільні.

[28] *Марцінчык Мікалай* (1901–1980) — удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. Рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка», быў намеснікам старшыні Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Арыштоўваўся польскімі (1927 і 1930) і савецкімі (1948) уладамі; пасля вызвалення жыў у Горадні, працаваў лекарам.

[29] *Рак-Міхайлоўскі Сымон* (1885–1938) — публіцыст і грамадска-палітычны дзеяч. Быў паслом на Сойм Рэчы Паспалітай і адным з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Загінуў падчас сталінскага тэрору.

[30] *Ажэшка Эліза* (1841–1910) — польская пісьменніца, многія яе творы заснаваныя на беларускім матэрыяле.

[31] *Багушэвіч Францішак* (1840–1900) — паэт, публіцыст, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.

[32] *Новік-Пяюн Сяргей* (1906–1994) — беларускі паэт, эсперантыст, вязень польскіх, нямецкіх і савецкіх турмаў; ліставаўся з З. Верас.

[33] *Ігнатовіч Фёдар* — гарадзенскі лекар, выкладчык Гарадзенскага медінстытута, арганізатар Музея-аптэкі, які і сёння дзейнічае ў Горадні. Пэўны час працаваў у Нямеччыне, з-за чаго ліставанне З. Верас з ім перарывалася.

[34] *Бергман Аляксандра* (сапр. *Кучкоўская*; 1906—?) — гісторык, даследчыца нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі; з 1946 г. жыла ў Польшчы.

[35] *Смоліч Аркадзь* (1891–1938) — народны сакратар, намеснік старшыні Рады народных міністраў БНР; загінуў у Гулагу. *Смоліч Алеся* (?—1989) — педагог, аўтар беларускіх падручнікаў, жонка А. Смоліча.

[36] *Лёсік Язэп (1883–1940)* — мовазнавец, пісьменнік, акадэмік Беларускай акадэміі навук (1928); памёр у зняволенні ў турме г. Саратава. *Ванда Лёсікава — Лявіцкая Ванда* (1895–1968) — беларуская пісьменніца, дачка Ядвігіна Ш., жонка Я Лёсіка.

[37] *Луцкевіч Антон* (1884–1942) — палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык і літаратурны крытык; загінуў у Гулагу.

[38] *Бурсевіч Максім* (1890–1937) — педагог і грамадскі дзеяч. Быў адным з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, з 1931 г. жыў у Менску, уваходзіў у ЦВК БССР; загінуў падчас сталінскага тэрору.

[39] *«Rzecz o B. Taraszkiewiczu»* — манаграфія А. Бергман.

[40] *Ён аж на Флёрыдзе…* — відаць, маецца на ўвазе *Баляслаў Грабінскі* (1899–1991) — выпускнік Віленскага ўніверсітэта, доктар медыцыны, грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША.

[41] *Лойка Алег* (1931–2008) — паэт, празаік, літаратуразнавец; член-карэспандэнт НАН Беларусі (1989), доктар філалогіі (1969).

[42] *Ядвігін Ш.* (сапр. *Антон Лявіцкі*; 1869–1922) — празаік і публіцыст; пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

[43] *Уласаў Аляксандр* (1874–1941) — грамадска-палітычны і культурны дзеяч, публіцыст. Быў рэдактарам-выдаўцом газеты «Наша ніва», паслом на Сойм Рэчы Паспалітай; загінуў падчас сталінскага тэрору.

[44] *Ніжанкоўская Вера* — жонка Браніслава Тарашкевіча; жыла ў Радашкавічах.

[45] *Целеш Вячаслаў* (нар. 1938) — беларускі мастак і філакартыст, аўтар альбома «Гарады Беларусі на старых паштоўках» (1998); жыве ў Рызе.

[46] *Караткевіч Уладзімір* (1930–1984) — класік беларускай літаратуры.

[47] *Збралевіч Лідзія* — бібліёграф, загадчыца аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН імя Якуба Коласа.

[48] *Ватацы Ніна* (1908–1997) — беларускі бібліёграф, даследчыца творчасці М. Багдановіча, укладальніца кн. «Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча» (1975), дзе былі апублікаваныя ўспаміны З. Верас «Пяць месяцаў у Менску».

[49] *Луцкевіч Іван* (1881–1919) — палітычны дзеяч, этнограф, публіцыст.

[50] *Луцкевіч Лявон* (1922–1997) — культурны і грамадскі дзеяч, аўтар кнігі «Вандроўкі па Вільні». Каля дзесяці гадоў правёў у Гулагу. Малодшы сын Антона Луцкевіча; зяць З. Верас.

[51] *Наш Слаўка заўсёды слухае радыё…* — маецца на ўвазе ўнук З. Верас Яраслаў Войцік.

[52] *Публікацыя А. Лойкі…* — магчыма, гаворка ідзе пра раздзелы з рамана-эсэ «Як агонь, як вада», надрукаваныя ў часопісе «Нёман» (1981, № 9).

[53] *Александровіч Сцяпан* (1921–1986) — літаратуразнавец, доктар філалагічных навук (1972).

[54] *Пісьмянкоў Алесь* (1957–2004) — паэт і крытык; працаваў галоўным рэдактарам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», часопіса «Вожык».

[55] *Машара Міхась* (1902–1976) — паэт, празаік, актывіст нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі.

[56] *Арабей Лідзія* (нар. 1925) — пісьменніца; працавала ў рэдакцыі часопіса «Полымя» (1967–1974).

[57] *Геніюш Ларыса* (1910–1983) — паэтка і мемуарыстка; сакратар Рады БНР з 1943 г., восем гадоў правяла ў Гулагу. Працяглы час ліставалася з З. Верас (гл.: Скобла М. Лісты ў «лясную хатку» // Асоба і час. 2011. № 4).

[58] *Бічэль Данута* (нар. 1938) — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984); стваральніца і першы дырэктар Гарадзенскага музея М. Багдановіча. Працяглы час ліставалася з З. Верас.

[59] *Кароль Усевалад* (1919–1984) — актывіст Беларускай незалежніцкай партыі, па прафесіі лекар; у 1946 г. быў арыштаваны, пасля вяртання з Гулагу жыў у Баранавічах.

[60] *Танк Максім* (сапр. *Яўген Скурко*; 1912–1995) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі (1967–1990), член ЦК Камуністычнай партыі Беларусі (1966–1990), старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1963–1971). Народны паэт Беларусі (1968), Герой Сацыялістычнай Працы (1974).

[61] *Лявіцкі Язэп* (псеўд. *Юрка Снапко*, 1893–1916) — паэт; быў сябрам Горадзенскага гуртка беларускай моладзі.

[62] *«З кагорты пачынальнікаў»* — артыкул А. Пяткевіча пра Я. Лявіцкага (Юрку Снапка), надрукаваны ў зборніку «Краю мой — Нёман».

[63] *Пяткевіч Марыя* (*Шумская*; 1930–2012) — настаўніца, жонка А. Пяткевіча.

[64] *Белакоз Алесь* (нар. 1928) — краязнавец, педагог, мемуарыст; заснавальнік Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея (1965), з супрацоўнікамі якога З. Верас працяглы час карэспандавала.

[65] *Меліся быць у «Спадчыне»...* — літаратурны альманах «Спадчына», падрыхтаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» на пачатку 1980-х, у свет не выйшаў.

[66] *Панізнік Сяргей* (нар. 1942) — паэт, краязнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч; ліставаўся з З. Верас.

[67] *Мальдзіс Адам* (нар. 1932) — літаратуразнавец, празаік, доктар філалагічных навук (1987); ліставаўся з З. Верас.

[68] *Каханоўскі Генадзь* (1936–1994) — гісторык, археолаг, краязнавец, фальклрыст, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук (1992); ліставаўся з З. Верас.

[69] *Дварчанін Ігнат* (1895–1937) — пісьменнік, актывіст нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі; вучыўся ў Карлавым універсітэце (Прага), дзе атрымаў ступень доктара філасофіі. Быў адным з арганізатараў Першага ўсебеларускага з’езда (1917), у 1933 г. арыштаваны і высланы на Салаўкі, дзе быў расстраляны.

[70] *Хвораст Янка* (1902–1983) — балетмайстар, збіральнік харэаграфічнага фальклору.

[71] *Скрыган Ян* (1905–1992) — пісьменнік, мовазнавец; быў рэпрэсаваны, шмат гадоў правёў у высылцы.

[72] *Сурмач Ганна* (нар. 1947) — грамадская дзеячка, музеязнавец; была дырэктарам Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, узначальвала Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[73] *В. Русецкі* — менскі мешчанін, пчаляр, домаўласнік; у яго доме пэўны час кватараваў Я. Колас.

[74] *Мікуліч Барыс* (1912–1954) — пісьменнік, аўтар аповесці пра М. Багдановіча.

[75] *Бядуля Змітрок* (сапр. *Самуіл Плаўнік*;1886–1941) — паэт і празаік.

[76] *Паўловіч Альберт* (1875–1951) — паэт і драматург.

[77] *Фарботка Язэп* (1893–1960) — паэт, літаратуразнавец.

[78] *Галубок Уладзіслаў* (1882–1937) — пісьменнік, рэжысёр, тэатральны дзеяч, мастак, першы народны артыст БССР; загінуў падчас сталінскага тэрору.

[79] *Скарынкін Уладзімір* (нар. 1939) — паэт і перакладчык.

[80] *Наліваеў Анатоль* (нар. 1931) — мастак, калекцыянер, заснавальнік прыватнага музея «Гасцёўня Галубка» (Менск).

[81] *Содаль Уладзімір* (1937) — літаратуразнавец і краязнаўца; працяглы час ліставаўся з З. Верас.

[82] *Лявіцкая Ванда* (1895–1968) — беларуская пісьменніца, дачка Ядвігіна Ш., жонка Я. Лёсіка.

[83] *Ватацы Ніна* (1908–1997) — беларускі бібліёграф, даследчыца жыцця і творчасці М. Багдановіча.

[84] *Асташонак Алесь* (1954–2004) — пісьменнік і перакладчык.

[85] *Шушкевіч Станіслаў* (1908–1991) — паэт, аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў для дзяцей.

[86] *Лужанін Максім* (сапр. *Аляксандр Каратай*; 1909–2001) — паэт, празаік, перакладчык.

[87] *Вітка Васіль* (сапр. *Цімох Крысько*; 1911–1996) — паэт, перакладчык.

[88] *Ляшковіч Ніна* — супрацоўніца віленскіх архіваў; дапамагала беларускім даследчыкам у іхніх росшуках.

[89] *Кісялеўскі Анатоль* (1925–1986) — мовазнавец, аўтар «Лацінска-руска-беларускага батанічнага слоўніка» (1967).

[90] *Сардэчна, шчыра дзякую за наш зборнік…* — маецца на ўвазе зборнік літаратараў Гарадзеншчыны «Краю мой — Нёман» (1986), дзе былі апублікаваныя ўспаміны З. Верас «Старое Гродна».

[91] *Быкаў Васіль* (1924–2003) — народны пісьменнік Беларусі (1980); напісаў прадмову да зборніка «Краю мой — Нёман».

[92] *Спатканьні з «бацькам»…* — гаворка пра Язэпа Лявіцкага, які выконваў ролю Бацькі ў камедыі К. Каганца «Модны шляхцюк»; ролю Ганкі выконвала Л. Сівіцкая.

[93] *Карпюк Аляксей* (1920–1992) — беларускі пісьменнік, у 1978–1992 гг. узначальваў Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[94] *Іверс Анатоль* (сапр. *Іван Міско*; 1912–1999) — беларускі паэт і ўдзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі.

[95] *Леўчык Гальяш* (сапр. *Ляўковіч Ілля*; 1880–1944) — беларускі паэт.

[96] *Сідаровіч Мікалай* — настаўнік і краязнавец, які арганізоўваў у Слоніме літаратурны музей.

[97] *Лейка Кандрат* (1860–1921) — паэт і драматург.

[98] *Гайдук Мікола* (1933–1998) — пісьменнік; працаваў намеснікам галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва» (Беласток).

[99] *Лічу яго, Міколу-пчаляра…* — маецца на ўвазе *Папека Мікола* (нар. 1961) — беларускі пчаляр і паэт.

[100] *Фальскі Усевалад* (1886—?) — грамадска-палітычны і дзяржаўны дзеяч; камісар замежных справаў у Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларусі (1919).

[101] *Шантыр Фабіян* (1887–1920) — паэт, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч; камісар па нацыянальных справах у Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларусі (1919); быў расстраляны бальшавікамі.

Войска я пакінуў у чыне капрала падхаронжага. Афіцэрскую школу танкінстаў скончыў у Англіі. Маёр Полішэўскі, кіраўнік школы даў мне апошняе месца зь ліку 24. Ён загарадзіў мне дарогу такой апініяй: «Хваравіты, слаба вышкалёны, чуе комплекс народнай ніжэйшасьці. Годны быць заступнікам дружыновага».

У польскай арміі, Другім Корпусе, у Італіі, тым нам, што былі пад уладай немцаў у Беларусі, дазволілі зьмяняць прозьвішчы, гэта — для бясьпекі, калі-б трапіў у палон…

Пра сваю сям'ю — мая надта прыватная справа. Каму гэта патрэбна ведаць?

Раю Табе сьлядзіць «Беларускі Кнігазбор», там перавыдаецца «Змагарныя дарогі»[36]. Мой найбольш цэнны твор — «Гараватка» (тры кнігі)[37] я лічу найлепшым. Спадзяюся, што яго ўдасца перавыдаць у будучыні.

Мне сёлета 16-га лістапада будзе 80-гадоў. Добрыя людзі жадаюць мне яшчэ жыць і тварыць. А як з помачай божай?

Жадаю Табе добрага здароўя і шчасьлівага жыцьця ў будучыні.

К. Акула

*22.11.2006*[38]

Шаноўны Сяржук Макарэвіч!

Атрымаў пісьмо ад Цябе. Цікавае! Дзякую.

Навошта Табе мае браты і сёстры?[39]

Адзін, Сяргей, старэйшы за мяне на 3 гады, у Верацеях. Калі пастановіш наведаць яго, глядзі каб злосны Захарук із злым сабакам на Цябе не напаў.

Два разы я быў у Менску — першы раз 4-га верасьня 1992 году. Надта-ж гарачае лета было. Пабыў 3 тыдні. Другі раз Пазьняк[40] папрасіў мяне зьявіцца ў маёй ваеннай беларускай вэтэранскай вапратцы. Мае брытанскія мэдалі[41] памаглі.

Сьвяткавалі нашу перамогу над маскалямі пад Воршай! Народ быў захоплены маёй прамовай: 3 хвіліны каля пашкоджанага тэатру круглага[42]… Мяне даганяў нейкі паляк, дзівак, што хацеў прэзыдэнтам быць[43]. Я ня меў часу расказаць яму нашу палескую басьню-казку як Pan Bóg польскіх Panów w Białorusi tworzyła pies Jemu pomagat.

Канчаю. Пішы, Добры Чалавек Сяржук да мяне.

Птушатнік Кастусь

Публікацыя і каментары *Сяргея МАКАРЭВІЧА*

---

36 Раман выйшаў у кнізе пад назвай «Россыпы» ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор» у 2005 г. Быў прэзентаваны ў малой зале сталічнага Дома літаратара на імпрэзе, прысвечанай 80-годдзю пісьменніка.

37 Трылогія складаецца з кніг «Дзярлівая птушка» (Таронта, 1965; Мінск, 1997), «Закрываўленае сонца» (Таронта, 1974), «Беларусы, вас чакае зямля» (Таронта, 1981).

38 Адзіны ліст, які Акула напісаў ад рукі. Усе астатнія былі аддрукаваныя на машынцы.

39 Адрасант пытаўся ў пісьменніка пра яго родных.

40 Зянон Пазняк (нар. 1944). Палітык, старшыня КХП-БНФ. Жыве ў эміграцыі.

41 Узнагароджаны брытанскім урадам медалямі «За вайну» і «Залатая зорка Італіі».

42 Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

43 Маецца на ўвазе Аляксандр Прушынскі (нар. 1934).

# Святары


МІТРАПАЛІТ МІКАЛАЙ
ПАСТЫР ДОБРЫ АДДАЕ ЖЫЦЬЦЁ СВАЁ ЗА АВЕЧКІ (ЯН 10:11)
ЯК ЖА МЫ ЧУЕМ КОЖНЫ СВАЮ МОВУ У ЯКОЙ НАРАДЗІЛІСЯ (ДЗЕІ 2:8)
МІХАЛ МАЦУКЕВІЧ
75
МОТАЛЬ НА ПАЛЕСЬСІ

# НАПІСАНАЕ — ЗАСТАЕЦЦА
## Да ролі мітрапаліта Станіслава Богуш-Сестранцэвіча ў арганізацыі справаводства Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі

Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч — знакавая асоба ў гісторыі Беларусі. Ён вядомы ў нашай краіне і за яе межамі як палітык, выбітны прадстаўнік каталіцкага кліру, гісторык, пісьменнік, філолаг, мецэнат. Яго жыццё і дзейнасць выклікаюць цікавасць шырокіх навуковых колаў пачынаючы з канца XIX ст. і да сёння[1]. Нягледзячы на гэта, нельга сцвярджаць, што яго біяграфія цалкам даследавана. Першы мітрапаліт Магілёўскай архідыяцэзіі праявіў сябе ў шматлікіх аспектах жыцця, таму асобныя моманты яго біяграфіі раскрыты ў гістарыяграфіі недастаткова, тым больш што з кожным годам пашыраецца крыніцазнаўчая база даследаванняў па гісторыі Рымска-каталіцкай царквы за кошт увядзення ў навуковы ўжытак крыніц, якія ў папярэднія гістарычныя перыяды па разнастайных прычынах заставаліся па-за ўвагай навукоўцаў. Адным з такіх момантаў з'яўляецца дзейнасць С. Богуш-Сестранцэвіча па арганізацыі справаводства Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, дакументальная спадчына якой дагэтуль маладаследаваная.

Першы магілёўскі арцыбіскуп пакінуў шырокую біябібліяграфічную і крыніцазнаўчую базу, якая, на жаль, застаецца рассеянай паміж архіўнымі і бібліятэчнымі ўстановамі

---

[1] Гл.: Альбовский Е. Император Павел I и митрополит Станислав Сестренцевич-Богуш (по фамильным преданиям) // Русская старина. 1897. Т. 90. С. 279–282; Криксин В. С. Несколько слов о дневнике Сестренцевича, перваго митрополита всех Римско-католических церквей в России. По поводу изданного в книге XVI «Старины и новизны» дневника Сестренцевича за 1797 и 1798 гг.— СПб.: Тип. М. М. Стасюлевича, 1913. 23 с.; Філатава А. М. Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч: Жыццё і тастамент // Культура. 1993. 3 жн. С. 6–7; Вишленкова Е. А. Заботясь о душах подданных: религиозная политика в России первой четверти XIX века. Саратов: Изд. Саратовского университета, 2002. 467 с.; Кіштымаў А. Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч // Славутыя імены Бацькаўшчыны: зборнік / Беларускі фонд культуры; рэдкал.: А. Грыцкевіч (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2003. Вып. 2. С. 366–373; Кіштымаў А. Чалавек сваей эпохі: Станіслаў Сестранцэвіч-Богуш — першы рыма-каталіцкі мітрапаліт Расійскай імперыі // Історія релігі в Україні: Праці XIII-ї Міжнародної навукової конференції, Львів, 20–24 травня 2002 р. Львів: Видавництво Українського католицького університету, 2002. Кн. 1. С. 199–206; Попов М. А. Митрополит С. Богуш-Сестренцевич: роль в формировании правительственной политики по отношению к римско-католической церкви на белорусских землях (конец XVIII — первая четверть XIX в.): автореф. дисс. … канд. ист. наук: 07.00.02. Минск, 2008. 24 с.; Boudou A. Stolica Świętaa Rosja. Stosunki dyplomatyczne między niemi w XIX stuleciu. Kraków: Wydawnictwo Księży Jezuitów, 1928. T. 1. 608 s.; Godlewski M. Arcybiskup Siestrzeńcewicz i Stanisław August w Petersburgu. W 130 rocznicę śmierci ostatniego króla polskiego z niewydanych żródeł. Kraków: Druk. Przeglądu powszechnego, 1928. 19 s.; Яго ж. De cardynalatu Stanislai Siestrzeńcewicz-Bogusz (1784–1817). Petropoli: Typ. J. Mansfeld, 1909. 53 s.; Яго ж. Dola i niedola Stanisława Siestrzeńcewicza-Bogusza za rządów cesarza Pawła I // Polonia sacra. Kwartalnik teologiczny. 1948. R. I. S. 145–175; 1949. R. II. S. 301–326.; Яго ж. O kardynalacie Stanisława Siestrzeńcewicza-Bogusza // Kwartalnik litewski. 1910. T. 2. S. 13–22; 1910. T. 3. S. 51–58; 1910. T. 4. S. 13–24.; Яго ж. Ostatnie pragnienie Stanisłwa Siestrzeńcewcza-Bogusza // Przegląd historyczny. 1908. T. 6. S. 83–92.; Łaszkiewicz J. Mowa na pogrzebie jaśnie wielmożnego jegomości księdza Stanisława Bohusza-Siestrzeńcewicza, metropolity rzymskich w Rossyi kościołów arcybiskupa mohilewskiego, prezydenta pierwszego departamentu rzymsko-katolickiego duchownego kollegium, różnych towarzystw uczonych członka, komandora i kawalera orderów s. Andrzeja Apostoła wielkiego krzyża, s. Włodzimerza pierwszej klasy, Aleksandra Newskiego, s. Anny I klasy, s. Jana Jerozulimskiego wielkiego krzyża, Orła Białego i s. Stanisława. Przez x. Jana Łaszkiewicza Scholarum Piarum byłego prefecta, oraz nauczyciela literatury starożytnej w szkole wyższej Płockiej xx. piarów, miana w St. Petersburgu w kościele metropolitarnym katolickim dnia 9 grudnia 1826 roku. Płock : Druk. XX. Piarów, 1827. 29 s.; Petrani A. Monografia o metropolicie Siestrzeńcewiczu // Prawo kanoniczne. 1970. R. XIII. № 1–2. S. 292–309.; Przyałgowski W. Żywoty biskupów Wileńskich. Sankt-Petersburg: Druk. J. Ohryzki, 1860. T. II. 623 s.; Wasilewski J. Arcybiskupi i administratorowie archidiecezji mohilewskiej. Pińsk: Druk. diecezjalna, 1930. 198 s.; і інш.

Беларусі, Ватыкана, Польшчы, Расіі, Украіны. Цікавасць для характарыстыкі яго асобы ў першую чаргу прадстаўляюць яго мемуары і літаратурная спадчына, а таксама ўспаміны паплечнікаў[2]. Аднак суб'ектыўнасць інфармацыі, якая падаецца ў такіх відах крыніц, не дазваляе цалкам вызначыць ролю С. Богуш-Сестранцэвіча ў сучасных яму гістарычных працэсах, у тым ліку ў арганізацыі справаводства Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі. Гэта патрабуе прыцягнення архіўных крыніц, а менавіта, у сувязі з абранай тэмай артыкула, матэрыялаў справаводства Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі, пераважная частка якіх захоўваецца ў складзе аднайменнага архіўнага фонду ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (далей — НГАБ). У ім каля 1180 спраў з 54 527 адзінкамі захавання тычацца перыяду 1775–1826 гг., калі С. Богуш-Сестранцэвіч узначальваў фарміраванне адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры Каталіцкай царквы ў Расійскай імперыі[3]. Сярод гэтых матэрыялаў пераважную большасць складаюць метрычныя кнігі касцёлаў архідыяцэзіі, а таксама матэрыялы па адміністрацыйных спрэчках паміж святарствам, якое прадстаўляла касцёлы або кляштары, і органамі дзяржаўнай улады, кіраўніцтвам іншых канфесій або прыватнымі асобамі, пабудове і рамонце касцёлаў, скасаванні шлюбаў, накладанні епітымій, спробах самагубства і іншыя спецыяльныя сістэмы справаводнай дакументацыі (каля 90 %). Найменшы працэнт як сярод захаваных дакументаў, так і ў справаводстве Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі займае агульная справаводная дакументацыя, дзе прадстаўлены звесткі аб працэсе прыняцця і рэалізацыі кіраўніцкіх рашэнняў у кансісторыі, арганізацыі працы яе канцылярыі і аб'ёме дакументапатоку, што актуальна пры вызначэнні ролі мітрапаліта ў дзейнасці кансісторыі. Гэтая дакументацыя падзяляецца па функцыянальным прызначэнні на пяць груп і ўключае матэрыялы распарадчага, справаздачнага, пратакольнага характару, дакументы па асабістым складзе духавенства і рэгістрацыйна-ўліковыя формы дакументаў.

Пры разглядзе ролі С. Богуш-Сестранцэвіча ў арганізацыі працы канцылярыі Магілёўскай кансісторыі падставовымі матэрыяламі выступаюць распарадчыя дакументы (указы, цыркуляры, прапановы, інструкцыі), якімі ў справаводства разгляданай установы ўводзіліся рэгістрацыйна-ўліковыя формы дакументаў (рэестры). У дадзеным артыкуле хацелася б спыніцца на прапановах мітрапаліта па арганізацыі працы кансісторыі. Яны выпрацоўваліся на падставе адпаведных нарматыўных актаў вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Расійскай імперыі[4], з улікам асаблівасцяў структуры кіравання канфесіі і ролі веравызнання на грамадска-палітычнай арэне дзяржавы. Прапановы складаліся паводле вызначанай структуры: уступ, асноўная частка і прадпісанне — у поўным варыянце, які выкарыстоўваўся ў афіцыйнай перапісцы па найбольш значных справах. У кароткім варыянце ў запіс уваходзіла толькі сутнасць прапановы. С. Богуш-Сестранцэвіч як кіраўнік кансісторыі для арганізацыі яе справаводства звычайна выкарыстоўваў кароткі варыянт. Ва ўступе адзначаліся адрасат і адрасант, а таксама прычына ўзнімання пытання і від дакумента: «Прапанова ад Магілёўскага рымска-каталіцкіх цэркваў арцыбіскупа

---

[2] Гл.: Сестренцевич-Богуш С. Дневник и переписка // Старина и новизна. 1913. Кн. 16. С. I–III, 1–185; 1914. Кн. 18. С. I–II, 187–281; 1915. Кн. 19. С. 277–330; 1916. Кн. 21. С. 307–372; 1917. Кн. 22. С. 373–457; Яго ж. Слово, сказанное в Вильне в кафедральной церкви Св. Станислава 1771 года ноября в 13-й день, тогдашним Виленской кафедры каноником и епархиальным администратором, а ныне митрополитом всех римско-католических церквей в России и кавалером Станиславом Сестренцевичем Богушем. СПб.: Тип. Шнора, 1810. 8 с.

[3] Фонды Национального исторического архива Беларуси: справочник / сост. Г. Е. Акулович [и др.]. — Минск: БелНИИДАД, 2006. С. 196–197.

[4] Гл.: Филатова Е. Н. Конфессиональная политика царского правительства в Беларуси. 1772–1860 гг. Минск: Бел. наука, 2006. С. 27.

Станіслава Богуш-Сестранцэвіча ў Магілёўскую кансісторыю па вусным ўказе Яго Імператарскай Вялікасці прапаную гэтай кансісторыі». Асноўная частка прысвячалася тэзіснаму выкладанню абставін, часта з падзяленнем на пункты. На дакуменце пазначалася дата яго атрымання кансісторыяй і парадкавы нумар. У канцы XVIII — першай трэці XIX ст. яны складаліся пераважна на польскай або лацінскай мове. Для іх напісання выкарыстоўвалася папера з філігранямі або гербавая папера, што падкрэслівае вартасць дакументаў і дазваляе правесці іх дадатковую верыфікацыю.

За перыяд дзейнасці першага мітрапаліта іх захавалася няшмат, і яны пераважна адносяцца да канца XVIII ст. Напрыклад, за 1797–1800 гг. арцыбіскуп у кансісторыю накіраваў 114 прапаноў, што склала 70 % ад атрыманай кансісторыяй распарадчай дакументацыі і сведчыць аб яго актыўным удзеле ў працы па арганізацыі дзейнасці ўстановы ўвогуле і справаводства ў прыватнасці[5]. Пры гэтым пік выдання прапаноў прыходзіцца на 1798–1799 гг. (32 і 42 прапановы адпаведна), што звязана з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэарганізацыяй Каталіцкай царквы ў імперыі і ўсталяваннем арганізацыі справаводства ў рымска-каталіцкіх кансісторыях.

Відавочна, што яшчэ са стварэннем Магілёўскай кансісторыі ў 1782 г. С. Богуш-Сестранцэвіч сутыкнуўся з шэрагам праблем па арганізацыі яе працы. У каталіцтве кансісторыя з'яўляецца нарадай кардыналаў на чале з Папам Рымскім[6]. У Расійскай імперыі гэтай установе надаваўся іншы сэнс. Кансісторыі ўтвараліся ў кожнай дыяцэзіі[7] для вырашэння пытанняў, звязаных з падначаленым духавенствам і духоўным судом, у тым ліку над прыватнымі асобамі. Адміністрацыйнае кіраўніцтва падначаленымі ўстановамі тычылася дзейнасці парафіяльных касцёлаў, а таксама дэканаў і пробашчаў, для якіх рэгламентаваліся ўзаемаадносіны з прыхаджанамі. Акрамя таго, кансісторыямі канчаткова апрацоўваліся ведамасці духавенства і парафіян, пададзеныя дэканамі. Парадак іх апрацоўкі і прадстаўлення ў Рымска-каталіцкую калегію быў выпрацаваны мітрапалітам на працягу першых гадоў існавання кансісторыі. Напрыклад, у снежні 1797 г. С. Богуш-Сестранцэвіч прадпісаў, каб атрыманыя ведамасці і рапарты правяраліся на дастатковасць і праўдзівасць інфармацыі ў кансісторыі. Пры наяўнасці памылак рапарт або ведамасць з суправаджальным лістом кансісторыя мусіла вярнуць у касцёл за кошт пробашча на дапрацоўку. Адначасова арцыбіскуп адзначаў, што такая праверка дагэтуль праводзілася ім асабіста, аднак па прычыне знаходжання яго ў Санкт-Пецярбургу, а кансісторыі ў Магілёве перасылка займае шмат часу, у чым не зацікаўленыя ні грамадства, ні вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы. Таму ён рэкамендаваў каноніку К. Шышку разам з адным з канцылярыстаў узяць працу з ведамасцямі і рапартамі пад уласны кантроль[8].

Важнейшыя дысцыплінарныя пытанні, маёмасныя спрэчкі паміж духавенствам і неўздзяйсненне манаскіх абетаў уваходзіла ў сферу судовых кампетэнцый кансісторыі. Рашэнні прымаліся арцыбіскупам на падставе матэрыялаў следства і першапачатковага прысуду, які выносіўся ў кансісторыі. Крымінальныя злачынствы і грамадзянскія спрэчкі з удзелам прыватных асоб разглядаліся выключна свецкімі судамі[9], а кан-

[5] НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 1.

[6] Гл.: Чистяков, П. Консистория / П. Чистяков // Католическая энциклопедия. Издательство Францисканцев, 2002. Т. 2. С. 1229–1231.

[7] У 1782 г. іх было шэсць: Магілёўская архідыяцэзія і пяць дыяцэзій — Віленская (Літоўская і Курляндская губ.), Жмудская (Жмудская зямля), Луцкая (Валынская губ.), Камянецкая (Падольская губ.) і Мінская (Мінская губ.).

[8] НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 1. Арк. 43.

[9] НГАБ. Ф. 1781. Воп. 32. Спр. 43.

сісторыяй накладалася царкоўнае пакаянне (епітым'я) на злачынцаў[10]. Дзейнасць кансісторыі ўзначальваў біскуп або арцыбіскуп. Таму першаму мітрапаліту было неабходна вызначыць парадак разгляду спраў, каб аптымізаваць працу кансісторыі і адпаведна прызначаць яе служачых. Так, у кастрычніку 1798 г. асэсарам кансісторыі быў прызначаны ксёндз Л. Васілеўскі. Ён выказаў пажаданне ўзяць на сябе абавязкі па падрыхтоўцы да разгляду спраў на рускай мове[11]. Цікава, што аб прызначэнні асэсара неабходна было рапартаваць у Рымска-каталіцкую духоўную калегію, якую таксама ўзначальваў С. Богуш-Сестранцэвіч, а вось пры прызначэнні сакратара гэта не патрабавалася, таму што «сакратара відаць па подпісе», аднак да прызначэнняў ніжэйшых служачых кансісторыі (канцылярыстаў) мітрапаліт таксама ставіўся ўважліва[12].

Арцыбіскуп узначальваў пасяджэнні кансісторыі, хоць гэта не ўваходзіла ў яго непасрэдныя абавязкі, і яму належала ключавое месца ў прыняцці рашэнняў[13]. Пры гэтым кансісторыя мела права дарадчага голасу, а арцыбіскуп не меў права разглядаць судовыя справы асабіста[14]. Дакладнае трыманне С. Богуш-Сестранцэвічам пры прыняцці рашэнняў канонаў царквы, з аднаго боку, і нарматыўных актаў Расійскай імперыі, якімі была абавязаная кіравацца кансісторыя ў сваёй дзейнасці, з другога, дазваляла ў шэрагу выпадкаў пазбегнуць канфліктаў з органамі дзяржаўнай улады і заклала падмурак дзейнасці азначанай установы, які дазволіў Каталіцкай царкве заставацца ўплывовым веравызнаннем на грамадска-палітычнай арэне Расійскай імперыі да 1917 г. Напрыклад, у 1799 г. атрымаў дэкрэт і матэрыялы следства па справе аб скасаванні шлюбу Бярнацкіх, аднак не змог яго зацвердзіць, бо «ён не падпісаны бакамі, што яго слухалі самі ці іх упаўнаважаныя прадстаўнікі пры адчыненых дзвярах кансісторыі або ён не быў абвешчаны грамадству ксяндзом, да парафіі якога належаць супружнікі»[15]. У выніку мітрапаліт вярнуў дэкрэт у кансісторыю з прадпісаннем выканаць гэта, таму што парушэнне парадку разгляду справы можа стаць падставай для апеляцыі. Ён таксама падкрэсліў, што прыняцце канчатковага рашэння па справах аб скасаванні шлюбу належыць выключна яго кампетэнцыі пасля выключэння кансісторыяй магчымасці апеляцыі. Рашэнне кансісторыі магло быць прызнанае арцыбіскупам недастаткова аргументаваным. У такіх выпадках справа накіроўвалася на перагляд. Калі пасля перагляду кансісторыя не змяніла свайго пункту гледжання і не прыняла дадатковых аргументаў, арцыбіскуп меў права накіраваць да выканання асабістае рашэнне. Выключэнне складалі справы, якія не падлягалі адтэрміноўцы і разглядаліся падчас адсутнасці арцыбіскупа па значнай прычыне (хвароба, выезд за межы архідыяцэзіі і інш.)[16].

---

10 НГАБ. Ф. 3219. Воп. 1. Спр. 778. Арк. 2.

11 НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 1. Арк. 104.

12 НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 1. Арк. 104.

13 НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 352; Попов М. А. Деятельность митрополита С. Богуш-Сестренцевича по формированию деканальной сети Могилевского архиепископства (1773–1826 гг.) // Высшая школа: проблемы и перспективы. Материалы 8-й междунар. науч.-метод. конф. Минск, 18–19 декабря 2007 г. / РИВШ; редкол.: М. И. Демчук (и др.). Минск: РИВШ, 2007. Ч. 2. С. 82–85; Godlewski M. Arcybiskup Siestrzencewicz i Stanisław August w Petersburgu. Kraków: Drukarnia «Przeglądu Powszechnego», 1928. 19 s.; Яго ж. O kardynalacie S. Siestrzencewicza-Bogusza. Wilno: Księgarnia Stow. Naucz. Polskiego. 24 s; Radwan M. Repertorium archiwów archidiecezji Mohylewskiej i diecezji Mińskiej. Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2001. 270 s.; Wasilewski J. Arcybiskupi i administratorowi archidjecezji Mohilewskiej. Pińsk: Drukarnia diecezjalna, 1930. S. 3–7.

14 LVIA. F. 604. Ap. 1. B. 273.

15 НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 1. Арк. 240–241.

16 LVIA. F. 694. Ap. 1. B. 172.

Сярод захаваных у НГАБ матэрыялаў вылучаецца прапанова аб арганізацыі вядзення рэестраў, якія адносяцца да рэгістрацыйна-ўліковых форм дакументаў Магілёўскай рымска-каталіцкай кансісторыі і дазваляюць характарызаваць напружанасць і арганізацыю працы канцылярыі. У канцы XVIII — першай палове XIX ст. складалася два віды рэестраў на польскай мове: настольнага і дакладнога. Парадак іх вядзення быў вызначаны прапановай арцыбіскупа ад 29 снежня 1799 г. Яна напісана на паперы высокай якасці, пажоўклай за перыяд захавання, з філігранню ў выглядзе медальёна з выявай Пасейдона з трохзубцам, апушчаным уніз, над якім каралеўская карона. Падобныя філіграні выраблялiся на Віленскім папяровым млыне каля 1791 г.[17]. Ва ўступе адзначана, што настольныя і дакладныя рэестры ўводзяцца ў дакументазварот кансісторыі з 1800 г., што, відавочна, звязана з павелічэннем дакументапатоку ўстановы. Прапанова ўключае два пунты ў адпаведнасці з відамі рэестаў.

Першы пункт прысвечаны афармленню настольных рэестраў. Колькасць настольных рэестраў вызначалася колькасцю аддзелаў (сталоў) ва ўстанове. Канцылярыя Магілёўскай кансісторыі да прыняцця нарматыўных актаў пачатку 1840-х гг. не мела структурных падраздзяленняў, таму ў першай трэці XIX ст. складаўся адзін настольны рэестр[18]. Ён уяўляў з сябе, паводле выразу мітрапаліта, «храналогію спраў кансісторыі» і захоўваўся ў канцылярыі, дзе адказны канцылярыст уносіў у яго звесткі аб атрыманых дакументах і рабіў пазначэнні аб выніках іх разгляду і выканання.

Дакладны рэестр, асаблівасці складання якога разглядаюцца ў другім пункце, з'яўляўся больш падрабязным дакументам. Па сутнасці, ён уяўляў з сябе кароткі пратакол пасяджэння прысутнасці кансісторыі або сентэнцыю[19], якія былі падставовымі дакументамі для складання журналаў, пратаколаў, рапартаў. Акрамя таго, дакладны рэестр выкарыстоўваўся ў якасці даведачнага дакумента пры ўзнікненні спрэчных пытанняў. Парадак правядзення пасяджэння і запаўнення адпаведнага рэестра таксама распрацаваны С. Богуш-Сестранцэвічам. Да разгляду кансісторыяй прымаліся аформленыя па адпаведным узоры дакументы пасля аплаты падаткаў. Пры гэтым чарговасць разгляду вызначалася не датай паступлення, а значнасцю справы, што вырашаў афіцыял. Сутнасць справы на пасяджэнні кансісторыі прадстаўляў сакратар, які таксама перапісваў з настольнага рэестра назву дакумента. Па выніках разгляду справы члены кансісторыі выдавалі рэзалюцыю, якая ўносілася ў дакладны рэестр. Пры гэтым чарнавік рэзалюцыі мог быць падрыхтаваны і сакратаром, аднак падпісвалі яго абавязкова засядацелі. Мітрапаліт у сваёй прапанове таксама закрануў пытанне аб абавязковай прысутнасці ісца і адказчыка на пасяджэнні.

Такім чынам, С. Богуш-Сестранцэвіч, з'яўляючыся першым арцыбіскупам Магілёўскай архідыяцэзіі, спрычыніўся не толькі да ўладкавання адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры Каталіцкай царквы на далучаных да Расійскай імперыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыях, але і да арганізацыі дзейнасці кансісторыі,

[17] Гл.: Лауцявичус Э. Бумага в Литве в XV–XVIII вв. Атлас. Вильнюс: МИНТИС, 1967. № 2376.

[18] Пасля прыняцця нарматыўных актаў 1840-х гг. штогод складалася пяць відаў рэестраў у выглядзе табліц, якія вяліся пераважна на рускай мове адпаведна з патрабаваннямі органаў дзяржаўнай улады.

[19] Сентэнцыі з'яўляюцца відам вытрымак з пратаколаў. Гэта кароткія выпісы з судовых спраў, а таксама адказы на апеляцыйныя звароты з судоў ніжэйшай інстанцыі. Яны змяшчаліся як у канцы працэсовага пратакола, так і ў асобных кнігах сентэнцыянарах. На працягу XIX ст. у сентэнцыянары штогод уносілася ад 9 да 27 асобных выпісаў па наступным фармуляры: дата, назва справы, сцісла сутнасць аргументацыі бакоў, рашэнне кансісторыі і подпісы яе членаў з пазначэннем пасад. Сентэнцыі складаліся ў наратыўнай форме, часам у выглядзе табліцы (НГАБ. Ф. 1781. Воп. 27. Спр. 64. Арк. 35 адв. — 36).

якая стала пад яго кіраўніцтвам органам кіравання архідыяцэзіяй і духоўнага суда. Пры гэтым мітрапаліту належала вызначальная роля і ў арганізацыі справаводства кансісторыі, да чаго ён ставіўся ўважліва. Свае парады ён выкладаў кансісторыі адмысловым відам дакументаў — прапановамі, у якіх падрабязна выкладаліся асобныя моманты ўпарадкавання працы кансісторыі (парадак разгляду спраў, увядзенне разнастайных відаў унутраных дакументаў і інш.), што сёння дазваляе характарызаваць дакументазварот гэтай установы амаль ад моманту яе стварэння. Такія рэкамендацыі разам з нарматыўнымі дакументамі дзяржаўных уладаў сталі падставай да распрацоўкі інструкцый па дзейнасці і справаводстве ў кансісторыях на тэрыторыі Расійскай імперыі ў 1842 г.[20], што сведчыць аб шырокім досведзе і актыўным удзеле мітрапаліта ў працы кансісторыі, яго арганізатарскіх здольнасцях і адказным стаўленні да сваіх абавязкаў.

## ПРАПАНОВА МІТРАПАЛІТА С. БОГУШ-СЕСТАНЦЭВІЧА МАГІЛЁЎСКАЙ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЙ КАНСІСТОРЫІ АБ АРГАНІЗАЦЫІ ВЯДЗЕННЯ НАСТОЛЬНЫХ І ДАКЛАДНЫХ РЭЕСТРАЎ, 09.01.1800 г.[21]

*Doszło 9 Januar[ii] 1800*[22]

Przedłozenie[23]

Poniewaz przy początku tego pierwszego roku wieku dziewiętnastego nowe akta w konsystorzu naszym zaczynają się: więc co do rejestrow nastolnego i dokładowego czyli dokładnego rekommenduję aby dwa grube sekterne sporządzone były z stronią wzdłuz złamaną i zalincowaną.

1. Nastolny rejestr jakoby wokanda, jest to chronologia spraw konsystorskich.

Jakowa kolwiek, jakowykolwiek papier weidzie do konsystorza zaraz pod datą brzezną weiscia powinien być wpisany w ten rejestr nastolny kilka słow.

Na drugiey załamaney stronicy zapisuje się takoz zawsze kilką słow, co za przywołaniem tey sprawy zrobiono, rozkazano i na co ma być rapport o wypełnieniu czekany.

Jest na samym prawym brzegu wąska linia w ktorą się zapisuje: zpełniono, zkonczono, gdy sprawa będzie zkonczna.

Ten nastolny rejestr gdy ze stołu sędziowskiego nigdy nieznidzie i przed niemi snuc się będzie: widok dat weszłych spraw, zadney nieda zaledz w Konsystorzu.

[k. 235 v] 2. Rejestr dokładny czyli dokładowy jest to jakoby sententionarz.

Sekretarz za wziętym rozkazem od Przedsiadającego dokłada czyli przywoływa sprawę wpisawszy onę, tak jak się znayduje w nastolnym rejestrze, w ten rejestr dokładny z datą dnia ktorego na sessyi Konsystorskiey tey sprawy uczyni dokład.

Sędziowie roztrząsają onę i jak się w Panu podług sprawiedliwosci i prawa zda, rezolwują.

Takową rezolucyę powinien by jeden z zasiadających swoją ręką tuna załamaney stronie zapisać, aby niemogła być zadana sekretarzowi arbitralność.

Ale jezeli to być niemoze: więc przynaymniey sekretarz na owey załamaney stronie na czarno czyli poprawionę przez sędziow pisac będzie rezolucyę, miasto tego co zwykł przedtym na osobnych karteluszach formować i do zakonnotowania Sędziom podawać swoje ich zdania układanie.

---

[20] LVIA. F. 694. Ap. 1. B. 1686, 1687.

[21] НГАБ. Ф. 1781. Воп. 26. Спр. 1. Арк. 235–236 адв.

[22] Напісана на верхнім правым полі аркуша больш светлым атрамантам.

[23] Напісана ў сярэдзіне радка.

[k. 236] I takowe w dokładnym rejestrze znaydującę się prez sekretarza podług zdania sędziom ułozonę rezolucyi terminkę czyli minutę, koniecznie podpisze sędzia lub sędziowie.

Ztey będą się kopiować lub formowac zurnały, kommunikacye, rapporty, większych spraw protokoły etc zostawując zawsze kozdemu sędziemu, wątpliwosc mającemu, łatwosc zayrzenia w dokładowy rejestr jezeli takowe było sędziow zdanie.

Co do przywoływania lub dokładu spraw, nie tylko wolno, ale i nalezy niezachowywac porzadku ktorym są wpisane w rejestr nastolny: gdyz owszem jest powinien przedsiadający w Konsystorzu czynic wybor, to przepisany w Ustanowie dla rządu Gubernij, to w prawie kanonicznym i cywilnym; jednak nic arbitralnie.

Gdy sprawa z porządku przypadnie a aktora ani jego plenipotenta niebędzie, niezmoze onoy. Dosc kary dla aktora ze będzie musiał sądu czekac.

[k. 236 v] Gdy odpowiedna strona niestanie, kontumacyinego dekretu niezadyktuje, ale to kanonicznemi srzodkami, to przez odezwę do jurisdykcyi pod ktorą oskarżony stoj, przymusi go do odpowiadania.

Gdy w ciągu sprawy wypadnie prawna jakowa sama i przerwania przyczyna przerwu onę, a następujące sprawę przedsię wezmie, aby sądy nieprzerwanie były czynne; a po tym do pierwszey powroci.

Dokładana, ani nawet przeimowana ni w nastolny rejestr wpisywana być nie powinna zadna prozba, ktoraby podług formy proszenia na imię Monarsze na sztemplowanym papierze niebyła pisana i od oney poszliny do Skarbu Monarszego niebyły zapłacone; a tych sektern osobny sznurkiem przeciągniony i pieczątką domową Officiała oznaczony byc ma i wne zaraz zapisywano, jak skoro na proszeniu czas tez przy wycisnieniu Skarbowey, gdzie nalezy, pieczęci zapisywano będzie (co się nigdy nie opuszcza): poszliny przyjąc *quod felix faustum que sit*[24]. Peteburg 29 December 1799

Stanisław Metropolita

*№ 671*[25]

## Пераклад

Атрымана 9 *студзеня*[26] 1800

Прапанова

Улічваючы, што на пачатку гэтага першага года дзевятнаццатага стагоддзя новыя акты ў нашай кансісторыі ўводзяцца, што тычыцца настольнага і дакладовага, або дакладнога, рэестраў рэкамендую, каб заводзіліся два тоўстыя сшыткі з аркушамі, уздоўж падзеленыя на дзве часткі і пралінееныя.

1. Настольны рэестр як спіс спраў для дакладу, з’яўляецца храналогіяй кансісторскіх спраў.

Калі б ні прыйшла якая-небудзь папера ў кансісторыю, адразу пад датай бягучай атрымання некалькі слоў павінна быць запісана ў гэты настольны рэестр.

На другой палове аркуша таксама заўсёды запісваецца некалькі слоў, што па гэтай справе зроблена, загадана і на што чакаецца справаздача аб выкананні.

На полі справа маецца вузкі стаўбец, у які запісваецца: выканана, скончана, калі справа будзе завершана.

Гэты настольны рэестр, калі з судовага стала ніколі не будзе выносіцца і перад імі будзе знаходзіцца, каб выгляд дат уваходзячых спраў не дазволіў ні адной залегчы ў кансісторыі.

---

24 Напісана на лацінскай мове.

25 Напісана ў ніжнім левым кутку аркуша больш светлым атрамантам.

26 Пераклад з лацінскай мовы.

[Арк. 235 адв.] 2. Дакладны, або дакладовы, рэестр з'яўляецца быццам сентэнцыянарам.

Сакратар па загадзе намесніка дакладае або прадстаўляе справу, запісаўшы яе так, як яна запісана ў настольным рэестры, а ў гэты дакладны рэестр пад датай дня, калі на пасяджэнні кансісторыі па гэтай справе дакладаў.

Суддзі яе раглядаюць і, як перад Богам належыць паводле справядлівасці і права, прымаюць рэзалюцыю.

Гэтую рэзалюцыю адзін з засядацеляў павінен уласнай рукой падпісаць на другой частцы аркуша, таму што сакратар не мае права вырашаць.

А калі гэта нельга зрабіць, тады як найменш сакратар на гэтай частцы — чарнавіку або выпраўленым суддзямі — запіша рэзалюцыю, замест таго, што раней звычайна на асобных картках афармляліся і для прыняцця рашэння суддзям выдаваліся ўласнаскладзеныя для іх прапановы.

[Арк. 236] І гэтую ў дакладным рэестры запісаную сакратаром паводле загада суддзяў складзеную прапанову — тыхчасовую або мінутную рэзалюцыю — канчаткова падпіша суддзя або суддзі.

З яе будуць капіравацца або складацца журналы, камунікацыі, рапарты, пратаколы значных спраў і іншае, назаўсёды пакідаючы магчымасць для кожнага няўпэўненага суддзі спраўдзіць у дакладным рэестры, ці такім было рашэнне суддзяў.

Што тычыцца прадстаўлення або дакладу спраў, не толькі можна, але і належыць не прытрымлівацца парадку, па якім запісана ў настольны рэестр, таму што старшыня павінен адбіраць, паводле прадпісанага ў Статуце для кіравання губерніямі і ў праве кананічным і цывільным, але нічога па ўласнай волі.

Калі настане чарга справы, а ніісца, ні яго прадстаўніка не будзе, яе нельга разглядаць. Ісцу дастатковым будзе пакараннем чаканне суда.

[Арк. 236 адв.] Калі адказны бок не з'явіцца, не надыктуе кантумацыйны дэкрэт, тады кананічнымі сродкамі, праз адносіну да юрысдыкцыі, пад якой знаходзіцца абвінавачаны, прымусіць яго да адказу.

Калі падчас справы ўзнікне якая-небудзь прававая прычына для прыпынення разгляду, то яна прыпыніцца, а наступную справу перад ёю прымуць, каб не прыпынялася дзейнасць суда, а пасля гэтага да першай вярнуцца.

Дакладацца ні нават прымацца і ўпісвацца ў настольны рэестр не павінна ні адно прашэнне, якое б не было напісанае паводле формы прашэння на імя манарха на гербавай паперы і за гэтае прашэнне не быў аплачаны падатак манаршай казне. Гэтыя сшыткі павінны быць асобным шнурам перавязаны і ўласнай пячаткай Афіцыяла запячатаны, і ў іх адразу запісана, як хутка тэрмін прашэння або таксама па казённай пячатцы, дзе належыць, будзе запісана (што нельга ніколі прапускаць): прыняць падаткі, *якія паспяхова дастаўлены*[27]. Пецярбург 29 *снежня*[28] 1799

Станіслаў Мітрапаліт

№ 671

*Зінаіда АНТАНОВІЧ*

[27] Пераклад з лацінскай мовы.

[28] Пераклад з лацінскай мовы.

# КСЁНДЗ СЫЛЬВЕСТР БАБІНОЎСКІ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА КАСЦЁЛ АЙЦОЎ ДАМІНІКАНАЎ

Міхаіл Мураўёў Вешальнік, віленскі генерал-губернатар часоў паўстання 1863–1864 гг., вядомы крывавым і бязлітасным тэрорам у адносінах да ўсіх сацыяльных груп, галоўную віну за «бунт» ускладваў на каталіцкае духавенства. Падобныя абвінавачванні ўтрымліваюцца ў яго шматлікіх загадах і інструкцыях. У адной з іх у 1863 г. ён наўпрост пісаў, што паўстанцкая партыя «складаецца з памешчыкаў, ксяндзоў і шляхты»[1], што ў значнай ступені не адпавядала рэчаіснасці. Будучы ўпэўнены ў гэтым, ён не толькі высылаў ці нават расстрэльваў ксяндзоў, але таксама зачыняў «палітычна вінныя» кляштары, а касцёлы перарабляў на цэрквы[2].

Летам 1864 г. згодна з яго рашэннем быў скасаваны кляштар і ліквідаваны касцёл дамініканаў у Папорцях, што размешчаны каля 50 км на захад ад Вільні. Папорцкі кляштар, які існаваў там з 1649 г., адыгрываў у жыцці правінцыі вялікую ролю: да часу яго ліквідацыі ў першай палове XIX ст. тут месціўся навіцыят, а таксама вучэльня, тут звычайна адбываліся правінцыйныя капітулы (кляштар быў велізарны[3]). Пазней тут, хутчэй за ўсё, быў так званы штатны кляштар. Парафія, якая належыла дамініканам, заўсёды была вялікая. У 1864 г. яна налічвала каля 2650 парафіянаў[4].

Як адназначна вынікае з расейскіх дакументаў, а таксама з сучаснай гістарычнай літаратуры, папорцкі кляштар быў ліквідаваны за датычнасць яго манахаў да паўстання 1863 г. Што праўда, зусім іншыя звесткі можна знайсці ў рапарце тагачаснага настаяцеля кляштара айца Сыльвестра Бабіноўскага да арцыбіскупа Юзэфа Станеўскага, датаваным красавіком 1865 г. Гэтая крыніца не так даўно была выяўленая ў Расійскім дзяржаўным архіве ў Санкт-Пецярбургу.

Паводле вельмі падрабязнай справаздачы настаяцеля, кляштар не меў нічога агульнага з паўстаннем, а манахі пазбягалі любых кантактаў з маніфестацыйным і ўзброеным рухамі. Прызначаныя ген. Мураўёвым следства і дэталёвая праверка нічога ў кляштары не выкрылі, і толькі правакацыя і ілжывыя сведкі сталі прычынай абвінавачванняў самога настаяцеля і двух іншых манахаў — Аўгустына Кадзельскага і Зафірына Русецкага[5].

---

[1] Kubicki P. Bojownicy kapłani za sprawę Ojczyzny i Kościoła w latach 1861–1915. Cz. 2: Dawna Litwa i Białoruś. T. 1, Sandomierz 1936. S. 38, zob. też s. 84, 101, 205.

[2] Кубіцкі (s. 124, 221), грунтуючыся на расейскіх крыніцах, называе 10 каталіцкіх кляштараў, якія былі перароблены на цэрквы.

[3] Гл.: Wołyniak [J. Giżycki]. Wiadomości o dominikanach prowincji litewskiej. Cz. I, Kraków 1917; S. Brzozecki OP. Litewska prowincja dominikanów, w: Dominikanie: Gdańsk — Polska — Europa: materiały z konferencji międzynarodowej pt.: Gdańskie i europejskie dziedzictwo — zakon dominikanów w dziejach Gdańska… (9–10 maja 2002). Pelplin 2003. S. 149.

[4] Гл.: Wołyniak [J. Giżycki]. Wiadomości... S. 181.

[5] Сыльвестр Бабіноўскі, нар. у 1798 г., у кляштар паступіў у 1816 г., пасвячэнне прыняў у 1818 г., 1819–1824 г. навучаўся ў кляштарах у Забелах, Пасіне і Аглоне; пасвечаны ў сан святара ў 1823 г.; у 1825–1826 г. прапаведнік у Вільні (Лукішкі), 1827 г. атрымаў званне навуковага лектара тэалогіі і стаў прапаведнікам і настаўнікам у публічнай дамініканскай гімназіі ў Навагрудку, у 1830 г. прапаведнік і настаўнік катэхізіса ў школе ў Нясвіжы, у 1833–1834 г. прапаведнік у Вільні, у 1838–1841 г. настаяцель у Расіенах, у 1855 г. куратар Казакішскай парафіі, што каля Папорці, з 1862 г. настяцель у Папорцях.

Зафірын Русецкі, нар. у 1819 г., уступіў у кляштар у 1840 г., навіцыят і вучобу праходзіў у Забелах. У 1855 г. быў пробашчам у Папорцях.

Аўгустын Кадзельскі, нар. у 1800 г., у ордэн уступіў у 1816 г.; у 1817–1819 г. вывучаў у Вільне і Гродне філасофію, а пасля тэалогію ў Вільні; у 1823 г. пасвечаны ў стан святара і атрымаў званне лектара тэалогіі; у 1824–1828 г. настаўнік і кіраўнік гімназіі пры кляштары ў Забелах, у 1829 г. у кляштары ў Шумску, далей у Гродне — там у гімназіі выкладаў фізіку і матэматыку, а таксама кіраваў

Усе трое былі аддадзеныя пад ваенна-палявы суд. Бабіноўскі піша, што ён і Кадзельскі былі прысуджаныя да катаргі, а аб Русецкім нават не ўзгадвае. Магчыма, ён не ведаў аб тым, які вырак атрымаў апошні, магчыма, тым самым ён хацеў нешта схаваць перад біскупам — гэтага мы ўжо не даведаемся. Што не выклікае сумнення, дык гэта яго жаданне атрымаць заступніцтва біскупа Станеўскага і ўладаў як у іх асабістай справе, так і ў справе кляштара, што быў несправядліва скасаваны.

Як вынікае з іншых дакументаў, манахі былі аддадзеныя пад ваенна-палявы суд пры віленскім арданас-гаўзе не пазней за 25 верасня 1864 г., а 20 кастрычніка быў вынесены прысуд, які прыгаворваў усіх да ссылкі. Бабіноўскі і Кадзельскі, западозраныя ў зносінах і дапамозе паўстанцам (хоць доказаў гэтаму не было), былі аднесеныя да IV катэгорыі злачынцаў і прызначаныя да высылкі ва ўнутраныя губерні імперыі пад нагляд паліцыі (а не на катаргу — як пісаў настаяцель). Русецкі «за намаўленне габрэя (Каца. — *Я. Н.*) да выканання абавязкаў фурмана ў лагеры паўстанцаў, а таксама за няправільнае настаўленне селяніна М., агульны сэнс якога зводзіўся да таго, што сяляне павінны дапамагаць паўстанцам, за знявагу святой асобы імператара фразай “цяпер імператар нічога не варты”, за намер дзейнічаць супраць урада шляхам арганізацыі моладзі і захоўванне “шкоднай” літаратуры», — да II катэгорыі, пазбаўлення ўсіх правоў стану і ссылкі на 10 гадоў цяжкіх работ. 19 студзеня наступнага года палявы аўдытарыят змяніў вырак: Бабіноўскі і Кадзельскі асуджаны на пасяленне пад наглядам паліцыі ў Арэнбургскай губерні, а Русецкі — на 6 гадоў катаргі[6]. У гэтай судовай пастанове размова ўжо ішла аб намаўленне Русецкім сялян да паўстання, а не толькі аб «настаўленні селяніна М.», што прывяло да змены кваліфікацыі складу злачынства манаха. А ў ссылку за ім ужо была накіраваная інфармацыя аб тым, што ён браў актыўны ўдзел у паўстанні.

У выніку прашэнняў да памочніка віленскага генерал-губернатара Патапава Бабіноўскі і Кадзельскі, з улікам іх сталага ўзросту (абодвум было каля 70 гадоў, Бабіноўскі нар. у 1798 г.), былі вызваленыя ад ссылкі і пакінутыя ў краі. Русецкі захварэў, некаторы час знаходзіўся ў шпіталі, але ўжо 22 лютага быў высланы з Вільні на месца сваёй ссылкі — у Сібір.

Ужо пасля абвяшчэння выракаў айцец Бабіноўскі напісаў ліст да біскупа Магілёўскай дыяцэзіі Максіміліяна Станеўскага з просьбай аб яго хадатайніцтве перад уладамі з апісаннем таго, што здарылася ў Папорцях. У курыі ліст дамініканаў быў перакладзены на рускую мову і праз некалькі дзён перасланы «на разгляд» міністру ўнутраных спраў Расіі Пятру А. Валуеву[7]. Ліст быў самы звычайны і не ўтрымоўваў у сабе ніякіх просьбаў, пратэстаў ці заўваг наконт дзеянняў М. Мураўёва і яго падначаленых. А інакш быць і не магло, бо біскуп Станеўскі, сябра Духоўнай калегіі ў Санкт-Пецярбургу, быў вядомы тым, што праводзіў канфесійную палітыку расійскіх уладаў. Змест усяго разбіральніцтва яскрава сведчыць, што паўторнага разгляду справы аб папорцкіх дамініканах і скасаванні іх кляштара не было. Рашэнні ген. Мураўёва і віленскіх судоў засталіся ў сіле.

Дамініканін Русецкі апынуўся ў Табольскай губерні, адкуль на падставе царскага ўказа ад 9 студзеня 1874 г. быў пераведзены ў Екацерынаслаўскую губерню. Памёр ад сухотаў 14 красавіка 1877 г. у Новамаскоўску ва ўзросце 56 гадоў. Праз два дні быў пахаваны на мясцовых могілках[8]. З касцельных крыніц вынікае, што ў 1872 г. Бабіноўскі быў капеланам кармелітак у Вільні, а пра Кадзельскага нічога невядома.

---

бібліятэкай і музеем, што існавалі пры кляштары. Пасля ліквідацыі апошняга з 1833 г. у Папорцях, з 1838 г. магістр навіцыяту ў Вільні, у 1840–1855 г. прафесар тэалогіі, матэматыкі і фізікі ў Папорцях (у гімназіі?).

6 Kubicki P. Bojownicy kapłani... Cz. 2. T. 3. Sandomierz 1936. S. 597–600, 604–606, 620–623.

7 РДГА. Ф. 821. Воп. 3. Т. 204. Арк. 3. Ліст біскупа, атрыманы ў Санкт-Пецярбургу 11 красавіка 1865 г.

8 Kubicki P. Bojownicy kapłani... Cz. 2. T. 3. S. 622.

Папорцкі касцёл і кляштар былі ліквідаваныя ў 1864 г. Калі ў тым годзе акрамя вышэй пералічаных манахаў там знаходзіліся іншыя[9], напэўна, усе яны з Папорці былі перамешчаныя на новае месца, а кляштар быў аддадзены пад вайсковыя патрэбы. Каля 1890 г. касцёл і кляштар былі разбураныя[10], засталася толькі капліца на мясцовых могілках. У 1915 г. сюды быў накіраваны літоўскі ксёндз Юргіс Зімкус, а ў наступным годзе тут пабудавалі драўляны касцёл[11], які існуе і да сёння.

## РАПАРТ НАСТАЯЦЕЛЯ АЙЦА СЫЛЬВЕСТРА БАБІНОЎСКАГА З 1865 г.

Дакумент, які прадстаўлены ніжэй, захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (ф. 821, воп. 3, т. 204) і называецца «О высылке ксендзов Северо-Западного края. 1865». Ліст прыводзіцца in exstenso.

Інфармацыя, якая ўтрымліваецца ў гэтым лісце, выглядае праўдзівай. На жаль, у нас няма магчымасці пацвердзіць яе іншымі дакументамі. Пытанне застаецца не вырашаным: ці айцец Русецкі насамрэч удзельнічаў у паўстанскім руху, ці абвінавачванні расійскага боку былі заснаваныя на правакацыі і фальшывых сведках. Схіляемся да таго, каб даць веры паведамленню Бабіноўскага. Але ўсе кропкі над «і» ў гэтай справе змогуць расставіць толькі новыя дакументы.

* * *

Кіраўніку Рымска-каталіцкай калегіі ўсёй Расіі Біскупу Плятэі, дапаможнаму біскупу і адміністратару Магілёўскай дыяцэзіі і Кавалеру Яго Высокасці Юзэфу Максіміліяну Станеўскаму

Ксяндза Сыльвестра Бабіноўскага, б.[ылога] настаяцеля Папорцкага

### № 83 РАПАРТ

Д. 5 красавіка 1865
Вільна

Зусім несправядліва наш Папорцкі кляштар быў ліквідаваны і ўся касцёльная маёмасць канфіскавана, кляшторная бібліятэка, якая складалася з 13 000 тамоў[12], і нашыя асабістыя кнігі, што былі прывезеныя ў Вільню. Касцёл і рызніца так грунтоўна абрабаваныя, што голыя сцены толькі засталіся, а няшчасныя людзі, пазбаўленыя святароў і царквы. Касцёл зачынены на цалкам ілжывых падставах.

Нават у найменшай ступені не бралі мы ўдзелу ў грэшным і нягодным паўстанні; сведкамі чаго былі афіцэры, якія праводзілі рэвізію Папорцкага кляштара, між іншым Т. Ліхараў з праабражэнскага палка, у той час капітан, зараза, здаецца, палкоўнік, які можа засведчыць, як далёка мы былі ад бязбожных беспарадкаў. Увесь час хваляння наш кляштар і ўдзень і ўначы, ад пачатку і да канца паўстання, быў зачынены і вольны ўваход у кляштар мелі толькі манахі. Што праўда, аднойчы, у 1863 г. у ліпені месяцы,

9 Вядома, што ў 1855 г. у Папорцях было 19 манахаў (усе святары). Уся Літоўская правінцыя ў той час налічвала 171 манаха. Гл.: Brzozecki S. Litewska prowincja... S. 160 (табліца).

10 Сёння ў Папорцях не засталося слядоў таго касцёла.

11 Misus K., Šinkūnas R. Lietuvos katalikų baznicios. Vilnius, 1993. S. 101–102.

12 У сучаснай літаратуры прыводзяцца дадзеныя аб тым, што бібліятэка налічвала 6 тыс. тамоў (гл. Misus K., Šinkūnas R. Lietuvos katalikų... S. 101). Вядома, што два вопісы папорцкіх кніжных збораў знаходзяцца ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта ў рукапісным аддзеле.

паўстанцы спрабавалі гвалтам уварвацца ў Папорцкі кляштар, але не былі ўпушчаны, і так мы перажылі 1863 і 1864 г. да ліпеня. У гэты самы месяц сп. Галоўны начальнік краю Мураўёў камандзіраваў Т. Сушчынскага, ваеннага начальніка троцкага павета для правядзення самага строгага следства ў Папорцкім кляштары, які агледзеў кляштар і правёў дэталёвае расследаванне, але нічога не выкрыў з таго, што даказвала б нашую віну. Таксама ён узяў прысягу ад 12 сялян, якія жывуць найбліжэй да Папорцкага кляштара, якія пад прысягай засведчылі, што Папорцкія ксяндзы не мелі ніякіх кантактаў з паўстанцамі. Вынікі гэтага расследавання ён прадставіў сп. Галоўнаму начальніку краю генералу ад інфантэрыі Мураўёву, які быў вельмі незадаволены тым, што ў нас не выкрыта ніякай віны. Тады прызначыў ён сп. капітана Панюціна, памочніка ваеннага начальніка троцкага павета, каб той правёў паўторнае разбіральніцтва супраць Папорцкага кляштара.

Ён распачаў сваю місію, прыехаўшы на пачатку ў Жосель[13], куды выклікаў папорцкіх габрэяў і дапытваў іх і раіўся, ці можна было б знайсці якое-небудзь абвінавачванне на папорцкіх ксяндзоў, а ўначы з 27-га на 28-га жніўня 1864 г. з некалькімі габрэямі і войскам напаў на кляштар, войска акружыла кляштар, і, такім чынам, мы цэлы месяц знаходзіліся нібыта ў вязніцы. [Кап. Панюцін] распачаў дэталёвую праверку, але нічога забароненага не знайшоў. Следства ён вёў вельмі строга, але ніякіх абвінавачванняў нам не прад'яўляў. Хоць мяне ён вінаваціў у тым, што ў Папорцкім касцёле спявалі патрыятычны гімн, я адказваў, што, як толькі людзі пачалі яго спяваць, я адразу ж забараніў гэта. Рабіў таксама заўвагі, што адзін старавер бачыў на гарышчы тры чамаркі і што гэтыя чамаркі зараз прынясуць, але іх не знайшлі і не прынеслі, бо іх там і не магло быць, таму што я загадаў зачыняць уваход на гарышча, і, як я зразумеў, гэтыя чамаркі збіраліся туды падкінуць, але не ўдалося. Ксяндза Кадзельскага абвінавачвалі ў тым, што да яго заходзілі два чалавекі, якія былі нібыта паўстанцамі, хоць на самай справе яны былі гасцямі яшчэ да паўстання. Ксяндзу Русецкаму ён даводзіў, што той падбухторваў да паўстання жосельскага Габрэя, але нягледзячы на тое, што гэты Габрэй засведчыў гэта пад прысягай, што яго падгаворвалі, але гэты Габрэй — валацуга і падманшчык, нельга даваць яму веры, і ўсе акалічнасці сведчаць, што яго намаўлялі супраць кс. Русецкага, які яго не ведаў і не бачыў. І вось такое несправядлівае следства і абвінавачванні сп. Панюцін прадставіў сп. Галоўнаму начальніку краю Мураўёву, які адразу ж, без далейшага разбіральніцтва, перадаў нас траіх пад ваенна-палявы суд, які, у адпаведнасці з воляй сп. Галоўнага начальніка краю, прысудзіў нас: мяне і кс. Русецкага на шэсць гадоў катаржных работ. З вырока, які нам зачытваўся, мы даведаліся, што нас абвінавачвалі, што ў касцёле бывалі памешчыкі для палітычных нарад, што з'яўляецца самай вялікай хлуснёй, бо вакол увогуле не было памешчыкаў, і ў доказ гэтага яны не прадставілі аніводнага сведкі, і нас аб гэтым не пыталі.

Такім чынам, прашу Вашу Высокасць, будзьце міласцівы да нас і выратуйце Папорцкі кляштар, прадставіўшы каму трэба гэты крык аб несправядлівасці. Даходзіць да нас інфармацыя, што сп. Мураўёў нібыта ўжо не вернецца ў Вільню, і, можа быць, на яго месца будзе прызначаны начальнік нашага краю з лепшым сэрцам і праз высілкі Арцыбіскупа, можа, будзе вернуты нам Папорцкі кляштар, несправядліва адабраны. Просім Вашу Правялебнасць быць ласкавым адпісаць нам да Вільні, у касцёл Бенедыктак, дзе я і ксёндз Кадзельскі ўтрымоўваемся пад наглядам паліцыі.

Віншуем Вас з вялікім святам Пасхі і перадаем сябе і іншых нашых братоў пад Вашу апеку і дабраслаўленне.

Правялебнага Арцыбіскупа адданы слуга
Кс. Сыльвестр Бабіноўскі
Б.[ылы] настаяцель

*Яўген НЯБЕЛЬСКІ*

Пераклад на беларускую мову *А. Радзюка*

[13] Жосель — мясцовасць каля Папорці.

спешна адчыніць кватэру. Я кінулася ўслед за Уладыкам. (На шчасце, былі тады энтузіясты з аўтамабілямі, якія ахвярна дапамагалі працы ўсіх БНФаўскіх структураў.) Прыязджаем у Заводскі раён (завулак Несцерава), а там роспачная сітуацыя: Уладыка не можа пачаць абрад хрышчэння, бо няма каму ўзяць на рукі дзіця, няма хроснай маці. Неабазнаныя ў царкоўных правілах бацькі нікога не запрасілі. Толькі тату хроснага спехам знайшлі — сябра Вітаўта, які прыйшоў рабіць здымкі, Валодзю Панаду. Тут я забягаю ў хату з сваім клопатам. Усе ўзрадаваліся: «Будзьце хроснай маці!». «Ды вы што! Ды я не гатова! Ды мяне там людзі чакаюць!» «Пачакаюць. Тут больш важная справа», — Уладыка Мікалай сказаў гэта нягучна, спакойна, але так цвёрда, што мае пратэсты і тлумачэнні адразу звялі. Давялося хуценька памыць рукі і ўзяць немаўля ў пялюшках. Так з ласкі Уладыкі Мікалая прыдбала я першую дачку — Альдону.

Больш, чым у царкоўным асяроддзі, той візіт Уладыкі Мікалая, спадароў Міколы Ганько і Васіля Русака выклікаў зацікаўленне ў актывістаў тагачасных грамадска-палітычных рухаў. У гэтым няма нічога дзіўнага. Гарбачоўская перабудова толькі што адсланіла покрыва атэістычнай нішчымніцы, і многія людзі паімкнуліся да рэлігіі, не маючы ні належных ведаў, ні спрактыкаваных настаўнікаў, ні разумення самой сутнасці веры. Пра ўцаркаўленне грамадскіх актывістаў яшчэ нават гаворкі не было. («Царкоўныя людзі» дык і сёння часта баяцца грамадска-палітычных актывістаў.) Але амбіцыі некаторых дзеячаў, іх самаўпэўненасць і такая ж наіўнасць часам падмянялі ўсё. І было агульнае жаданне імгненна змяніць жыццё да лепшага. Таму на сустрэчах гасцей засыпалі пытаннямі самага рознага кшталту. Дзіўлюся цяпер, пераглядаючы тагачасныя запісы, як у тых ставала цярпення адказваць, як спакойна дзяліліся яны ўласным досведам змагання за Беларусь, досведам, здабываным на чужыне ў прывіднай надзеі, што калісьці ён спатрэбіцца шматпакутнай Бацькаўшчыне.

Размовы пра аўтакефалію як такую і пра Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў эміграцыі перацякалі ў гаворку пра беларускую мову, праблемы дыяспары адштурхваліся ў бок дыскусіяй пра развал Савецкага Саюза… Уладыка Мікалай уважліва ўсіх слухаў, не спяшаўся браць слова ў адказ, мудра пераводзіў гаворку на адказнасць кожнага за свае дзеянні ці свой выбар. Вельмі рэдка і тактоўна цытаваў Біблію, бо выразна бачыў перад сабою людзей, у большасці слаба абазнаных у рэлігійных пытаннях. Ён не вінаваціў іх у гэтым: такія былі абставіны пры ўзгадаванні. Але падказваў, што трэба абставіны мяняць. Яго далікатнасць, сціпласць, чалавечая адкрытасць неяк дзіўна спалучаліся з прынцыповай пазіцыяй у галоўным — вера ў Бога і любоў да Бацькаўшчыны, яго мяккасць і чуласць не заміналі плённаму і адданаму служэнню, бо гэтыя вера і любоў прыцягвалі да яго чыстыя душы, скіроўвалі людзей да высокага ідэалу. Пазней мне давялося сустракацца з царкоўнымі дзеячамі высокага рангу ў розных краінах. Па шчырасці і прамяністасці асобы мала хто з іх мог бы зраўняцца з Уладыкам Мікалаем.

Мы пабачыліся другі раз у тым самым 1992 годзе на 20-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Злучаных Штатах. Сустрэліся як свае… У перапынках афіцыйных пасяджэнняў згадвалі такую памятную для Уладыкі Мікалая вандроўку па Беларусі, шмат гаварылі пра патрэбы ў асветніцкай літаратуры, пра пераклад Святога Пісання, пра неабходнасць навучаць дзяцей, з маленства далучаць іх да царкоўнага жыцця. І калі пасля Сустрэчы нам выпала разам ехаць у Канаду (актывістамі дыяспары для нас са спадаром Голубевым былі падрыхтаваныя афіцыйныя візіты ў канадскія ўрадавыя ўстановы), я магла назіраць і за яго гранічна сціплымі штодзённымі запатрабаваннямі, калі гаворка зайшла пра абед у прыдарожным рэстаранчыку, і адзначыць высокія крытэры ў падыходзе да ацэнкі таго ці іншага чалавека, ягонага грамадскага служэння.

Мела гонар быць на нядзельнай службе і бяседзе ў прыцаркоўнай залі і ў другі свой прыезд ў Канаду, у 1994 г. Уладыка Мікалай быў гасцінны і сардэчны, поўны творчых планаў і задумаў. Ён непахісна стаяў у абароне праваслаўя і беларускасці. Што іншае мог проста адсунуць, на другараднае не марнуючы часу, сілаў і сродкаў сваіх прыхаджанаў. Інтэр'ер царквы Святога Кірылы Тураўскага ў Таронта, дзе ён стала служыў, не меў ні пышнасці, ні залатога бляску. Але амаль за кожнай іконай стаяла сямейная гісторыя ахвярадаўцаў, глыбокая вера і ўдзячнасць Госпаду за апеку падчас цяжкай вандроўкі ў незнаёмы край, клопат пра родных і блізкіх, што засталіся на Бацькаўшчыне. Уладыка ведаў (распавядаў мне!) пра гэтыя людскія лёсы, шчыра маліўся за ўсіх і кожнага ды нястомна працаваў як даследчык, публіцыст, перакладчык, выдавец…

Былі пазней рэдкія тэлефонныя размовы, нейкія дробныя ягоныя даручэнні, узаемныя віншаванні з вялікімі святамі. І пастаяннае — праз гады і кіламетры! — маё адчуванне, што ёсць на Зямлі такі шчыры малельнік за нас, грэшных, бескарыслівы і адданы працаўнік, верны сын свайго роднага краю. Дорачы мне свой невялікі «Слоўнік сваяцтва» ў 1992 г., Уладыка Мікалай напісаў: «На добрую памяць і добрае служэнне…». Як запавет. Стараюся годна пільнавацца яго праз усе гады.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*
30 верасня 2006 г.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ, або ВЯРТАННЕ ДА ТЭМЫ

Гэтыя ўспаміны былі напісаныя па просьбе спадара Юрася Гарбінскага, які рыхтуе кнігу пра Уладыку Мікалая (Міхася Мацукевіча), рэлігійнага і грамадскага дзеяча беларускай эміграцыі. Кніга пакуль не выйшла ў свет, а цікавасць да падзеяў 20-гадовай даўніны займае людзей, асабліва маладых даследчыкаў. Таму я прыняла прапанову апублікаваць цяпер гэты тэкст з некаторымі дадаткамі-паясненнямі. Не буду закранаць гісторыю аднаўлення беларускай аўтакефаліі ў эміграцыі (гэта асобная тэма), нагадаю толькі, што на момант абвяшчэння ў Беларусі незалежнасці Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква (БАПЦ) перажывала раскол. Былі два варагуючыя мітрапаліты — адзін меў сядзібу ў Таронта (Канада), другі — у Нью-Ёрку (ЗША). Беларускі народны фронт «Адраджэнне», які ў пачатку 1990-х плённа кантактаваў з беларусамі-інтэлектуаламі і грамадскімі асяродкамі на Захадзе, стаў на бок той плыні ў БАПЦ, якая была больш канструктыўнай, больш адкрытай да супрацоўніцтва з Бацькаўшчынай. Час паказаў, што гэта быў слушны выбар.

Уладыка Мікалай (Міхась Мацукевіч, 21.05.1917–20.06.2002) — мітрапаліт Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (сядзіба ў Таронта, Канада). Нарадзіўся ў сям'і бежанцаў-беларусаў у Расіі, але заўсёды называў мястэчка Моталь (цяпер Іванаўскі раён Брэсцкай вобласці) сваёй радзімай, дзе жыў з 1921 г., па вяртанні ў Беларусь (Заходнюю Беларусь у тым часе). У 1939 г. быў прызваны ў польскую армію, ваяваў, быў паранены, потым працаваў на бацькавай гаспадарцы. Вясною 1944 г. быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Вызвалены амерыканскімі войскамі, выехаў у Вялікабрытанію. Стаў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі. Пару гадоў пражыў у Лондане, дзе працаваў у Беларускім доме.

У 1951 г. Міхась Мацукевіч выехаў у Канаду. Пачалося яго ахвярнае служэнне беларускай справе і Праваслаўнай царкве. Тэалагічную адукацыю ён набыў у Вініпегу, ва Украінскай багаслоўскай акадэміі (калегіі). 4 кастрычніка 1954 г. адслужыў сваю першую літургію ў царкве Святога Кірылы Тураўскага ў Таронта. У 1968 г. рукапалажаны ў епіскапа Турава-Пінскага і Таронцкага. У 1983 г. Уладыка Мікалай быў абраны

(паўторна абраны ў 1984 г.) першаіерархам Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Жыў самотна і сціпла, сапраўды па-манаску. Пэўны час змушаны быў на хлеб штодзённы зарабляць працаю на вялікім таварным складзе, займаючы пасаду таваразнаўцы ці кантралёра, паводле нашай тэрміналогіі. Правяраў кераміку (у тым ліку парцаляну), што прыходзіла з Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны. Навучыўся прафесійна ацэньваць самыя каштоўныя рэчы. Звычка зірнуць на таварны знак засталася на ўсё жыццё. Трапляючы за гасцявы стол, ён не прапускаў нагоды на імгненне павярнуць талерку дном уверх. Такая будзённая, часткова фізічная праца не была дзівацтвам. Проста беларускія прыходы ў эміграцыі былі (і ёсць) не настолькі заможныя і шматлікія, каб належна ўтрымліваць святарства, плаціць вялікі заробак. Ахвяраванні выкарыстоўваліся найперш на разбудову царквы, на выдавецкія патрэбы, пазней — на дапамогу пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы. (Уладыка Мікалай ачольваў Фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, па ягоным даручэнні скарбнік кансісторыі і гэтага фонду Алекс (Аляксандр) Сільвановіч і яго жонка Ніна некалькі разоў суправаджалі ў Беларусь гуманітарныя грузы. Пры спрыянні фонду былі ўвезеныя лекі і медычнае начынне на мільёны амерыканскіх даляраў.)

Ад пачатку свайго царкоўнага служэння будучы архіепіскап і мітрапаліт Мікалай паслугоўваўся беларускай мовай, займаўся перакладамі богаслужбовых тэкстаў, уводзіў беларускую мову ў царкоўную штодзённасць. Выдаў «Праваслаўны малітоўнік» (1966), «Службоўнік» (1980), быў натхняльнікам, дарадцам і памочнікам Васіля Сёмухі пры перакладзе Святога Пісання на беларускую мову (надрукавана ў 1995 г.).

Афіцыйны візіт у Беларусь у лютым — сакавіку 1992 г. быў прадуманым і адказным крокам. Гэта была спроба пачаць дыялог эміграцыі з метраполіяй дзеля актыўнай супрацы ў будаўніцтве незалежнай Рэспублікі Беларусь, адраджэння яе духоўнага і нацыянальнага жыцця. З Божай ласкі візіт прайшоў паспяхова, зерне было кінутае і, я веру, некалі дасць плён.

Што было ў праграме візіту? Пералічваю асобныя пункты працоўнай праграмы, дзе пазначаныя і адказныя за кожнае канкрэтнае мерапрыемства. 25.02.92 — сустрэча ў аэрапорце «Мінск-2»; 26.02.92 — сустрэчы з Камітэтам «Дзеці Чарнобыля» БНФ, у НДІ радыяцыйнай медыцыны; 27.02.92 — Магілёў, Слаўгарад (чарнобыльская тэматыка найперш); 29.02.92 — Хатынь, Курапаты, адслужаныя там паніхіды; 01.03.92 — літургія ў царкве Усіх беларускіх святых; 2.03.92 — прыняццё ў старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча; а яшчэ былі — Заслаўе, Полацк, Жыровічы, Моталь (для сп. Русака — Баранавічы, Наваградак, для сп. Ганько — Маладзечна), сустрэчы з актывістамі Таварыства беларускай мовы, Фонду культуры, ЗБС «Бацькаўшчына», Скарынаўскага цэнтра, хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, студэнтамі БДУ і Акадэміі мастацтваў…

Па выніках сваёй пабыўкі госці правялі гутарку — вечар пытанняў і адказаў — у Доме літаратараў, прэс-канферэнцыю ў Мінгарвыканкаме і 10 сакавіка вылецелі ў Варшаву. Іх чакалі яшчэ пяць напружаных працоўных дзён на Беласточчыне.

Варта, думаю, дадаць некалькі цытатаў з прэсы. У публікацыях адчуваецца атмасфера часу, мроі і спадзяванні, адкладзеныя чаканні і спроба зразумець і ацаніць той доўгі і цяжкі шлях, які адолела ў змаганні за незалежнасць Беларусі паваенная эміграцыя, якая гэтым сваім досведам імкнулася дапамагчы суродзічам на сваёй роднай зямлі, пра якую людзі не забывалі праз усе дзесяцігоддзі і тысячы кіламетраў.

«Ехалі, каб убачыць сваю Бацькаўшчыну і адчуць яе душой, лепш зразумець, што адбываецца тут цяпер, знайсці ўзаемаразуменне з людзьмі новай Беларусі і па магчымасці падтрымаць свой народ, які ступіў на шлях незалежнасці і нацыянальнага адраджэння».

«А да царквы і рэлігіі, між тым, вяртаецца і звяртаецца цяпер шмат разгубленых людзей, якія не ведаюць, да чаго імкнуцца, чаго трымацца, менавіта ў царкве яны шукаюць духоўнай падтрымкі і апоры. І калі ўжо прытрымлівацца логікі, то ў першую чаргу менавіта праваслаўная царква ў новай Беларусі ў той перыяд, калі пачаўся працэс адраджэння нацыі, фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, павінна клапаціцца і дбаць аб духоўным выхаванні не проста абстрактнага хрысціяніна, але і грамадзяніна сваёй зямлі, патрыёта, які шануе бацькоўскія традыцыі, ганарыцца сваім народам і яго здабыткамі» (Таццяна Антонава, «Голас Радзімы», 12.03.92).

«Карэспандэнт газеты "Ратуша": "У Магілёве Вы сустракаліся з архіепіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім Максімам. Яшчэ нядаўна, два гады таму, ён казаў, што беларускай мовы не існуе. Гэта, маўляў, адна з гаворак расейскай і гэтак далей. Ці знайшлі Вы падчас сустрэчы паразуменне з ім?" — "Як епіскапы збіраюцца, то яны маюць этыку, і падчас сустрэчы там у нас сваркі не было. Мы сустрэліся прыязна і разышліся таксама. Адно, што мне заўважылася, у яго беларуская мова далёка, і далёка, і далёка стаіць. Што ж я больш магу сказаць"…» (Лявон Ліпень, «Добры вечар», 13.03.92).

«Нягледзячы на неадназначнае ўспрыманне БАПЦ і духоўнымі коламі ў Беларусі і ў Маскве, і Праваслаўнымі цэрквамі ў свеце, незважаючы на далікатныя, заблытаныя моманты ў гісторыі БАПЦ, беларускі мітрапаліт з Канады быў прыняты тутэйшым клірам добразычліва і цёпла. На адной сустрэчы з грамадой Уладыка Мікалай нават абмовіўся, што не чакаў такога прыёму».

«Адказваючы на пытанне карэспандэнта "ЛіМа" аб магчымасці канфесійнага паяднання дзвюх цэркваў, Уладыка Мікалай адказаў, што "ані дагматычных, ані кананічных разыходжанняў у нас няма: умовай будзе толькі тое, каб Царква на Беларусі стала на аўтакефальны лад. Царква, пакуль яна замежная (у сэнсе — падпарадкаваная Маскоўскаму Патрыярхату. — *Ю. З.*), — не мае свайго поўнага голасу"» (Юрась Залоска, «Літаратура і мастацтва», 13.03.92).

Было таксама надрукавана ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (13.03.92) «Слова да народа Беларусі», падпісанае мітрапалітам Мікалаем і апекуном Брацтва Трох Віленскіх пакутнікаў, протаіерэем Георгіем Латушкам. Ускладаючы спадзяванні на «праваслаўныя брацтвы, якія пачынаюць узнікаць у абарону і адраджэнне нашае святое веры», аўтары «Слова...» заклікаюць усіх «вас, любасныя суайчыннікі, пачаць ствараць сваё вольнае і незалежнае жыццё на Беларусі, грунтуючыся на трывалых спаконвечных каштоўнасцях: Царкве, Веры і Бацькаўшчыне».

Такое прыхільнае стаўленне да прыезду ў Рэспубліку Беларусь прадстаўніка пасляваеннай эміграцыі, мітрапаліта Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (з суправаджаючымі асобамі) тлумачыцца не толькі той атмасферай свабоды і спадзяванняў, якая панавала ў пачатку 1990-х, але, і можа — найперш, асобай Уладыкі Мікалая. Асобай светлай, ахвярна адданай служэнню Богу і Беларусі. Гэта быў мудры чалавек, тактоўны і адначасна прынцыповы, працавіты і вельмі сціплы ў жыццёвых патрэбах. Паэт Зніч (цяпер ён ужо інак Мікалай) 1 сакавіка 1992 г. напісаў:

БЕЛАРУСУ — ПРА АЎТАКЕФАЛІЮ

«Ты чуў?» — «Хто дбае — той і мае!»
Адолей роспач і адчай —
і малітоўна ўспамінай
раллю Ўладыкі Мікалая!

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*
5 кастрычніка 2012 г.

# ДАДАТАК

## Казань (пропаведзь) Уладыкі Мікалая, прамоўленая ім падчас службы ў царкве Усіх беларускіх святых. Мінск, сакавік 1992 г.

### РОДНАЯ МОВА Ў ЦАРКВЕ

Дарагія Браты й Сёстры!

Аднойчы мне здарылася прачытаць артыкул у беластоцкай Газэце «Ніва» — між іншага, напісаны беластоцкім сьвятаром, ягонага прозьвішча не памятаю. Аўтар артыкулу намагаўся даказаць, што беларуская мова ёсьць мужыцкая, таму яна не надаецца для багаслужбаў. Сьвятар гэты ня толькі казаў няпраўду, але й ён моцна грашыў супраць Сьвятога Духа, ён абвяшчаў герэзію. Бо як ён можа тлумачыць Сьв. Пісьмо, дзе сказана: «І напоўніліся ўсе (апосталы) Духам Сьвятым і пачалі гаварыць іншымі мовамі, як той Дух даваў ім прамаўляць» (Дзеі 2:4). Далей напісана, што ўсе дзіваваліся і казалі адзін аднаму: «Ці-ж ня ўсе, што гавораць, Галілеяне? Як-жа гэта мы чуем ад іх кожны сваю мову? Мы-ж родам Парфіі, Мідзіі, Еляму, Мэсапатаміі, Юдэі, Каппадокіі, Понту, Фрыгіі, Памфіліі, Ягіпту, Лівіі, Кірэны, Рыму, Крыту й Арабіі, — але усе мы чуем, як яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія цуды Божыя» (Дзеі 2:7-11). Гэта паказвае, што кожны чуў слова Божае на сваёй роднай мове.

Заглянем цяпер у сваю беларускую гісторыю. Быў час, калі ў Вялікім Княстве Літоўскім вялікія князі і іхнае акружэньне гутарылі пабеларуску, дакумэнтацыя, судовыя акты, урадавае справаводзтва — усё вялося толькі пабеларуску. Беларуская мова была мовай дыпляматыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Беларуская мова гучэла нават у польскім каралеўскім замку ў Кракаве.

Акт міру пасьля Грунвальдзкай бітвы з крыжакамі ў 1410 годзе быў складзены й падпісаны пабеларуску, на той мужыцкай мове й палацінску. Наш славуты Францыск Скарына пераклаў і выдаў пабеларуску, тэй-жа мужыцкай моваю, Сьвятое Пісьмо, у 1517–1519 гадох, на 50 гадоў раней за зьяўленьне польскай кнігі.

Болей за сорак гадоў пасьля выхаду Сьвятой Дабравесьці, выдадзенай Франьцішкам Скарынам, аж-но ў 1564 г. былі выдадзены Апостал і Часаслоў у Маскве.

Статут Вялікага Княства Літоўскага выдадзены пабеларуску.

Гаворачы пра беларускую мову і Сьвятое Пісьмо, трэба прыгадаць, што ў часы перасяленьня народаў дрыгавіцкае племя падзялілася і адна частка пасялілася на Палесьсі, а другая павандравала на Балканы. Наш выдатны гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі ў кніжцы 1919 году «Асновы Беларускай Дзяржаўнасьці» пісаў: «Частка племені Дрыгавічоў, у часох перасяленьня народаў (гэта значыць, не пазьней як канец чацьвертага стагодзьдзя) прабілася на Балканскі паўвостраў і пасялілася навокал Салонікаў (Салунь). Грэкі называлі іх Другувітамі. І гэтую мову Другувітаў навучыліся сьв. Кірыла і Мятод». А мо' яны й самі былі з роду дрыгавічоў македонскіх. Вось бачым, і ў першым перакладзе Сьвятога Пісьма, зробленым сьв. Кірылам і Мятодам, аснаўной мовай была мова македонскіх дрыгавічоў, суродзічаў нашых палескіх дрыгавічоў.

Нашая беларуская мова — мова сьвятая, і ёй належыцца сьвятое месца ў сьв. Праваслаўнай Царкве.

Сьв. апостал Павал, працаўнік Хрыстовай Царквы, у сваім першым пасланьні да Карынцянаў (1 Кар. 14:1–19), вучыць, што родная мова неабходная Сьв. Царкве: «Хто гаворыць чужой моваю, збудоўвае сябе; а хто прарочыць, той царкву будуе. Хачу, каб вы ўсе гаварылі мовамі, але лепей, каб вы прарочылі, бо хто прарочыць, той дасканаль-

шы за таго, хто гаворыць мовамі, хіба ён пры тым будзе і тлумачыць, каб царква ўзяла збудаваньне…

Бо калі я малюся чужой мовай, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным…

Бо калі ты дабраславіш духам, дык як той, хто стаіць на месцы няўчонага, скажа амін на тваё дзякаваньне? Бо ён не разумее, што ты гаворыш…

Але ў царкве хачу лепей сказаць пяць слоў маім розумам, каб другіх навучыць, чым мірыяды слоў чужой мовай…».

Расейскі гісторык царквы Аўген Галубінскі, прафэсар маскоўскай духоўнай акадэміі і акадэмік, піша: «Багаслужэньне на чужой мове, гэта-ж ёсьць тое, што — я бывала пайшоў ў сьвятыню памаліцца Богу, а там служаць не панашаму; я гэтак і прастояў усю багаслужбу стаўпом, не разумеючы ані воднага слова й ня ведаючы, калі перахрысьціць свой лоб».

Той-жа Галубінскі пісаў: «Права маліцца на сваёй роднай мове на столькі належыцца кожнаму народу, на колькі дадзенае права гаварыць яму… Кожны народ павінен маліцца Богу на сваей уласнай, зразумелай для яго мове; нічога ня можа быць больш бясспрэчнае гэтага, і так гэта і было ў Хрысьціянскай Царкве ў першыя стагодзьдзі.

Архіпастыр расейскае царквы, япіскап Тэафан пісаў у сваіх лістах (1882): «Усе нашыя багаслужбовыя сьпевы павучальныя, высокаразумныя й цудоўныя. У іх ўся багаслоўская навука, уся хрысьціянская мараль, і ўся пацеха… Хто ўважлівы да іх, той зможа абыйсьціся бяз ніякіх іншых навучальных кнігаў. А між тым вялікая частка тых сьпеваў зусім незразумелая, і гэта пазбаўляе нашы царкоўны кнігі той плод, які яны маглі-б даць, і гэта не дае ім тае мажлівасьці, для тых мэтаў, для якіх яны прызначаны. І дзеля гэтага новы пераклад царкоўных багаслужбовых кніг абавязкова неабходны, — неабходны прасьцейшы іхны пераклад».

Дарагія браты й сёстры, наша беларуская мова, сьвятая мова, каб была яна зразумелай кожнаму з нас, яна павінна заняць належнае ёй сьвятое месца ў сьвятой Беларускай Праваслаўнай Царкве. Амін.

## Казань (пропаведзь) Уладыкі Мікалая, прамоўленая ім падчас паніхіды ў Курапатах. Люты 1992 г.

*«Верце ў Бацькаўшчыну сваю, Сьвятую Беларусь».*

Канцовы

Дарагія Браты й Сёстры!

Мецьверу — гэта вялікі скарб, гэта дар Божы, які дае нам здольнасьць і сілу пераадолець вялікія перашкоды. І не здарма Госпад наш кажа: «Калі вы будзеце мець веру з гарчычнае зерне і скажаце гарэ гэтай: “Перайдзі адгэтуль туды”, і яна пярэйдзе; і нічога ня будзе немагчымага вам» (Мц. 17:20). Той, хто ня мае веру, ня вытрымлівы, і як прыходзіць цяжкі час, заломліваецца і гіне. Паказальны прыклад гэтаму ў Сьв. Дабравесьці: калі Пётра, «выйшаўшы з лодкі... падыйшоў да Ісуса; але, бачачы вялікі вецер, спалохаўся і, пачаўшы тапіцца, закрычэў, кажучы: “Госпадзе, ратуй мяне”!». Пётра спалохаўся, бо ня меў дастатковую веру.

Усялякае змаганьне вымагае вялікае ахвяры ад змагароў. Асабліва змаганьне за вольнасьць і незалежнасьць народу, свае краіны бацькаўшчыны, вымагаецца нават людзкое жыцьцё. Колькі нашых братоў і сёстраў перанесьлі турэмных зьдзекаў, жорсткіх

пакутаў на паўночных тундрах, згнілі ў турмах, зьмерзьлі сібірскім марозам, застрэляных, што ляжаць у курапацкіх магілах.

Усе яны былі сьвядомыя таго, што за сваю дзейнасьць у адстойваньні правоў свайго народу, яны будуць, калі пападуцца ў рукі панявольнікаў, пакараныя за свае учынкі чужынцамі-захопнікамі. І гэта іх не палохала. Бо моцная вера ў справядлівасьць у кожным чалавеку пераадольвае страх.

Калі народзіцца дабрародная ідэя, вера ў справядлівасьць, — вера ў свой народ, — тады ні страх, ані сьмерць ня спыніць ягонае імкненьне да мэты, ніякая сіла ня ўстрымае чалавека ў яго асягненьнях. І Максім Багдановіч гэта выказаў у сваім вершы «Пагоня»: «Старадаўнай Крывіцкай Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць».

Незважаючы на ўсе цяжкія жыцьцёвыя абставіны, — праслед, турмы, зьдзекі пануючых, — змагары за вольнасьць Беларусі поўнасьцю пасьвяцілі сябе, сваё жыцьцё свайму народу. Нашыя народныя пакутнікі памерлі на крыжовай дарозе, каб жыла Бацькаўшчына. Даволі прачытаць кніжкі «На Крыжовай дарозе» і «“Айцы” БССР і іхны лёс» Аўгена Калубовіча, каб уявіць сабе тую пакуту, той крыж, які яны несьлі праз усё сваё жыцьцё. Але нам ведамы толькі зьнікомы лік імёнаў. А колькі-ж тых імёнаў, ня ўпісаных у летапіс нашага адраджэньня, нашага нацыянальнага ўваскрасеньня. Курапаты — а колькі такіх магілаў па ўсей нашай зямельцы беларускай — сталіся сымбалям магілы ўсіх нашых пакутнікаў, змагароў, што ляглі ў яе за сувэрэнную незалежную нашую Сьвятую Беларусь.

Хрыстос памёр на крыжы, каб потым уваскрэснуць. Нашыя народныя змагары аддалі сваё жыцьцё на полі бою, у турмах, на ссылках, у Курапатах, усе яны памерлі на крыжовай дарозе, каб жыла Бацькаўшчына, нашая сьвятая Беларусь. У Сьвятой Дабравесьці паводле Яна сказана, што, калі зярно, пасеенае ў зямлю, не памрэ, яно там так і згніе, а калі зярно, пасеенае ў зямлю, паміраε, яно родзіць шмат большы плод (Ян 12:24).

Вось гэтае укрыжаваньне, пралітая сьвятая кроў нашых братоў і сёстраў і ўсіх нам родных не былі дарэмнымі, яны цяпер даюць свой вялікі плён. Мы навочнымі сьветкамі адраджэньня нашага народу. Мы бачым, як адраджаюцца нашыя народныя вартасьці, мова, гісторыя, культура. Наш бел-чырвона-белы лунае ў Аб’яднаных Нацыяў.

Дарагія мае браты й сёстры, родныя беларусы, не шкадуйце працы ўва ўсіх галінах, і працуйце чэсна, не шкадуйце сродкаў на адраджэньне свайго народу. Шануйце й любіце сваю сьвятую родную мову, каб яна настала зазьзяла ў Праваслаўнай Царкве, ня толькі ў казанях, але ўсяцэла ў нашых багаслужбах, каб беларусы маліліся сваей роднай сьвятой мовай. Шануйце й любіце культуру, вывучайце гісторыю свайго народу, а панад усё верце ў Бацькаўшчыну сваю, у сьвятую Беларусь. Амін.

# ЗГАДКІ ПРА МІХАСЯ НЕДАСЕКУ

Ён любіў паўтараць: «Мы, мсціслаўцы, — недасекі». І тлумачыў недасведчаным, што гэта з-за разні гараджан маскавітамі ў 1654 годзе. Калі трэба было для канспірацыі, мы яго так і называлі — Недасека.

Пазнаёміўся я з Міхасём Ткачовым летам 1961 г. На Браншчыне, на раскопках палеалітычнай стаянкі ў вёсцы Юдзінава Пагарскага раёна.

Тады я быў маладым настаўнікам, які толькі што скончыў педінстытут і марыў стаць археолагам. У самым канцы чэрвеня ад менскіх знаёмых геолагаў прыйшла тэлеграма, што я магу паўдзельнічаць у археалагічных раскопках, толькі трэба паехаць на Браншчыну па адзначаным у тэлеграме адрасе. Я хутка сабраўся і паехаў — спачатку з Мядзела да Менска крытым грузавіком, які ганарыста называўся «груз-таксі», а з Менска — цягніком (дарэчы, упершыню ў жыцці).

Назаўтра быў ужо ў раённым гарадку Пагар, дзе на кірмашовым пляцы пашчасціла знайсці спадарожную машыну на Юдзінава. А ў Юдзінаве ўжо пачалася археалагічная практыка студэнтаў-першакурснікаў з гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Чаму студэнты з беларускай сталіцы праходзілі практыку на расейскай Браншчыне? Гэта мела сваё тлумачэнне.

У другой палове 20-х гг. мінулага стагоддзя беларускія нацынал-камуністы паставілі перад Масквой пытанне аб вяртанні ў склад БССР нашых не толькі цэнтральных — Віцебшчына, Магілёўшчына, Гомельшчына, але і ўсходніх тэрыторый — Смаленшчына і Браншчына. Вярнуць цэнтральныя тэрыторыі ўдалося, а ўсходнія, пасля знішчэння нацыянал-камуністаў, засталіся пад расейскім панаваннем. Але беларускія навукоўцы — географы, археолагі, лінгвісты — ужо распачалі там даследаванні. У прыватнасці, Канстанцін Палікарповіч у самым пачатку 30-х гг. правёў разведку па рацэ Судасць, дзе выявіў палеалітычную стаянку каля Юдзінава. Нават паспеў яшчэ ў даваенны час зрабіць на ёй раскопкі.

Мінулі крывавыя рэпрэсіі 30-х, прайшла яшчэ больш крывавая і ахвярная Другая сусветная вайна, ужо баяліся нават успамінаць пра далейшае «ўзбуйненне» БССР, а беларускі археолаг Палікарповіч усё яшчэ працаваў на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі — на Браншчыне. Гэта быў не альтруізм усходніх суседзяў — у тры пасляваенныя дзесяцігоддзі на тэрыторыі Беларусі працаваў добры дзясятак расейскіх археолагаў. Вось такі быў абмен, вельмі непрапарцыйны…

Я адразу звярнуў увагу на высокага чарнявага студэнта, дасціпнага і таварыскага, гітарыста і спевака, які быў душой студэнцкага гурта. Але звярнуў увагу найперш не з-за гэтых ягоных якасцяў, а таму, што ён першы і з ахвотай адгукнуўся на маю беларускамоўнасць.

Потым мы стараліся быць разам — на раскопе, пры капанні пошукавых шурфоў, або калі лавілі ракаў у чысцюткай Судасці.

Ліпень быў спякотны, без адзінага дожджыку.

На раскопе можна было знаходзіцца раніцай і вечарам. Днём жа ратаваліся ад гарачыні ў прахалоднай рацэ, з якой мы мала і вылазілі.

А яшчэ мы любілі ў садзе дзеда Уладзіміра, дзе кватараваў Міхась, пад вялізнымі тутэйшымі вішнямі, весці гутаркі з гаспадаром. Слухалі і дзівіліся ягонай гаворцы. Як і гаворцы маёй гаспадыні, ды і іншых жыхароў вялізнай вёскі Юдзінава, якая гучала, як і на нашай Гомельшчыне. На здзіўленае пытанне: «Дык хто ж вы, калі размаўляеце па-беларуску?» — юдзінаўцы губляліся і пачыналі разважаць: «А тут была і Літва,

і Украіна. А зараз мы ў Расіі. А хто мы? Мы — бранськія руськія». Вось так, з мяккім знакам, як у часы кіеўскага летапісання. І гэтыя «бранськія руськія» наўздзіў шанавалі сваю гаворку і трымаліся яе без ніякіх комплексаў. Трапляючы пазней нават у раённыя дзяржаўныя ўстановы, мы чулі і ад службоўцаў тую ж радзіміцкую беларускую гаворку.

На Браншчыне знаходзілася мала савецкіх войскаў. Таму не было процьмы асаднікаў-афіцэраў і іхніх жонак, якія ў карэннай Беларусі паабсядалі культуру, школьніцтва і іншыя галіны грамадскага жыцця. Дзе дыктавалі свой стыль паводзін, дэманструючы найчасцей ваяўнічае непрыняцце мовы «тубыльцаў».

Праўда, і сярод юдзінаўцаў траплялiся рэнегаты. Гэта тыя, што ўжо пажылі ў Бранску або Маскве і стараліся размаўляць па-гарадскому. Мясцовыя дзеці такіх дражнілі хорам:

Гуси гогочут,
город горит,
каждая гадость
на «г» говорит!

«Літву» тут памяталі. Назву рэчкі Бойня, што ўпадала ў старой частцы вёскі ў Судасць, тлумачылі тым, што тут нібыта адбылася калісьці бітва з літвой.

Непадалёку сельсавета, пошты і клуба знаходзіўся пункт грамадскага харчавання, дзе меліся рыбныя кансервы, бочка з салёнымі агуркамі і гарэлка, якую пілі за засланым цыратай сталом, закусваючы тымі ж агуркамі. Гэты «пункт» вяскоўцы называлі карчмой і тлумачылі, чаму карчма: «Бо туды пр**я**ма, а назад старчма». Пры гэтым «р» у іх заўсёды было мяккім. Напрыклад, як і ў дзіўным для мяне слове «трям», якое абазначала столь у хаце.

А яшчэ нас дзівіла, што на мясцовым могільніку, праўда, абсалютна занядбаным, з козамі на магільных грудках, крыжы былі як на каталіцкіх кладах, без косай перакладзіны. Абмеркаваўшы гэтую з’яву, прыйшлі з Міхасём да высновы, што тут нідзе блізка няма католікаў, таму няма патрэбы паказваць адрознасць праваслаўя гэтым дадатковым касяком на крыжы.

Юдзінаўскія дзяўчаты былі, як на падбор, светлавалосыя і блакітнавокія, і многія хадзілі ў хусцінках, бо непакрытая галава сведчыла, у мясцовым разуменні, пра гарадскую распусту.

А яшчэ за Судасцю быў шырокі луг з стагамі свежаскошанага сена, куды мы плавалі з непакрытагаловымі менскімі студэнткамі.

А ўвогуле, мясцовая гаворка, норавы, побыт натуральна пераводзілі рэчышча нашых гутарак да лёсаў Беларусі ў цэлым. Было бачна, што гэты мсціславец хоча ведаць больш, чым дае Абэцэдарскі ў сваіх лекцыях. Асабліва ён любіў распавядаць пра свой родны горад: замчышча, старыя касцёлы, пра знаходкі на дзедавым агародзе, пра матчын род мсціслаўскай шляхты Казлоўскіх.

Час археалагічнай практыкі мінуў хутка.

З Менску прыехаў аўтобус. Мы пагрузіліся. Дужэйшыя студэнты падсадзілі на прыступку Канстанціна Міхайлавіча Палікарповіча, які быў пасля інсульту і слаба рухаўся, і рушылі на захад, да мяжы БССР.

Ехалі праз Старадуб і там рашылі зазірнуць на мясцовы кірмаш, каб купіць чаго на дарогу. І вось тут выгляд нашых дзяўчат у штанах выклікаў непадробнае абурэнне старадубцаў. Да нас праціснуліся праз натоўп міліцыянеры і настойліва параілі, каб хутчэй з’язджалі з горада, бо яны не гарантуюць нам бяспеку. Радзіміцкая зямля заўсёды была воддаль ад магістральных гістарычных плыняў. Яе нават Кіеў заваяваў апошняй. Таму тут захаваліся такія старасвецкія норавы.

Даўно не быў у Юдзінаве. Можа, там ўсё па-новаму? Чуў толькі, што вёска моцна абязлюдзела.

У Менску развіталіся і я паехаў на сваю Мядзельшчыну.

А восенню паступіў у аспірантуру, «на археалогію», і вырашыў расшукаць Міхася. Знайшоў яго ў інтэрнаце на вуліцы Свярдлова і запрасіў да сябе ў госці. Жыў я ў аспіранцкім інтэрнаце і стыпендыю атрымліваў прыкметна большую за студэнцкую. Таму і пачастунак падрыхтаваў як мае быць, каб вечна галодны студэнт мог наесціся ўсмак. Знайшлася і бутэлька.

Я ўжо быў упэўнены, што з Міхася можа атрымацца беларускі патрыёт. Таму, не губляючы часу, пачаў пра тое, што нам трэба шукаць і гуртаваць нацыянальна свядомых беларусаў. Каб захаваць мову і пашыраць веды пра сапраўдную гісторыю Беларусі. Пра незалежнасць яшчэ не было гутаркі, але пра вяртанне ўсходніх тэрыторый мы павінны памятаць заўсёды.

Міхась ахвотна еў кілбасу, але піў мала і больш адмоўчваўся, асабліва не падтрымліваючы мае патрыятычныя размовы.

А потым ён прапаў. Не адгукаўся. Не тэлефанаваў. І аб'явіўся толькі на апошнім курсе, калі пісаў дыпломную працу па гісторыі Мсціслава, калі спатрэбілася мая дапамога. І тады прызнаўся, што пры першай нашай сустрэчы ў аспіранцкім інтэрнаце спалохаўся маіх смелых заяў і вырашыў, што я стукач і правакатар, які працуе на КДБ. Развітваючыся, цішком засунуў у кішэнь майго плашча «адкупныя» тры рублі — кошт бутэлькі гарэлкі.

Пры заканчэнні ўніверсітэта Міхася Ткачова не рэкамендавалі ў аспірантуру. Лаўрэн Абэцэдарскі нутром адчуваў «нацыяналіста». Размеркавалі ў прыгарад Жодзіна. Школа была новая. На адкрыццё прыязджаў сам першы сакратар ЦК КПБ Машэраў. Запытаўся, дэмакрат, у аўтамабілебудаўнікоў; «Какую вы хотите школу — русскую или белорусскую?» — «А ў якую школу ходзяць твае дзеці?» — «У рускую». — «Тады і нам давай рускую».

Міхась Аляксандравіч быў добрым настаўнікам, і вучні яго любілі. Гуляў у баскетбол, для чаго падыходзіў ростам і камплекцыяй. Стварыў школьны гістарычны гурток. Працягваў збіраць матэрыялы па гісторыі Мсціслаўшчыны. Карыстаўся даверам і школьнага раённага начальства — выпускнік універсітэта, разумны, абаяльны, аўтарытэтны сярод настаўнікаў і вучняў, да таго ж сын франтавіка, які загінуў на Ленінградскім фронце. Падыходзіў для павышэння па працы, таму прапанавалі ўступаць у партыю.

Прыехаў у Менск, каб параіцца. Думка мая была адназначнай — трэба ўступаць. У гэты час Міхась Ткачоў быў даволі цесна звязаны з «акадэмічным асяродкам», таму сабралі «кансіліум». Большасць таксама была за ўступленне. Гэта якраз адпавядала нашым прынцыпам — уступаць у партыю і займаць патрэбныя для беларускага руху пасады. Бо беспартыйнаму гуманітарыю было наканавана заставацца шараговым службоўцам, яго нават выкладчыкам у ВНУ не бралі. «Усе літоўскія нацыяналісты — камуністыя», — казалі мы.

І ў хуткім часе Ткачоў стаў членам КПСС і, адпаведна, завучам сваёй школы.

А неўзабаве і жаніўся. Проста на вяселлі я запрасіў Міхася і ягоную Валю да сябе на археалагічныя раскопкі. Атрымаўся мядовы тыдзень у палатцы на беразе Нёмана пад Стоўбцамі.

Былі лагодныя дні беларускага лета з пахам баравой жывіцы, цёплыя зорныя ночы, а срэбны чоўнік маладзіка быццам абяцаў доўгае і шчаслівае плаванне…

У суседняй вёсцы Апечкі я пазычыў сетку, і адной ноччу вырашылі з Міхасём налавіць рыбы. Пры месяцовым святле мы боўталіся ў прыбярэжным чароце і здабыча трапляла ў нашу мярэжу! Не мелі торбы, таму складалі ўлоў у Валіну шаўковую хустку. Аж раптам на беразе пачуўся гул матацыклетнага матора і нас асвятліў прамень зыркага святла. «Эй вы, з сеткай, вылазьце на бераг!» — загрымеў над поплавам начальніцкі го-

лас. Мы кінуліся за паварот ракі. Пры гэтым я зачапіўся шнуркамі кедаў за корч і рачная плынь пацягнула мяне пад ваду. Пакуль выблытваўся, выпусціў з рук мярэжу — і яна прапала ў цемры.

Мы доўга яе шукалі. Змарыліся, знемагліся, але без выніку. Выбраліся на бераг і пабрылі да намётаў. Падкінулі рыбу пад арэхавы куст і палезлі ў спальнікі.

А ранкам высветлілася, што нехта ўкраў нашу начную здабычу разам з хусткай.

Так няўдала скончылася гэтае браканьерства. Атрымаліся суцэльныя страты: рыба, хустка і новая сетка, за якую мне давялося заплаціць немалыя грошы.

Міхась быў настаўнікам, а зараз стаў завучам, але намеру заняцца навукай не пакідаў. Наведванне маіх раскопак пераканала, што яго не цягнула да «чыстай археалогіі». Капацца ў пясочку і перабіраць бітыя гаршкі не дазваляў яго дзейсны характар. Але і для заняткаў гістарычнай тэматыкай, асабліва сярэднявечнай, пры камуністычным панаванні існавалі перашкоды. Дазвалялася даследаваць толькі сацыяльна-эканамічныя пытанні, ну, можа, яшчэ культуру… Неабходна было паказваць, як цяжка жылося працоўнаму беларускаму люду пад прыгнётам «літоўскіх феадалаў і польскіх паноў» і як ён праз стагоддзі толькі і рабіў, што імкнуўся ўз'яднацца «з брацкім рускім народам». Нават у археалогіі напісаць, што субстратам беларусаў былі балты, лічылася недапушчальнай крамолай, бо гэта аддаляла нас ад старэйшага брата. Можна было даследаваць і сапраўдную беларускую гісторыю, але цалкам самастойна, паўпадпольна, як тое рабіў Мікола Ермаловіч.

Давялося пайсці на хітрыкі. Міхасю Ткачову прапанавалі займацца ў аспірантуры пры сектары археалогіі нашага Інстытута гісторыі тэмаю «Ваеннае дойлідства Беларусі XIII–XVIII стст.». А гэта ж часы Вялікага Княства Літоўскага, і — страх нават падумаць — Аршанская бітва, вызваленне Смаленска і гетман Хадкевіч з крылатымі вершнікамі ў Маскве! Але каб адвесці падазрэнні ідэалагічных вертухаяў, удакладнілі: «па помніках паўночна-заходняй і паўднёва-ўсходняй Беларусі». Значыць, абарона ад крыжакоў і крымскіх татар. Але вывучэнне тэмы вымагала не толькі археалагічных раскопак, але і працы з летапісамі і іншымі пісьмовымі крыніцамі, патрабавала даследавання і ўласна вайсковай гісторыі.

Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі ў наступнай — доктарскай — ужо будуць і Астрожскія, і Радзівілы, і Хадкевічы, і крылатыя вершнікі… Але меліся і праблемы, так бы мовіць, унутранага характару. У Жодзіне ўжо былі сталая і паважаная праца з немалой зарплатай і кватэра, была сям'я. Існаваў ужо свой абжыты і стабільны мікрасвет. А тут трэба было пачынаць усё нанова, адплываць у невядомае. Найперш, мабыць, былі сумненні ў маладой жонкі. Таму давялося мне пару разоў з'ездзіць у Жодзіна. Мабыць, гэта таксама паспрыяла, што мой сябра канчаткова вырашыў паступаць у аспірантуру.

Міхась Ткачоў быў заўсёды энергічным і мэтанакіраваным чалавекам. Таму і праца над дысертацыяй ішла без затрымак. Былі штолетнія раскопкі на гарадзішчах і замчышчах, праца ў архівах, навуковыя камандзіроўкі ў Кіеў, Маскву, Ленінград, Прыбалтыку.

Пасля своечасовага напісання дысертацыі адбылася яе прыгожая і паспяховая абарона, а затым і залічэнне на працу ў сектар археалогіі Інстытута гісторыі навуковым супрацоўнікам.

Праца ў Менску, а сям'я і кватэра ў Жодзіне. Гэта больш за сотню кіламетраў у два канцы амаль штодзённа. Трацяцца гадзіны тры часу, да таго ж стамляешся. Але быў любімы занятак — на гэты раз сапраўды вайсковай гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага. Ды і меўся прыклад Міколы Ермаловіча, які дзень пры дні, гадамі, ездзіў з Маладзечна ў Менск, каб працаваць з бібліятэчнымі і архіўнымі матэрыяламі.

Міхась любіў ісці пешкі ад Акадэміі навук да станцыі «Трактарны завод», каб там сядаць на жодзінскую электрычку. Нярэдка падбіваў і мяне на такія праходкі. Мне было

таксама па дарозе. За няспешнай хадой якія толькі праблемы не абмяркоўваліся — навуковыя, палітычныя, лёс Беларусі. А лёс у тыя 70-я быў незайздросны. Зачыняліся апошнія беларускамоўныя дзесяцігодкі, і Купалу з Коласам дзеткі пачыналі вучыць у перакладах. Поўным ходам ішло стварэнне адзінага «савецкага народа» (з расейшчынай, зразумела). Таму нават звыклая беларускамоўнасць адукаванага чалавека расцэньвалася як антысаветчына і выклік «генеральнай лініі партыі».

Недзе летам 1978 г. сустрэў мяне гарадзенскі знаёмец і прапанаваў працу выкладчыка ў Гарадзенскім педінстытуце. Абяцалася адразу ж і кватэра. І пашкадаваў, калі даведаўся, што я беспартыйны. Якая партыя? Мяне нават у Польшчу на навуковыя канферэнцыі не выпускалі. А вось Міхась Ткачоў быў у КПСС, а кватэры ў Менску не меў і быў стомлены гэтымі жодзінска-менскімі вандроўкамі. Ды стомленая была і сям’я. Да таго ж — магчымасць легальнай працы з студэнцкай моладдзю. Чаго большага жадаць беларускаму патрыёту?

Гарадзенскі перыяд ягонага жыцця быў насычаны і плённы. Праца выкладчыка, потым пасада загадчыка кафедры. Кола аднадумцаў, студэнты, якія былі захопленыя сваім выкладчыкам, а праз яго — беларускай гісторыяй і археалогіяй. Летнія студэнцкія практыкі на замках Беларусі. Напісанне доктарскай дысертацыі і яе абарона. Сустрэчы з Аляксеем Карпюком. Велічная прыгажосць старажытнага горада, напоўненага гісторыяй… Хоць, увогуле, у Горадні яму было не лёгка. Памежны горад, заходні бастыён Савецкага Саюза быў запалонены вайскоўцамі і сцегачамі з усходу. Калі ствараўся мясцовы педінстытут, выкладчыцкія кадры збіралі па самых далёкіх расейскіх засеках. Адчуваючы сябе прыхаднямі, яны, хоць і не ўсе, стараліся душыць мясцовае, беларускае, бачачы ў ім сабе небяспеку.

Пачалася гарбачоўская перабудова, і наша свядомая інтэлігенцыя і моладзь у чарговы раз пачалі ўскочваць на горны перавал Незалежнасці Сізіфаў камень Беларускага Адраджэння. Стараліся, натужваліся, дыхаючы ў спіны прыбалтам, якія былі ўжо недалёка вяршыні. І Ткачоў стаў у першыя шэрагі Адраджэння, разам з аднадумцамі стварыўшы ў Гародні патрыятычны клуб «Паходня».

Міхась Ткачоў сустракаўся і перапісваўся з Міколам Улашчыкам, якога надзвычай высока цаніў і паважаў, як і ўсе мы, прыслухоўваўся да кожнай парады і заўвагі слыннага даследчыка старадаўняй Беларусі. 18 лістапада 1986 г. я сустрэўся ў адным купэ цягніка на Маскву з Міхасём Ткачовым. Ён таксама ехаў на пахаванне Мікалая Мікалаевіча, прадстаўляў Гарадзенскі педінстытут. Спачатку ўспомнілі, як гадоў з дзесяць назад прэзідэнт Акадэміі навук Мікалай Барысевіч даваў Інстытуту гісторыі адзінку «пад Улашчыка», каб той мог вярнуцца ў Беларусь. Але мясцовыя артадоксы крыжам леглі, каб не пусціць чалавека на Бацькаўшчыну. Мабыць, баяліся, што сярод іхняга балота з’явіцца сапраўдны Вучоны, Патрыёт, Грамадзянін. Потым доўга размаўлялі аб неабходнасці падрыхтоўкі і выдання ілюстраваных кніжак па гісторыі Беларусі, цікавых і даступных шырокаму грамадству.

Стаўшы ў 1989 г. загадчыкам рэдакцыі гісторыі ў выдавецтве «Беларуская савецкая энцыклапедыя», а ў красавіку 1992 г. яго галоўным рэдактарам, Міхась Аляксандравіч прыступіў да ажыццяўлення задумы. Так, яго клопатам і намаганнямі быў падрыхтаваны важкі энцыклапедычны том «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (убачыў свет у 1994 г.). Але найважнейшым праектам стала шасцітомная «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі». Балазе, што на яе выпуск ужо не патрабавалася прасіць дазволу Масквы.

Пры жыцці галоўнага рэдактара была распрацаваная канцэпцыя «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», складзены слоўнік артыкулаў, цалкам падрыхтаваны да друку першы том. У красавіку 1992 г. Міхась Ткачоў напісаў прадмову да першага тома, але

пабачыць яго не паспеў. У томе, з «Пагоняй» на маестатычнай вокладцы, было змешчана амаль 300 артыкулаў пад словамі «беларускае», «беларуская», «беларускі» і «Беларусь». За большасць іх у сталінскія часы аўтары і рэдакцыя былі б расстраляныя, а ў пасляcталінскія — селі б у турмы або былі б пазбаўленыя працы. Том другі (1994 г.) у асноўным рыхтаваўся таксама пры жыцці галоўнага рэдактара. Ён пабачыў свет таксама з «Пагоняй», а галоўным артыкулам у томе быў «Вялікае Княства Літоўскае». А вось том трэці (1996 г.), як і наступныя, замест срэбранай «Пагоні» на вокладцы сляпіў вока чорнай цэнзарскай плямай ў гербавым шчыце. Ды і калектыў рэдакцыі значна змяніўся — прыйшлі, як паўсталі з небыцця, ветэраны з камуністычнай ідэалогіяй. Асабліва шчыраваў адзін з намеснікаў галоўнага рэдактара. Многія артыкулы выкідаліся, скарачаліся, перапісваліся. Але дух «Пагоні» ўсё ж застаўся і ў наступных тамах. Яго ўжо было «не разбіць, не спыніць, не стрымаць».

У канцы 1990 г. на вялікай сходцы ў канферэнц-зале Саюза пісьменнікаў Беларусі выступаў Анатоль Сідарэвіч. У нейкі момант ён прамовіў: «Я, як сацыял-дэмакрат і незалежнік…». Гэта прагучала як пароль, і на перапынку я ўжо быў каля спадара Сідарэвіча. Абмеркавалі папярэдні план дзеянняў і спіс аргкамітэта. Міхась Ткачоў з энтузіязмам падтрымаў ідэю аднаўлення Беларускай сацыялістычнай грамады. І быццам само сабой сталася, што ён і ўзначаліў аргкамітэт. Тым больш што ён ужо перабраўся з Гародні ў Менск.

У тыя часы ў грамадска-палітычным жыцці краіны выключна важную ролю адыгрываў Беларускі народны фронт. Таму пажадана было атрымаць згоду Зянона Пазняка на стварэнне нашай партыі. Той, баючыся, відавочна, драблення Фронту, успрыняў ідэю статутнага афармлення беларускіх сацыял-дэмакратаў насцярожана. Давялося тлумачыць, што працэс партыйнага будаўніцтва непазбежны, што грамадзяне сацыял-дэмакратычных поглядаў ужо гуртуюцца, напрыклад, у Магілёве, што ў Беларусі ўжо з'явіліся эмісары маскоўскіх сацыял-дэмамкратаў з ідэямі канфедэрацыі сацыялістаў усяго СССР і што плануем на старшыню Грамады Міхася Ткачова, а ён жа ў Народным фронце адзін з намеснікаў Пазняка.

Нарэшце ў сакавіку 1991 г. у той жа зале Саюза пісьменнікаў, чаму паспрыяў і Ніл Гілевіч, адбыўся ўстаноўчы з'езд сацыял-дэмакратаў. Між іншым, удзельнікаў той урачыстасці асабіста павіншаваў і Зянон Пазняк. Дэлегаты з усёй Беларусі практычна аднагалосна выбралі старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Міхася Ткачова. Пад авацыю залы.

Ткачоў быў добрым партыйным лідарам, сапраўдным сацыял-дэмакратам. Ён умеў ладзіць з людзьмі, дамаўляцца, ісці на кампрамісы, не паступаючыся асноўнымі прынцыпамі, у тым ліку і з камуністамі, сярод якіх былі і прыстойныя асобы. Яму давяралі аднапартыйцы і паважалі кіраўнікі іншых аб'яднанняў і рухаў. Неяк пазваніў мне, каб падышоў да яго ў рабочы кабінет: «Будзе сустрэча з паслом Ірландыі». Той аказаўся таксама сацыял-дэмакратам. Доўга распытваў нас пра Грамаду, дзяліўся вопытам дзейнасці сацыял-дэмакратаў на сваёй радзіме. Выявілася, што ён ведаў становішча ў Беларусі, у тым ліку і ў сферы культуры. Выказаў сваё меркаванне: «Толькі не паўтарайце нашу памылку — не рабіце дзве дзяржаўныя мовы. Мы зараз трацім вялікія сродкі на падтрымку ірландскай, але ўсё адно яна адступае пад націскам ангельскай».

…Збіраўся вялікі мітынг, арганізаваны БНФ. Ткачоў павінен быў выступаць на ім ад імя Грамады. Зайшоў да нас дахаты і пажаліўся маёй жонцы-лекару, што ў яго тэмпература 38 і ідзе кроў. «Які мітынг? — усхадзілася Святлана. — Кладзіся ў ложак і выклікай лекара». — «Не магу. Я павінен там быць і выступаць». Так і пайшоў. І выступаў. Захаваўся здымак — Ткачоў на тым мітынгу.

Святлана зараз жа дамовілася з сваім аднакурснікам Валерыем Пілатовічам, які працаваў на кафедры ўралогіі ў медінстытуце. Той агледзеў пацыента і накіраваў ва ўралагічнае аддзяленне 4-й бальніцы. А маёй жонцы сказаў: «У яго запаленне нырак і полікістоз. Гэта спадчынная і пакуль што невылечная хвароба. Калі не вылезе з археалагічнага раскопа і не будзе шанавацца, загіне месяцаў праз дзесяць».

Міхась Ткачоў пражыў — з поўнай самааддачай на працы і ў грамадскім жыцці — яшчэ амаль два гады…

Гэта быў такі ўзнёслы час. Вясна народа. Калі людзі працавалі самааддана, сваім часам і коштам, не чакаючы ўзнагарод і падзякі. Трацілі здароўе, згаралі, але не як свечкі, а як Паходні. Дзеля будучай вольнай Беларусі.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ*
Жнівень 2012 г.

# МЫ ВМЕСТЕ

Передо мною изящный томик стихов «Мой свеце ясны», а в нём — *старонка пяцьдзясят дзявятая*:

*Ручча сасніў я джарала.*
*Высока сонейка стаяла,*
*І слонкі быстрае крыло*
*У зыркіх промнях трапятала.*

*І шэпт арэшын і травы*
*У сне мне чуўся імем-словам.*
*Гладышкі голас гарлавы*
*У ручая быў тымчасова.*

*І гэты гук выразна мне*
*Душу сцінаў салодкім болем.*
*Я думаў — многа год міне*
*І гук не скончыцца ніколі.*

*І пахла сонцам і вадой.*
*Бясконца так, навечна будзе!*
*Паветра парны сырадой*
*Струменем цёплым ліўся ў грудзі.*

*І гэты блаславіў я дзень,*
*І над крыніцай я нагнуўся,*
*Калі ў асмужанай вадзе*
*Твой светлы вобраз калыхнуўся.*

*Струмень я піў, я слодыч піў,*
*Нібы чыё наканаванне,*
*Я так тады цябе любіў,*
*Бы прадчуваючы расстанне!*

*Нібы скараўся я журбе,*
*Нібы скараўся ўжо расплаце…*
*Хоць і не ведаў, што цябе*
*Ужо даўно наяве страціў.*

Снова перечитываю стихи, хотя знаю их наизусть, снова вспоминаю этот солнечный день, это место и нашу любовь.

И в этом же томике на *старонцы пяцьдзясят другой:*

*Без парывання, без жадання*
*Пераступіць адчаю край*
*Гадамі доўжылі расстанне*
*І не прыспешвалі «бывай».*

*І быт знялюбеў і знябыцеў,*
*І так ішло, і так было,*
*Пакуль сам лёс не ўзненавідзеў*
*Кахання гэтага сіло.*

*Тады анёл мой недзе плакаў,*
*І плакала душа мая,*
*Ды лёсу лепшага адзнакай*
*Была даверлівасць твая.*

*Прабач, не веру я ва ўдачу,*
*А веру ў светлы воблік твой.*
*Як засумую, як заплачу*
*Пад спеў віхур над галавой, —*

*Сыдзі ў мае глухія лёхі,*
*Падай спатольнае вады, —*
*І хопіць мне тае падмогі,*
*Каб адкаснуцца ад бяды.*

Это о нас — о нём и обо мне. Мы не убили нашу любовь, мы отпустили её на волю, живую и трепещущую.

Наша любовь пережила его, но продолжает жить в его стихах, такая же чистая и трепетная, не потускневшая от времени.

Как же мы были правы, что не стали дожидаться агонии нашего чувства, а оборвали его на высокой ноте.

Каждый из нас выбрал свой путь. Нам было очень трудно.

И вот эти его стихи, стихи зрелого поэта, выстраданные жизнью.

Мне нелегко взяться за этот труд, для меня это совершенно новое дело.

Не могу удержаться от риторической фразы: если не я, то кто?

Никто меня не осудит, если я ничего не напишу, а вот если напишу, то заранее предвижу строгую критику в свой адрес: не берись, мол, не за своё дело. Но я тешусь надеждой, что окажу хоть маленькую услугу моему мужу, если оставлю хоть слабую память о его юности, первых шагах во взрослой жизни, живые зарисовки с натуры его прошлого.

Надеюсь, что прочитать мои откровения будет интересно и тем, кто любит Стрельцова и хочет узнать о нём побольше как о человеке. Ведь мы прожили с ним 15 лет и ещё +.

Мысленно обращаюсь к Михасю и прошу благословить меня.

Для поддержки поставила перед собою его портрет.

Он смотрит на меня своим насмешливым, слегка прищуренным взглядом и как бы говорит: «Ну же, старушка, смелее, я буду строго следить за тем, чтобы ты не нагородила глупостей. Наконец-то ты преодолела свою лень, а ведь могла бы сделать это значительно раньше».

Ах, Миша, Миша! Помоги мне. На тебя одна надежда.

А что касается «раньше», то сейчас и время — это год твоего 75-летия и 25 лет с того дня, когда ты обрёл вечность.

Впервые я увидела Мишу в аудитории университета в сентябре 1954 г. На него невозможно было не обратить внимания. Такое лицо можно было бы встретить среди студентов театрального вуза — уж очень романтична была его внешность.

Его более поздние фотографии плохо передают то, что было заложено в юности, предвещавшее необычность его судьбы.

Он не был демоническим красавцем, но самое первое впечатление — это его светлый облик. Этим он выделялся из массы остальных студентов.

Красивой формы голова, довольно длинные русые волосы, зачёсанные назад, и лоб — ясный и нежный. Именно лоб придавал такое необыкновенное сияние всему его облику.

Второй раз я увидела его в деревне Городище, что на реке Менке, где я гостила у своей тётки.

Миша со своим курсом работал в колхозе на уборке картофеля. Он квартировал в соседней деревне Богушёво, а в Городище был направлен в правление колхоза по делам.

Адразу пасля шлюбу маладыя жылі ва Уніхаве, але Ваўжынец хутка атрымаў маёнтак Бальценікі з Бражэльцамі (200 мужскіх душ)[14], і яны пераехалі ў Бальценікі.

Маёнткам Бальценікі Путкамеры валодалі з 1723 г. да Другой сусветнай вайны. Двор і гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся на высокім узгорку, які з захаду пераходзіў у раўніну, а на ўсход ад маёнтка працякала рэчка Гражулка. Болей за стагоддзе сядзібай Путкамераў быў невялікі мураваны дом з мезанінам, накрыты высокім «ламаным» гонтавым дахам, з ганкам з калонамі, добра аздоблены знутры і абстаўлены мэбляй ў стылі ампір. Від гэтага дома захаваўся толькі на малюнку Напалеона Орды. У другой палове XIX ст. стары маёнтак праз эксдывізію адышоў у дзяржаўную маёмасць і заняпаў. Пусты, без мэблі будынак быў на мяжы зруйнавання[15].

У час, калі Бальценікі наведваў Адам Міцкевіч, перад старым домам рэчка ператваралася ў своеасаблівае возера (мора Марылі). Марыля Путкамер часта працавала ў садзе. Важнае мемарыяльнае значэнне мае «гай Марылі» — невялікі лясок прыкладна за 500 м ад цэнтральнай сядзібы. Пра гай графіня ўспамінае ў лісце да Тамаша Зана, апісваючы свае клопаты пра гэты прыгожы куток сядзібы, у якім, праўда, няма зяляніны, няма кветак і пераважаюць змрочныя цёмныя яліны, але, як пісала Марыля, нягледзячы на гэта, «ён захоўвае для мяне шмат прыгажосці». Вераемна, тут адбываліся сустрэчы паэта з яго каханай, пра што расказвае народная легенда[16]. На думку А. Т. Федарука, А. Міцкевіч у памяць аб рамантычным каханні да Марылі з Верашчакаў высек на гэтым валуне крыж, які бачны і цяпер. Інакш выкладзеная гісторыя гэтага каштоўнага мемарыяльнага аб’екта ў мемуарах А. Адынца. Верагоднасць яго версіі ўзмацняе тое, што ён разам з Чачотам гасціў у Бальцеників у 1823 г., праз год пасля двухтыднёвага знаходжання тут А. Міцкевіча. Як пісаў А. Адынец, яны часта наведвалі лясок, дзе знаходзіўся вялікі плоскі камень «з крыжам, выбітым ёю [Марыляй] самой на гэтым надмагіллі Мінулага і Надзеі».

Праўнучка Яніна пісала пра сваіх прадзедаў: «*Прадзед Ваўжынец любіў паляваць і гасцяваць па суседзях і не любіў праводзіць час у сваім доме. Яго жонка, істота сапраўды паэтычная, хадзіла ў белай сукні і вялікім саламяным капелюшы, не цікавілася практычнымі справамі, але, седзячы на галінцы квітнеючай яблыні, чытала Байрана*»[17].

Ваўжынец і Марыля Путкамеры мелі трох дзяцей: сына Станіслава і дачок Зоф’ю (па мужу — Каліноўскую) і Караліну (па мужу — Рыхлевіч).

Бальценікі знаходзіліся блізка аж Вільні, і малады Путкамер хоць і не быў сябрам таварыстваў, але завязаў добрыя стасункі з філаматамі і філарэтамі. Ён стаў сябрам Таварыства дапамогі бедным студэнтам і Таварыства шубраўцаў. Наведваў амаль што ўсе пасяджэнні шубраўцаў і ў Віленскім універсітэце слухаў лекцыі прафесара Галухоўскага і Лялевеля.

Евангеліст Ваўжынец Путкамер выбіраўся куратарам Евангеліцка-Рэфарматарскага сінода на Літве. На свае невялікія фундушы пратэстанты ўтрымлівалі дваццаць касцёлаў, гімназію ў Слуцку, віленскі калегіум, некалькі дзясяткаў месцаў у алюмінату ў Слуцку, некалькі месцаў у Кейданах, шэсць вучняў у Дэрпце і чатыры — у Пецярбургу[18]. Пратэстанцкія парафіі ўваходзілі ў склад акруг — адпаведнікаў каталіцкіх дыяцэзій, хоць практычна з-за малалікасці вернікаў яны набліжаліся да каталіцкага дэканата[19].

---

[14] Гл.: Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейшчины. С. 301.

[15] Гл.: Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wrocław, 1993. T. 4. C. 45–46.

[16] Гл.: Федорук А. Т. Садово-парковое искусство Белоруссии. Минск, 1989. С. 171.

[17] Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. Londyn, 1998. S. 113.

[18] Гл.: Estreicher Karol. Wawrzyniec Puttkamer (1794–1850). S. 11.

[19] Гл.: Kosman M. Litewska Jednota Ewangelicko-Reformowana od polowy XVII w. do 1939 r. Opole, 1986. S. 58.

Больш за дзесяць гадоў Ваўжынец Путкамер быў сябрам Евангеліцка-Рэфарматарскага сінода на Літве. За гэты час ён унёс праект аб надзяленні зямлёй сялянаў, якія належалі пратэстанцкім зборам, але праект таксама не дайшоў да выканання. У 1822 г. улагодзіў справы з радзівілаўскімі фундушамі для слуцкай школы. А ў 1823 г. стары граф Аляксандр Путкамер прапанаваў Сіноду праект свайго сына аб адкрыцці ў Вільні друкарні, якая разам з паперняй павінна была служыць развіццю культуры ў былым ВКЛ. Дакумент складаўся з дзвюх частках: першая датычыла мэты справы (там ёсць такія радкі «*...сцвярджаю, што чым больш клас сялянаў адукаваны, тым у большай ступені ведае ён пра неабходнасць паляпшэння свайго побыту і паляпшае яго»*), другая — шляхоў рэалізацыі. Аўтар паклапаціўся пра ўсе падрабязнасці, але перыяд лібералізму прайшоў, і царызм пачаў закручваць шрубы, распачаўся працэс філаматаў, і праект не быў рэалізаваны[20]. У 1824 г. была зачыненая гімназія ў Кейданах, і супраць школы ў Слуцку былі высунутыя цяжкія абвінавачанні. Таму віленскі Сінод даручыў свайму куратару вырашыць з рэктарам Віленскага ўніверсітэта Пеліканам пытанне са школай у Слуцку і магчымасць пераўтварэння яе ў гімназію. Атрымаўшы дазвол ад рэктара і ад урада, у 1829 г. Путкамер пачаў будаваць новы корпус гімназіі. Пры закладцы ганаровага каменя ён сказаў запамінальную прамову[21]. З часам слуцкая гімназія сталася найлепшай у Літве і падрыхтавала шмат людзей, якія сталі гонарам беларускай і сусветнай культуры.

Увогуле, Ваўжынец Путкамер, «паручнік войскаў польскіх», кіраваў пасяджэннямі Сінода ў якасці дырэктара у 1821, 1822, 1829 гг.[22].

Думаў Путкамер і пра развіццё прамысловасці ў краі. Ён бачыў росквіт прамысловасці ў Еўропе, разумеў значэнне, якое маюць розныя прамысловыя і сельскагаспадарчыя таварыствы. У 1828 г. ён заклаў першую на Літве фабрыку паперы, далей планаваў пабудаваць у сябе цукроўню, гарбарню і фабрыку сукна. Брак капіталу не дазволіў давесці гэтыя праекты да рэалізацыі. Таму граф задумаў арганізаваць першае на Літве прамысловае таварыства. Плануючы стварыць цукроўню як акцыянернае прадпрыемства, ён вёў перамовы з маршалкам губернскай шляхты Жабам і з прамыслоўцам Міхалам Макрыцкім. 15 чэрвеня 1838 г. граф атрымаў Найвышэйшы ўказ, які дазваляў стварыць кампанію. Путкамер вывучаў справу цукраварства на дзейных фабрыках, раздаваў насенне цукровых буракоў і гарантаваў закуп ураджаю. Але сабраць неабходную колькасць акцыянераў і грошай не ўдалося, шляхта не верыла ў перспектывы прамысловага таварыства[23].

У чэрвені 1833 г. Ваўжынец і Марыля Путкамеры за дапамогу эмісару Марцелю Шыманскаму былі арыштаваныя. Яны спачатку знаходзіліся пад вартай у Вільні, а з жніўня да лістапада 1833 г. — у Гродзенскім астрозе. Марылю абвінавачвалі, спасылаючыся на сведчанні Шыманскага, але яна не прызнавала сябе вінаватай. Толькі зімой 1833 г. Путкамеры змаглі вярнуцца у Бальценікі[24].

У выгнанні Адам Міцкевіч з цікавасцю паглынаў усе звесткі з радзімы. На пачатку 1846 г. ён даведаўся, што Путкамерава з Верашчакаў, сястра яго сябра Міхала, выдала

[20] Гл.: Косман М. Праўда і легенда пра саперніка паэта... С. 152.

[21] Гл.: Estreicher Karol. Wawrzyniec Puttkamer (1794–1850). 1880. S. 13.

[22] Гл.: Косман М. Праўда і легенда пра саперніка паэта... С. 153.

[23] Гл.: Estreicher Karol. Wawrzyniec Puttkamer (1794–1850). S. 13.

[24] Гл.: Gulczyński E. Sprawa Marcelego Szymańskiego emisariusza wyprawy Zaliwskiego. Wilno, 1933. S. 328.

старэйшую дачку Зоф'ю за нейкага Каліноўскага, інспектара з Вільні, а у Бальценіках даведаліся з пісьма Тамаша Зана, што Міцкевіч стаў халодным і нават *«суровым і здольным прынізіць»*[25].

Чэслаў Малеўскі пісаў, што Ваўжынец Станіслаў Ян граф Путкамер з Варсовічаў-Сякерка з 20 верасня 1847 г. да 15 чэрвеня 1849 г. быў маршалкам шляхты Лідскага павета[26]. Маршалак быў прызначаны сябрам статыстычнага камітэта пры губернатары Допельмаере і адзінаасобна склаў статыстыку Лідскага павета. У той час праводзілася так званая інвентарызацыя панскіх маёнткаў. Гэта быў адзін з першых крокаў у бок урэгулявання стасункаў паміж прыгоннымі і прыгоннікамі, бо інвенатар павінен быў вызначыць межы панскай улады і памеры сялянскіх падаткаў. Гэты крок улады выклікаў занепакоенасць шляхты. Маршалак руплiва заняўся складаннем інвентару, тлумачачы сялянам, якія павіннасці яны будуць адпрацоўваць, а якія паны не маюць права ад іх патрабаваць. Пры гэтым пільнаваў, каб абшарнікі не патрабавалі ад сялянаў выконваць павіннасці, не прадугледжаныя законам. Путкамер часта быў пасярэднікам у спрэчках паміж сялянамі і абшарнікамі павета. І шляхта казала пра яго: «Пане дабрадзею, маршалак сялянаў, а не шляхты» («Panie Dobrodzieju, to marszałek chłopów a nie szlachty»). Даведаўшыся пра такія адозвы, Ваўжынец публічна высказаўся, што шляхта дала яму найлепшую з магчымых мянушак[27].

На сваёй асабістай гаспадарцы граф меў грашовыя клопаты, не ўсё у яго было добра, што відаць з яго ліставання з сябрам і суседам — вядомым гісторыкам Міхалам Балінскім, яго фрагменты прыводзіць у сваёй кнізе Караль Эстрэйхер. Напрыклад, адзін з выкапаных у Бальценіках ставоў прыйшлося закапаць з-за ўзніклых праблем. Путкамер пісаў, што ўзяў падрад на будаўніцтва лідскага казначэйства і просіць Балінскага дамовіцца з нейкім панам Аншлам, каб ён не патрабаваў ад графа даваць сваіх парабкаў для працы і т. д. У лістах да Балінскага Путкамер часта пісаў пра сына Стася, але ніколі не пісаў пра жонку — напэўна, меў нейкія праблемы ў адносінах з ёй.

Памёр граф Ваўжынец Путкамер у Вільні 30 студзеня 1850 г.

Пасля смерці бацькі сын Станіслаў напісаў пра яго: *«Дадам яшчэ некалькі слоў, з маёй памяці. Кожны сябар і знаёмы майго бацькі памятае яго шляхетную паставу, яго лагоднае аблічча, якое адлюстроўвала высокія думкі, і сэрца, якое білася дзеля грамадскага дабра»*[28].

Антоні Адынец пасля смерці графа згадваў: *«Чачот сапраўды заўсёды мне гаварыў, што гэта самы сумленны, самы прыемны чалавек і што ўсе яго учынкі, на думку Адама* (Міцкевіча. — *Л. Л.*), *характарызаваліся выключнай шляхетнасцю, якую сам Адам прызнаваў. Аднак ніколі ён не мог бы з чужых слоў дапусціць, калі б не пазнаёміўся асабіста, што той* "*перахопнік Мырылі*" *быў сапраўды такі вельмі ідэальны»*[29].

Міхал Балінскі зазначыў пра Ваўжынца Путкамера: *«Самым паважаным суседам Яна Снядэцкага быў Ваўжынец Путкамер, які жыў за 3 мілі ад Яшун у Бальценіках. Калісьці… прыгожы ўлан… зусім не арыстакрат, не толькі не багаты, а нават вельмі бедны, бо атрымаў спустошаныя бацькаўскія маёнткі… ён рабіў першыя крокі ў стварэнні прамысловасці нашага краю. Акрамя таго, меў надзвычайныя якасці сэрца*

---

[25] Косман М. Праўда і легенда пра саперніка паэта... С. 153.

[26] Гл.: Rody i herby szlacheckie na Litwie (XVIII) // NG 4 (537).

[27] Гл.: Estreicher Karol. Wawrzyniec Puttkamer (1794–1850). S. 14.

[28] Цыт. паводле: Estreicher Karol. Wawrzyniec Puttkamer (1794–1850). S. 14.

[29] Гл.: Косман М. Праўда і легенда пра саперніка паэта... С. 153.

*і розуму якія не толькі ў Літве, але і ва ўсім свеце рэдка сустракаюцца. Працавіты, адукаваны чалавек, ён жадаў даць волю сельскаму люду, і таму быў паважаны сваімі сялянамі… верны сябар… прытым, нягледзячы на жыццёвыя праблемы, заўжды вясёлы, вельмі дасціпны, хадзячы скарбец вусных анекдотаў, аматар кніг і палявання…»*[30].

Граф Ваўжынец Путкамер быў пахаваны ў Вільні на Баўфалавай гары Евангелічных могілак пры вуліцы Малой Пагулянкі ў родавай капліцы[31].

Праўнучка Ваўжынца і Марылі Путкамераў Яніна Жалтоўская напісала ў мемуарах: *«Мой прадзед Ваўжынец Путкамер ніколі не меў вялікай фартуны. Пасля смерці прадзеда маёнтак Бальценікі-Бражльцы, уласнасць роду з 1723 г. … быў зменшаны эксдывізіяй, Уніхаў — навагрудскі маёнтак — быў страчаны, верагодна, таксама праз эксдывізію»*[32]. «Мужыцкі маршалак» пасля сваёй смерці пакінуў вялікія даўгі.

У 1860 г. у Бальцеміках пасяліўся з сям'ёй сын Марылі і Ваўжынца — **Станіслаў Путкамер**.

У снежні 1863 г. памерла Марыля Путкамер. Яе пахавалі каля Беняконскага касцёла.

Пра сына Ваўжынца і Марылі Станіслава Путкамера вядома не шмат. Ён, як і бацька з дзедам, быў актыўным пратэстантам, як дырэктар кіраваў пасяджэннямі Сінода ў 1872, 1875, 1878, 1879 гг.[33]. Ягоная ўнучка Яніна зазначыла: *«Мой дзед Станіслаў граф Путкамер был шматгадовым куратарам пратэстанцкага Сінода і таму жыў у доме, які належаў Сіноду ў Вільні»; «дзед быў вельмі ашчадны, жыў сціпла і пераважна ў Вільні і нават на летні адпачынак выязджаў не далей чым да ваколічных дамоў»*[34]. Аднак менавіта ён у другой палове XIX ст. пачаў фармаваць знакаміты парк вакол амаль што страчанага праз заклад маёнтка ў Бальценіках[35]. Станіслаў Путкамер ажаніўся з Феліцыяй Кеневіч. Яніна Жалтоўская пісала, што бабуля Феліцыя была асобай цяжкой і дэспатычнай, хварэла на сухоты, але муж кахаў яе і служыў ёй з *«анёльскай цярплівасцю і дабрынёй»*. Менавіта графіня трымала ў руках усе сямейныя справы і планы, і, калі ў Вільні новы губернатар стаў больш даступны, дзякуючы ёй сям'я атрымала дазвол на выкуп сваіх маёнткаў. Вельмі любіла свайго старэйшага здольнага сына «Ваву» і ўскладала на яго надзеі на фінансавы ўздым сям'і. Графіня дрэнна ставілася да сясцёр мужа, і яны плацілі ёй тым самым. Яніна памятае, як сёстры дзеда меркавалі, што з-за сваёй амбіцыі бабуля патрабуе ад сыноў празмернай вучобы, і, на іх меркаванне, менавіта вучоба змарнавала здароўе малодшага з іх — Іпаліта. Акрамя двух сыноў Путкамеры мелі і дачку Паліну (па мужу — Хоўвальт). Пра шлюб цёткі Яніна згадвала: *«Да маёй цёткі Польці… заляцаліся адразу два кавалеры, суседзі Уладзіслаў Хоўвальт і багаты Вітольд Вагнер з Салечнікаў. Пры партыях вінта ці прэферанса два прэтэндэнты зблізіліся з маім дзедам, які выбраў Хоўвальта і такім чынам вызначыў лёс адзінай панны ў сям'і… Жыццё сям'і майго бацькі было правінцыйнае і нуднае, абумоўленае недахопам грошаў і краёвымі паразамі… квітнелі сямейныя цноты, паважаліся адсутнасць эгаізму і простасць сэрца»*[36].

---

30 Bałiński M. Pamiętniki o Janie Śniadeckim. T. 1. Wilno, 1865. S. 890–891.

31 Гл.: Rody i herby szlacheckie na Litwie (XVIII) // NG 4 (537).

32 Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. Londyn, 1998. S. 6.

33 Гл.: Косман М. Праўда і легенда пра саперніка паэта... С. 152.

34 Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 1, 7.

35 Гл.: Федорук А. Т. Садово-парковое искусство Белоруссии. С. 169.

36 Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 7.

Сын Станіслава Путкамера — **Ваўжынец** (11.04.1859–30.11.1923) скончыў Віленскую рэальную вучэльню і ў 1880 г. — Санкт-Пецярбургскі інстытут інжынераў шляхоў зносін.

Яго дачка Яніна Жалтоўская пісала: *«Мой бацька і стрый закончылі Інстытут шляхоў зносін у Пецярбургу. Будова чыгункі ў сямідзясятыя гады XIX ст. была на ўздыме, і здольныя інжынеры маглі зарабіць на маёнтак… Мая бабка павінна была з цікавасцю слухаць аповеды пра генерала Жылінскага, які асушае Палессе, ці пра будаўніцтва моста на Вісле… ніводны з яе сыноў не зрабіў кар'еры на чыгунцы, бо стрый Іпаліт меў дрэннае здароўе, а мой бацька ніколі не дасягнуў вышынь кар'еры інжынера, але, працуючы ў генерала Жылінскага, зблізіўся з крэўнымі з Дзерашэвіч і там узяў сабе жонку»*[37].

Як інжынер-пуцеец малады граф удзельнічаў у будаўніцтве Уральскай, Бакінскай і Палескіх чыгунак. Апошняя чыгунка прайшла літаральна ў некалькіх кіламетрах ад родавага маёнтка Бальценікі, Ваўжынец пакінуў кар'еру інжынера і застаўся на радзіме, у 1883 г. ён ужо чалец Віленскага дваранскага збору. *«Пра маладосць майго бацькі чула не шмат. Праца дзеля заробкаў у варожым асяроддзі не адпавядала яго амбіцыям… ішла супраць яго шляхецкіх інстынктаў»*[38]. У 1887 г. малады граф ажаніўся з Зоф'яй Кеневіч, дачкой уладальніка маёнтка ў Мазырскім павеце Дзерашэвічы, з якой пазнаёміўся падчас будаўніцтва Палескай чыгункі. Пасля жаніцьбы граф стаў буйным землеўладальнікам, меў 1,1 тысячы дзесяцін Віленскай і 9 тысяч дзесяцін у Мінскай губернях[39], пра што дачка Яніна зазначыла: *«Шлюб маіх бацькоў здзейсніў мары маёй бабкі, бо на пасаг маёй маці… былі куплены Карэлічы з чатырма фальваркамі, маёнтак такі добры і прыгожы, што нават на Наваградчыне лічыўся залатым яблыкам»,* а ў Аўгуста Патоцкага былі купленыя Раклішкі — частка маёнтка Гародна ў Лідскім павеце. *«Жаніцьба яго была шчаслівай… бо дала яму духоўнае апірышча і неабходныя матэрыяльныя вартасці — багаты і прыгожы двор»*[40]. Пасля смерці брата Іпаліта ў 1895 г. ад сухотаў Ваўжынец атрымаў яго маёнтак пад Карэлічамі[41]. А ў 1897 г. Казімір Верашчака танна прадаў графу маёнтак у Райцы. У 1910 г. Райцу ў пасаг атрымала Яніна, якая выйшла замуж за прафесара Адама Жалтоўскага[42].

Напрыканцы XIX ст. сядзіба Путкамераў у Бальценіках прыйшла ў заняпад, а дом стаў малым для сям'і. Таму было вырашана разабраць старое айчыннае гняздо і пабудаваць новы двор. Праект новага дома з чырвонай цэглы ў стылі англійскай готыкі, распрацаваў архітэктар Тадэвуш Растравоўскі.

*«Пэўна, у 1895 г. я першае лета праводзіла ў Бальценіках… Жылі мы ў трох пакоях у афіцыне, сярод прымітыўных крэслаў і столікаў, на падлозе з нефарбаваных дошак. А навокал уздымаліся новыя чырвоныя муры новага дома, паміж афіцынай і новым домам у скрынях ляжала гашаная вапна… Мае бацькі распачалі будоўлю гаспадаркі ў малых і ўбогіх Бальценіках, вынішчаных за доўгія гады знаходжання ў дзяржаве. Старыя будынкі фальварка сталі руінамі, здзічэлыя палі былі ўсланыя камянямі.*

[37] Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 8.

[38] Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 9.

[39] Гл.: Иванов Б. Ю., Комзолова А. А., Ряховская И. С. Государственная дума Российской империи: 1906–1917. М., 2008. С. 512.

[40] Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 8. 10.

[41] Гл.: Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 8. 18.

[42] Гл.: Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 2. Wrocław, 1992. C. 325.

*На працягу шэрагу гадоў сяляне звозілі камяні з палёў для пабудовы “кітайскага” муру, які атачаў сад»*[43].

Будоўля закончылася ў 1896 г. Новы дом меў спічастыя дахі, высокія коміны і вялікія лучковыя вокны. Унутраны дызайн дома распрацаваў сам гаспадар, а выканалі мясцовыя і віленскія майстры. Найбольш прыгожымі былі чатыры рэпрэзентатыўныя пакоі: пярэдні пакой, салон, кабінет і сталовая. Салон быў абстаўлены мэбляй у стылі Людовіка XV, якую зрабіў віленскі цясляр на ўзор прапанаваных панам Слізнем — вядомым у той час калекцыянерам і «арбітрам добрага густу» ў Вільні. Кабінет быў абстаўлены невялікімі кніжнымі шафамі, бюро, канапамі, фатэлямі з дэкарацыямі з накладной бронзы. У сталовую вялі белыя дубовыя дзверы, яна мела белыя дубовыя столі, а на сценах віселі партрэты роду Путкамераў. Пры старым доме меўся сад у старасвецкім стылі. Пасля пабудовы новага дома сад пашырылі і перапланавалі ў англійскім стылі па праекце вядомага садоўніка з Вільні Паўловіча. У садзе быў выкапаны вялікі стаў, а папярок ракі насыпана грэбля. Парк агульнай плошчай больш за 8 га знаходзіцца ў паўднёвай частцы сядзібы і атачаны плотам[44]. На думку А. Т. Федарука, парк у Бальценіках і да сёння з’яўляецца найлепшым узорам пейзажных паркаў у Беларусі. З канца XIX ст. ён паспяхова папаўняўся экзатычнымі дрэвамі, і цяпер тут расце больш за 60 найменняў драўняных раслін. Парк — помнік прыроды рэспубліканскага значэння[45]. Вось як апісала родавае гняздо дачка Ваўжынца Путкамера Яніна: *«Сам двор і забудовы фальварка палягалі на высокім пагорку, які пераходзіў у раўніну на захадзе, на ўсходзе рэчка Гражулка, якая вілася сярод вольхі, аддзяліла пагорак ад дарогі… На рацэ быў мост, ад якога ўгару да двара вяла няроўная і стромкая дарога; мінуўшы двор, дарога вяла да Раклішак і самотнай дзікай грушы — мэтай нашых недалёкіх шпацыраў. Гарызонт з усіх бакоў замыкаўся блізкімі і далёкімі лясамі… Ніколі не бачыла старога двара, дзе жылі мая прабабка і некалькі апошніх пакаленняў Путкамераў. Ён быў разбураны маім бацькам, бо быў стары і цяжкі для аднаўлення. Чула потым, што дом быў мураваны, меў ганак з калонамі, падвойны дах, крыты гонтам, унутры маляваныя столі, адзін з малюнкаў прадстаўляў сцэну з Апалонам. Не зафатаграфавалі яго нават перад знішчэннем. З мэблі захаваліся фатэлі, якія служылі потым у гасцінных пакоях… Каля 1895 г. краязнаўства яшчэ не было, і ніхто не рабіў мастацкіх здымкаў…»*[46].

Да Першай сусветнай вайны ў адным з бюро ў Бальцеініках захоўваліся пачкі лістоў Марыі з Верашчакаў да мужа. *«З свайго дзяцінства памятаю расказы, што лісты нудныя і датычаць гаспадарчых спраў… Пра вялікае каханне найвялікшага з польскіх паэтаў успаміналася час ад часу пад уплывам артыкула ці нейкага пытання кагосьці, але чалавечы бок таго літаратурнага рамана мала каго цікавіў»*[47].

У 1900 г. Ваўжынец Путкамер уступіў у Віленскае сельскагаспадарчае таварыства, увосень 1905 г. яго абралі дэлегатам ад дваранства Лідскага павета Віленскай губерні ў Віленскую земскую камісію для вырашэння пытання аб земствах у Прыбалтыйскіх губернях. У тым жа годзе графу Путкамеру было дазволена пабудаваць у маёнтку Бальценікі вінакурны завод. У 1906 г. стаў адным арганізатараў Віленскага таварыства

43 Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 8, 14.

44 Гл.: Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4. C. 46–47.

45 Федорук А. Т. Садово-парковое искусство Белоруссии. С. 170.

46 Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 8. 14–15.

47 Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 15.

сяброў навукі і быў абраны куратарам Віленскага евангеліцка-рэфарматарскага сінода і куратарам евангеліцка-рэфарматарскага прыхода ў Вільні. Кіраваў пасяджэннямі сінода як яго дырэктар у 1911 і 1912 гг.[48]. «*У выніку цяжкасцяў і нешчаслівага лёсу людзі на Літве дзічэлі, былі нясмелымі, упадалі ў неўрастэнію. Мой бацька меў такую натуру буйную і багатую, што не страціў сваёй індывідуальнасці… Маючы ад нараджэння розныя здольнасці, не меў неабходнай пільнасці і не любіў займацца нуднымі рэчамі»,* — пісала Яніна Жалтоўская[49].

Як палітык Ваўжынец Путкамер быў чальцом польскай Нацыянальнай лігі і Нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Абіраўся выбарнікам у 1-ю і 4-ю Дзяржаўныя думы ад з'езда землеўладальнікаў па Лідскім павеце Віленскай губерні, аднак у 1-ю і 3-ю Думы не прайшоў. У 1907 г. быў старшынёй Лідскага павятовага выбарчага камітэта і таварышам старшыні Віленскага губернскага выбарчага камітэта. 6 лютага 1907 г. абраны ў 2-ю Дзяржаўную думу ад агульнага складу выбарнікаў Віленскага выбарчага збору. У Думе ўваходзіў у Польскае кола і працаваў у Бюджэтнай камісіі. Пасля роспуску 2-й Дзяржаўнай думы вёў актыўнае грамадска-палітычнае жыццё: удзельнічаў у дзейнасці Віленскага сельскагаспадарчага таварыства і да красавіка 1909 г. уваходзіў у яго раду, неафіцыйна прэзентаваў інтарэсы таварыства ў Санкт-Пецярбургу, у 1908 г. увайшоў у Віленскае таварыства падтрымкі польскага сцэнічнага мастацтва, прадстаўляў дваранства Віленскай губерні ў Санкт-Пецярбургскім чыгуначным камітэце. У 1910 г. зноў балатаваўся ў Дзяржаўную думу ад Мінскай губерні, але абраны не быў.

Тым не менш граф Ваўжынец Путкамер 14 кастрычніка 1912 г. быў абраны ў 4-ю Дзяржаўную думу ад з'езда землеўладальнікаў Віленскай губерні. У Думе ён стаў старшынёй Групы заходніх ускраін і як прадстаўнік фракцыі — чальцом Рады старэйшын. Працаваў у некалькіх камісіях: фінансавай, па мясцовым самакіраванні, па ваенных і марскіх справах, зямельнай, аб замене сервітутаў. Быў дакладчыкам Фінансавай камісіі, выступаў з думскай трыбуны ў абарону правоў народаў заходніх ускраін Расіі.

На пачатку Першай сусветнай вайны Путкамер падтрымаў антыгерманскую дэкларацыю Польскага кола, верыў у магчымасць аднаўлення дзяржаўнасці ў выпадку перамогі Расіі. Выступіў у падтрымку Прагрэсіўнага блока, заявіў пра гатоўнасць увайсці ў яго склад з умовай, што прадстаўнікам Польскага кола будзе дадзенае права выступаць па нацыянальным пытанні, не абмяжоўваючыся рамкамі праграмы блока (яго заява не была ўхваленая іншымі чальцамі Польскага кола). Рэзка крытыкаваў тактыку «выпаленай зямлі», якую выкарыстоўвала адступаючае расійскае войска. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. атрымаў адмову Часовага камітэта Дзяржаўнай думы ў просьбе камандзіраваць яго ў Віленскую губерню *«для арганізацыі камітэтаў, міліцыі»*. Удзельнічаў у арганізацыі і правядзенні Польскага палітычнага з'езда ў Маскве (21–26.07.1917) і ўвайшоў у склад абранага на з'ездзе міжпартыйнага аб'яднання — Польскай Рады. Быў абраны чальцом Рады «Крэсаў Усходніх», якая займалася каардынацыяй працы польскіх палітычных дзеячаў у Літве, Беларусі і на Украіне.

Пасля кастрычніка 1917 г. Ваўжынец Путкамер выехаў з Петраграда ў Мінск, а потым у Вільню. Увосень 1918 г. стаў чальцом дваранскай арганізацыі, якая выступала за далучэнне Віленскага краю да Польшчы і быў прызначаны германскімі акупацыйнымі ўладамі «дэлегатам па справах польскай нацыянальнасці». У лістападзе 1918 г. удзельнічаў у з'ездзе дваранскіх дэпутатаў у Вільні, адстойваў планы польскіх

[48] Гл.: Косман М. Праўда і легенда пра саперніка паэта... С. 152.

[49] Janina z Puttkamerów Zółtowska. Inne czasy, inni ludzie. S. 9.

нацыянал-дэмакратаў па ўключэнні Віленскага краю ў склад польскай дзяржавы. Пасля па даручэнні Часовага камітэта польскіх таварыстваў і груп у Беларусі быў камандзіраваны ў Парыж, дзе вёў прапаганду аб далучэнні да Польшчы былых заходніх губерняў Расійскай імперыі, супрацоўнічаў з Нацыянальным польскім камітэтам. У траўні 1919 г. вярнуўся на радзіму і ўступіў у польскі Народна-нацыянальны звяз. Увосень 1922 г. па спісе Хрысціянскага звязу нацыянальнага адзінства браў удзел у выбарах у польскі Сенат 1-га склікання, але не быў абраны.

Загартаваны і дасведчаны палітык раптоўна памёр ад апаплексічнага ўдару і быў пахаваны ў Вільні на кальвінісцкіх могілках[50].

Улетку 1939 г. Бальценікі наведала амерыканская даследчыца біяграфіі А. Міцкевіча Мэрыян Колмэн, якая застала ў жывых унучку Марылі — Зоф'ю Путкамер. Маёнтак быў тады ў добрым стане, сюды часта прыязджалі турысты. Зоф'я пацвердзіла сямейнае паданне, што крыж на камені-валуне быў высечаны яе бабкай Марыляй.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

[50] Гл.: Иванов Б. Ю., Комзолова А. А., Ряховская И. С. Государственная дума Российской империи: 1906–1917. С. 512.

# ХРУЦКІЯ: УНІЯЦКІ СВЯТАРСКІ РОД ПОЛАЦКАЙ ЕПАРХІІ

Вывучэнню ролі духавенства ў фарміраванні інтэлектуальнай эліты грамадства беларуска-літоўскіх земляў да сённяшняга часу, на нашу думку, не аддавалася належнай увагі. Між тым менавіта духавенства, перадусім уніяцкае, у першай чвэрці XIX ст. служыла своеасаблівым «пастаўшчыком» творчых асоб, якія ўпершыню паспрабавалі сфармуляваць і акрэсліць тое, што пазней назавуць беларускай нацыянальнай ідэяй.

Сярод выхадцаў з сем'яў уніяцкіх святароў ёсць цэлы шэраг асоб, без якіх немагчыма ўявіць культурнае жыццё беларуска-літоўскіх губерняў першай чвэрці (а бадай, і першай паловы) XIX ст.: прафесары Віленскага ўніверсітэта Міхал Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Ігнат Анацэвіч, пісьменнік і выдавец Ян Баршчэўскі, паэт і публіцыст Францішак Савіч, выдавец і публіцыст Антон Марціноўскі, перакладчык і фальклярыст Ігнат Шыдлоўскі і многія іншыя. Аб жыцці і дзейнасці практычна ўсіх пералічаных асоб за апошнія два дзесяцігоддзі напісана і сказана даволі шмат. Значна менш аддавалася ўвагі таму асяроддзю, якое сфарміравала іх светапогляд і каштоўнасныя арыенціры — уніяцкаму духавенству беларуска-літоўскіх земляў.

У дадзеным артыкуле мы паспрабуем разгледзець асобныя моманты ў гісторыі аднаго з самых шматлікіх родаў духоўнага паходжання — Хруцкіх, а таксама спынімся на некаторых фактах біяграфіі найбольш вядомага яго прадстаўніка — мастака Івана Фаміча Хруцкага.

Апрацаваныя намі дакументы з фондаў дзяржаўных, рэлігійных і грамадскіх устаноў, якія ў цяперашні час захоўваюцца ў архівах Вільні, Любліна, Мінска і Санкт-Пецярбурга, дазволілі сабраць цікавы біяграфічны матэрыял аб прадстаўніках роду Хруцкіх, што абралі для сябе святарскую кар'еру.

Пры вывучэнні святарскага роду Хруцкіх узнікаюць цяжкасці з крыніцазнаўчай базай. Жыццё і дзейнасць практычна ўсіх прадстаўнікоў гэтага роду праходзілі на тэрыторыі Полацкай уніяцкай епархіі, да юрысдыкцыі якой у XVII–XVIII стст. адносіліся цэрквы Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў, Браслаўскага павета Віленскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага, а таксама нешматлікія ўніяцкія храмы ў Інфлянтах.

Багатыя архівы полацкіх архіепіскапаў былі амаль цалкам знішчаныя ў часе шматлікіх войнаў XVII–XIX стст., апошнім разам у 1812 г. Дакументаў, якія б комплексна адлюстроўвалі колькасны і асабовы склад уніяцкага духавенства па гэтым рэгіёне за перыяд да 1812 г., практычна не захавалася. У архівасховішчах Мінска і Любліна цудам ацалела ўсяго некалькі справаў, якія тычацца тэрыторыі т. зв. Польска-Полацкай епархіі — часткі Полацкай епархіі, якая пасля захопу Расійскай імперыяй усходнебеларускіх земляў у 1772–1793 гг. засталася на тэрыторыі Рэчы Паспалітай[1]. Ды і захаванасць дакументаў перыяду пасля франка-расійскай вайны 1812 г. таксама пакідае жадаць лепшага. Так, фонд 3245 «Беларуская (Полацкая) грэка-ўніяцкая духоўная кансісторыя», які зберагаецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі і які мусіў бы ўтрымліваць дакументы па ўсёй Полацкай епархіі, насамрэч змяшчае амаль выключна дакументы, што тычацца часткі епархіі, якая адносілася да Мінскай губерні (Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Дзісенскі, Мазырскі і Рэчыцкі паветы). Звестак аб асабовым складзе духавенства Віцебскай і Магілёўскай губерняў у ім няма.

---

[1] Archiwum Państwowe w Lublinie (далей APL). Z. 95. Sp. 143. — Генеральныя візіты цэркваў «Польска-Полацкай» епархіі 1789–1790 гг.; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ). Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41281. — Пратаколы пасяджэнняў «Польска-Полацкай» духоўнай кансісторыі. 1774–1784 гг.; НГАБ. Ф. 3367. Воп. 1. Спр. 3. — Пратаколы пасяджэнняў «Польска-Полацкай» духоўнай кансісторыі. 1789–1791 гг.

Таму выключную каштоўнасць для нас маюць матэрыялы генеральнай візітацыі ўніяцкіх цэркваў Полацкай епархіі 1822 г., якія практычна цалкам захаваліся ў фондах 824 «Беларуская грэка-ўніяцкая духоўная калегія» Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва і 1781 «Магілёўская рымска-каталіцкая духоўная кансісторыя» Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі[2]. У комплексе з матэрыяламі рэвізскіх сказак духавенства Віцебскай і Мінскай губерняў 1811, 1816 і 1834 гг. з архівасховішчаў Вільні і Мінска[3] яны даюць даволі поўную карціну аб месцах працы і пражывання прадстаўнікоў роду Хруцкіх, а таксама аб іх сваяцкіх сувязях і складзе іх сем'яў.

Даволі спецыфічнай крыніцай па генеалогіі роду Хруцкіх з'яўляюцца дакументы з фондаў саслоўных устаноў, у першую чаргу Віцебскага губернскага дваранскага дэпутацкага сходу[4]. Пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі (1772–1795 гг.) кожны шляхецкі род мусіў пацвердзіць свае радавітыя карані. Найбольшыя непаразуменні ў т. зв. заходніх губернях ўзнікалі якраз з родамі духоўнага паходжання. Справа ў тым, што ў Рэчы Паспалітай, у адрозненне ад Расійскай імперыі, не існавала асобнага духоўнага саслоўя. Аднак у XVIII ст. больш за 82 % уніяцкіх святароў належалі да спадчынных святарскіх родаў[5]. Менавіта таму большасць з іх да сярэдзіны XIX ст. не атрымала зацвярджэння ў правах расійскага дваранства, а была пераведзеная ў духоўнае саслоўе. Выключэнне склалі тыя роды, сярод прадстаўнікоў якіх былі свецкія шляхціцы, што валодалі нерухомай маёмасцю (род Хруцкіх адносіўся да гэтай катэгорыі).

Асаблівасцю беларускіх земляў быў істотны працэнт шляхты сярод прадстаўнікоў уніяцкага кліру. Паводле нашых падлікаў, у XVIII — пачатку XIX ст. каля 16,5 % уніяцкіх святароў беларуска-літоўскіх земляў мелі шляхецкае паходжанне[6]. Гэта прыблізна ў тры разы больш, чым сярод уніяцкага святарства на тэрыторыі Каралеўства Польскага (у тым ліку на ўкраінскіх землях).

Захаванасць дакументаў фонду Віцебскага губернскага дваранскага дэпутацкага сходу пакідае жадаць лепшага. Справа аб дваранскім паходжанні роду Хруцкіх не захавалася, да нас дайшла толькі дваранская радаводная кніга Віцебскай губерні за 1838 г., у 6-ю частку[7] якой быў унесены род Хруцкіх[8]. У генеалагічнае дрэва ўпісаныя 130 прадстаўнікоў у 11 каленах. Паколькі звесткі з гэтага дакумента ў асноўным і выкарыстоўваюцца ўсімі даследчыкамі генеалогіі роду, разгледзім яго падрабязней.

Са справы вынікае, што род Хруцкіх герба «Ляліва» быў прызнаны ў правах расійскага дваранства пастановай Беларускага губернскага дваранскага дэпутацкага сходу 6 мая 1801 г.[9]. Як і належыць старажытнаму роду, Хруцкія выводзілі сваю генеалогію з далёкіх часоў — ажно з 1552 г.! У кнізе прыводзяцца вытрымкі з дакументаў, якія закліканы засведчыць той факт, што ў XVI–XVIII стст. Хруцкія валодалі шэрагам маёнткаў на

2 Российский государственный исторический архив (далей РГИА). Ф. 824. Оп. 2. Д. 178–187; НГАБ. Ф. 1781. Воп. 24. Спр. 1410.

3 Lietuvos valštybės istorijos archyvas (далей LVIA). F. 515. Ap. 15. Bb. 691, 730; НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 270; Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 13, 65.

4 НГАБ. Ф. 2512.

5 Гл.: Лісейчыкаў Д. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг. Мінск: Медысонт, 2011. С. 33.

6 Гл.: Лісейчыкаў Д. Штодзённае жыццё… С. 38.

7 Згодна з выдадзенай імператрыцай Кацярынай II «Граматай на правы, вольнасці і перавагі высакароднага расійскага дваранства» ад 21 красавіка 1785 г. у 6-ю частку радаводных кніг заносіліся старажытныя дваранскія роды, якія вялі свой радавод раней за 1685 г.

8 НГАБ Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 33–46 адв.

9 НГАБ Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 44.

тэрыторыі Полацкага і Віцебскага ваяводстваў, а таксама Браслаўскага павета Віленскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. Згодна з дакументам іх першапачатковае «родавае гняздо» — мясціны побач з м. Дрыса Полацкага ваяводства і м. Пагост Браслаўскага павета[10]. Раннія звесткі вельмі скупыя, разбежка ў гадах жыцця розных пакаленняў проста велізарная. Першы прадстаўнік роду Яўстах Хруцкі ўзгадваецца пад 1552 г., а яго ўнук Герасім — ужо пад 1637 і 1658 гг. Урэшце, у канцы XVII ст. Хруцкія набываюць маёнтак Лушчава ў Віцебскім ваяводстве, які будзе фігураваць ва ўсіх пазнейшых дакументах як асноўнае спадчыннае родавае ўладанне. Неабходна асобна адзначыць, што месцазнаходжанне населенага пункта з такой назвай на тэрыторыі Віцебскага ваяводства (а г. зн. Віцебскага і Аршанскага паветаў) невядомае.

Пачынаючы аналіз звестак з названай радаводнай кнігі, нельга не працытаваць польскага даследчыка Ю. Шыманскага — раздзел «Устанаўленне генеалагічных фактаў» яго фундаментальнай працы «Дапаможныя гістарычныя навукі»[11]. Ю. Шыманскі піша: «*Крыніцазнаўчы матэрыял генеалогіі ўтрымлівае спецыфічны від фальсіфікатаў. Гэта дакументы альбо справы, складзеныя з мэтай набыцця розных выгодаў, звычайна юрыдычных, а ў выніку матэрыяльных, нярэдка і грамадскіх. …Асабліва поўняцца генеалагічнымі фальшыўкамі дакументы, што паходзяць з розных герольдый*»[12]. Праблему верыфікацыі генеалагічных фактаў Ю. Шыманскі слушна раіць вырашаць з дапамогай прыцягнення іншых відаў крыніц: «*Крыніцы, што не пераследуюць генеалагічных мэтаў, маюць перавагу над крыніцамі, створанымі ў мэтах генеалагічных*»[13].

Таму параўнаем звесткі аб родзе Хруцкіх, узятыя з радаводнай кнігі, са звесткамі, узятымі з іншых дакументаў. Так Бенедыкт Хруцкі, як нам дакладна вядома — святар царквы ў в. Дварэц Полацкага ваяводства (1757 г.), у радаводную кнігу запісаны ў якасці ўладальніка часткі спадчыннага маёнтка Лушчава «з сялянамі»[14]. Калі верыць кнізе, то 26 лютага 1746 г. ён прадаў частку свайго маёнтка роднаму дзядзьку Андрэю Ісакавічу[15]. Вынікае, што даволі заможны шляхціц прадаў свой маёнтак разам з прыгоннымі сялянамі і абраў для сябе кар'еру ўніяцкага, «мужычага» — так бы мовіць, святара. Далей — болей. Дзядуля нашага галоўнага героя Іван Іосіфавіч Хруцкі (1740–1819)[16] у радаводнай кнізе фігуруе як спадчыннік часткі таго ж маёнтка Лушчава[17]. Атрымліваецца, што і дзед мастака належаў да ліку шляхціцаў з уласнымі прыгоннымі і зямлёй.

Насамрэч, шляхам супастаўлення рэвізскіх сказак уніяцкага святарства Віцебскай губерні за 1811, 1816 і 1834 гг. нам удалося дакладна ўстанавіць, што Іван Іосіфавіч Хруцкі ў 1811–1819 гг. з'яўляўся нават не святаром, а ўсяго толькі дзячком (псаломшчыкам) царквы ў в. Прудзінкі Дрысенскага павета[18]. Такое разнагалоссе мы сустракаем па многіх асобах, прадстаўленых у радаводнай кнізе.

[10] НГАБ Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 39 адв.—40.

[11] Szymański J. Nauki pomocnicze historii. Wydanie szóste. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2004.

[12] Szymański J. Nauki pomocnicze historii… S. 75–76.

[13] Szymański J. Nauki pomocnicze historii… S. 75.

[14] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 41.

[15] Тамсама.

[16] Гады жыцця ўстаноўленыя не з радаводнай справы, а паводле рэвізскіх сказак уніяцкага святарства 1811–1834 гг. (НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 13, 65).

[17] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 42.

[18] НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 165; Спр. 65. Арк. 245 адв. — 246.

З упэўненасцю можна сцвярджаць, што звесткі аб родзе Хруцкіх за перыяд XVI–XVIII стст. з радаводнай кнігі ў абсалютнай большасці сфальсіфікаваны. А вось звесткі за XIX ст. практычна ўсе адпавядаюць сапраўднасці. Сярод іх маюцца і даволі цікавыя. Так, Францішак сын Іосіфа Хруцкі, штабс-капітан расійскай арміі, удзельнічаў у кампаніях супраць напалеонаўскіх войскаў, у прыватнасці ў бітве пад г. Полацкам 18–20 кастрычніка 1812 г., а таксама ў Прускім паходзе ў студзені — красавіку 1813 г.[19]. За сваю службу ён быў узнагароджаны ордэнам Св. Ганны 4-й ступені. Выпускнік Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі Антон сын Юстына Хруцкі ў 1838 г. працаваў выкладчыкам у гімназіі г. Вялікага Ноўгарада[20]. Сярод асобаў, што паводле стану на 1838 г. валодалі нерухомай маёмасцю і прыгоннымі сялянамі, названыя ўсяго двое: Фларыян сын Лявона Хруцкі, уладальнік маёнтка Гараны Полацкага павета (38 прыгонных душ мужчынскага полу), і Іосіф сын Яна Хруцкі, уладальнік маёнтка Баболіна Полацкага павета (35 прыгонных душ мужчынскага полу)[21]. Яшчэ адзін, Пётр сын Яна Хруцкі, арандаваў у Пінскім павеце Мінскай губерні маёнтак Мокрая Дуброва[22].

Бацька будучага мастака Фама Хруцкі разам са сваімі братамі Андрэем, Іосіфам і Тэадорам у 1828 г. быў запісаны ў лік шляхты Полацкага павета[23]. Вядома, што ў гэты час Андрэй, Тэадор і сам Фама служылі і пастаянна пражывалі пры царкве ў в. Усая Лепельскага павета, але паколькі іх згаданыя свецкія сваякі-землеўладальнікі пражывалі ў Полацкім павеце, то да іх і прыпісваліся бяднейшыя суродзічы. Што цікава — у XIX ст. Хруцкія смела згадваюць, што сярод прадстаўнікоў роду ёсць мноства ўніяцкіх святароў. А вось аб тым, што і стагоддзем раней іх было не менш, Хруцкія сціпла маўчаць.

У фондзе «Трэці Дэпартамент Сената» Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва захавалася некалькі справаў аб дваранскім паходжанні роду Хруцкіх. Розныя галіны гэтага роду выводзіліся з розных губерняў: Віленскай, Віцебскай, Палтаўскай (апошнія атрымалі пацвярджэнне ў правах расійскага дваранства за атрыманыя адным з прадстаўнікоў роду ордэны)[24]. У фондзе «Мінскі губернскі дваранскі дэпутацкі сход» таксама захавалася справа аб дваранскім паходжанні галіны роду, прадстаўнікі якой жылі на тэрыторыі Барысаўскага і Пінскага паветаў Мінскай губерні[25].

Шляхецкае паходжанне, між іншым, паслужыла прычынай таго, што ў многіх працах Хруцкія называюцца польскім родам. Аднак гэта абсалютна беспадстаўнае сцвярджэнне. Справа ў тым, што Хруцкія з'яўляліся шляхецкім родам духоўнага паходжання і ўніяцкага веравызнання, а ўніяцтва на працягу ўсяго свайго існавання лічылася «рускім»[26] абрадам. Асноўным маркёрам т. зв. польскасці і рускасці з XVI і практыч-

[19] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 42 адв.

[20] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк 43 адв.

[21] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 37, 38.

[22] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 38 адв.

[23] НГАБ. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 248. Арк. 43.

[24] РГИА. Ф. 1343. Оп 31. Д. 3193–3198.

[25] НГАБ. Ф. 319. Воп. 2. Спр. 3436.

[26] Пад *рускім* у той час разумелася ўсё ўсходнеславянскае, і ў першую чаргу тое, што тычылася этнічна беларускіх і ўкраінскіх земляў. З канца XVII ст. у расійскай гістарыяграфіі з ідэалагічнымі мэтамі пачалося атаясамленне тэрміна *рускі* з тэрмінам *расійскі*, што прывяло да прысабечвання Расійскай імперыяй усёй спадчыны рускай культуры. У разгляданы перыяд (кан. XVIII — пач. XIX ст.) этнаканфесіёнім *рускі* ўжываўся амаль выключна ў адносінах да ўніятаў, праваслаўе афіцыйна называлася *благочестием* (нават у польскамоўных крыніцах), а праваслаўныя — *благочестивыми*.

на да канца XIX ст. якраз і з'яўлялася канфесійная прыналежнасць. Само азначэнне «ўніят» ў побытавых зносінах амаль заўсёды замянялася этнаканфесіёнімам «рускі».

Як відаць з сабраных і апрацаваных намі дакументаў з архівасховішчаў чатырох краін, Хруцкія — гэта не проста дробны шляхецкі род, асобныя прадстаўнікі якога займалі святарскія пасады. Гэта разгалінаваны «трансдэканацкі» клан уніяцкага святарства, самы шматлікі з вядомых на прасторы ўсіх беларуска-літоўскіх земляў. У канцы XVIII ст. прадстаўнікі Хруцкіх колькасна дамінавалі над прадстаўнікамі іншых родаў на пасадах святароў і царкоўных служак у Бабыніцкім, Барысаўскім, Лепельскім, Полацкім, Чарэйскім і Чашніцкім дэканатах Полацкай епархіі. Падчас працы па зборы біяграфічных звестак аб уніяцкіх святарах XVII–XIX стст. намі былі адшуканыя 100 прадстаўнікоў роду Хруцкіх[27], якія належалі да духавенства.

Сярод шматлікіх прадстаўнікоў роду высокаадукаваных людзей было няшмат. Акрамя Івана Фаміча, які разам з братам вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, можна назваць хіба толькі выпускнікоў Віленскай галоўнай семінарыі Ануфрыя Хруцкага і Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі Антона Хруцкага. Астатнія калі і скончалі нейкую навучальную ўстанову, то не вышэйшую за павятовае вучылішча альбо кляштарную школу (зрэдку духоўную семінарыю). Таму, як і павялося сярод разгалінаваных святарскіх дынастый, Хруцкія для прасоўвання на святарскія пасады выкарыстоўвалі свае шматлікія сувязі. Часам гэта прыводзіла да канфліктаў з кіраўніцтвам.

Так, у 1776 г. рэскрыптам полацкага архіепіскапа Ясона Смагаржэўскага царква і парафія ў м. Новы Лепель Полацкага ваяводства была пісьмова «*зарэзервавана і захавана*» толькі для найбольш адукаваных і заслужаных святароў[28]. Нягледзячы на гэта, у 1783 г. святарскаму сыну Яну Хруцкаму ўдалося дамагчыся атрымання рэкамендацыі на пасаду святара ад патронкі Навалепельскай парафіі — настаяцельніцы Віленскага кляштара бернардзінак Міхаліны Буяльскай[29]. Гэты факт глыбока абурыў епархіяльнае кіраўніцтва. Пісар Полацкай духоўнай кансісторыі, доктар тэалогіі Тамаш Радзевіч адазваўся на ўчынак Хруцкага поўным гневу лістом. Ён склаў спецыяльны маніфест супраць «*святароў, якія не зважаюць на нормы кананічнага права… а менавіта супраць святара Яна Хруцкага*»[30]. Высокаадукаваны Радзевіч, які скончыў Калегіум прапаганды Веры ў г. Рыме, яскрава абмаляваў наступствы ўчынкаў увішных невукаў, якія, на яго думку, вялі да «*разбэшчвання кліру, пераварочвання царкоўных парадкаў, марнавання царкоўных пасад…*»[31].

Таму, нягледзячы на сваю шматлікасць, прадстаўнікі роду рэдка дамагаліся значных вышынь у царкоўнай іерархіі. Бадай, самых высокіх прыступак удалося дасягнуць Апанасу і Ігнату Хруцкім, які ў 1830-я гг. займалі пасады себежскага і обальскага дэканаў. Прычым апошні ў 1837 г. быў адхілены ад пасады з-за свайго нядбальства ў выкананні абавязкаў[32]. Так ці іначай, паводле стану на 1839 г. сярод трыццаці трох дэканаў і віцэдэканаў Беларускай (Полацкай) епархіі не было ніводнага прадстаўніка роду[33]. Пра тое,

---

[27] Паводле стану на канец 2012 г. намі сабраны біяграфічныя звесткі на 7 тысячаў прадстаўнікоў уніяцкага духавенства XVII— першай трэці XIX стст.

[28] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41281. Арк. 232–232 Адв.

[29] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41281. Арк. 252–253.

[30] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41281. Арк. 253.

[31] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41281. Арк. 253 Адв.

[32] Гл.: Шавельский Г. Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.) СПб.: Типография «Сельскаго Вестника», 1910. С. 249.

[33] Шавельский Г. Последнее возсоединение… Приложения. С. 54–55.

што Хруцкія не адносіліся да эліты духавенства, гаворыць і той факт, што значная частка прадстаўнікоў роду (39 са 100) займала ніжэйшыя царкоўныя пасады — дзячкоў (псаломшчыкаў), панамароў і царкоўных служак. Да таго ж 72 служылі пры сельскіх цэрквах, 27 — пры мястэчковых цэрквах, і толькі адзін пры царкве ў буйным горадзе — Віцебску.

Не зважаючы на сярэдні (калі не сказаць нізкі) статус сярод навакольнага духавенства, Хруцкія ў 1830-я гг. даволі актыўна ўключыліся ў барацьбу супраць захадаў епіскапа Іосіфа Сямашкі па далучэнні ўніяцкай царквы да праваслаўнай. Сярод 52 святарскіх подпісаў пад адной з найбольш смелых адозваў у абарону уніі, «*Исповеданием Веры Греко-униатской Церкви*», якая датуецца 1838 г., мы сустракаем подпісы трох Хруцкіх, у тым ліку бацькі мастака — святара царквы ў в. Усая Лепельскага павета Фамы Іванавіча[34]. Нагадаем, што годам раней разгарэлася т. зв. справа Фамы Хруцкага, якая знайшла падрабязнае апісанне ў біёграфаў мастака[35]. Сутнасць яе была ў тым, што дапаможны аршанскі епіскап Васіль Лужынскі падчас агляду цэркваў Віцебскай губерні ў 1837 г. пазвальняў ад займаных пасад за кепскія паводзіны некалькі святароў, у тым ліку і бацьку мастака[36]. Фама Хруцкі быў нават змешчаны на пакаянне пад варту ў Махіроўскі базыльянскі кляштар. Афіцыйнае абвінавачванне: «*вместо служения обедни в день Воскресный занимался пиршеством с нетрезвым уже народом в корчме…*»[37]. Прычыны адхілення ад пасады айца Фамы былі відавочна надуманыя. Іван Фаміч нават быў вымушаны пісаць ліст на імя мітрапаліта Іясафата Булгака (які, як і мастак, жыў у г. Санкт-Пецярбургу) з хадайніцтвам за бацьку. Хоць справа і была вырашаная станоўча, вышэйшае царкоўнага кіраўніцтва, перадусім І. Сямашка, як падаецца, назаўсёды захавала падазронасць да сям'і Хруцкіх. Ды і сам Іван Фаміч быў вымушаны заўжды дэманстраваць Іосіфу Сямашку, які год за годам рабіўся ўсё больш уплывовым, сваю лаяльнасць. Гэта відавочна адбілася і на творчым лёсе мастака.

Хацелася б спыніцца на некаторых цікавых фактах, што датычаць жыцця і дзейнасці гэтага самага вядомага прадстаўніка роду.

Як вядома, Іван Фаміч Хруцкі нарадзіўся 8 лютага (27 студзеня паводле юліянскага календара) 1810 г. Месцам нараджэння мастака практычна паўсюль пазначана мястэчка Вула Лепельскага павета[38]. Між тым бацька мастака Фама (Тамаш) Хруцкі ніколі не быў святаром альбо адміністратарам (часовым кіраўніком) царквы ў м. Вула. Да 1811 г. вульскім адміністратарам з'яўляўся Васіль Крупеня[39], у 1816–1834 гг. — Рыгор Эльяшэвіч[40]. Прадстаўнікі роду Хруцкіх не адзначаны пры гэтай царкве таксама і ў больш ранні перыяд — другой палове XVIII — пачатку XIX ст. Пасады святароў, псаломшчыкаў і панамароў у Вуле займалі прадстаўнікі іншых духоўных дынастый: Анашкевічы, Бядрыцкія, Максімовічы і Сыцянкі. Да таго ж дакладна вядома, што Фама

---

34 Гл.: Шавельский Г. Последнее возсоединение… Приложения. С. 55–59.

35 Напрыклад: Іван Хруцкі 1810–1885: альбом-каталог / Дзярж. маст. музей БССР; аўт.-склад.: І. М. Паньшына, А. К. Рэсіна. Мінск: Беларусь, 1990. С. 12, 90; Великие художники. Т. 31. Иван Фомич Хруцкий. М., 2010. С. 18–21.

36 Гл.: Шавельский Г. Последнее возсоединение… С. 249.

37 Іван Хруцкі 1810–1885: альбом-каталог. С. 90.

38 Напрыклад: Шунейка Я. Хруцкі Іван Фаміч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 6. Кн. 2. Мінск: «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 2003. С. 84–85, а таксама артыкулы пра мастака ў беларускім, расійскім, польскім і англійскім варыянтах Вікіпедыі.

39 НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 137.

40 НГАБ. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 65. Арк. 147 адв. — 148.

